# Змест

**ПАЭЗІЯ**

**Марыя Магдалена Палхоўская.**
*Таямніца Кальварыі.* Вершы. .......... 7

**Багдан Агрэст.**
*Вяртанне да пачатку.* Вершы. .......... 13

**Кацярына Глухоўская.**
*Як плёскат вады...* Вершы. .......... 19

**Алена Сіманчык.**
*Знайсці свой шлях...* Вершы. .......... 25

**Марына Валасар.**
*Не бойся жыць...* Вершы. .......... 29

**Наталля Бінкевіч.**
*Шэпт анёлаў...* Вершы. .......... 33

**Соф'я Марозава.**
*Будзь мне сонцам...* Вершы. .......... 39

**Наста Кудасава.**
*Даматканы радок.* Вершы. .......... 43

**Юрка Буйнюк.**
*Дзеці поўні.* Вершы. .......... 49

**Алена Масцерава.**
*Я заварожана табой...* Вершы. .......... 53

**Алесь Мацулевіч.**
*Вецер з глыбіні вякоў...* Вершы. .......... 59

**Валянціна Восіпава.**
*Пачатак апошніх часоў.* Вершы. .......... 67

**Васіль Дэбіш.**
*Сын лютні.* Вершы. .......... 75

**ПРОЗА**

**Надзея Філон.**
*Надзейная сувязь.Чаму я першая?* Апавяданні. .......... 85

**Алёна Беланожка.**
*Белы дом.* Апавяданне. ........................................................................ 89

**Кацярына Шчасная**
*Геракл супраць!* Апавяданне. .............................................................. 105

**Сяргей Белаяр.**
Фантастычныя апавяданні. ................................................................... 109

**Ірына Хадарэнка.**
*Хохлік, пачварык і чароўны ліхтарык.* Казка. ...................................... 125

**ПЕРАКЛАДЫ**

**Пэтэр Мілчак.**
*Калі дзьме вецер...* Вершы ў прозе. ..................................................... 133

**КРЫТЫКА. ПУЛІЦЫСТЫКА. ЭСЭ.**

**Эдуард Дубянецкі.**
*Эгацэнтрызацыя мастацтва.* Эсэ. ....................................................... 141

*Бог добра разумее па-беларуску...*
Гутарка Эдуарда Акуліна з Глебам Лабадзенкам. ................................. 155

**Ніл Гілевіч.**
*У віры быцця і дум...* Роздумы. ............................................................. 165

**Уладзімір Сіўчыкаў.**
*З «Жодзінскіх нататак і фацэцый».* Нататкі. ......................................... 177

**Генадзь Лапацін.**
*Дзень, калі можна пабачыць анёла...* Запісы. ...................................... 191

**Таццяна Мацюхіна.**
*Па законах чалавечнасці.* Рэцэнзія. ...................................................... 203

**Анатоль Трафімчык.**
*Не пытай, па кім ударыў бом...* Рэцэнзія. ..............................................211

**Ала Петрушкевіч.**
*У жыцці я люблю Хараство...*Рэцэнзія. ................................................. 221

**Вітаўт Мартыненка.**
*Дыскаграфія.* ........................................................................................ 227



# Марыя Магдалена Палхоўская

паэтка. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка. Друкавалася ў «Верасні». Нарадзілася ў 1989 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Таямніца Кальварыі

***

Мы забываем, што між намі Бог
І плавім цёплы воск на алтары
Няўцяміць нам, што золата нябёс
Ствараецца малітвамі знутры
Мы забываем, што між намі Бог
І крохкі дым ці свечкі, ці цыгаркі
не ўздыміцца вышэй за далягляд
прыдуманы вакзальнаю цыганкай
Мы дабраславім пчол за мяккі цёплы воск
нясем бярэмя знакаў сімвалічных
а ў выніку што маем? — пыльны стос
без думак, жалю і малітваў
*19.09.2013*

## Майстру

Прыйду і ціхенька сяду за стол
алоўкі колерам пырскаюць
сцізорык вазьму — завастру
цяпер на паперы запстрыкаюць
І буду глядзець як ствараецца новае
За рухамі майстра пільна сачыць
Як будзе патрэба — я зноў падхаплюся
Твой новы аловак вастрыць!
*19.09.2013*

## Момант

Я запомню цябе вершам
Толькі не памры на маёй паперы
Ці хаця б ажыві гаючым уяўленнем
Калі забаліць невыносна
Ажывай яшчэ і яшчэ!
Сотні разоў яшчэ!
І я паўтару цябе вершам
Непаўторны момант
*28.06.2013*

## Суніца

Згубленая суніца
Схіляюся
Повязь часоў, смакаў і густаў
Суніцы жывяць нас.
Раней тут былі могілкі.
А хто жывіць суніцы?
*28.06.2013*

## Кілім успамінаў

Бывае людзі — шнарамі на сэрцы
Трымціць
Гарыць, скамечанае,
Б'ецца
І неўзабаве ўзнікае адчуванне —
Ад болю холадам нутро ўсе працінае
І хочацца унікнуць успамінаў
Перарабіць іх у казачны ўзор кілімаў
Каб basanож прайсціся як па лузе
Не заўважаючы
Што ногі
Крываточаць болем!
*20.06.2013*

## Музыка

Музыка ветру
Шапоча-шапоча
Музыку музыка
Ветрам падхопіць
Пад музыку дождж
Загрукоча-грукоча
Музыка-музыка
Плачам у ночы
Плачам у сэрцы
Музыка-музыка
Шэпча і свеціць
Музыка словамі
Музыка гукамі
Чулымі, чуйнымі

Гукамі-грукамі
Сімвалам-доляй
Музыка болем
Музыка-музыка
Свеціць і шэпча
Музыка ветру
Небам імкнецца
Музыка рвецца
Кропляй сцякае
Музыка музыкай
Музыку грае

*31.01.2013*

## Адзінота

Адзінота
У лістоце
Напаткала
Спала, спала
Лісце з дрэва
Паляцела
Цела, цела
Глебы
Агалела
Голле голае
Самлела
Апусцела,
Ела, ела
Восень фарбы звар'яцела
Белым снегам зазіхцела
Адзінота без лістоты...

*29.01.2013*

## Любоў

Ператвары мяне ў свята
Захавай мяне ў штодзённасці
Дай напіцца з жыватворнага сховішча
Прамяністай пякучай любові
Каб насуперак і ў адваротны бок
Ад людской звар'яцелай плыні

Каб магла і ў апошнюю хвілю
Перанесці праз Неба парог
Падары мне рашучую веру
Абяцанне, што ляжа на сэрцы адбіткам
Тым адзіным нятленным здабыткам
Што стрывае і могілкаў змрок
У ахвяру складзі зацікаўленасць
Позірк чысты разумных вачэй
Каб калі й дагарэць збяруся
Я ад іх запалала ярчэй
Падары мне свой боль нестрывалы
Сваю стомленасць, што высмоктвае сілы да дна
Помні!
Нашы вечнасці знітаваныя
Пакуль сэрцы яднае
Яна!
Любоў...

*18.10.2011*

## Камунія

Кавалак за памерлых
Кавалак за жывых
Кавалак за каханых
Кавалак за былых
Кавалак за ахвяраў
Кавалак за злачынцаў
Кавалак за чужынцаў.
Кавалак за самотных
Кавалак за слабых
Кавалак за галодных
Кавалак за старых
Кавалак тых, хто будзе
Кавалак тых, хто быў
Кавалак непрабачаных
І тых, хто ўжо забыў
Кавалак ціхіх позіркаў
Без гукаў і без слоў
Кавалачак падзелены
Ёсць Цела Езуса і Кроў

*2012*

## Таямніца Кальварыі

Жыццё тут спіць
Тут лёсы душаў
Кіруюцца ў Вечнасць
Тут пачынаеш свой адлік
Ад слова «Быць»
Не існаваць, не бегчы, не імкнуцца
А проста быць...
Не ў часе, не ў прасторы, не ў колерах, не ў рухах
А там, дзе Неба ўвайшло ў зямлю
І затаілася!
Бо целу ўжо варта адпачыць
А душам заспяваць,
Нарэшце ў хоры
Галасоў Выбраных
Каменне, дрэвы, вецер і пясок
Падхопяць песню, панясуць
Каб у цішы разнесціся далёка
У паветры адчуваеш соль
Чыіхсьці успамінаў
І крокі
Тых, хто ходзяць як і я
Каб дакрануцца хоць адным імгненнем
Да Мудрага, да вечнага Быцця

*2012*



# Багдан Агрэст

**паэт. Скончыў БДПУ імя Максіма Танка. Друкаваўся ў «Верасні». Нарадзіўся ў 1989 годзе ў Івацэвічах. Жыве ў Івацэвічах.**

# Вяртанне да пачатку

***

Папяровы жаўнер
сышоў з вайны
зняў вільготны мундзір
ад слёз віны
сеў насупраць агню
зусім адзін
і згарэў
і застаўся дым...

*28.06.2011*

***

Ён пад мокрым дажджом ля Паэта,
Прастаяў, прачакаў, пражыў.
Дзве гадзіны старога сюжэта —
Ён любіў, а Яна...
Ён любіў.
Яе.
А яна любіла фіялкі,
Сонца промні і танны пламбір,
Выявы спакусніц-русалак,
Ноч, агонь, карагоду вір.
Калі вецер ёй дорыць крылы,
І нясе пыльных вуліц уздоўж...
Але
Яна не любіла паэтаў,
А яшчэ не любіла дождж.

*26.06.2011*

***

А што я бачу у нічым —
Глыток атруты, келіх смагі.
Не патрабуй маёй увагі,
Я выйшаў па-за далягляды далячынь.
Мяне няма — так, я не першы,
Але глядзі,
Не бачыш?
Ў тым
Ёсць сэнс —

На небе ранішнім, пустым
Я зоркамі
малюю
вершы.

*03.10.2012*

***

Горад спіць
І нават светлафоры
Просяць
усіх
пачакаць

*21.03.2011*

***

Папера ўсё стрывае.
Нават
мяне.

*24.03.2011*

***

Як бы вартае што-небудзь напісаць?
Вартае быць словам,
Што само сябе нараджае.

*24.05.2011*

***

Лічбы нічога не значаць.
Гэта мы
Прыдумляем для іх найменні.

*26.05.2011*

***

Караблік у моры
Бязмежным, пустым
Шукае куды прытуліцца.
Ці ён знойдзе выйсце —
Жаданы спачын,
Ці знойдзе яго навальніца?
Караблік у моры,
Папера і клей.
У лужыне бруднай знікае

Сціскаюць яго, як сіло, берагі.
Лужына — перасыхае...
*28.06.2011*

***

Дождж — начны вар'ят
Шукае суразмоўцу,
А знаходзіць,
Адно
маўклівыя парасоны.
*19.07.2011*

***

Шкло —
абаронца
маёй
цішыні.
*29.07.2011*

***

Вяртанне да пачатку
Новы шлях
Адно каменні
Упартасць і нязменнасць
Хада часоў
Намацвае працяг
Ў якім схаваныя
Пытанні й вырашэнні
І новых дзён
Старая цішыня
Усё праходзіць
З раніцы на поўнач
Праз шкло вакна
Прайшоў прамень святла
Гаворыць, быццам —
Неба
Зусім побач!
*31.10 — 02.11.2011*

## Недальнабачнасць

напаўпразрыстае неба
глядзіць на мяне

а я
праз
неба
гляджу

*24.11.2011*

***

прысмак маўклівага шчасця
вусны
дараць вуснам

*24.11.2011*

***

Ты і Я
Мы з табою
Адным пацалункам
У каханні адным
Адною Любоўю
Супольным жыццём
Гарым

*31.03.2012*

***

За небакраем цішыня.
Там веліч з Сонцам
дзеліць Поўня.
Гарыць чужым святлом,
сама ж —
ёсць пылам,
Сонца —
промнем!..

*30.04.2012*

***

Сімволіка не патрабуе
Майго ўмяшання
На белым аркУшы паперы
Стары фотаздымак
Закратаванае здрадлівым гукам
Маўчанне
У ценю шукае

Святла электрычнага
Вырак

*09.11.2011 — 30.08.2012*

***

Я не цярплю ў паветры пах цырульні,
Пах брудных непатрэбных валасоў.
Кавалкаў чалавечае натуры,
Гадоў адрынутых, ды выклятых гадоў.
Металам пакамечаныя рэшткі,
Што выкінулі смеццем —
Дагніваць...
Мне моташна!
Пах невыносны гэты
З паветрам цёплай ночы удыхаць.

*14.05 — 06.11.2012*

***

Я ведаю тое, што бачу.
Свядомасць мне кажа —
Адсюль
Збягаць трэба хутка.
Плачу,
Бы дрэва ў лесе скульптур.
Нязнойдзенага — не вяртаю,
Кідаю наўслед:
— Пакуль!
Мой час ад'язджае трамваем,
Гадзіннік паказвае нуль.

*20-23.02.2013*

***

слуп солі Ты
а Я вада
Цябе вярну
ў Сябе забраўшы
Мы морам станем
у Сабе
любоўю living
паяднаўшы

*23.02.2013*



# Кацярына Глухоўская

**паэтка, празаік. Аўтар кнігі паэзіі «Калі дрэвы растуць з галавы» (2013 г.). Друкавалася ў «Дзеяслове», «Верасні» і «Маладосці». Нарадзілася ў 1995 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

# Як плёскат вады...

## Сэнсу

Людзі доўга глядзелі на неба,
Ім хацелася ведаць і чуць,
На Зямлі жыць — якая патрэба?
Прачынацца, каб зноўку заснуць.
Сонца вочы сляпіла паўпраўдай,
Поўня ціхай паіла хлуснёй,
Ды няпоўны быў келіх, не рады
Чалавек быў ад долі сваёй.
Не хапала ні слоў, ні ўяўлення,
Ні маўчання, ні спеваў, ні дзён —
Час ішоў — і жыцця было меней,
А ў нябёсах быў вечны праклён.

*13.12.2013*

## Малітва

Калі Ты чуеш мае словы,
Калі Ты кажаш мне: «Пішы», —
Пакінь хімерай безгаловай
На гэтым сонечным крыжы.
Дай мне адказ — нябёсы ў вусны,
Дазволь спяваць пустой травой —
Суніц салодкіх цягнуць вусы
Ўсе сокі з глебы са сваёй.
Я быць і глебай, і раслінай
Хачу. Ды ёсць адзін спадзеў:
Што ветры ў ветразяў за спінай,
То — Твая мара, воля, спеў...

*29.10.2013*

## Подыхі

Маленькі подых стыне па-за межамі —
Збіраю клетку косткамі грудзін.
Вялікі дождж — прутамі ды прамежжамі.
І б'ецца сэрца камячок адзін.
Усё стаіць празрыста і надломлена:

Змярцвелы стан — галлё, сцябліны дрэў.
А зарапад з аголенымі промнямі
Нікога ў свеце болей не сагрэў.
Знямелі казкі, вершы, шматгалосіца —
Чароўны сонм, чароўны сон і спеў.
І кожны дзень на заўтра пераносіцца,
І дождж на брукаванцы закіпеў.
Так каласуюць думкі, ходзяць сцежкамі
Па звілістых завулках галавы:
Мы ў свеце анікому не належалі —
І нам ніхто не выдаваў правы.

*17.10.2013*

***

*С. Маціну*

Гэта не ў лёд, а ў лёс
Ты галавой прарос,
Гэта не ты, а мы ўжо ў магіле.
Кожны, хто гэтак жыў,
Сэрца сваё ў нажы,
Як у ажыны чырвонага гіля кінуў.

*16.12.2013*

***

*К.К.*

Калі засталося ўва мне хоць бы што за каханне,
За позірк пранізлівы, за валасы і пяшчоту,
Дык гэта натхнёнае неба — усмешлівым ранне́м,
І вершы, як плёскат вады, звонкі пошчак чароту.
Як ветразі — думкі. Як вецер — калматыя мроі.
Адным летуценнем мы ўсе перагортваем казкі:
На кожнай старонцы, масточку, мы самі — героі.
І хутка канец у гісторыі, рэчкі ды ласкі...

*23.09.2013*

## Няма

Ты можаш стаць творцам —
Хадзі ў незямной кароне,
Нанізвай планеты на голкі яе, шыпы.
Пялёсткамі зорка на зорцы —

І шлях бароніць
Камета агністая — і на цябе шыпіць.
Ты можаш цяпер напісаць
Песню, верш, аповед,
Карціну ці ноты для музыкі лепшых дзён.
Ды круціцца лёс, як ліса,
Выдзірае промні
З прыгожага німбу, а з сэрца — працяглы стогн.
Не, ты не напішаш.
Твой момант дарма сыходзіць.
Ты проста зміры́ўся і кажаш, што пасталеў.
Заняў шараговую нішу —
Жыццё на слоце.
На плоце, як кот, засынае зацяты леў.
Ты мог бы стаць творцам.
А зніякавеў стварэннем.
На мосце глядзіш, як сыходзіць у шлях цягнік.
І чуеш у колах знаёмай яго гаворцы,
Што рвецца карэнне:
Вось вецер — і вось ты знік.

*9.09.2013*

## Андэрсан

Я буду кахаць цябе ў кожным абрысе —
Я буду кахаць.
Збіраецца з кропель — па зорцы, па рысе —
Нябесная гаць.
Пяшчотная ўсмешка, знялюблены голас —
Ніякай бяды.
Адтуль, дзе так мройна, так сонечно-квола,
Вяртайся сюды.
У цемры тваёй — запаведныя цуды,
Пачвары́ны — жах!
Які ж ты вясёлы, якія ж пакуты
Схаваў у вачах.
Трымай мае рукі, кранай мае пальцы —
Цяпер — назаўжды.
Я буду чакаць цябе — пенай на гальцы —
Ты прыйдзеш сюды.

*9.07.2013*

***

Ты ўсё ведаў — не ведаць не мог.
Ты ўсё ведаў, глядзеў ды ведаў —
І ляжаў ля самлелых ног
Мастакоў, дзівакоў, паэтаў.
Абагрэты зямным жыццём,
Ты глядзеў, як губляюць глебу,
Як знаходзяць няўцямны дом
Ды патрэбу між хісткіх рэбраў.

***

Памажы ўратаваць яго,
Аднаго з тых вялікіх птахаў,
Што не маюць гнязда свайго
Між вясёлак, галін ды гмахаў.
Памажы ўратаваць яе,
Як адну з тых чароўных птушак,
Што так гушкаюць сны свае —
Ажно тыя звіняць увушшу.
Памажы ўратаваць усіх:
Вочы бедных сірочых спеваў...
Гэтак песцяць дзяцей сваіх,
Ці на гора гадуюць дрэва.

***

Калі птушка ўзмывае ў нябёсы,
Значыць нехта ўздымае ружжо —
Ад такой непазбежнай пагрозы
Яе крылы не збавяць ужо.
Адчуваю, як птушка загіне —
Згубіць памяць і неба, і спеў, —
Адчуваю — у сэрцы заінеў
Самы дробны, апошні спадзеў.
Адчуваю, як птушка баіцца,
Яе боль і пакору, і гнеў.
Быць фігуркай на нечай паліцы
Пры жыцці ёй не вытрываць, не.
Ні жалезнай, ні сонечнай клеці —
Прамяністыя межы, драты —
Яна марыць быць вольнай у свеце,

Як і я, як і ён, як і ты...
Будзе птушка на нечай паліцы
Пры жыцці альбо не — без жыцця.
І каб з лёсам сваім прымірыцца,
Трэба сэрца навылет працяць,
Ці шыпшынай, ці куляй — не важна,
Толькі б доўжыўся ейны палёт:
Незаўважна на воблака ляжа
І пакіне самотным галлё.

*24.12.2013*

***

Летуценні у вырай зляцелі.
А мы без галавы — адно сэрца з вушкамі:
Мы апроч за сэрца нічога не мелі.
Толькі крылы — абапал дарогі птушкамі.

*12.04.2013*



# Алена Сіманчык

паэтка. Скончыла БДПУ імя МаксімаТанка. Нарадзілася ў 1991 годзе ў вёсцы Мажэйкава на Гродзеншчыне. Жыве ў Лідзе.

# Знайсці свой шлях...

***

Я ніколі не буду лепшая.
Я заўсёды буду такая як ёсць,
Крыху стомленай, крыху грэшнаю...
Але буду такая як ёсць.

Я ні зорка, ні кветка, ні пацерка,
Я — імгла сярод ночы сырой.
Трохі добрая, трохі нязграбная,
Але век мне застацца такой.

І раблю шмат чаго непатрэбнага,
І жыву можа трохі не так,
Але я, гэта я — значыць трэба так,
Я ёсць я, мне не трэба адзнак.

Я ніколі не буду лепшая,
Я заўседы буду такая як ёсць,
Крыху стомленай, крыху грэшнаю,
Я такая, напэўна, вось.

***

А хто ты?
Ніхто!
А дзе ты?
Нідзе!
Ты чалавек?
Не ведаю...
А як цябе зваць?
А хто як заве!
Ты маеш сяброў?
А трэба мне?
А колькі гадоў?
А хто колькі дасць!
А што сёння робіш вечарам?
Не ведаю...
Што я магу сказаць!

Мо я толькі мара нечая...
Куды ты ідзеш?
А куды занясе!
Навошта жывеш?
Не ведаю...
Мо пойдзеш са мною?
А ты бярэш?
Бяру!
Калі шлях ты ведаеш?
Ну добра, пайшлі!
А скажы хоць куды?
А якая нам розніца!
Мы разам з табой паляцім праз гады
І возьмем усё, што знойдзецца!

***

Вы людзі ў балоце...
Вы ўсе — наскрозь...
Вы людзі — сама развага...
Вы людзі — «да что ты, брось»,
А горла так паліць смага.
Вы тыя — хто сумнай казкі канец,
Бяздушныя, цёмныя нетры зямныя?
Вы людзі — ах, Божа, мяне не трывож!
Тады, хто вы ўсе такія?
Світальныя зоркі,
Ці летні туман?
Аптычны падман прыроды?
Вы людзі — ай, здагадайся сама.
Ці зніклыя калісь народы?
Вы людзі — ці чэрці!
Вы ўсе — наскрозь!
Паціху знікае развага.
Вы людзі — «да что ты, брось»,
А горла так паліць смага...

***

Па сутарэннях душы,
Па лабірынтах свету,
Па цёмных начах

І шэрых днях,
Ідзе чалавек
знявечаны, раздзеты
з адвечнай марай —
Знайсці свой шлях.
Прастор шырокі,
Дарог так многа,
Але па ўсіх рассыпаны сляды,
Здаецца, чалавек пайшоў сваёй дарогай.
Ну, а прыйшоў зусім ён не туды...
Па сутарэннях душы,
Па лабірынтах свету,
Па цёмных ночах,
І шэрых днях,
Ідзе чалавек
Знявечаны, раздзеты,
З адзінай марай —
Знайсці свой шлях!



# Марына Валасар

паэтка. Скончыла Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна. Друкавалася ў газеце «Берасцейскі ўніверсітэт». Нарадзілася ў 1990 годзе ў вёсцы Тэльмінавічы на Берасцейшчыне.
Жыве ў г.п. Міханавічы на Міншчыне.

# Не бойся жыць...

## Сцяг дапамогі

Калі блукаю я у цемры,
На сэрцы цяжар, боль і страх,
І зло закідвае каменнем,
Ты дапамогі ўздымеш сцяг.

Адорыш духам супакою
І знішчыш пастку сатаны,
І хваляй добрага настрою
Напоўніш дні маёй душы.

Спашлеш ты подых Свайго Духа
І Ён адновіць мне жыццё:
Трывога, сум і мая скруха
Сплывуць, як дым, у небыццё.

О дзякуй, Ойча, за падтрымку,
За Тваю радасць і спакой,
За веры новую іскрынку.
Хачу я быць заўжды з Табой.
*30. 04. 2012*

## Здымі з вачэй вэлюм ружовы

Здымі з вачэй вэлюм ружовы,
Праўдзіва навакол зірні
І прамаўляй сваёю мовай
Аб прыгажосці на зямлі.

Аб тым, як восень учыняе
Свой каляровы вернісаж,
І думкі радасна лунаюць
Яе прасторамі наўсцяж.

Ляцяць высока па-над светам,
Дзе неба яснага блакіт,
І птушкамі высокіх мэтаў
Абагаўляюць шэры быт.

## Любіць немагчыма, не стаўшы сабой

Любіць немагчыма, не стаўшы сабой,
Не скінуўшы маскі з хцівага твару,
Не аздаравіўшы праўды слязой
І не разбіўшы чары падману.

Бо толькі ў сабе ты адчуеш сваё,
Не будзеш ганяцца за пыхі жаданнем,
Ў жыцці-мітусні ты сустрэнеш яго —
Тваё непаўторнае лёсу каханне.

*2012*

## Будзь сабой

Будзь сабой і не думай, што будзе,
Чым аддзячыць вакол табе свет?
Мо растопча, схамуціць, забудзе,
Згасіць промні ўсіх мараў і мэт?

Будзь сабой, бо нікому не трэба
Твая ўяўная ўдзячнасць і фарс,
А плыві сабе так, як патрэбна:
Выкінь з сэрца абрыдлівы фальш!

Будзь сабой, бо інакш і не трэба,
Не старайся быць кімсьці другім,
А як будзеш камусьці патрэбен —
Ён палюбіць цябе і такім!

*2012*

## Знішчай сцяну у сваім сэрцы

Знішчай сцяну у сваім сэрцы,
Адкрый свой свет, не бойся жыць.
Не будзь разгубленым няверцам,
Вучыся у любові плыць.

Вакол цябе — жывыя цуды,
Што ў душах у людзей жывуць,
Таму не будзь сабе Іудам
І сваю самасць не забудзь!

Няхай знікаюць барыкады,
Што ўзводзіць зайздрасць і разлад.
Любоў і боская спагада
Няхай будуюць новы лад!

Спалі смуроддзе эгаізму
І працягні руку другім,
Твой шлях не будзе хай прыблізным,
Нясі святло жыццём сваім!

## Верыць...

Ты — рэха, што нельга пачуць.
Ты — промень сонечны ў лютай цемры,
Цудоўны сцяг, які нясуць
Святыя праз жыццё да веры.

Не бачым самі мы Цябе,
Але усё жыццё шукаем
Пытаем сэрца: дзе Ён, дзе?
І ноччу грэшныя блукаем.

А Ты заўсёды з намі Ёсць
І бачыш нашыя памкненні.
Ты адкрываеш нам Сябе,
Але сляпыя мы стварэнні.

Заўсёды нам чагосьці не стае
І гэта штосьці нам турбуе сэрца.
Мы хочам бачыць вобразы Твае,
Але для гэтага патрэбна Верыць...

*2012*



# Наталля Бінкевіч

паэтка. Скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Працуе на радыё «Беларусь». Нарадзілася ў 1990 годзе ў Ваўкавыску. Жыве ў Мінску.

# Шэпт анёлаў...

## Цягне!

Цягне ў багну.
(У цябе пачуцці).
Цягне ў багну,
Выкідае з далёкіх куткоў
Успаміны
І цягне!
Ные стукам,
Грукае кіем,
Азіраецца.
Цягне!
Затрымайце думкі!
Забіваю
Ці я іх.
Ці яны мяне...

***

У шыбу ваконную
Халоднымі пальцамі
Грукае дождж.
Праз скуру ў сэрца
Кавалачак суму імкнецца.
І хто з іх раней да душы
Дабярэцца?
Ляжу-варажу,
Бо няма куды дзецца,
Бо ў шыбу ваконную
Халоднымі пальцамі
Грукае дождж...

*2008*

## Уяўны верш

Густа
Праз замкнёныя вусны —
Чырвоны.
Апускаючы вочы долу

Ў поўных табой адзінай калідорах —
Зялёны.
Ніягарскім снегападам
Закунежу —
Бела-блакітны.
Ланцужкамі радкоў,
Навагодніх гірляндаў —
Мастак па палітры
Расцягвае літары.
Назовы для карцін.
Гэта Марк Шагал вучыў:
Закаханыя = закаханы Я.

***

Я спрабую зразумець таго,
Хто бяжыць на чырвоны,
Каб паспець на аўтобус.
Забегчы, сесці з кімсьці,
Зняць пальчаткі,
А потым паглядзець на тую,
Якой выходзіць
Праз прыпынак.
Дастаць мабільнік,
Углядацца ў гадзіннік...
А час ідзе, і
Я спрабую зразумець таго,
Хто тыцкае цыгаркай
У сметніцу. Хто цяпер
Брудней: яна ці яна?
Затушыць, выкінуць,
Надзець пальчаткі,
А потым паглядзець на таго,
Якога трымаць за руку.
Я спрабую зразумець тых,
Хто трымаецца за рукі.
Рукі ў пальчатках ці
Голымі пальцамі
Цалавацца.
Я іду на зялёны
І спрабую зразумець,

Чаму ўсе вершы пачынаюцца
На «я»? І ніводзін
На «мы»?

***

І думкі пакрышыліся ў паветры.
Цалюткі дзень без дна
І ноч без сна.
Я так цяпер жыву.
На сівым ветры
Гуляе попел мар.
Там музыка і баль.

*2008*

***

Крыштальны позірк —
На ўсіх адзіны.
У аблоках поруч
Ты
Стагоддзі, гадзіны.
Анёлы шэпчуць:
«Трымайся, дружа!»
Малая трэска.
Цікава дужа.

## Нічога

Сёння прыйшло Нічога.
Самотнае, без уздыху.
Гэтая ноч раскажа, ёй
Было нават страшна
Піць. Не ўдавацца.
Не шкадаваць.
Не шкадавацца.
Сёння прыйшло Нічога.
Самотнае, стылае.
Стомленае цела —
Цёплае звонку,
Халоднае ўнутры.
Папера з дрэва,

Натуральна, гарыць, —
Не сагрэла.
Сёння прыйшло Нічога.
Без уздыху.
Разарвацца б на
Аскепкі
Безліччу зор і рысак.

Румзае Нічога:
«Нічога», — і
Ўздыхае.

## СМС а 5.58

Проста ўяўлю,
Што сяджу з табой
У летаку.
З неба на зямлю
Сёння а дзясятай
Не змагу.
Не змагу заснуць
І не змагу прысніцца.
Сёння, дружа,
Нас сустрэне
Ніца...

***

усюды ёсць вушы
не пішыце на руцэ
калі вы ставіце рыскі
нехта занатоўвае
рухі асадкі
(і на завулках скуры
таксама)
усюды ёсць вочы
калі вы гартаеце
старонку
нехта фатаграфуе
вашае дыханне
завандраванае

ў эмоцыю
не кранайцеся гукаў
усюды ёсць людзі
сінтэз
фотасінтэз
структура
і сістэма

## Для М.

Кропкай стой!
Белы сцяг на мяжы
Прывяжы
Ды бяжы.
Ад мяжы. Да мяжы.
Ад мяжы. Да мяжы.
Уздоўж шашы.
Не кажы.
Беражы.
Ціша.
Ш-ш-ш...

*2013*



# Соф'я Марозава

паэтка. Скончыла філалагічны факультэт і магістратуру БДУ. Фіналістка конкурсу маладых літаратараў імя Уладзіміра Караткевіча (2005). Друкавалася ў зборніку «Групавы партрэт з бабай Броняй», тыднёвіку ЛіМ. Нарадзілася ў 1988 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Будзь мне сонцам...

## Начное

спляценне ценяў —
чорны віхор.
моцнай кавы
чорны агонь
і смак гаркавы.
у гэтым агні гарэць
у гэтым віры ляцець
і чорнага цмока працяць
стралой агністай
а потым кудысь праваліцца
і доўга, доўга ісці
па выпаленай пустыні
і па калена ў трысці

***

што пакладзена ў папку,
то стане маёй нататкай
кароткай кропкай,
гутаркай нетаропкай
званком апошнім,
заіржавелым поршнем
шэршнем бяскрылым,
заплеснелым сырам
жалезным хлебам,
бо мне яно без патрэбы.

## Снегавей

снег, пайдзі! закружы мяне ў танцы сваім
ад імшы да імшы. я падобны на дым
ці на промень сляпы, з кожным ветрам лячу
на вяровачцы з ім адпускаю душу

адлятае й сягае нябёснага дна
знікае ў аблоках і больш не відна
і ірвецца вышэй і смяецца яна
а вяровачкі больш у далоні няма

але веру, што вернецца з горніх краёў
і паклоніцца мне, і увойдзе ў дом
і згатуе пірог, і накорміць дзяцей,
калі скончыцца гэты ліхі снегавей

## Малітва

віна мая, не згасай
вечна ззяй, сонцам ззяй
ты паходняй маю асвеціш дарогу
будзь мне сонцам да зводу
і ў дождж, і ў пагоду

## Дом

узводжу дом на быстрыне
(маёмасць — аснова Айчыны!)
з паветра будую сцены
дах з лёту, падлогу з пены

мой дом хутка зойме паўсвету
мой дом ляціць як ракета
гляджу на мільганне ўнізе
матляюся на карнізе
увушшу скуголіць вецер
у сэрца мне сонца свеціць

цяпер у бядзе не прапасці.
я маю дом! гэта шчасце.

***

соплі бяздомнасці
у вечар коцяцца
і вые вецер вольнасці
голасам дзявочасці

а я трымаю нірвану
высілкам нейронаў
каб дыван маляваны
стаў маім духоўным домам

каб шчасце не скончылася
але ўзаконілася
каб іншае — светлае
заўсёды помнілася

***

Летняй ноччу
                    апаўночы
кожны робіць што ён хоча
хтосьці пад кустом стракоча
хтосьці на страсе вуркоча
хтосьці ў сажалцы рахоча
хтосьці ломіцца ў ліхтар
хтосьці спіць — падушка ў твар

## Прыгожае

я прысвою сабе прыгожае
а потым завыю над пожняю
над копамі і над скірдамі
над карняплодамі вырытымі
над грузам маім заплечным
прыгожым і недарэчным.
нясмачнае яно й бескарыснае
а гэткае ж дужае вырасла



# Наста Кудасава

паэтка. Аўтар кніг паэзіі: «Лісце маіх рук», «Рыбы». Скончыла філалагічны факультэт і магістратуру БДУ. Нарадзілася ў 1984 годзе ў Рагачове. Жыве ў вёсцы Варонча на Гарадзеншчыне.

# Даматканы радок

## Горадзе наш

горадзе наш,
атулі, сагрэй,
але не судзі, не важ.
закрый ад людзей,
сам стань ля дзвярэй,
горадзе, схове наш...
дай нам дапіць гэты лёс нагбом,
смутак наш забялі,
ты ж ведаеш, горадзе,
толькі любоў
трымае мяне на зямлі.

***

замяці, зіма-гаіцелька,
лужынаў прастрэлы чорныя.
я сама, як лісце, выцвіла —
о як пуста, як прасторна мне!
тут, у пекле, дні што вусені —
распаўзаюцца, стлусцелыя...
замяці ж усё, што схлусіла:
памяць,
голас мой
і цела!

## Цеціва

цела маё цеціва
робіцца ўсё напяцей.
хутка танчэе канва
музы,
жанчыны,
маці.
счэзне і спрыт,
і грым,
жончын забег,
і доччын,

толькі б трымаць жывым
пульс стралы
невідочнай.

зловяць свой верны рытм
часу ліхія арэлі,
цэль адамкнецца ўгары
і нехта стрэліць.

## Тое, што...

засталася начэй прапісная халодная гжэль
і ў пустым прастакутніку ложка мая адзіночка,
засталося штодня адчуваць, як цяжэй і цяжэй
перасоўваць жыццё без цябе слімачыхай ацёчнай,
засталося глядзець, як на нашым нязбытным шляху
зарастае ўспамiннікам шчасце, што мы не ўтрымалі,
быццам ты толькі сон, што, да шкла прытуліўшы шчаку,
я прысніла аднойчы ў апошнім сталічным трамваі...

## Гэты час

звар'яцелыя,
сочацца дрэвы тугой,
не хаваючы голага вецця.
я люблю гэты час прыадкрыцця Твайго,
час прадбачання блізкае смерці.

сёння восень гаркавая,
быццам імя яго,
што не сціраецца з вуснаў,
і няма ўжо ні славы,
ні сілы мяняць
гэтых будняў парадак пракрустаў.

***

а цяпер толькі памяць
унутраным зверам скуголіць,
у вярэдзіве дзён незаўважаная,
нічыя...

як мільёнамі кветкавых моваў заходзіцца поле,
хіба ведаеш ты,
мой пагардлівы юны пчаляр?
як ламаецца голас пчаліны
і тонкія крылы,
калі ўбіцца з адчаю
ў нязбытнасці мёрзлы сумёт,
як любіла цябе нацянькі,
безаглядна
любіла,
пакідаючы ліпкі й духмяны
ў руках тваіх
мёд.

***

здрада хапае за горла, як тать,
і надыходзіць вусціш:
ні зварухнуцца нельга, ні ўстаць,
ні проста сказаць камусьці.
а нешта ўнутры, як аб сценку гарох,
б'ецца, псуе гэту цішу.
з усіх тваіх мараў, падзей і дарог
я самая-самая лішняя...

***

праз парэзы баразнаў
знае глеба вясну.
так што дзейнічай, лёс мой,
не шкадуй, паласуй.
з'ела голас мне здрада,
грэх душу абкарнаў,
але можа і я дам
хоць бы жменю зярна.

## Мядзведжая бессань

Адліга: шлях брынёю квокча,
мядзведзь пакутуе на бессань.
Ён слухае ў бярлозе ночы,
як вечнасць носіцца над лесам,

як прымінае дрэвам світы
рукой бязважкай і бязмежнай
і быццам нейкі сум забыты
ўздымае ў памяці мядзведжай...
І той падоўгу ў столь бярлогі
глядзіць вільготнымі вачамі,
нібы свой кон, сусвет і Бога
вось-вось уцяміць...

## Павучыны верш

Павучыны пявучы
даматканы радок —
з тонкіх нітак сугуччаў
праца роспачных ног.

Між натоўпамі малпаў,
у краіне кратоў
праца ўпэўненых лапак
над сваім палатном.

Кволы восеньскі лётчык,
павучок-чараўнік,
быццам беларабочы,
я сную чыставік,

каб ляцела каметай —
чуйнасэрцых маяк!
Вечным бабіным летам
будзе песня мая...

***

лячу ўспамінам сунічным
крылом сінічным крануць.
хоць велічным,
хоць найзвычным –
аблочным,
яблычным –
будзь!
каб гэты струнны сястрыны
не сціх аркестр унутры.

ці стойным,
ці хуткаплынным –
жыві, мой светач,
гары!

***

дзе адхланне маё натхненне,
яблык райскі, цяпло каленяў,
пуцяводаў дняпрыстых плынь?

разжавалі, укрыжавалі,
адышлі, а душа — жывая,
ценькае на канцы іглы.

дзе ты грэеш плячо-падмогу,
як ты богава спеліш Богу,
з кім ты пішаш на брудэршафт?

ці глядзіцца вачамі ў вочы,
ці там б'ецца ў грудзях сірочых
твой забыты варштат?



# Юрка Буйнюк

паэт. Аўтар паэтычных кніг: «Субота ў Малінніках» (2005) і «Самота дажджу» (2009). Друкаваўся ў газеце «Ніва», часопісах: «Тэрмапілы», «Калоссе», «Дзеяслоў», «Верасень», «Angora». Лаўрэат агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі ды прозы. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў вёсцы Маліннікі на Беласточчыне ў Польшчы. Жыве ў Беластоку.

# Дзеці поўні

## Вясна ў Давідовічах

Свежаскошаная трава
Дурманіла вясновым вінам
Сямейнай казкі шчасця
Матчынай гасціны шчырага застолля
Бацькоўскім разумленнем жыцця
Наіўнай дзіцячай баладай вясны
Мы абое на гасцінцы кахання
Выбітага цвёрдымі камянямі надзей
Пад акном хат плыло
Мора блакітна-сіняга бэзу
Кот суседскі лашчыў босыя ногі
На траве адплываў я
У захад травеньскага дня
Вырваўшыся з акіяну штодзённых турбот
На пару хвілін у спакойны свет вёскі

***

Даць камусьці шанец
На пагаслым прысаку ўчарашняй любові
Распаліць у другі раз вогнішча сям'і
Кожны любіць салодкі мёд
З першым малаком нявіннага шчасця
Але на стол штодзённай долі
Жыццё кладзе чорны хлеб
І горкую соль праўды.

Кахаць ці сысці
Якое цяжкае пытанне
Такі ж цяжкі і адказ.

## Дзеці поўні

Нашыя словы
Паэма пра каханне
Мае лісты да кветак метафар вясны
Як твае непрыснёныя сны

Мы дзеці поўні
Зразумелыя думкам сваім
Спаткаліся ў сне
Вясны кахання
Размыліся ў сакавіцкім тумане
Непапраўных дарог лёсу.
*5.03.2013*

## Полюсы сэрцаў

З жамчужын вуснаў выпускай па кроплі лівень слоў
Хвіліна ў якой абое існуем — прыгожая
Магніт паразумення душ прыцягвае полюсы сэрцаў
А не аддаляе штодзённы свет.

Знайсці цябе ў цяжкім часе
Тое ж самае як выйграць падарожжа вакол свету...

## Цішыня

Можа я не кахаў цябе
Але наталяўся словам
Ты як старэйшая сястра
Глытала маю мову
І сварыліся – як дзяліліся
Салодка-гаркавай кавай
Мы на крыўды свае забыліся
Мо гэта ўсё было толькі забавай?
І магічныя хвіліны
Мімалётных усплёскаў слабасці
Новых пошукаў-чаканняў
Абрываліся скрозь расстаннем
Ты любіла слухаць гурт «Би-2»
Шукала ў песнях натхнення
Толькі баліць мне душа
Такое сумнае здарэнне
Мы абое дзеці месяца
Закаханыя ў сябе
Дакладней у вобраз люстра
Забракла нам жыць у сне
А мо адвагі нестае на тое,

Каб сэрцы раскрыць вясне
Зведаўшы дно залатое
*4-5.03.2013*

## Беластоцкая восень

Каляндар дрэў у парку
Губляе лісты даджлівых дзён
Восень
Пара тратуараў вершаў
Якія распісвае сентыментальны час
Цёплымі вобразамі успамінаў лета
Промнямі хвілін няздзейснай любові
Што саграваλі маладое сэрца
У песнях ветру я хаваю
Адзінокія крокі дажджу акордаў гітары
Уцякаю ў свет маладосці
Каб запрасіць паэзію ў госці
Часам чытаю лісты спагады
Якія падаюць далонямі сяброўства
І ўсё чакаю усмешкі сонца
Каб грэла сэрца святлом бясконца.
*21.09.2013*



# Алена Масцерава

паэтка. Скончыла БДПУ імя Максіма Танка. Нарадзілася ў 1983 годзе ў вёсцы Лагаза на Лагойшчыне. Жыве ў Лагойску.

# Я заварожана табой...

***

Я люблю, калі дождж абмывае мой твар,
Крочу смела пад ім, доўга-доўга, бясконца...
Без пачуццяў і думак, памкненняў і мар,
Без паветра, цяпла і іскрыстага сонца...

Я і дождж. Мы — адно. То бяжым. То ідзем.
А спыніцца на месцы ніколі не зможам.
Ці залевай, ці кропляй расы ўпадзем
На зямлю, на раллю, на лясы і на пожні.

Стане чыста і светла... І мы рушым зноў,
Паляцім да нябёс, да іскрыстага сонца
І вясёлкай заззяем, падорым любоў,
І надзею, і веру. І гэтак бясконца...

## Пасля стрэчання

Учора сустрэліся зімка з вясной.
У хаце — грамнічная свечка.
Чакаеш, што будзе і ў сэрцы спакой,
І шчасце ў душы будзе вечным...

Ды штосьці шчыміць ды шчыміць у грудзях,
І думкі снуюць мітусліва.
Трывожна ўглядаюся ў неба прасцяг
Ды мару аб хвілі шчаслівай...

***

А вершы не ліюцца больш з душы...
Павольна, ціха мая ліра змоўкла...
Папера белая ад смагі ўжо пажоўкла
І просіць: «Хоць што-небудзь напішы!..»

Без крылаў, мар і сонечных надзей
У сэрцы засталася толькі проза...
І, ўжо зямная, я гляджу цвяроза
На свет, жыццё і блізкіх мне людзей...

Вярнуць лірычнасць сілы не стае,
А гінуць так не хочацца у багне
Зямной, калі душа ўсё ж прагне
Да сонца, што праменне раздае...

Дазволь жа зноўку ўзняцца да нябёс!
Даруй, даруй самоту, Божа!
...Я ведала: малітва дапаможа.
Хрыстос усмешкай веру мне прынёс.

***

Зорнае неба вясны
Ярка зіхціць і весела.
Толькі яно падманнае:
Шчырае,
            ды халоднае...

Зорнае неба душы
Быццам гарачым крэсівам,
Быццам агнём запальвае
Вочы,
        такія родныя...

...Цёплыя зоры-вочы
Грэюць сцюдзёнай ноччу.

***

Мой твар ператварыўся ў камень,
Калі сустрэла я цябе.
Як бы ў самоце ці ў журбе,
Мой твар ператварыўся ў камень.
А сэрца ў жорсткай барацьбе
Жадала выбухнуць прызнаннем!..
Мой твар ператварыўся ў камень,
Калі сустрэла я цябе.

## Восеньскі факстрот

Я заварожана табой,
З табой чакаю зноў сустрэчы.

Ты — мой рамантык, мой герой
У позні вераснёўскі вечар.

Ляціць лістота на зямлю.
У парку сумна і халодна.
Я залаты твой сум люблю,
Лагойск, Лагойск, мой горад родны.

Танцую восеньскі факстрот
На беразе чароўнай Гайны.
Спявае ціха мне чарот
Пра доўгае з цяплом расстанне.

Злятае лісце з цемнаты,
І дожджык пырскае лагодны.
Танцуем разам, я і ты,
Лагойск, навечна горад родны.

***

Нас раздзяляюць пакаленні.
Па розных сцежках нам ісці...
А сэрца стыне без натхнення:
Кахання нестае ў жыцці.

Будзённым днём я не лятаю —
У снах раблю крылом узмах...
Жыццё — што клетка залатая,
І я ў ёй — адзінокі птах.

Ніяк не могуць твае вочы
І ўсмешка дзіўная твая
З душы сцягнуць абдымкі ночы
І даць мне сілы.
Буду я

Згараць далей, як іскра ў высі,
І біцца ў клетцы залатой...
Прашу, ты побач прыпыніся!
Са мной хвілінку хоць пастой!

Забудзь пра ўзрост і пра ваганні
І смела клетку адамкні!
А раптам шчасце і каханне
Асвецяць лёс наш, нашы дні?

***

У начной глыбіні наваколле...
Цьмяна поўня гарыць...
Мне прырода адкрыць
Абяцае для думак раздолле.

***

Палымнее ўсход-небакрай.
Гасіць поўня апошні агеньчык.
Просіць певень у сонца: «За-йграй!» —
І ўжо цёплы, прасветлы праменьчык
Асушыў мне слязу на шчацэ,
Што пакінулі ночы абцасы...
Я жыву! Я плыву па рацэ
Ўсеабдымнага вечнага часу!

***

Зменлівая восень
Песціць цёплым сонцам,
Вабіць жоўтым лісцем,
Клёнам залатым.
Хораша. Між тым
Хмары наліліся,
І з нябёс бясконцы
Дождж ліецца вобзем.
Сэрцу так трывожна,
Холадна, вільготна...
Нават парасонік
Шчасця не прынёс.
І шкада да слёз,
Як глядзіш спрасоння
На бульвар маркотны,
Небасхіл абложны...
Грэе толькі мара,

Што не вечна лівень
Будзе біць у вокны
Вёдрамі вады.
Выйдзе з цемнаты
Месяц свежы, мокры,
Сярод зор шчаслівых,
Сярод лёгкіх хмарак.



# Алесь Мацулевіч

паэт. Скончыў Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А.С. Пушкіна. Друкаваўся ў «Лідскай газеце». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Лідзе. Жыве ў Лідзе.

# Вецер з глыбіні вякоў...

## Паданне аб арлiным гняздзе

**Пралог**

У будынкаў вокнах — сонца ззянне.
Між будынкамі — хада, язда.
У жыццёвым віры мы, лідзяне, —
жыхары «арлінага гнязда».

**1**

**Вяртанне Гедыміна з палявання**

Для пасеваў велічы ўзарана
княства Гедымінавай рукой.
Княжання яго прайшоў заранак
у паходах супраць крыжакоў.

Не было за Нёманам ніякіх
замкаў — толькі багна ды лясы.
Гедымін, забыўшы аб крыжаках,
бавіў паляваннем там часы.

Раз, вяртаючыся з палявання,
Гедымін пачуў дзіцячы плач.
Вось на дубе разгалінаваным
плача хлопчык у гняздзе арла.

Плача немаўля і крывіць губы,
што яшчэ не ўмеюць гаварыць.
Хлопчыка князь загадаў зняць з дуба,
пасяліў у княжацкім двары.

А назвалі хлопчыка Ліздзейкам,
бо дасталі з ліздаса — гнязда...
Сны тлумачыў ён... Прайшоў час нейкі —
і хлапец жрацом вярхоўным стаў.

**2**

**Вяртанне Гедыміна з паходу**

Раз вяртаўся Гедымін з паходу
і заснуў над Вільнаю-ракой.
Бачыць сон: жалезны воўк на ўзгорку
вые голасна, як сто ваўкоў.

Сон пазней Ліздзейка растлумачыў:
«Воўк жалезны — тут сталіцы быць.
А што моцна вые — не іначай
як аб славе можна гэтак выць».

Князь пазней прывёў палонных мноства,
загадаў — і будаваць пайшлі
замак, як падзяку за прароцтва,
там, дзе хлапчука ў гняздзе знайшлі.

Вырас замак — паратунку якар
ад нашэсця... Бачаць і цяпер:
узвышаецца жрацу падзяка
ў Лідзе і Лідзейка тут цячэ.

Да нябёс шматпавярхоўкі ўзняты.
Між будынкамі — хада, язда.
У жыццёвым віры арляняты
горада — «арлінага гнязда».

## Паданне аб пакінутай варце

Што шэпчаш, вецер з глыбіні вякоў,
што крыламі ўздымаў плашчы з крыжамі?..
На замак рушыць процьма крыжакоў.
У замку — войска, князь ды гараджане.

Спужаўся князь — і з войскам уначы
паспешна ўцёк праз патайную брамку.
Пакінуў, перад тым як уцячы,
ён жменьку вартавых на сценах замка.

На гібель верную пакінуў князь
няшчасных, крыжакам на разарванне:
нічога не каштуе жменьку зняць
у чырванню афарбаваным ранні...

А раніцай да брамкі вораг лез,
ад радасці ў шчыты лупіў мячамі —
ды вартавых сустрэў мячоў тых лес,
што кроў сваю з варожаю змяшалі.

У тым баі ўся варта палягла —
ды ў замак вораг так і не прабраўся...
Паданне ходзіць: прывід ваяра
на замка сценах з тых часоў застаўся.

Калі ізноў ля замка звон мячоў,
цень да байніц ляціць па галерэі —
падставіць бесцялеснае плячо
таму, хто ў бітве ворага агрэе.

Спяшаюцца сваім дапамагчы
загінуўшых вартаўнікоў фігуры...
Што шэпчаш, вецер, і аб чым маўчыш,
пануры замак — вартаўнік пануры?..

## Грунвальдская бітва

*(у памяць аб падзеях 1410 года)*

Сярэдзіна ліпеня... Парыць...
Такой вось спякотнай парой
палякі, ліцвіны, татары
сышліся з тэўтонскай ардой.

Было войскам горача, цесна
на полі тым ліпеньскім днём.
Пот ліўся па скронях, па чрэслах
пад сонца пякельным агнём.

Ад поту ільсніліся коней
бакі... Вось кранаецца строй —

і стала намнога спякотней,
калі павялі войскі ў бой.

Ураз косы смерці навіслі
над полем, як цемрадзь злых хмар.
Прыйшоўся па войсках ліцвінскіх
асноўны тэўтонцаў удар.

Настаў час у ворага цэліць,
свістаць смертаноснай касе.
Князі і баяры, і чэлядзь —
з тэўтонцамі біліся ўсе.

Ніводнай не знойдзеш паляны
ты ў лесе з людзей і сцягоў.
І білі тэўтонца смаляне,
і гродзенцы білі яго.

Дзяржальна мяча моцна пальцы
сціскалі, меч сёк крыжакоў.
І білі тэўтонца тракайцы,
і віленцы білі яго...

То тут, то там грузна валіўся
крыжак, як падрэзаны грыб.
Ягайла ў асноўным маліўся,
а Вітаўт ад крыку ахрып...

У пекла гарачае бітвы
татар пасылаў Зеледзін...
Крывёй былі травы абліты,
ды трупы — куды ні глядзі.

Ды воіна трупы не страшаць!
Тэўтонец, разгромлены будзь!
Апошнія сілы сабраўшы,
харугвы па ордэну б'юць.

Каб з ордэнам моцным пакончыць,
махалі яшчэ і яшчэ
мячамі... Да захаду сонца
быў ордэн разгромлены ўшчэнт.

Разбіты крыжак! За Літвою
на полі лаўровы вянок!..
І лідскай харугвы крывёю
паліта таксама яно...

## Леў і ключы

*(у памяць аб падзеях 1590 года)*

Ганарыся, нос уверх
задзяры, лідчанін:
атрымала Ліда герб —
шчыт са львом, з ключамі!

Поле ў ворагаў крыві.
Леў на ім адважны.
Хто з мячом прыйшоў — раві,
на кіпцюр насаджаны!

Поле, як нябёс блакіт.
Два ключы ад раю.
Толькі мужнага рукі
ключ такі чакае.

Барані, каб уцалеў,
горад свой у войны!
Мужны, храбры будзь, як леў!
Раю будзь дастойны!

Адбівай, каб не насеў,
ворага, лідчанін!
Запавет такі нясе
герб са львом, з ключамі.

## Запольскі памешчык

*Памяці Ігната Дамейкі*

**1**

Кіруе маёнткам Заполле
памешчык Дамейка Ігнат.
Як пану, Дамейку ў запале
тут першую скрыпку іграць.

Аддаўся Ігнат гаспадарцы,
часопісам, кнігам па ёй.
Вучоны — чаму б не аддацца,
здзяйсняючы думак палёт?

Разводзіць пародзістых коней
і дбае аб долі сялян.
Іх дзеці, што вучацца ў школе,
Ігнату душу весяляць.

Паўзе ў адзіноце час-змейка.
Жыве ў адзіноце Ігнат.
Жыве ў адзіноце Дамейка.
За ім — паліцэйскі нагляд...

**2**

Калі над тваёю верандай
праносяць каметы хвасты,
ці сняцца далёкія Анды,
што будзеш даследаваць ты?

Як зорачкі россыпам ягад
пачнуць над верандай мігцець,
ці сняцца далёкі Сант'яга
і тамашні ўніверсітэт?

Ці сняцца чылійскія шахты
і тамашнія руднікі?
Ці бачыш, Дамейка, у снах ты,
як горбяцца там гарнякі?

Ці сніш акіянскую пену
і над акіянам вятры?
Табе і не сніцца, напэўна,
што ў Чылі праславішся ты?

Як ноч россып зорак запаліць,
як сон немагчыма прагнаць,
што сніш у маёнтку Заполле,
вучоны Дамейка Ігнат?



# Валянціна Восіпава

паэтка. Скончыла Магілёўскі тэхналагічны інстытут. Аўтар кніг паэзіі: «Насустрач расстанням», «Разнагалосіца душы», «Блікі» і «Папяровы змей». Нарадзілася ў 1959 годзе на Гомельшчыне. Жыве ў горадзе Бярозе.

# Пачатак апошніх часоў

*Горка... Так горка бачыць —*
*Збіліся з арыенціру!*
*Спраўляем нікчэмнасці трэбу.*
*Паэзія — напамін, што чалавек і гліна,*
*і сын неба!*

## Гліняны чалавек

Пагардлівы позірк гор —
Нікчэмны гліняны чарвяк!
У чорных улоннях пячор
Навошта майструеш цясак?

Уважлівы позірк гор —
Мужнее гліняны род:
Няўжо пераможа мор,
Бо зведаў да ведаў код?

Пакутлівы позірк гор,
Прымятых шыпамі шын:
Нявечыць спакой напор
Нахабных смуродных машын.

Прыжмураны позірк гор —
Глядзяць засяроджана ўніз:
Бясконцы крывавы сыр-бор —
Ці глупства, ці нейкі капрыз?

Спалоханы позірк гор —
І што ты задумаў, чарвяк?!
Навошта рыхтуеш касцёр
З уранавых кулябяк?

Насмешлівы позірк гор —
Які ты усё ж ідыёт:
Да звіліны звузіў прастор
І знішчыў амаль што род.

Трывога ў позірку гор —
Вярнуўся настырны чарвяк!
У чорных улоннях пячор
Майструе каменны цясак...

## Нуда

На планеце нуда правіць балем.
Трыумфатар.
Дыктатар.
Штодзённа
Чалавецтва пад гнётам кабальным
Мітусіцца, як тыгр у палоне.

Хто збягае з яе загонаў
У камфорта ўтульнае ўлонне
І насуперак Божым законам
Адбівае паклоны Мамоне.

Нехта грэбуе ёю, нос верне
Ад яе пірагоў румяных
І з бяссонннiцы творчае зерне
Па начах здабывае старанна.

Хтосьці (не без нудоты прымусу!)
У каварныя гульні гуляе:
На іголку падсядзе па глупству
Дзеля зыбкай ілюзіі раю.

І рулетка не дасць паратунку —
Кантралюе нуда ген азарту:
Так спакусіць прывабным малюнкам —
Грош апошні паставіш на карту!

Гэта прывід нудоты, што ў шклянках,
Нам атручвае кроў алкаголем!
Вольны час прысвяціўшы гулянкам,
Не заўважыш, як згубіш волю.

Ды і моцных заблытае ў сетках:
Лёс на кон — і пляваць на законы!

Знак нуды — на злачынных манетах,
Голас — у весялосці прытонаў.

Зачароўвае ззяннем экрана,
Для душы распаўсюджве пасткі.
Сэкс, насілле, забойствы, рэклама —
Вось твае, homo sapiens, цацкі!

Хто ж яна: можа пекла прылада,
Палюбоўніца д'ябла ці служка?
Яе дзецішча — сатаніяда —
Узяла ўсіх агульна на мушку.

«Хлеба! Гледзішчаў!» — роў калісь охлас,
Гнетучыся душэўным застоем,.
Чалавек змог узняцца ў космас,
Ды не можа змагацца з нудою.

## Нітка Арыядны

Не спрабуй мяне з думкай зрадніць,
Што пяшчоце няма ў сэрцы месца,
Што наш свет развучыўся любіць
І спраўляе карыслівасць месу.

Згодна я: прыцягальны камфорт,
Ды і тэмп жыцця так душыць душы,
Што у многіх людзей боскі код
Ад штодзённай напругі парушаны.

Пакрываецца сэрца ільдом
Ад нуды, ад душэўнай ляноты,
Ды ратуе ад іх не «садом»,
А сяброўства, любоў і пяшчота.

І таму мне шкада прастакоў:
Неабдумана перлы кахання
Прамянялі на пуд медзякоў —
Няхай цешацца здрадлівым ззяннем...

Бог — суддзя! Права ёсць вырашаць,
Што нам песціць: душу або цела?

І таму перастань мне сцвярджаць,
Што любоў, як дуэль, састарэла.

***

Практычны век. Каханне — бзік!
Пануе над усім разлік.
Кідае заклікі ў народ:
«Кайфуй, калі не ідыёт!

Каму патрэбны ўздыхі, боль?
Каханне — горычы юдоль!
Далоў дакор, сардэчны пыл...
Сентыментальнасць — проста быль»

Жарсцей магутны вал здаўна
Палохаў клушаў і стыляг,
І закаханым замінаў
Не раз цішком нястачы страх.

А зараз на каханне ўслых
Цынічна цыкае разлік,
І лічаць слабакамі ўсіх,
Каго пяшчоты вабіць лік.

## Над безданню

Падвержаныя смяротныя
Уплыву падспудных запалаў,
Нямногіх святыні родныя
Ратуюць ад пасткі правалаў.

Жыцця няведомы тэрміны,
Адзінкам сэнс зразумелы.
Заганы за душы верныя
Чапляюцца надта ж умела...

Такая на свеце напруга,
Так жорстка нявечаць Дабро!
Пасобніца зла — Каліюга
На век наш наклала таўро:

Раз'юшаны кіч агрэсіі,
Калыска кахання — панэль,
Нясцерпны прэсінг дэпрэсіі,
Ратунак — іголка ды хмель.

Развенчаны годнасць і гонар,
Кіруе лакеяў мараль,
Змяніў сціпласць стромкі нораў,
Як міні змянілі вуаль.

Падман у пашане, чэрствасць,
За золата душы зводзяць,
Імкнецца да ўлады нікчэмнасць,
Куміры — падлюга, злодзей...

Бліжэй і бліжэй пагроза —
Наперадзе зеўрыць бездань!
Дай Бог абудзіць нам розум,
Дай сілы канца пазбегнуць.

## У Музеі сучаснасці

*Чалавек — гэта гучыць горда...*
**Максім Горкі**

**1**

Калісьці гонар ратавалі шпагай.
Змяніў арыентацыю народ:
Да дасканаласці згубіў ён цягу —
На п'едэстал узведзены даход.

Красуе ў рамах і падман, і подласць,
Партрэты злодзеяў, прадажнікаў, мянялаў...
Аддадзена ў запаснік годнасць,
Бо ганарлівасцю загрувасдзілі залы.

**2**

Высокага слова саромецца сталі:
«Чалавек» — не гучыць ганарова
І кветкай махровай расцвіў пафігізм;
На тэлеамбоне крыўляюцца глупства, цынізм...

А ўсімі забытая вечная Муза,
Абцасы збіўшы на бруку Млечным,
З кашом дзіравым цвілога друзу
Брыдзе абочынай, згорбіўшы плечы.

## Хваробы часу

**1**

Што гэта робяць гады сёння з намі?
Грэбуюць многія бульбай, баршчамі —
Кухні заморскія больш у пашане.
Мір у краіне. Пакоі прасторныя
Не галадаем. Адзеты прыстойна,
Толькі няўтульна ў сэрцы спакою...
І абганяе «Пежо» з «Мерседэсамі»
Эпідэмічная хваля дэпрэсіі.

**2**

Мы выйгралі бітвы з нястачай, мікробамі...
Мы зрынулі з трона наказы Бога,
Ды сілы няма ў нас змагацца з хваробай,
Якую завем трывіяльна — трывогай.

**3**

Да іголкі з траўкай прывучыўся сплін,
Кіч вычварэнства розных масцяў,
Век моцных жонак і зняможаных мужчын,
Век дагараючых любоўных жарсцяў...

**4**

Нас прыручылі: у вольны час
Зачаравана глядзім на экран,
Дзе, вочы мазолячы, кожны раз
Глупства з бяздарнасцю скача канкан.

**5**

Змяніў культ працы і высокай культуры
Культ масавага апашлення:
Вядуць нас упэўнена гуру гламурныя
Да новай эры — Выраджэння.

**6**

Прэч нуду і мыш'як разважанняў!
Не варты зморшчын сапселы свет.
Холад душы — фрэон непрымання —
У складзе апакаліптычных прыкмет.

Тых шкада, хто з пяшчотным сэрцам
З'явіўся працягваць людскі род.
Як над пякельнай патэльняй смяецца
З іхніх памкненняў нябесны бамонд!

**7**

Думалі, лопнуць, як мыльны пухір,
Палохалкі лысых геніяў.
Ды сапраўды пацяпленне —
Загубім маржоў і цюленяў ...
Няўжо ў недалёкім часе
Чакаць нам таксама зводу?
Спрытней і спрытней чалавечая раса
Штампуе рабоў асалоды.



# Васіль Дэбіш

паэт. Аўтар кніг паэзіі: «Белыя птахі» (1993), «Лісты да Марыі» (1996), «Праз дождж» (2012). Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Шамятоўка на Гродзеншчыне. Жыве ў Берасці.

# Сын лютні

***

Гэтак няспынна — ухвалы ліліся.
Мармур халодны твайго п'едэсталу...
Божа! Напраўду, я жыць так стаміўся —
Мне суразмоўцы заўжды не хапала.

Мне не хапала ні моцы, ні сілы
Вымавіць боль, што так ціснуў мне грудзі.
Божа! Паслухай мяне, літасцівы!
Божа святы! Дзе падзеліся людзі!

Пустка навокал. Ніхто нас не чуе.
Холадна. Вые за вокнамі вецер.
Божа! Калі ж і Цябе не існуе?..
Значыць, адзін я гібею ў Сусвеце.

***

Дрэмле ноч на маім плячы.
Мілавіца цалуе вейкі.
Не зламаць мяне, не змагчы.
Я — Арфей, лютні сын.
Давеку.

Мяне цяжка любіць зямным,
Бо, як свет гэты, я — падманны.
Як аблокі, туман ці дым.
Шчэ хвіліна — зусім растану.

Я ўсяго толькі — голас дрэў,
Толькі Слова, што прагне плоці.
Вобраз. Дух. Толькі ціхі спеў
Ветру, спыненага на ўзлёце.

## Дно

Напружана ўзіраюся
ў дно

глыбокае
душы.
Бачу:
многа задушаных слоў,
забітых пачуццяў;
у прыгнечанай цішы —
абрывы,
правалы,
трызны,
агоніі,
вар'яцтвы...
Цяпер я ведаю,
адкуль
прыходзяць
буры.

## Балада пра вужаптаха

Сярод кустоўя, між калюж
Жыў адзінокі сумны вуж.
Галодны вечна, вечна п'яны,
Бо жыць не мог сярод падману,
Брыды, халуйства, чорнай здрады,
Без спачування, без спагады.
Людзей ён і звяроў любіў
І волю — ён паэтам быў.
Ні перад кім не ведаў страху.
Па-над Палессем вужаптахам
Кружляў, бы прывід той бесцелы.
Не ён, — душа яго ляцела,
Галюткая, якую можа
У гэтым свеце скрыўдзіць кожны,
Над родным краем, па-над садам.
Да зор ляцеў і долу падаў,
Твар разбіваў у кроў аб крушню.
А ўслед крычаў натоўп бяздушны:
— Бач, разлятаўся! Непарадак!
Гідкі, бясскуры! Біце, гада!
Душа павінна жыць у целе.
І следам камяні ляцелі...

Не вытрымаў тых здзекаў, болю,
Зямлёю стаў... То Сыс быў Толя.

## Гномы

### 1

У стагоддзяў спрадвечным тумане,
Там, дзе травы даўно не растуць,
На лясной, на здзічэлай паляне
Чалавечкі ліхія жывуць.

Там схаваны глыбокія норы,
І ніхто там не ходзіць даўно,—
Заказычуць цябе, загавораць
І зацягнуць на самае дно.

Ці юнак ты, ці сталы мужчына —
З іх палону не выйсці ніяк:
Аплятуць каранямі, ляшчынай
І свой чорны пакінуць вам знак.

Знак самотніка — змрок і аковы,
Тлену пах і магільныя сны,
Воля! Гэтага светлага слова
Аніколі не чулі яны...

### 2

Гібеюць без сонца ў сутоннях сваіх.
А недзе ключом залатым б'юць крыніцы,
І кружацца птушкі ў нябёсах льняных.
Што птушкі? Мілей чарвякі і макрыца.

Ах, каб вы маглі хоць на міг зразумець,
Што воля — бы сонца праменьчык дзівосны,
Дык вы зненавідзелі б цемру і смерць
І выйшлі б з падземных магілаў да сонца.

Да дрэваў зялёных, да гэтай вясны,
Што сцелецца спелай травой каля дома.

Ды ціха сядзяць пад зямлёй яны —
Не чуюць мяне баязлівыя гномы.

## Булгакаўскае

Пятніца сёння. Трынаццаты дзень.
Ранак. Туманлівасць. Воланда цень.
Рэйкі трамвайныя. Дзве каляі.
Мокрыя крошкі дзяўбуць вераб'і.
Шэрае неба. Размытыя твары.
Плямы алею на тратуары.
Роўная лінія, раптам — крывая.
Злосна, крыкліва трамвай ад'язджае.
Рэйкі трамвайныя стогнуць, гудуць.
Лозунг на ЦУМе: «Слава труду!»
Лёгкіх паводзін побач паненкі.
Мітынг гудзе на бульвары Шаўчэнкі.
Слухае моўчкі натоўп разявак.
Мёртвая ў снезе ляжыць галава.
Можа, мая? Я рукою кранаю...
Кроў пунсавее на колах трамвая.

***

Прыпыніся! У сэрцы кальне.
Сцісне грудзі да болю трывога.
І пара б супакоіцца мне,
Бо стаміла дарэшты дарога.

Не спяшайся! Давай памаўчым.
Курганок сінь марозная ліжа.
Супакоімся хутка зусім
Пад асвечаным зоркамі крыжам.

## Пакінутая хата

Павуцінне на сцяне.
Хата цвіллю тхне старая.
Па ссівелым бервяне
Смолка коціцца густая.

Заржавеў на бэльцы цвік,
Парудзеў і стаў шурпатым.
Чуецца зязюльчын крык
У алешніку за хатай.

Гаспадыні не чуваць,
Гаспадар сышоў... Нікога...
Знічкі з шыбінаў ляцяць,
Бы жарынкі, на падлогу.

## Вясна

Усю ноч ліў дождж,
а ранкам стала ясна.
Яшчэ нядзельная лянота на грудзях
спіць, і не хочацца ёй прачынацца.
Званы звіняць.
Выходжу на падворак.
О. як прыгожа:
ў квецені ўвесь сад,
дымок віецца з коміна пад купал неба,
нібыта крылы залатых анёлаў.
І ўсё здалося мне такім маленькім:
і хата, і падворак, і сусед,
што корпаецца на гародзе —
капае пад цыбулю, моркву градкі.
Тук-тук — аб глебу грукае рыдлёўка.
Тук-тук, тук-тук — ў нябёсах гукі чую.
— Сусед, сусед! — крычу яму —
пастой!
Спявае неба, ды яскрава гэтак...
— Ну што вы, што вы, спалохана.—
мне не чуваць.
— Я чую голас дудачкі і скрыпкі...
— Не можа быць!
Ах, мой сусед — руплівы
тук-тук — абедзьвюма рукамі
дзяўбе рыдлёўкай.
Перашкаджаць не буду...
Тук-тук, тук-тук —
высокае спявае неба.

## Жарынкі

***

У сланечнік
схавалася
сонца.

***

І ў жабрацкай шапцы
сонцы
зіхцяць.

***

Не пусцеюць
амбары
часу.

***

Калі аплакваем іншых —
ці не аплакваем мы
саміх сябе?

***

Дождж.
Прамокла
Душа.

***

Пасеяла маці
на градках
сляды.

***

Пакінулі птушкі сад —
душа без музыкі
засталася.

***

Калючай пожняй:
босае
дзяцінства.

***

Схаваны ў іней,
сад на марозе
зацвіў.

***

Спакуслівая  каханка частуе мяне
таемнай вячэрай
граху.

***

Якая прыгожая няволя:
 краскі ў гаршчках
 цвітуць…

## Ілюзія

І камень стары ўвесну
адчувае сябе
гарой.



# Надзея Філон

празаік, паэтка. Аўтар паэтычнай кнігі «Кроплі святла». Скончыла Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны. Друкавалася ў часопісе «Верасень». Нарадзілася ў 1988 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

# Надзейная сувязь

Восеньскае неба ўжо каторы дзень было зацягнута шэрымі хмарамі. Дробны дождж час ад часу злучаў неба і зямлю танюткімі мокрымі нітачкамі. Нават здавалася, што гэтая мокрая сувязь паміж імі не знікне ніколі. Няўжо больш не існуе іншага спосабу, каб нейкім чынам праз вялізарную адлегласць злучыць незлучальнае? Магчыма... А магчыма дажджавыя кроплі — гэта самая надзейная восеньская сувязь. Яна не перарвецца на паўдарозе, не здрадзіць.

Нягледзячы на добра настроенную восенню хвалю перадачы інфармацыі, прырода не заўсёды брала сумныя ноты. Моцны вецер хоць і зрываў лісце з дрэў, але рабіў гэта з уласцівай яму пяшчотай. А што гэта была за прыгажосць, калі рознакаляровая лістота кружылася ў паветры, засцілаючы наваколле стракатай коўдрай! Тужлівага настрою не ўзнікала. Можа, толькі, калі дажджавыя кроплі набіралі моц і з асаблівай імклівасцю асыпаліся на зямлю.

Вера ішла па парку і захаплялася лістападам. Міжволі, яе погляд прыпыніўся на вялікім жоўта-зялёна-чырвоным клёне з мноствам трапечучых лісточкаў. Магутны камель быў у зморшчынах, з рассечанай верхалінай. Колькі навальніц і віхураў яно перацярпела? Колькі грымот над ім прагрымела, колькі слёз пралілі над ім вясновыя і восеньскія дажджы? Колькі разоў маланка праносілася паўз яго? І ўсё ж аднойчы закранула верхаліну і рассекла яе папалам. А моцны вецер так часта згінаў дрэва да зямлі. Яно ж разгіналася і станавілася яшчэ больш магутным і прывабным. За што столькі вытрывала дрэва? Для чаго? Каб каранямі яшчэ мацней зачапіцца за зямлю, каб верхалінай дацягнуцца да неба, каб стаць такім, якому ўжо не перашкодзіла б ніводная стыхія. Так разважала сталая жанчына, азіраючыся ў думках на сваё жыццё. У Веры яно было не лягчэйшае. Нямала чаго прыйшлося ёй вытрываць на даўгой жыццёвай дарозе. Што ні дзень — то крок наперад, імкненне да жаданай мэты, такой блізкай і далёкай адначасова. Гэта былі і радасныя крокі, але часцей — праз боль і слёзы, праз расчараванні, разбітыя мары і надзеі, з вялікім намаганнем, ледзь-ледзь перасоўваючы ногі... Былі імгненні, калі здавалася, што наступны дзень стане перадапошнім ці, нават, апошнім. Але ўзыходзіла сонейка і асвятляла шлях. Бог даваў сілы на яшчэ адзін крок, на яшчэ адзін дзень. Яны складаліся ў тыдні, месяцы, гады... І вось зараз, азіраючыся на жыццёвыя кіламетры, Вера была ўдзячна небу за ўсё, што сустракалася на шляху. Бо тое, што не зламала жанчыну, зрабіла яе больш моцнай і трывалай. Хоць гады і пакінулі свой адбітак і на абліччы, і на постаці ўжо немаладой жанчыны. Шыкоўныя доўгія цёмныя валасы былі ўпрыгожаны срэбнымі ніткамі. Асабліва многа такога срэбра было на скронях. На маленькім твары нібыта сонечныя промні разыходзіліся зморшчынкі. Вера ніколі і нікому не паказвала свой боль, душэўныя пакуты, перажыванні і слёзы. Кожны, хто быў з ёй знаёмы, казаў,

што не бачыў больш дабрыні, пяшчоты і лагоды, сабраных у адным сэрцы. Ніхто не ведаў, колькі прыходзілася прыкладаць намаганняў, каб падтрымліваць сувязь з нябёсамі, каб быць падобнай на сонейка і адорваць усіх сардэчным цяплом і святлом.

Мокрыя ніткі, якімі ўжо каторы дзень хмары прашывалі зямлю, раптам перарваліся. І праз восеньскія думкі Веры прабіўся сонечны прамень. Ды такі яскравы, што навакольны свет заззяў золатам, а ў кожнай кропельцы вады адбілася вясёлка. Менавіта яна і стала тым дзівосным мастком паміж Сусветам і чалавечай душой.

Неба заўсёды дае сілы тым, хто настройвае сваю жыццёвую хвалю на хвалю вечнасці.

# Чаму я першая?

— Чаму я першая! Чаму толькі ад мяне хочуць пазбавіцца? Чаму я заўсёды лішняя? Вы ўсе мне перашкаджаеце! Нікога з вас больш і бачыць не хачу! Дрэнныя і шкодныя дзеці! Не буду больш хадзіць у гэтую школу! Не буду! — крычала на ўсю спартыўную залу вучаніца пятага класа, моцна тупаючы нагамі. — Вы разумееце, я з псіхолагамі займаюся... І гэта вам не жарты, гэта з-за вас... Малая вельмі расхвалявалася, што яе першую выбілі ў гульні ў «выбівалы». І з запалам пераконвала ўсіх, што яна нікому непатрэбная тут. Няхай толькі яшчэ хто паспрабуе яе закрануць ці пакрыўдзіць...

Дзіяна вучыцца ў гэтай школе толькі тры месяцы. З першага па чацвёрты клас дзяўчынка наведвала іншую школу, але па прычыне змены месца жыхарства прыйшлося змяніць і ўстанову адукацыі. Новенькая вельмі цяжка ўцягвалася ў, і без яе складаны, калектыў. Хлопцаў тут было больш, чым дзяўчат. Але не гэта было асноўнай прычынай. Вучні былі ў тым узросце, калі трэба было сцвердзіць сваю пазіцыю ў класе, дзе праз адзін, калі нават не кожны, марылі стаць лідарамі. Вось і гэтая вучаніца спрабавала хоць нейкім чынам сябе праявіць. Увесь верасень яна з зайздроснай нязменнасцю спазнялася на першыя ўрокі і прыносіла дадому ў дзённіку шматлікія заўвагі ад настаўнікаў за непунктуальнасць і невыкананне дамашніх заданняў. Але з лістапада Дзіяну нібыта замянілі: стала нашмат лепш вучыцца, з'явілася адказнасць, дрэнныя запісы ў дзённіку амаль зніклі, настаўнікі пачалі хваліць яе за стараннасць і руплівасць. Дзяўчынкі жадалі з ёй пасябраваць. Іх не спыняў ні халодны позірк шэра-блакітных вачэй, ні шматлікія істэрыкі, ні крыўдныя словы. Хлопцы ж наадварот задзіраліся час ад часу, каб падражніць прыгожую вучаніцу з доўгай, ніжэй пояса, русай касой . Слабая палова моўчкі зайздросціла прыгажуні, а моцная час ад часу не магла стрымацца і цягала за тую касу. Вось тады ўладальніца «закіпала» нібы той імбрык на пліце. Але гэта здаралася ўжо не так часта, як раней.

І вось зараз, калі новенькую пачалі лічыць сваёй, такога абурэння ніхто не чакаў. Прыгожы тварык пачырванеў ад незадаволенасці, слёзы паліліся ручаямі, а маленькі роцік выкрыкваў:

— Нікому я не патрэбна! Ніхто не хоча са мной сябраваць! Думаеце толькі пра сябе, а я таксама хацела з вамі гуляць!...

Дзяўчынкі пачалі абдымаць Дзіяну, хлопцы і тыя забыліся на мяч і прыкладалі ўсе намаганні, каб супакоіць маленькую валадарку такога гучнага голаса. Нават прабачэння ўсе прасілі. Але безвынікова.

Марына Мікалаеўна бачыла розныя праявы дзіцячай незадаволенасці, але каб так — ніколі. Спачатку настаўніца не ўмешвалася, а пасля гучна і неяк холадна вымавіла:

— Дзіяне цяпер трэба пабыць адной. Прапаную працягнуць гульню. — І весела падкінула мяч амаль да столі. — Хто першы спаймае, той і будзе выбіваць.

Вучні шумнай гурмой кінуліся лавіць мяч, і ўжо праз хвіліну на Дзіяну ўсе забыліся.

— І чаму я толькі перайшла ў гэтую школу? — гучнае пытанне, адрасаванае невядома каму, павісла ў паветры. Дзяўчынка азірнулася, і ўпэўніўшыся ў тым, што ніхто яе больш не слухае, ледзь перастаўляючы ногі, пасунулася да распраналкі. Спектакль скончыўся.



# Алёна Беланожка

празаік, паэтка, драматург, рэжысёр. Аўтар кнігі вершаў «В шаге от неба». Друкавалася ў часопісах «Маладосць», «Лауреат», «Верасень». Нарадзілася ў 1985 годзе ў Магілёве. Жыве ў Мінску.

# Белы дом

Каля пакоя галоўнага рэдактара сядзеў чалавек з гуслямі. Яго прозвішча было Дых.

Дых трывожна пазіраў то на музычны інструмент, то на гадзіннік, які вісеў насупраць. Да абедзеннага перапынку заставалася дзесяць хвілін.

З пакоя вызірнуў рэдактар. Ён з энтузіязмам зірнуў на гадзіннік, пасля заўважыў Дыха і расчаравана прабубнеў:

— А-а, Дых... Праходзьце, сядайце.

Дых увайшоў у пакой, сеў на стульчык, бліжэйшы да выхаду, і паклаў гуслі сабе на калені.

— Ну, як поспехі? — нецярпліва спытаўся рэдактар, як толькі заняў месца за сталом.

Дых уздыхнуў, аблізнуў вусны і дакрануўся да струн. Струны пакутліва зарыдалі, выціснуўшы з сябе кавалак дзіцячай песенькі пра козачку. Дзве ці тры ноты былі дакладна фальшывымі.

— Вось. Праўда, яшчэ не засвоіў барэ, — сказаў Дых і паклаў гуслі на падлогу.

— Што жа, для двух месяцаў навучання — неблагі вынік, — прамовіў рэдактар, крыху памаўчаўшы. — Вы малайчына.

Дых умольна склаў рукі на грудзях:

— То вы мне скажыце, Арнольд Вітольдавіч, нашто я па вашым распараджэнні патраціў на гэта два месяцы жыцця!

— У мэтах падрыхтоўкі да чарговага рэпартажу, — адказаў рэдактар.

— І што гэта за рэпартаж? — насцеражыўся Дых ды пакасіўся на гуслі.

Рэдактар стомлена паглядзеў на Дыха.

— Я адпраўляю вас у Белы дом, — сказаў ён.

Дых пазелянеў:

— А чаму — я? Чым я правініўся?

— Дых, вы — малады, амбіцыёзны журналіст. Я падумаў, што толькі вы зможаце разабрацца з гэтай справай. Гэта будзе бомба!

— Але...

— Ніякіх «але»! Простыя людзі павінны, нарэшце, даведацца, што творыцца ў гэтым пітомніку сусветнага зла! Я зараз жа набіраю нумар.

Арнольд Вітольдавіч схапіў трубку тэлефона і націснуў некалькі лічбаў, нават не падгледзеўшы нумар у сваім нататніку: ён ведаў яго на памяць. Апошнім часам яго дужа данімалі крышнаіты — яны, як мурашы, пратапталі сцежку ў рэдакцыю, прапаноўваючы надрукаваць у папулярным выданні «адзіны эфектыўны план па выратаванні свету». Арнольд Вітольдавіч проста са свайго кабінета адпраўляў іх апрабоўваць эфектыўнасць плана на жыхарах Белага дома.

— Алё? Прыёмны пакой? У мяне ў кабінеце малады чалавек. З гуслямі. Называе сябе кампазітарам. Ага! Чакаю, — рэдактар паклаў трубку. — Яны ўжо едуць. Каб толькі паспелі да абеду...

Белы дом быў страшным, патаемным месцам, куды ні адзін просты чалавек не хацеў трапіць па добрай волі. А калі б і захацеў, то гэта аказалася б не так проста. Для таго, каб схавацца ад свету за высокай каменнай агароджай, трэба было атрымаць «белы білет». Яго выпісвалі толькі людзям з пэўнымі псіхічнымі адхіленнямі: пісьменнікам, мастакам, акцёрам, музыкам, параноікам і шызафрэнікам.

— Праз месяц, калі назбіраеце дастаткова матэрыялу, скажаце, што Бог адступіўся і вас пакінуў талент, або прыкінецеся глухім... карацей: прыдумаеце што-небудзь, каб выбрацца адтуль. І запомніце, Дых: нашых чытачоў цікавяць забойствы, самазабойствы, а таксама чалавечыя заганы. Алкагалізм. Наркаманія. Там, ходзяць чуткі, такога — завалася.

«Пападалава...» — падумаў Дых. І быў абсалютна правы: з Белага дома яшчэ ніхто не вяртаўся.

У прыёмным пакоі было светла: сонца праходзіла праз краты вялікага акна, адбівалася ў белай квадратнай кафлі сцен і падлогі, белым умывальніку і пабеленай сталі.

— Налева — стары корпус. «Кафлі», — сказаў дзяжурны ўрач у марлевай павязцы амаль на ўвесь твар, запаўняючы бланк. — Там у нас лячэбная ўстанова. Лечым неўрозы і псіхічныя адхіленні.

— А чаму — «кафлі»? — пацікавіўся Дых.

— Палаты абкладзены стандартнай кафляй. Як тут.

— Жудасць.

— Не перажывайце. Вам — направа. У «нумары». Ваша імя?

— Мяне завуць... — Дых задумаўся. Выдаваць сваё сапраўднае імя яму не хацелася. — Гусляр, — нарэшце, сказаў ён, паглядзеўшы на гуслі.

Урач запісаў і паставіў кропку.

— Што ж, таварыш Гусляр, можаце выбраць сабе нумар. Верачка праводзіць вас. Верачка — наш адміністратар.

Верачка ў акулярах і строгім шэрым касцюме адчыніла перад Дыхам белыя дзверы:

— Прашу вас, спадар кампазітар.

— Спадар Гусляр! — аклікнуў Дыха ўрач.

Дых павярнуўся.

— Мы з вамі больш не ўбачымся. Запомніце правіла. Яно толькі адно. У знешні свет не павінна патрапіць ніякая інфармацыя аб гэтай установе.

— А якое пакаранне?

— Самае страшнае, якое вы толькі можаце сабе ўявіць.

Дых выйшаў у дзверы і апынуўся ў вузкім, доўгім гасцінічным калідоры, на зялёнай дывановай дарожцы. Па абодва бакі, наколькі хапала вачэй, цягну-

ліся светлыя дзверы. Паміж дзвярамі былі прыстойныя адлегласці. «Пакоі — вялікія», — прыкінуў Дых. Калідор асвятлялі міленькія бра.

— Дык у вас тут пяцізоркавы гатэль! — вохнуў журналіст.

— Чатырохзоркавы. Але мы працуем над гэтым. Які інтэр'ер вам даспадобы? Класіка, барока, мадэрн, мінімалізм? — спыталася Верачка.

— А што, ёсць выбар? — здзівіўся нованазваны Гусляр.

— Канешне! Мы павінны дбаць аб вашым фізічным і эмацыйным камфорце. Інакш мы тут не працавалі б.

— Тады я выбіраю... класіку, — па шчырасці, Дыху было ўсё роўна. «Класіка» гучала больш знаёма.

— Віншую: добры выбар. Нам на чацвёрты паверх. Пакой чатырыста трыццаць восьмы. Ліфт у канцы калідора.

Дых падняўся на чацвёрты паверх і даволі хутка знайшоў свой нумар. Але не паспеў ён адамкнуць дзверы, як з суседняга пакоя выйшаў чалавек з трубой. Ён паглядзеў на Дыха, шырока ўсміхнуўся і спытаўся:

— Новы жыхар?

Дых кіўнуў.

— Віншую! Тут цудоўнае месцейка! — чалавек падышоў да журналіста і працягнуў яму руку. — Мяне завуць Хрыштоф. Хрыштоф Жужык. Я трубач. А вы...

— Я гусляр, — сказаў Дых і пацiснуў трубачу руку. — Так мяне і завіце.

— Добра. Калі жадаеце, я вам тут усё пакажу. У нас вялікая прастора, можна з лёгкасцю згубіцца!

— Выдатна! — абрадаваўся Дых: дабравольны гід па Белым доме быў першай сапраўднай удачай. — Я толькі пакладу гусли ў нумар.

— Прыёмны пакой мяжуе з «нумарамі». Гэта гасцініца, мы ў ёй жывем, — распавядаў Жужык новаму сябру ў ліфце. — На першым паверсе гасцініцы — рэстаран. Хутка абед, а пакуль я табе пакажу астатнюю тэрыторыю.

Трубач правёў Дыха праз прасторнае, аздобленае мармурам і кандэлябрамі фае, і вывеў на вольнае паветра. Журналіст нечакана для сябе апынуўся на пясчанай сцяжынцы паміж ружаў і касачоў. Вакол зелянелі дрэвы і пахла свежасцю.

— Гэта парк. Ён вялікі, некалькі соцень гектараў. Там, — Жужык махнуў налева, — цячэ рака. Можна хадзіць на рыбалку. Там, — трубач махнуў направа, — сад камянёў, невялічкае возерка і альтанка пасярод яго. Можна медыцыраваць і спасцігаць дзэн. За пару кіламетраў адсюль — лясны масіў. Растуць грыбы, жывуць звяры. Я там учора бачыў удода і размаўляў з ім!

— З удодам? — перапытаўся Дых, бо падумаў, што яму гэта памроілася.

— Ну так! — кіўнуў Жужык. — Я разумею, што кажуць звяры і птушкі. Размаўляю з імі.

— І што табе сказаў... удод? — Дых з усяе сілы намагаўся не зарагатаць.

— Сказаў, што заўтра будзе дождж. Гэта каб я не забыўся ўзяць парасон, калі пайду на прагулку.

«Шызафрэнікі ў іх жывуць толькі ў «кафлях», або тут размежаванне ўмоўнае?» — задумаўся Дых.

Жужык вёў яго па сцяжынцы. Калі-нікалі з-за хмызоў і дрэваў паказваліся прыгожыя паркавыя лавы з ажурнымі бронзавымі спінкамі. На іх сядзелі і размаўлялі людзі. Яны выглядалі вельмі шчаслівымі.

— Таксама ў нас ёсць спартыўная зала. Яна побач з басейнам. О з кім я цябе зараз пазнаёмлю! — Хрыштоф узрушыўся, узяў Дыха пад руку і павёў на сонечны лужок, да жанчыны ў шоўкавым распісным кімано.

Жанчына стаяла за мальбертам і шырокімі ўзмахамі пэндзля кідала фарбы на палатно. Калі Жужык і Дых падышлі бліжэй, журналіст убачыў, што яна малюе здань з зялёнымі крыламі.

— Экспрэсіянізм? — спытаўся Дых у жанчыны.

Тая паглядзела на яго, як на вар'ята.

— Архангел, — сказала яна. — З'явіўся мне ў сне тры тыдні таму назад.

— Як цікава... і што сказаў?

— «Сіма, — сказаў, — мяне завуць Гаўрыіл, але ты можаш зваць мяне Гаўр. Намалюй мяне, дзетка, з зялёнымі крыламі, бо нас малююць усіх як звычай з белымі ці залатымі, а тое ж не так».

— Ды вы што?

— Сама ў шоку. Аказваецца — гэта Гаўр так сказаў — у іх з таварышамі крылы розных тонаў. У Міхаіла — жоўтыя. Рафаіла — сінія, Урыіла — чырвоныя, Рагуіла — фіялетавыя, Сарыіла — памяранцавыя... а ў Ераміла — блакітныя.

— Гэта ж трэба! — спагадліва пакачаў Дых галавой. — А валасы ў іх якія?

— Яны лысыя, — мастачка выняла з рукава бутэльку мінералкі, глытнула з яе і выцерла вусны. — Пастаўлю іх у шэраг, вясёлачкай. А вакол — хмаркі, а з іх грэшнікі ў пекла сыплюцца, сыплюцца, і крычаць: ай-яяя, ай-яяя...

— А-а... зразумеў. Плёну! — сказаў Дых і паспяшаўся адысці, прыхапіўшы пад локаць Жужыка, які з замілаваннем глядзеў на лысага Гаўра.

Журналіст адвёў Жужыка на бяспечную адлегласць ад кантакцёркі з архангелам і пацікавіўся:

— Хто яна такая?

— Гэта панна Серафіма. Мастачка. Кіруе роспісамі інтэр'ераў нашага новага храма.

— А што са старым сталася?

— Стаіць як стаяў. Там сцены пад роспісы скончыліся. У нас ёсць галерэя, дзе мастакі ладзяць выставы, але панне Серафіме там няма дзе развярнуцца. Яна стварае манументальныя палотны з біблейскімі сюжэтамі. Езуса з архангеламі ў галерэю не запрэш...

— Чаму?

— Некамільфо. Душнавата і цеснавата. Езус не можа прымаць кліентаў у галерэі ці, напрыклад, рэстаране. Антураж не той. Яму трэба нармальны офіс, з алтаром і купаламі. Я лічу, што гэта правільна.

— А архангел Гаўрыіл з зялёнымі крыламі — таксама правільна? — хіхікнуў Дых.

— Сіма лепш ведае, — адказаў Хрыштоф. — Ён жа да яе прыйшоў, а не да нас з табой.

— І ты ў гэта верыш? — ашалеў Дых з такога наіву.

— Гусляр, — Жужык спыніўся і сур'ёзна паглядзеў на Дыха, — у Белым доме не прынята хлусіць адно аднаму. Наша камуна трымаецца на шчырасці і даверы.

— Ды нават калі яна не маніць, гэта быў проста сон, фантазія, кашмар — разумееш? Хіба можа гэта быць праўдай?

— А як ты дакажаш, што не можа? — Жужык спакойна адсунуў ад твару галінку вярбы, якая звісала над сцяжынкай, і клапатліва прытрымаў яе, каб тая не сцёбнула Дыха.

Дых замаўчаў. Існаванне архангелаў не было афіцыйна абвергнута: вучоныя больш цікавіліся існаваннем часціцы пад назвай «тахіён», архангелаў ніхто не шукаў.

Раптам да ягонага слыху даляцелі пяшчотныя гукі свірэлі.

— Хто гэта грае? — спытаўся журналіст.

— А-а, гэта Ландскнефт. Адзіны свірэліст на ўсю камуну. Вельмі таленавіты. Вунь ён, паглядзі!

Дых павярнуў галаву ў бок, адкуль лілася музыка.

На высокім зялёным пагорку, абапершыся спінай на жалезны крыж, сядзеў свірэліст Ландскнефт, якому да сапраўднага рыцара не хапіла адной правільнай літары. У астатнім ён цалкам мог сысці за рыцара: статны, моцны, з шырокімі плячамі, магутным торсам і суровым, няўмольным позіркам.

— Які волат! Яму б трымаць меч, а не свірэльку, — прашаптаў Дых. — Ён можа зрабіць выдатную кар'еру ваеннага!

— Ён быў ваенным. А пасля яму загадалі забіць пастушка «варожай нацыі». У пастушка нават пугі не было, не тое што зброі — толькі свірэль. Ён яго забіў, зняў з сябе амуніцыю, узяў пастушкову свірэль і прыйшоў сюды — у адных портках.

— Ясна. Зламаўся.

— Не зламаўся. Уцяміў: фізічную сілу трэба ўтаймоўваць, інакш яна дужа хутка робіцца разбуральнай. Гэй, Ландскнефт! — паклікаў Жужык свірэліста. — Хадзі да нас і пазнаёмся: гэта Гусляр!

Ландскнефт падняўся і шырокімі крокамі павольна падышоў да іх. Ён быў надта высокі; Дых выпрастаў спіну і нават крыху прыўзняўся на дыбачкі, але не дастаў Ландскнефту і па плячо.

— Вельмі прыемна, — грозна сказаў свірэліст, калі наблізіўся, і пацiснуў Дыху руку. — Ландскнефт.

Дых заекатаў і пачаў дзьмуць на далонь.

— Гуляеце? — пачулася аднекуль збоку.

З суседняй сцяжынкі да кампаніі маладых музыкаў звярнуў сівы мужчына ў акулярах.

— Гэта прафесар Фіялкоўскі, — прашаптаў Жужык. — Выбітны пісьменнік, мовазнаўца, філосаф... і шахматыст.

— Я гляджу, у нас новы чалец? — Прафесар агледзеў Дыха і раптам прапанаваў, — не хочаце згуляць у шахматы?

— З задавальненнем, — пагадзіўся Дых.

— Пойдзем, пашукаем вольную лаву, — сказаў Фіялкоўскі і патрусіў па сцяжынцы. Дых, Жужык і Ландскнефт пакрочылі за ім.

Сцяжынка прывяла кампанію да вадаёма. У ім плёскалася, плавала і гуляла ў воднае пола не адна сотня людзей.

— Гэта наш басейн, — патлумачыў Хрыштоф. — Мы завем яго Белае мора. З таго боку, дальняга — насыпны пляжык, дробненькі пясочак... любата!

З блакітнай вады вынырнула загарэлая дзяўчына з зялёнымі вачамі.

— Прывет, Жужык, — павіталася яна, калі адпырхалася.

— О-о, Надзя, рыбка, прывітанне! — абрадаваўся трубач.

— Хто гэта з табой? — спыталася Надзя.

— Я Гусляр, — паспяшаўся назвацца Дых. — А вы Надзея? Вельмі прыгожае імя!

— Я не Надзея, — сказала дзяўчына. — Я Генадзя.

— Шыкоўны псеўданім!

— Гэта імя па пашпарце.

Дых рассмяяўся:

— Аха-ха, добры жарт!

— У дзіцячым доме так назвалі, — сказала Надзя і, адштурхнуўшыся ад борціка, паплыла прэч.

Жужык паляпаў Дыха па плячы:

— Віншую, сябрук: тры фолы запар! Назваў дзяўчыну не па імені, пасля падумаў, што яна падманвае, а ўслед — пасмяяўся з яе сапраўднага імя. Я б за гэта цябе адразу адправіў у «кафлі».

— Хто яна? — Дых паглядзеў услед дзяўчыне.

— Генадзя — танцорка, — сказаў Фіялкоўскі. — Калі яна нарадзілася, бацькам сказалі, што дзяўчынка ніколі не зможа хадзіць. Ад яе адмовіліся, аддалі ў дзіцячы дом. І яна не хадзіла. Некалькі гадоў не хадзіла. А пасля выхавацелькі вырашылі зрабіць дзецям свята і ўключылі радыё. Надзя ўпершыню пачула музыку. І пайшла. А пасля і затанчыла. З тае пары як чуе музыку — пачынае танчыць. Выхавацелькі адправілі яе ў «кафлі» як буйную. А яе з «кафляў» перавялі сюды.

— Па просьбе прафесара, — дадаў Жужык.

— Гэта праўда — вы за яе прасілі? — спытаўся Дых.

Фіялкоўскі кіўнуў.

— А нашто? — не зразумеў Дых.

— Малады чалавек, вы бачылі, як Надзя танчыць?

— Не.

— А я бачыў. І захацеў, каб гэта маглі бачыць усе, хто не верыць у цуд.

«Ідэальныя людзі. Проста... блажэнныя», — падумаў Дых і замаўчаў. Кампанія рушыла далей.

— А гэта хто? — спытаўся Дых, убачыўшы групу лысых людзей у аранжавым, што сядзелі пад бярозкай і елі сырыя баклажаны.

Фіялкоўскі нават не паглядзеў у іх бок.

— Крышнаіты, — адказаў ён. — Мілейшыя людзі. У іх тут цэлая дыяспара. Кажуць, што прыйшлі з нейкай выратавальнай праграмай. Але і без яе добра ўпісаліся ў калектыў. Праўда, мяса не ядуць і моляцца блакітнаму сланіку. Ну, кожнаму сваё. Я ведаў аднаго прафсаюзнага дзеяча — той маліўся на працоўны кодэкс. Пасля да яго завіталі раз'юшаныя рабочыя і прымусілі той кодэкс з'есці.

— Еў?! — здзівіўся Дых.

— Анягож! З маянэзам, бо ўсухую — лісты ў горле застравалі.

— І ўвесь з'еў?

— Не, не ўвесь. Падавіўся «Умовамі працы» і памёр.

— Вось што бывае з адступнікамі ад сваёй веры! — сказаў Ландкнефт і засвірэліў жмур. Жужык пачаў яму падыгрываць на трубе. На гукі музыкі нечакана, як лісічка пасля дажджу, з'явілася Надзя. Яна пачала танчыць, і нават пад жмур у яе гэта атрымлівалася вельмі гарманічна.

Дых уздыхнуў. Ён яшчэ раз паглядзеў на дыяспару крышнаітаў. Яны даелі баклажаны і ўзяліся за кабачкі. Сонца стаяла высока над Белым домам.

— Я б не адмовіўся паабедаць, — сказаў Фіялкоўскі. — Прапаную перанесці шахматную партыю на больш позні час. Цікава, што сёння ў меню?

У меню былі перапёлкі, труфелі, фруктовы шарбет, фуагра і расольнік.

«Ага! Папаліся! Ідэальныя людзі радуюць свае страўнікі! Адзін са смяротных грахоў — абжэрства!» — усклікнуў у душы Дых і на радасцях замовіў сабе і перапёлак, і труфелі, і фуагра, і шарбет.

— А лангусты тут бываюць? — спытаўся журналіст у Жужыка.

— Бываюць. Па пятніцах — рыбны дзень. Лангусты, тунец, ікорка, стронга... марскі вожык, — адказаў Жужык і замовіў сабе расольнік.

Астатнія зрабілі тое ж, што і Хрыштоф.

— А вы... а чаму — расольнік? — не зразумеў Дых.

— Фуагрой душу не натоліш, — патлумачыў Фіялкоўскі. — Праз тыдзень і вам захочацца расольніку.

Журналіст сядзеў, абстаўлены далікатэсамі, і пачуваў сябе дужа няёмка. Уся прасторная зала рэстарана была запоўнена людзьмі, якія елі расольнік і з асуджэннем глядзелі на навічка.

— А што вы робіце па вечарах? — нарэшце, вырашыў спытацца Дых, каб перабіць маўчанне.

— Як што? — здзівіўся Жужык. — Канцэрціруем у нашым Мюзік-холе. Зарабляем сродкі для камуны. Людзі прыходзяць да нас, каб пасмяяцца і паплакаць, і плоцяць за гэта добрыя грошы.

— Наколькі добрыя?

Фіялкоўскі з дакорам паглядзеў на Дыха:

— Малады чалавек, перачытайце меню яшчэ раз. Не за дзяржаўны ж кошт мы тут перапёлак ямо!

Дых закашляўся.

— І мне таксама трэба... на сцэну?

— Мы нікога не прымушаем, — сказала Надзя. — Натхненне — непрадказальная рэч. Але абсалютна кожны намагаецца зрабіць свой унёсак у сумесную скарбонку.

— Калі добра ўсім — добра і кожнаму паасобку, — дадаў маўклівы Ландскнефт.

— Хочаце выступіць на сцэне сёння вечарам? — прапанаваў Фіялкоўскі.

— Не, я...

— Зразумела. Трэба нейкі час для адаптацыі. Так заўсёды бывае. Адпачывайце, пакуль не адчуеце, што вам хочацца радаваць людзей. Мастацтва пад прымусам не бывае цудадзейным.

Пасля абеду Дых назваўся хворым, закрыўся ў сваім нумары і дастаў з-пад матраца нэтбук. Ён прасядзеў да ночы, але не змог выціснуць з сябе ніводнага радка. Засмучаны, малады чалавек загарнуўся ў коўдру па самыя вушы, крыху паварочаўся і, нарэшце, заснуў.

З раніцы пайшоў дождж.

— Правы быў удод, — прабубнеў Дых, калі зірнуў у вакно.

У дзверы пастукалі. Дых адчыніў і ўбачыў Надзю пад парасонам. Яна ўсміхнулася, склала парасон і працягнула яго журналісту:

— Гэта вам. Падарунак ад нас. Хадземце на сняданак. Усе ўжо за сталом.

І праўда, за сталом ужо чакалі Жужык, Ландскнефт і Фіялкоўскі. Яны дужа абрадаваліся, калі ўбачылі Дыха. Ландскнефт нават паспрабаваў усміхнуцца.

— Наш рыцар вучыцца ўсміхацца нанава: ён дваццаць гадоў гэта не рабіў, — прашаптаў Жужык, калі Дых заняў сваё месца.

Дых усміхнуўся свірэлісту ў адказ. Ён зняў белую накрыўку, якой была прыкрытая талерка, што чакала яго — і ўбачыў лангуста.

— Сёння пятніца. Мы вырашылі, што вы захочаце пакаштаваць яго, — сказала Надзя.

— Вельмі прыемна, дзякуй... не трэба было...

Дыху зрабілася гэтак жа няёмка, як і ўчора за абедам, але тут Жужык скамандваў: «Раз, два, тры!» Яго новыя таварышы знялі накрыўкі са сваіх страў, і Дых убачыў, што на ўсіх талерках ляжаць лангусты.

— Гэта каб вам не было так няёмка, — патлумачыў Фіялкоўскі. — Ну і потым, сёння свята.

— Якое свята? — спытаўся журналіст. Па яго звестках, сёння была самая звычайная пятніца.

— Дзень прыемных сюрпрызаў, — адказаў Жужык.

— Якое... добрае свята! — сказаў Дых, намагаючыся ўспомніць, як правільна ядуцца лангусты.

— У нас многа добрых свят, — сказала Надзя. — Дзень Ветлівасці, Дзень Прыемных Сюрпрызаў, Дзень Усмешкі, Дзень Абдымкаў, Дзень Кампліментаў...

— А яшчэ, — падхапіў Жужык, — Дзень Натхнення, Дзень Мастацтва — наша прафесійнае свята, а таксама Дзень Гармоніі і Дзень Міру.

«Божа мой, я б не вытрымаў!» — падумаў журналіст і адшчыкнуў лангусту клюшню.

— Паспрабуйце пачаць з хваста, — параіў Фіялкоўскі.

— Дзякуй, — збянтэжыўся Дых, затым набраўся смеласці і папрасіў, — я магу закурыць?

— Можаце, — кіўнуў Фіялкоўскі. — Калі знойдзеце цыгарэту. Папраўдзе, гэта будзе вельмі складана...

— Тут тэрыторыя, вольная ад курэння?

— Не, проста добраахвотны выбар тутэйшых жыхароў.

— А... спіртное ці, скажам, можа быць... — Дых замяўся.

— Наркотыкі? — дапамог яму прафесар. — Не, мы гэта не ўжываем.

— Забарона?

— Не. Проста не маем патрэбы.

— А як жа «пашырэнне свядомасці»? — здзівіўся Дых, выразна ўяўляючы, як яго звальняюць з рэдакцыі. — Мне здавалася, творчым людзям гэта проста неабходна!

— Малады чалавек, ад наркатычных сродкаў пашыраецца не свядомасць, а падсвядомасць. Каб пашырыць свядомасць, трэба кнігі чытаць, музыку слухаць, у тэатры ды кіно хадзіць...

— Ага. Ад стымулятараў хутка можна стаць кабачком ляжачым! — сказала Надзя.

— І тады тыя, у аранжавым, цябе з'ядуць! — дадаў Жужык.

Усе рассмяяліся.

— А як жа вы расслабляецеся? — пацікавіўся Дых.

— Я — граю на свірэлі, — сказаў Ландскнефт.

— А я — на трубе, — сказаў Жужык.

— А я танчу! — сказала Надзя.

— Пачакайце, гэта ж вашая прафесія — танчыць, граць... Ваша праца!

— Ну так, — пагадзіўся Жужык. — Калі праца напружвае, нашто яна такая трэба?

Цягам дня Дыху зрабілі яшчэ процьму прыемных сюрпрызаў: падарылі чырвоны футарал і залачоны рэмень для ягоных гусляў, бархотку для дагля-

ду за інструментам, набор струн, вялікі нотны сшытак і фірмовую асадку з лагатыпам «Белы дом». Сам Дых, як ні намагаўся, не мог прыдумаць ніводнага прыемнага сюрпрыза для сваіх сяброў, а пасля ад расстройства проста заказаў у інтэрнэт-краме паветраныя шарыкі. Усе дужа абрадаваліся, асабліва Надзя: яна затанчыла з шарыкам вальс. Жужык прыладзіў свой да трубы, а Ландскнефт — аднёс у храм і прывязаў перад выявай Езуса.

Нарэшце, невыносна доўгі дзень скончыўся. Усе разышліся па нумарах. Дых закрыўся ў сваім нумары ды пачаў шукаць тэлефон. Тэлефона ў пакоі не было, не было яго і ў калідоры, і ў пустым, але незапертым рэстаране — карацей, нідзе.

Дых успомніў, што бачыў апарат у прыёмным пакоі. Нікім не заўважаны, ён прабраўся туды. Тэлефон, і праўда, стаяў на стале. Дых ўхапіўся за яго, як за выратавальны круг. Дрыжачымі рукамі журналіст набраў некалькі лічбаў і праскавытаў у трубку:

— Арнольд Вітольдавіч! Арнольд Вітольдавіч, гэта вы? А гэта — я, Дых!

— Дых? — пачулася з трубкі. — Вы розум страцілі — мне тэліць сярод ночы!

— Арнольд Вітольдавіч, забярыце мяне адсюль! — узмаліўся Дых.

— Дых, нават не думайце. Пакуль не будзе гатовы рэпартаж, ні нагой адтуль, — голас рэдактара змяніўся на спачувальны. — Што, зусім дасталі наркаманы праклятыя?

Дых заплакаў у трубку:

— Таварыш рэдактар, я так больш не магу! Тут так шакаладна, проста нейкая чортава Утопія, а не псіхушка! Яны не п'юць, не паляць, не лаюцца, нічым такім не злоўжываюць, круглыя суткі «калі ласка» ды «на здароўе»!

— Дых, вы мой лепшы вучань. Я ў вас уклаў увесь свой талент, няўжо зараз мне трэба нагадваць вам, што ў такіх сітуацыях трэба рабіць?

— А што... трэба рабіць? — усхліпнуў журналіст.

— Справакуйце іх!

Наступным днём Дых стараўся, як толькі мог. Ён абліў кавай Ландскнефта, паставіў падножку Надзі, калі яна рабіла фуэтэ, заклеіў жавальнай гумкай дзюрачку ў Жужыкавай трубе і разбіў акуляры Фіялкоўскага, змахнуўшы іх лакцём са стала. З усім гэтым Дых справіўся даволі хутка і ўзрадваўся, калі новыя сябры абступілі яго з усіх бакоў.

— Біць будзеце? — усхвалявана спытаўся ён.

Але Ландскнефт узваліў журналіста на пляччо, і ўся кампанія накіравалася ў спартыўную залу. Там на Дыха надзелі баксёрскія пальчаткі і паставілі яго перад «ігрушай».

— Вось, — сказаў Жужык. — Бі яе да знямогі, вымяшчай злабу.

Дых неахвотна ўдарыў раз, і другі раз, а пасля, нібыта ў яго ўсяліўся чорт, пачаў лупцаваць «ігрушу» рукамі і нагамі, кусаць яе і бадаць. Ён гырчэў, як сабака, скавытаў, як гіена, ашалела смяяўся і лаяўся. Праз тры гадзіны журналіст упаў пад «ігрушу» і заснуў.

Прачнуўся Дых у сваім нумары. Была ноч. Яму паўсюль балела, асабліва спіна і рукі.

Журналіст пачуваў сябе абсалютна спустошаным і не ведаў, чым заняцца, каб напоўніцца сілай ізноў. Раптам Дых звярнуў увагу на гуслі: яны пыліліся на крэсле з таго самага моманту, як ён сюды патрапіў.

Дых крыху павагаўся, а пасля ўзяў гуслі, працёр бархоткай і пачаў трэнькаць на іх — паціху, каб не абудзіць суседзяў, і раз-пораз заміраючы ды слухаючы, ці не йдуць санітары або адміністратар Верачка. Але ў пакоях была выключная гукаізаляцыя. Сам Дых не мог чуць, як за сценкай злева Жужык развучвае новы марш і з усяе сілы дзьме ў трубу, а за сценкай справа магутны Ландкнефт грае на свірэльцы пяшчотную пастараль.

— А можна я... сёння выйду на сцэну? — спытаўся ён у сяброў за чарговым сняданкам.

— Так! Канешне! — абрадавалася Надзя. — Гэта проста здорава, што ты, нарэшце, асмеліўся! А што ты будзеш граць?

— Песеньку... пра козачку, — адказаў Дых і пачырванеў.

— Пра козачку! Крута! Слухай, а давайце зробім сумесны нумар? Я пераапрануся і буду танчыць, як козачка!

— Я магу на трубе падыграць. Я выкалупаў з яе гумку, — сказаў Жужык.

— А я на свірэлі! — прапанаваў свае паслугі Ландскнефт.

У канцэртнай зале не было ніводнага свабоднага месца.

— Заўсёды ў вас так? — спытаўся Дых, з жахам назіраючы праз шчыліну ў генеральнай завесе, як людзі, якім не хапіла крэслаў, сядаюць проста на прыступкі.

— Так, — кіўнула Надзя. — Кожны вечар — аншлаг. Гэтым людзям і сапраўды нечага нестае ў жыцці, калі яны ідуць да нас.

— Я баюся, — сказаў Дых. — Я, праўда, вельмі баюся. Я не змагу! Я не пайду туды!

Завеса павольна папаўзла ўбакі. Дых апусціўся на карачкі і, як прусак, папоўз следам за ёй. За кулісамі яго падхапіў Жужык і дапамог падняцца на ногі.

У Дыха затрэсліся каленкі, ён учапіўся ў кулісу і пачаў паўтараць:

— Я не пайду. Я не пайду. Там столькі людзей! Я баюся!

Да журналіста падышоў магутны Ландскнефт і паклаў руку яму на плячо.

— Удыхні. Выдыхні. Палепшала?

— Т-так, — адказаў Дых, які ўдыхнуў, а выдыхнуць забыўся.

— Пайшлі! — скамандаваў Ландскнефт.

Дых выйшаў на сцэну. Яму ў вочы ўдарылі слупы святла — такога моцнага, што праз яго не было бачна ні залы, ні людзей у ёй. Ён выдыхнуў і паклаў рукі на струны. Што адбылося далей — Дых не запомніў. У памяць урэзаліся толькі шквал апладысментаў, крыкі «Брава!» і букет ружовых півоняў, якія ён хацеў перадарыць Надзі, але тая адмовілася, таму што «кветкі для артыста — гэта вымярэнне славы, а славу не перадорваюць».

— З дэбютам! Усё было проста выдатна, вы малайчына! — пракрычала Надзя Дыху, калі яны апынуліся за сцэнай, і пацалавала яго ў шчаку.

Дых ішоў па сцяжынцы ў «нумары». Калі б ён умеў лётаць — напэўна б, паляцеў: так хораша яму было.

Раптам яго аклікнулі:

— Малады чалавек!

Дых павярнуўся і ўбачыў прафесара.

— Вы засталіся мне вінны партыю ў шахматы, — сказаў той. — Згуляем?

— З задавальненнем, — пагадзіўся Дых.

— Вас, напэўна, дужа цікавіць, ці бываюць у Белым доме забойствы і самазабойствы? — ціха спытаўся прафесар, калі расставіў фігуры на дошцы.
— Не, не бываюць.

— Чаму так?

— Я вам патлумачу. Забойствы і самазабойствы здараюцца ў недасканалых грамадствах. Мы сабе выбудавалі — ідэальнае. Нашто мне кагосьці забіваць? За што? Мне ніхто не замінае, нават наадварот — усе дапамагаюць. І я дапамагаю ўсім. Кожны займаецца тым, што ў яго атрымліваецца лепш за ўсё, таму ніхто нікому не зайздросціць. Дэфіцыту ў нас няма. Забарон і абмежаванняў — таксама, хіба што ў кожнага — свае, унутраныя. Так нават больш эфектыўна: сябе не падманеш.

— Як жа вы тут жывяце?

— Так і жывем. І вельмі спачуваем тым, хто за агароджай. Вы гуляеце белымі. Ваш ход.

Дых моўчкі перасунуў пешку з е-2 на е-4.

— Спадар Гусляр, я хачу распавесці вам аб слове. Вы ведаеце, што такое слова?

— Не.

— Слова — гэта ідэальны праваднік для перадачы людзям энергіі. А якой яна акажацца — стваральнай ці разбуральнай — не можа прадказаць ніхто. Усё залежыць ад таго, якія мы выбіраем словы і каму іх прызначаем. Хадзіце яшчэ раз.

Дых перасунуў яшчэ адну пешку з е-2 на е-4.

— Спадар Гусляр, вы ведаеце аб кругазвароце падману ў прыродзе?

— Не, — збянтэжыўся Дых.

— Усё проста. Падманваеце вы — падманваюць вас. Ваш маленькі падман разрастаецца, як дажджавая хмара, і раптам — вуаля, вы ўвесь мокры. Прынята думаць, што прыгажосць выратуе свет. Лухта. Свет выратуе — шчырасць. Вы ўмееце гуляць у шахматы?

— Не, — адказаў Дых.

— Я так і думаў. А хочаце навучыцца?

Журналіст крыху памаўчаў і ціха сказаў:

— Не, не думаю.

— Добра.

Фіялкоўскі ссыпаў фігуры ў скрыню і склаў дошку.

— Аднясіце свае півоні ў нумар, каб яны не завялі, — сказаў ён.

Дых кіўнуў, устаў, узяў букет і раптам спытаўся:

— Прафесар, а вы як сюды патрапілі?

— А ніяк, — усміхнуўся Фіялкоўскі. Я гэтае месца заснаваў.

Дых закрыўся ў нумары, дастаў з-пад матраца нэтбук, а з кішэні — дыктафон. Ён цвёрда вырашыў не маніць, і таму працаваў з незвычайным натхненнем, старанна падбіраючы словы і сэнсы. Нарэшце рэпартаж быў гатовы. Дых некалькі разоў перачытаў яго, націснуў «Даслаць ліст» і зачыніў нэтбук.

Ад раніцы Дых прачнуўся пад аглушальны голас трубы. Дых адразу не змог зразумець, адкуль ён даносіцца, а калі вызначыў, што з даху, то як быў, у піжаме, выбег у калідор ды кінуўся па лесвіцы наверх.

На Белым доме сабраліся ўсе яго жыхары. Сярод іх Дых заўважыў Жужыка з трубой, а побач — Надзю, Ландскнефта і Фіялкоўскага. Журналіст пратачыўся да іх і ўбачыў, што Фіялкоўскі трымае ў руцэ газету з яго рэпартажам.

— Вось і вы, — сказаў прафесар.

— Што адбываецца? — спытаўся Дых.

— Я вас папярэджваў, — спакойна прамовіў прафесар. — Там, у прыёмным пакоі. Я папярэджваў вас аб наступствах. Учора мы гаварылі аб адраснасці слоў. Самае горшае пакаранне — людская нянавісць. У вас атрымалася не проста абудзіць яе, але і давесці да вышэйшай кропкі. Глядзіце, як яна зараз перальецца цераз край. Глядзіце, як з-за аднаго здрадніка гіне цэлае грамадства. Атрымлівайце асалоду ад плёну вашай працы.

Фіялкоўскі перавёў позірк уніз, дзе калі сцяны, што аддзяляла Белы Дом ад свету, сабраўся цэлы натоўп людзей. Яны, як мурашы, абляпілі сцяну і жалезныя вароты.

— Што ім трэба? — не зразумеў Дых.

— Прыслухайцеся, — параіў Фіялкоўскі.

Дых заплюшчыў вочы і ўвесь пераўтварыўся ў слых.

«Вар'ятам усё — а нам нічога?» — данеслася да яго. Ён спужаўся, расплюшчыў вочы і паглядзеў уніз.

— У іх — рай, чаму ў нас няма раю? — прарычэў мужычок у робе і высмаркаўся проста на тратуар.

— Хочам жыць як яны! Мы заслужылі! Пусціце! — загаласіла бабка ў шэрым паліто і пачала біць кіем людзей, што стаялі перад ёй, каб яны расступіліся ды прапусцілі яе.

Раптам, як па камандзе, натоўп прыняўся скандзіраваць:

— Мы! Хочам! Быць! Вар'ятамі!

— Пусціце нас!

— Адкрыйце вароты!

Крык рабіўся ўсё гучней, і раптам праз яго прарэзалася працяглае:

— Ла-ма-а-ай!

Натоўп здрыгануўся, як жэле, і кінуўся на агароджу. Людзі ўмомант разгайдалі жалезныя вароты і вынеслі іх.

Жыхары Белага дома стаялі і моўчкі глядзелі, як раз'юшаная маса людзей, змінаючы газоны, выдзіраючы ружы і касачы, збіваючы з падументаў скульптуры, нясецца да ўваходу ў будынак.

Яны стаялі і не бачылі, як тыя, хто хацеў зямнога раю, уварваліся ў рэстаран і пачалі рассоўваць па кішэнях кубкі ды лыжкі. Людзі плявалі ў дарагія стравы, разбівалі парцалянавыя талеркі, распісаныя ўручную, пераварочвалі сталы і раздзіралі абіўку крэслаў. Потым натоўп узяўся за «нумары». Мужчыны і жанчыны ў брудных ботах тапталіся па мяккіх дыванах, скакалі па ложках, зрывалі фіранкі і люстры.

Спаганіўшы «нумары», натоўп рынуўся далей. Тут ён падзяліўся на некалькі частак: адна накіравалася руйнаваць лес, другая басейн, трэцяя — канцэртную залу. Некалькі чалавек ускараскаліся на залаты купал старога храма і пачалі пілаваць крыж. Крыж адчайна скрыгатаў і зіхацеў утрая выразней, чым звычайна: ён адчуваў набліжэнне канца.

Калі крыж са стогнам упаў на зямлю, Ландскнефт не вытрымаў. Ён выхапіў у Жужыка трубу і кінуўся да лесвіцы.

— Стой! — пракрычаў Жужык і кінуўся за ім. — Ландскнефт, стой!

Генадзя сарвалася з месца і таксама пагналася за свірэлістам. Да яе далучыліся крышнаіты, на чале з паннай Серафімай. Усе разам яны дагналі Ландскнефта і павалілі яго.

— Нельга, Ландскнефт, няможна! — пракрычала Надзя. — Утаймуй звера! Ты што, не бачыш: нянавісць — іх адзіная зброя, а ты сам — машына разбурэння, ды яшчэ трубу прыхапіў!

— Яны зламалі...

— Хай ламаюць. Хай усё знішчаюць! Калі застануцца адны аскепкі, ім не будзе чаму зайздросціць, і яны самі пойдуць прэч!

Раптам знізу пачулася: «Пажар! Пажар! Федзя кінуў недапалак!»

З вокнаў гасцініцы паваліў дым.

— На пажарную лесвіцу, без панікі, — коратка загадаў Фіялкоўскі. Жыхары Белага дома скіраваліся да пажарнай лесвіцы, што цягнулася з даху да зямлі, і даволі хутка спусціліся ўніз.

— Па аўтобусах, — гэтак жа коратка сказаў прафесар, калі ўсе былі ў зборы.

Ландскнефт націснуў чырвоную кнопку на белай сцяне. Адчыніліся замаскіраваныя дзверы падземнай паркоўкі, і людзі пачалі рассаджвацца па аўтобусах.

Калі Дых разам з Надзяй і Жужыкам падышоў да аўтобуса, Надзя рэзка павярнулася да яго і сказала:

— Усё. Табе з намі нельга.

— Чаму? Я ж хацеў, як лепш! Я ўсю праўду напісаў, я не зманіў!

— Ты — напісаў. Гэтага дастаткова.

Дых апусціў галаву. Ён адчуў, што бачыць сваіх сяброў у апошні раз і раптам зразумеў, чаго каштуе здрада. У яго горле паўстаў камяк, і ён ніяк не мог яго праглынуць.

— Куды вы едзеце? — праз сілу спытаўся журналіст.

— Туды, дзе мы пабудуем новы Белы дом, — адказала Надзя. — Але ў ім не будзе месца для цябе.




# Кацярына Шчасная

празаік, паэт, мовазнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Друкавалася ў часопісах «Маладосць», «Бярозка», «Тэксты». Нарадзілася ў 1984 годзе ў Баранавічах. Жыве ў Мінску.

# Геракл супраць!

«Калі я зараз прыйду дадому і там будзе ён, выкіну яго за шкірку, і ўсё раскажу бацькам, хай Анжаліка потым апраўдваецца. Бо мне ўжо надакучыла шточацвер бачыць гэтага стокілаграмовага Жэню ў сваім пакоі, ускудлачаную Анжаліку ў яго пад рукой з сонна-вінаватым «Малы, можа ты пагуляеш?» Так думаў я, вяртаючыся са школы.

А, забыў сказаць. Я Герман, мне 14, і я нічога сабе такі хлопец. Пасля знаёмства з грэчаскай літаратурай у шостым класе аднакласнікі назвалі мяне Гераклам, пасля пропуску гола на фізры ад гэтых выскачак з 7 «В» быў перайменаваны ў Геракакла. Але я ад гэтага не пакутую, а больш перажываю з-за таго, што вымушаны дзяліць адзін пакой з васямнаццацігадовай сястрой. І справа не ў тым, што кожны дзень бачу стрынгі і кашляю ад лаку для пазногцяў. А ў тым, што мая сястрычка, толькі адсвяткаваўшы ў верасні 18-цігоддзе, пусцілася ва ўсе цяжкія. Гэта значыць загуляла з гэтым Кабанскім Жэнем. Яго прозвішча Капанскі, але я здагадваюся, і на гісторыі нам пра гэта не раз казалі, што ў час вайны і ўсякіх пошасцей людзі знарок мянялі прозвішчы, каб ім не дасталася за розныя зладзейскія ўчынкі. Вось такі злодзей і ёсць гэты тлусты Кабанскі з жыватом, які вылазіць з-пад кашулі (і гэта ў 21 год!) і спаўзаючымі смярдзючымі чорнымі шкарпэткамі. Ён прыходзіць да нас у кватэру, калі бацькоў няма. І пакуль я калачуся на кантрольнай па хіміі ці ганяю мяч на апошняй фізры, гэтыя двое прыходзяць з пар і (я ў гэтым не сумняваюся) займаюцца living рознымі паскудствамі. Пасля ў пакоі патыхае шкарпэткамі, потам і яшчэ невядома чым.

Анжаліка пачынае ўсё гэта выветрываць, але, калі вяртаюцца бацькі, нешта з тых «араматаў» застаецца. Аднойчы на грознае пытанне маці Анжаліка выдумала байку: «А гэта мусіць у Германа пачаўся перыяд палавога выспявання». Нічога сабе! Якія веды па біялогіі ў шараговай бухгалтаркі, якая ледзьледзь з сярэднім балам «6» здала першую зімовую сесію! Я пачырванеў ад гэтай абразы (выкрываць такія рэчы!) і ледзь не трэснуў ёй. Але наша мама пачырванела яшчэ больш і схавалася на кухні варыць есці. Яны з бацькам увесь вечар сарамліва пазіралі на мяне з-за відэльцаў. Мне было прыкра і няёмка ўдвая. Але збавенне прыйшло нечакана. Калі я чысціў зубы на ноч, бацька зайшоў да мяне ў ванную і па-змоўніцку ціха прашаптаў: «Я падару табе крутую брытву і дэзадарант. Зараз. Не чакаючы твайго дня народзінаў (між іншым, яшчэ праз чатыры месяцы). Толькі маме не кажы». Ура! Справядлівасць перамагла над здраднікамі! І ў мяне ёсць чым пахваліцца перад сябрам Віцьком!

«Малы, можа, ты пагуляеш?» Нішто сабе малы. Вось у Віцька нашага нядаўна брат нарадзіўся. Там то малы. Ляжыць сабе, растапырыўшы свае лопасці і ні кропелькі не саромеецца, а яшчэ і гуліць, маўляў, ідзіце да мяне, прыбярыце за мной і пагуляйце ў дадатак! Маці Віцька падбягае адразу: ох-ох,

выціраць, класці на жывоцік. Такі ж самы нахабнік, як гэты Жэня. Разваліцца на ложку (цікава, калі ложак праламаецца, што скажа мая дыетная сястрыца? Няўжо ж гэта ад яе сарака сямі кілаграмаў? І няхай толькі зваліць на мяне, што я ўпотай на ложку скачу!). Дык вось, разваліцца ў ложку, а Анжаліка каля яго: «Жэнька, Жэнька» і пагладжвае, і цалуе. Фууу!

Аднойчы яны мне сказалі: «Можа, ты пагуляеш?» Ну я і сеў гуляць. У вайнушку на кампе. Яны падкашлівалі ў мяне за спінай цэлую гадзіну і нават знарок гучна цмокалі, цалуючыся, але я надзеў навушнікі і ўключыў «Muse». Яны яшчэ з паўгадзінкі мяне патэрарызавалі і разышліся.

Нашы «галоўныя» не раз сварыліся з-за таго, што яны дваццаць гадоў таму не набылі трохпакаёўку. Маці крычала, што гэта абдылося з-за бацькі, а бацька крычаў, што з-за маці. Вінавацілі таксама гістарычныя і эканамічныя катаклізмы, выканкам, татавага начальніка, маміну радню і іншыя непарушныя ісціны. Цяпер мы, дарослыя хлопец і дзяўчына, павінны жыць на 12 метрах і бачыць усе гэтыя выпіраючыя бакі падрастаючых натур. І Жэніны шкарпэткі. Анжаліку спачатку хацелі адправіць да бабулі ў Віцебск, каб лягчэй дыхалася (во-во, было б правільнае рашэнне!). Але паколькі ёй цудадзейным спосабам удалося паступіць у наргас, наканаванне з Віцебскам давядзецца пераймаць мне. Што, зразумела пярэчыць маім планам скакаць з мячыкам у Мінску. Мы з Віцьком ужо задумалі запісацца ў якую-небудзь спартыўную секцыю і неверагодна хуткімі тэмпамі стаць зоркамі айчыннага футбола, гандбола ці хаця б бадмінтона.

Жэня не дорыць сястры ніякіх падарункаў, не водзіць на апошнія кінасеансы, бо «раптам мама здагадаецца», але чацвярговыя «спатканкі» ў цесным пакоі ідуць па плане. Аднойчы, праўда, Жэня прэзентаваў Анжаліцы нейкія файныя духі з модных каталогаў. І хаця, падазраю, што гэтыя духі набыла яго якая-небудзь знаёмая па пяцідзесяціпрацэнтнай зніжцы, маёй сястры і мне таксама было прыемна. Шкада, што Анжаліка не набралася смеласці і сказала бацькам, быццам гэта купіла яе сяброўка.

Жэня — студэнт-выдатнік, таму заўсёды стараецца інтэлігентна сябе паводзіць. Калі я прыходжу ў пакой, ветліва са мной вітаецца «Добры дзень, Герман!» Канечне ж, бо ў мяне імя ў тысячу разоў прыгажэйшае за яго. У мужчынскім імені павінна быць хаця б адна літара «р», напрыклад, Герман. Тады гэта гучыць горда. Не тое, што едка-слюнявае «Яўгеній». І прозвішча яго без «р». Самае крыўднае, што і мая сястра можа стаць Кабанскай, і пляменнікі будучыя, таксама родныя людзі, будуць расці Кабанятамі. Такога мне, як сапраўднаму Гераклу, нельга дапусціць!

Эрымантфскі кабан наводзіў жах на ўсю Грэцыю, але Геракл змог загнаць яго ў снежную яму і завезці ў Мікены. Я таксама прыдумаю Жэню пастку, з якой ён не выберэцца.

Калі я зайшоў у кватэру, Анжаліка з Жэнем пілі рамонкавую гарбату ў нашым пакоі. Кабанскі як заўсёды інтэлігентна паздароўкаўся і прыўстаўшы, падаў мне руку. «Малы...» — пачала Анжаліка.

— Не, вялікая, — перадражніў я яе. — У мяне заўтра кантрольная па хіміі.

Заплечнік бразнуўся на стул. Разгарнуў сшытак, падручнік і з сур'ёзным выглядам сеў рашаць ураўненні рэакцый з фасфарыдамі і сульфатамі. Скажу шчыра, мне падабаецца быць на ўроку хіміі, я захапляюся тым, як наша хіміца, адкідваючы за плечы свае белыя кудзеркі, жарсным поглядам пазірае на клас і высокім голасам прызывае: «Паглядзіце, якое цікавае ўраўненне: каб правільна акісліць сульфід жалеза, трэба яго чатыры атамы і адзінаццаць — кіслароду; а далей яшчэ больш захапляльна! Яны ператвараюцца ў 2 атамы аксіду жалеза і 8 — аксіду серы. Ну скажыце, што здорава, і прыклад такі — што адразу не рашыш!»

Сапраўды, інтрыга. У такія моманты я думаю, можа, аддаць гэтую Сірэну ў лапы Кабанскага, ён жа таксама хімік? А потым думаю, што можа мне самому яе пакарыць: вось выйду на наступным уроку і як злучу гідрыд натрыю з фосфарнай кіслатой! Адразу траплю ў сонм вечных выдатнікаў!

Але пакуль для мяне ўсе гэтыя растаноўкі каэфіцыентаў — царства змрочнага Аіда. Сяджу і чыркаю на чарнавіку, усё мераю, мераю, раўняю. А Жэня не сыходзіць. І вось ён адстаўляе кубачак з гарбатай і падыходзіць да майго стала.

«Герман, можа, табе дапамагчы рашыць?»

Я прымаю гэта нечаканае замірэнне. Жэня бярэ мой сшытак, пару хвілін рыпіць на стуле і — цуд! Усе атамы ў маіх пяці ўраўненнях становяцца на свае месцы.

«Дзякуй, Жэня, — цісну я яго агромністую руку, — з мяне падарунак».

Я бяру заплечнік і збіраюся ісці да Віцька, але заміраю на месцы ў пакоі: ва ўваходных дзвярах нешта рыпае. Жэня ўскоквае са стула, у Анжалікі вывальваецца з рук кубак. Разумею, што, я, Геракл, ужо не супраць, а таксама «за», заадно з тымі, каго хацеў загнаць у пастку, і цяпер мы разам адкажам за ўсе свае хавальніцтвы перад Вялікай і Магутнай мамай.

«Чу! Крык пачуў я ці памыліўся?// Ах, усё шуміць, калі ў трывозе сэрца!// Не дажыве падман да доўгага жыцця». Меў рацыю Сафокл.



# Сяргей Белаяр

празаік. Друкаваўся ў часопісах «Верасень» і «Маладосць», тыднёвіку «ЛіМ», альманаху «Своя стихия». Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Брэсце. Жыве ў Брэсце.

# Варгін

Размаляваныя маркерам створкі ліфта са скрыпам раз'ехаліся, выпускаючы Сяргея Мірановіча, трыццаціпяцігадовага кандыдата гістарычных навук. На званок адкрыла Ася Швабіна, калега дацэнта. Адразу, нібы чакала яго за дзвярыма.

— Добры вечар! — Сяргей Мірановіч адзначыў адбітак заклапочанасці на твары Асі Швабінай.

— Добры дзень, Сяржа! Праходзь!

Сяргей Мірановіч зняў куртку і разуўся, пасля чаго рушыў услед за калегай на кухню. На стале ўсё было гатова да чаявання, вада закіпала.

— Сядай, калі ласка! Добра, што ты прыйшоў! — як ні спрабавала Ася Швабіна валодаць сабой, у яе голасе чуліся ноткі панікі. — Калі ты не супраць, я запалю!

У дрыготкіх руках Асі Швабінай колца запальніцы некалькі разоў пракруцілася ўхаластую.

— Нешта здарылася?

У жанчыны нарэшце атрымалася прыпаліць, і яна зрабіла некалькі глыбокіх зацяжак.

— Так! — Ася Швабіна сцяла губу, але стрымаць слёзы не змагла.

— Ты чаго? — Сяргей Мірановіч прыціснуў калегу да грудзей.

— Бяда, Сяржа!

— Супакойся і расказвай!

Некалькі імгненняў Ася Швабіна змагалася са слязамі, а потым пачала:

— З Алісай дрэнна! Яна ўжо два тыдні як згасае, быццам з яе выпіваюць сілы. Амаль нічога не есць і пастаянна скардзіцца на тое, што ў яе ў галаве завяліся атрутныя восы...

— Ты паказвала яе ўрачу?

— Тэрапеўт сказаў, што ўся справа ў ператамленні, недахопу вітамінаў і адсутнасці ўвагі з боку бацькі. Пасля разводу Андрэй бачыўся з Алісай усяго тры разы, а прайшло ўжо амаль два гады... — Ася Швабіна зноў заплакала.

Сяк-так дацягнуўшыся да аптэчкі, Сяргей Мірановіч накапаў валяр'янкі ў шклянку.

— Выпі!

Жанчына кіўнула і залпам перакуліла ў сябе валяр'янку. Праз некаторы час Асі Швабінай палягчэла, і яна змагла працягнуць:

— Справа тут зусім не ў ператамленні і вітамінах! Усё пачалося з таго часу, як у кватэры з'явіўся кот! Праклятая пачвара!.. Мне не варта было дазваляць Алісе браць яго дадому! Трэба было даць Чарняшу выспятка, але ты ж ведаеш, што я не магу пакрыўдзіць слабага! Тым больш, што Алісе ён так спадабаўся...

У гэты самы момант у дзвярах з'явіўся велізарны чорны кот. Пухнаты хвост, нібы гадзюка, круціўся па падлозе, вочы палалі, як гарачае вуголле.

Сяргей Мірановіч злавіў сябе на думцы аб тым, што погляд Чарняша выклікае ў яго дрыжыкі.

Кот глядзеў так, нібыта ацэньваў патэнцыйную пагрозу.

— ...Я разлічвала, што праз дзень-другі Аліса нагуляецца з катом, і я завязу яго ў прытулак, аднак яна ўпёрлася. Справа дайшла да істэрыкі! Прыйшлося пакінуць...

Сяргей Мірановіч здзіўлена хмыкнуў. Чатырохгадовая Аліса, колькі ён яе ведаў, заўсёды была паслухмянай дзяўчынкай.

— ...Я проста не магла адмовіць. Калі ў цябе не будзе больш дзяцей, адзінае дзіця становіцца сапраўды бясцэнным!

Для Сяргея Мірановіча не з'яўлялася таямніцай, што пры родах паўсталі сур'ёзныя ўскладненні — Асю Швабіну ледзь выратавалі.

— Ты не паверыш — два тыдні таму Чарняш быў падобны на мех костак! Аліса не толькі карміла яго, гуляла з ім, але і клала з сабой спаць. Вой, зноў ён! — голас Асі Швабінай уздрыгнуў.

— Апсік!

Кот чмыхнуў, паказаў кіпцюры і паважна пайшоў.

Сяргей Мірановіч не мог адкараскацца ад думкі, што кот змераў яго пагардлівым позіркам.

Ася Швабіна ўзяла сябе ў рукі і запаліла ля адкрытага вакна.

— Аліса настолькі прывязалася да Чарняша, што забылася пра іншыя цацкі і кнігі. Ёй больш не падабалася хадзіць у дзіцячы сад і мець зносіны з аднагодкамі. Яна пазбягала сваякоў. Стала капрызнай і раздражняльнай. А потым... Прабач, ігнарую свае абавязкі! — жанчына расціснула недапалак у попельніцы і пачала разліваць чай. — Дзве лыжкі?

— Так.

— Потым Аліса пачала слабець... Падумаць толькі — я ўласнымі рукамі ўнесла ў кватэру заразу!

— Можа, Чарняш тут не прычым?

— Я на сто адсоткаў упэўнена ў тым, што Чарняш і слабасць Алісы ўзаемазвязаны. Можаш называць гэта як заўгодна — жаночым нюхам, інтуіцыяй, — але нішто не пераканае мяне ў зваротным!.. Да з'яўлення Чарняша ў нашым доме панавала гармонія. Андрэя я не лічу!.. Пі чай, Сярожа! Чорны, як ты любіш! У мяне ёсць пернікі, сушкі і торт. Праўда, заўчарашні!

Жанчына апусціла вочы. Каб не бянтэжыць яе, Сяргей Мірановіч узяў пернік. Чай быў добры. Пернік таксама. Ідылію псавала тое, што Ася Швабіна сядзела як на іголках.

— А ты чаго не п'еш ?

— П'ю! — жанчына зрабіла глыток, затым пачала нервова кусаць вусны.

— Ты пра нешта хочаш папрасіць мяне?

— Ты, як заўсёды, праніклівы!.. Не ведаю нават, як сказаць.

Сяргей Мірановіч не падганяў.

Нарэшце Ася Швабіна парушыла працяглую паўзу.

— Сярожа, я хачу, каб ты забраў Чарняша з нашага дома і... — жанчына сціснула запальнічку так моцна, што Сяргей Міровіч занепакоіўся, як бы яна не выбухнула ў кулаку. — ...І ўтапіў ката!

Словы даліся Асі Швабінай нялёгка. Каб супакоіць нервы, яна запаліла.

— Нечаканая просьба!

— Канешне ж, ты можаш адмовіцца! — паспяшалася сказаць Ася Швабіна. — Але ў мяне няма больш блізкіх сяброў, каб звярнуцца да іх з падобнай просьбай! Быў бы бацька жывы...

— Андрэй?

— Андрэй проста пашле мяне падалей! Я даўно пераканалася ў тым, што Аліса яму не патрэбна. Везці да ветэрынара, каб ён усыпіў Чарняша, мне не хопіць духу!.. Я дам табе грошай, колькі скажаш! — вочы Асі Швабінай былі поўныя надзеі.

Сяргей Мірановіч не мог яе разбурыць.

— Добра, я зраблю тое, пра што ты просіш! Грошай не трэба!

— Дзякуй, ты мяне ў каторы раз выратоўваеш! — Ася Швабіна кінулася да калегі на шыю і пацалавала ў шчаку. — Я набыла пераноску!

Сяргей Мірановіч падумаў пра тое, што пластыкавы кантэйнер будзе вельмі дарэчы — нягледзячы на набліжэнне ночы, народу на вуліцы хапала. Не цяжка ўявіць, якую рэакцыю выкліча прыстойна апрануты мужчына, які нясе за шкірку ката.

— Я дам табе рукавіцы і фартух!

— А яшчэ шлем з плексігласавым забралам!..

— Думаеш, Чарняш такі агрэсіўны?

— Ты не бачыў яго кіпцюроў — гэта сапраўдныя шаблі!

Сяргей Мірановіч не адказаў. У галаве чамусьці з'явіліся вобразы рыцара і дракона.

— Хутка Аліса засне. Спіць яна моцна — з гарматы не абудзіш!

Наступная гадзіна была занята чаяваннем і размовамі аб працы і надыходзячай сесіі. Ася Швабіна перыядычна адлучалася ў дзіцячы пакой.

— Можна пачынаць!.. Я так табе ўдзячная, Сярожа!

— Не кажы «дзякуй» за тое, чаго я не зрабіў! Сяргей Мірановіч надзеў фартух і сунуў рукі ў рукавіцы. Матэрыял быў тоўстым, але ці вытрымае ўкус, калі кот пачне супраціўляцца?

Ася Швабіна падала мужчыне пераноску.

У дзіцячым пакоі панавала паўцемра — начная свяцільня ў форме мышаня Мікі-Маўса давала занадта мала святла.

Убачыўшы Сяргея Мірановіча, кот выгнуў дугой спіну, выпусціў кіпцюры і злосна зашыпеў, агаліўшы доўгія вострыя іклы.

Сэрца Сяргея Мірановіча забілася хутчэй. Дацэнту падумалася: «Вочы жывой істоты не могуць мець такога насычанага памяранцава-чырвонага колеру!».

Кот саскочыў з ложка ў двух метрах ад Сяргея Мірановіча. Дацэнт уразіўся таму, наколькі Чарняш велізарны. Не кот, а сапраўдны тыгр!

Варта было зрабіць крок, як кот зашыпеў мацней і пачаў секчы пярэднімі лапамі паветра. Намёк больш чым недвухсэнсоўны.

«Толькі б дзяўчынка не прачнулася!», — Сяргей Міравіч аблізнуў вусны і зняў пінжак, пасля чаго зрабіў яшчэ адзін крок да ката.

Вушы ката прыціснуліся да галавы, поўсць устала дыбам. Пакой запоўніла злоснае шыпенне.

Падобная на прывід дзяўчынка неспакойна варочалася ў ложку, ціха стагнала, але працягвала спаць.

«Я не аддам яе табе!» — чыталася ў вачах ката.

— Аліса табе не належыць! — ціха сказаў Сяргей Міравіч, думаючы пра тое, што Ася Швабіна мела рацыю.

Хвост біў па падлозе. Кіпцюры ўпіліся ў дыван. Вочы ката гарэлі нянавісцю.

«Гэта ўсяго толькі кот!» — Сяргей Міравіч набраў поўныя лёгкія паветра, зрабіў выдых і падступіў яшчэ на паўкрока.

Кот выскаліўся.

Сабраўшы волю ў кулак, Сяргей Міравіч шпурнуў пінжак на ката і кінуўся ў атаку. Сутычка выйшла адчайнай і хуткабежнай. Атрымаўшаму некалькі глыбокіх драпін дацэнту ўсё ж удалося спавітаць ката і засунуць яго ў скрыню. Ад граху падалей Сяргей Міравіч не стаў здымаць з ката пінжак.

Сяргей Міравіч схапіў пераноску і зачыніў за сабой дзверы.

Разарваўшы пінжак, Чарняш пачаў біцца ў пераносцы і паласаваць кіпцюрамі пластык. Скрыня хадзіла ходырам.

— У цябе ўсе рукі ў крыві! — ахнула Ася Швабіна.

— Нічога!

— Раны трэба апрацаваць! — жанчына пацягнула Сяргея Міравіча на кухню, дзе адразу ж кінулася да аптэчкі. — Не дапамаглі рукавіцы... Здымай фартух!

Ася Швабіна была засмучаная. Заліўшы рукі дацэнта перакісам вадароду, жанчына заклеіла драпіны пластырам і сказала:

— Пакажыся заўтра лекару!.. Твой пінжак!

— Я ўсё роўна збіраўся яго выкідаць! — кот ніяк не хацеў супакойвацца.

— Не кажы глупства — ты купіў яго ўсяго паўгода таму! Я куплю табе новы!.. І не думай пярэчыць!

Сяргей Міравіч пацешыўся таму, што не забыўся дома пальчаткі. Вадзілася за ім такая звычка — пакідаць патрэбныя рэчы.

— Дзякуй, Сярожа!

— Быў рады дапамагчы! — дацэнт некалькі разоў энергічна страсянуў пераноску. Чарняш трохі астыў.

— Калі хочаш, у суботу мы можам схадзіць у кафэ!

— Не забудзь узяць з сабой Алісу! — усміхнуўся Сяргей Міравіч. — Спадзяюся, што да выходных ёй стане лепш!

— Я таксама на гэта спадзяюся! Да заўтра!

Сяргей Міравіч развітаўся і пайшоў уніз па лесвіцы. Кот зноў узяўся біць лапамі па пластыку.

«Калі так пойдзе і далей, пераноска не вытрымае!», — сумна падумаў дацэнт. Здавалася, шыпенне з кожным імгненнем становіцца мацнейшым.

Вуліца сустрэла Сяргея Міpaнaвiчa лёгкім марозам. Зашпіліўшы куртку пад горла, дацэнт накіраваўся да ракі. Ісці было недалёка — нейкіх тры кварталы. Браць таксі, каб пазбегнуць непатрэбных роспытаў, Сяргей Мірановіч не стаў.

Халодны серпік месяца праглядваў скрозь растрапаныя снежаньскія аблокі. Зорны россып быў рэдкі. Яшчэ больш рэдкімі былі вулічныя ліхтары.

Паступова думкі дацэнта пераключыліся на доктарскую дысертацыю. Тэма была надзвычай цікавай і адбірала ўвесь вольны час.

Занураны ў свае думкі, Сяргей Мірановіч не заўважыў «Волгу», якая выскачыла з падваротні. Машына з п'яным кіроўцам за рулём неслася з велізарнай хуткасцю.

Удар адкінуў дацэнта на грузавік, які стаяў ля гаспадарчай крамы...

Калі да Сяргея Мірановіча вярнулася свядомасць, ён не мог паварушыцца. Кожны ўдых хваравітым рэхам адгукаўся ў грудзях. Перад вачыма раз-пораз плылі рознакаляровыя кругі.

На праезнай частцы, у некалькіх метрах ад дацэнта, ляжала на баку пераноска. Дзверцы былі адчынены.

Сяргей Мірановіч сутаргава праглынуў і з крыўдай падумаў: «Збег!».

У наступнае імгненне нешта цяжкае прызямлілася на грудзі дацэнта.

Сяргей Мірановіч сустрэўся позіркам з катом. У яго вачах свяцілася ўрачыстасць.

— Ты?

Чарняш ухмыльнуўся.

Сяргей Мірановіч паспрабаваў падняць руку, каб сагнаць ката, аднак нічога не атрымалася.

Усмешка ката стала шырэйшай.

Гледзячы на яхідную морду ката, дацэнт нечакана ўспомніў пра Варгіна. Кацінага караля. Знайшлі сваё тлумачэнне і слабасць Алісы, і атрутныя восы, і незвычайныя памеры, і агрэсія да тых , хто не шанаваў ката як караля...

Удосталь нацешыўшыся трыумфам, Варгін упіўся ў горла дацэнта.

# Волат

*Прыпяцкае Палессе.*
*19 мая 1974 года.*

Вавілонскі гармідар у самы разгар працоўнага дня не мог не прыцягнуць увагі старшыні калгаса «Чырвоны камунар» Вікенція Прохаравіча Лабудзькі.

— А гэта яшчэ што такое? — здзівіўся старшыня, «закіпаючы» ад праведнага гневу. Нядбалага стаўлення да працы Лабудзька не трываў. Як і не меў права дапусціць прастою тэхнікі. — Мікалай, давай да народа!

Шафёр паслухмяна кіўнуў, крутануў руль і накіраваў УАЗ-469 да работнікаў. Спыніўся ў некалькіх метрах ад калгаснага люду.

Вікенцій Прохаравіч выбраўся з машыны, са злосцю пляснуў дзверкай і гучна пацікавіўся:

— Што тут адбываецца?

На вялікае здзіўленне старшыні яму ніхто не адказаў. Гэта выклікала ў Лабудзькі замяшанне. Ён прывык, што падначаленыя слухаюцца яго, як пана.

— Што тут адбываецца? — паўтарыў Вікенцій Прохаравіч.

Па натоўпе пранеслася «Старшыня прыехаў!», людзі павярнулі галовы, але па-ранейшаму маўчалі, нібы не адважваючыся паведаміць начальству дрэнную навіну.

— Чаго стаім, не працуем? Ці зарплаты занадта вялікія? — з'едліва спытаў Вікенцій Прохаравіч, строга аглядаючы прысутных.

Некалькі імгненняў панавала цішыня, а затым нехта прамовіў:

— Разумееш, старшыня, тут такая справа...

— Якая яшчэ справа? — раззлаваўся Лабудзька, не даслухаўшы да канца. — Вы павінны працаваць, а замест гэтага стаіце! Хочаце сарваць план? Ды за такое я з вас тры скуры злуплю!

— Ты не крычы, Вікенцій Прохаравіч, — пачулася з іншага боку. — А лепш паглядзі сам!

Старшыня калгаса «Чырвоны камунар» пачырванеў ад такога нахабства. Ледзь не задыхнуўся ад абурэння. Але галаву ўсё ж такі павярнуў.

Натоўп расступіўся.

— Маці мая! — выціснуў Лабудзька, гледзячы на гіганцкі, больш за чатыры метры даўжынёй шкілет, што месціўся ў балотнай жыжцы. — Гэта яшчэ што такое?..

— Ды х... гэта значыць Бог яго ведае, — адказаў трактарыст Клім Яворын, перакочваючы ў роце цыгарэту, якая сыходзіла смярдзючым дымком. — Знайшлі вось...

Ад трактарыста несла перагарам, аднак старшыня не стаў рабіць Яворыну заўвагі. Не да таго было. Узрушаны Вікенцій Прохаравіч моўчкі разглядаў знаходку. Косці маглі належаць чалавеку. Калі б не іх памеры...

— Мы пусцілі ваду па дрэнажнай канаве, — растлумачыў Радзіхін — апаратар кустарэза, — і, як толькі ўзровень вады панізіўся, з балота паказалася вось гэта...

Лабудзька не чуў калгасніка. Словы даносіліся да Вікенція Прохаравіча як быццам праз тоўсты пласт ваты. З памяці нечакана ўсплыў дзіцячы ўспамін — бабулін аповед пра волатаў. Міфалагічных істот, якія адрозніваліся вялізным ростам і немалой сілай.

«Няўжо нам трапіліся рэшткі аднаго з іх? — падумаў старшыня. — Атрымліваецца, не хлусіла бабуля...»

У сэрца кальнула ледзяная іголка страху. Цела пакрылася халодным ліпкім потам. Старшыня раптам усвядоміў, чым можа абярнуцца выяўленне артэфакта. Давядзецца спыняць працу, выклікаць з горада археолагаў, паведамляць па інстанцыях. Вікенцію Прохаравічу стала невыносна жудасна ад разумення таго, што з-за непазбежнай паўзы план меліярацыі не будзе выкананы, што ён, Лабудзька, стане непасрэдна вінаватым у сабатажы Пастановы Пленума ЦК КПСС...

Аднак куды страшней было іншае. Ні выклік «на дыван», ні адхіленне ад пасады, ні страта прывілеяў, а арышт, турма, суд і этапаванне ў Сібір…

«Калі не вышэйшая мера сацыяльнага пакарання...»

Легенда, якая стала рэальнасцю, пагражала перавярнуць усю савецкую гістарычную навуку, падарваць асновы марксісцка-ленінскага вучэння, пахіснуць асновы дзяржавы...

Зямля імкліва сыходзіла з-пад ног. Перспектыва скончыць свой жыццёвы шлях ад кулі ката палохала. Да смерці старшыня гатовы не быў.

Лабудзька выцягнуў з кішэні пінжака насоўку і прамакнуў ёй лысіну і шыю. Дыханне давалася з цяжкасцю. Рукі па-здрадніцку дрыжалі.

«Чаму ўсё гэта здарылася менавіта са мной?»...

Сэрца перапаўняла горкая крыўда.

Старшыня калгаса «Чырвоны камунар» з нянавісцю і злосцю глядзеў на шкілет. Два рады зубоў нагадвалі ўсмешку. Вікенцію Прохаравічу здавалася, што нябожчык-волат насміхаецца над ім. А гэта раніла мацней за жалеза. Чаго-чаго, а здзеку над сабой Лабудзька вытрываць не мог.

— Іван! — не адрываючыся ад костак, паклікаў бульдазерыста Вікенцій Прохаравіч.

— Тут я! — адгукнуўся хлопец.

— Для цябе ёсць праца! — сказаў старшыня, павярнуўшы галаву да Пракруста. — Заводзь «сотку»! Трэба зраўняць тут усё з зямлёй!..

Бачачы нерашучасць калгасніка, Лабудзька дадаў:

— Атрымаеш падвойную прэмію!.. І прагулы спішу!

— Гэта іншая справа! — шырока ўсміхнуўся хлопец і паабяцаў: — Зраблю!

— Таварышы, разыходзьцеся па рабочых месцах! — распарадзіўся старшыня. — Тут няма нічога цікавага! Давайце, давайце!..

Вось толькі выконваць загад начальства ніхто не спяшаўся. Страху Лабудзькі не бачыў толькі сляпы.

— Добра!.. Будзе прэмія і вам! — скрыгатнуўшы зубамі, сказаў Вікенцій Прохаравіч.

Меліяратары сустрэлі навіну радасным гулам. Лёс дзіўнай знаходкі ўжо больш нікога не цікавіў.

# Праверка на разумнасць

— Панькоў, ну, і дзе твае іншапланецяне? — губернатар перавёў незадаволены погляд на кіраўніка астранамічнай абсерваторыі. — Ты ж казаў, што яны будуць роўна ў пяць!

— Не ведаю, Канстанцін Фёдаравіч! Затрымліваюцца, відаць!

— Затрымліваецца начальства, а ўсе астатнія — спазняюцца!.. Ты нічога не наблытаў часам? А то ведаю я вас, «яйкагаловых», вечна лунаеце ў аблоках.

— Не!

— Ды не сунь ты мне раздрукоўкі — я іх ужо сто разоў бачыў! Пасланне дакладна пераклалі? У пяць? Менавіта сёння? На гэтым месцы?

— Дакладна так, Канстанцін Фёдаравіч!

— І што?

Кіраўнік астранамічнай абсерваторыі паціснуў плячыма і выціснуў вінаватую ўсмешку.

— Зараз — дзесяць хвілін на шостую, людзі хвалююцца!.. Панькоў, думаеш, лёгка было пераканаць прэзідэнта сабраць для праверкі на разумнасць Акадэмію навук? Ведаеш, колькі прыйшлося прыкласці намаганняў, каб пераканаць замежнікаў, што сустрэча з іншапланецянамі — не плод хворага ўяўлення? Уяўляеш, колькі каштуе забеспячэнне аховы?.. Я цябе ў барані рог скручу, калі ты дзесьці памыліўся!

Пад грозным позіркам губернатара кіраўнік астранамічнай абсерваторыі нервова праглынуў і запэўніў:

— Памылкі быць не можа — даныя правяраліся дзясяткі разоў!

— Тады чаму акрамя нас з табой, «яйкагаловых», міліцыі, замежных гасцей і іншай публікі нікога няма? Дзе «зялёныя чалавечкі»?

— Шэрыя.

— Адзін хрэн! — адмахнуўся губернатар. — Дзе іншапланецяне?

Кіраўнік астранамічнай абсерваторыі панурыўся.

— Панькоў, калі гэта нейкі жарт ці, не дай Бог, сабатаж, табе не паздаровіцца! Сядзеш надоўга, а як выйдзеш — не знойдзеш іншай працы, акрамя дворніка!

— Пасланне прыйшло з глыбінь космасу! За мільёны светлавых гадоў ад Зямлі!.. Яно санкцыянавана лідарамі іншапланетнай цывілізацыі!

— Тады па якой прычыне мы пятнаццаць хвілін як дурні глядзім у неба?.. Ты мне ўсе вушы прагудзеў сваім кантактам! І што? Прыляцелі, узялі нас у зорную супольнасць?

Кіраўнік астранамічнай абсерваторыі развёў рукамі.

— Маё цярпенне не вечнае, Панькоў! Я кінуў справы, сабраў людзей і для чаго? Каб стаць пасмешышчам у вачах усяго свету?.. Бачыў, колькі журналістаў і апаратараў прыпёрлася?

Кіраўнік астранамічнай абсерваторыі кіўнуў.

— Карацей так, Панькоў, калі праз пяць хвілін іншапланецяне не прыляцяць, рыхтуйся! Мала не падасца!.. І тваю дурную абсерваторыю разганю — хопіць карміць усялякіх дармаедаў!

— А як жа фундаментальная навука?

— Трэба падымаць вытворчасць!.. А то вывучылі вас на сваю галаву! — губернатар са злосцю сплюнуў.

— Канстанцін Фёдаравіч!.. Канстанцін Фёдаравіч!.. — расштурхаўшы міліцыянераў, да губернатара прарваўся адзін з дробных служачых.

— Што трэба? — нахмурыўся губернатар, які вельмі не любіў, калі яго перапынялі.

— Іншапланецян бачылі ў пяцідзесяці кіламетрах адсюль, ля вёскі Ракітава!

Кіраўнік астранамічнай абсерваторыі расквітнеў ва ўсмешцы. Губернатар паківаў кулаком перад яго носам і загадаў:

— Па машынах!

Людская маса прыйшла ў рух.

* * *

Картэж губернатара да Ракітава прыбыў першым, аднак іншапланецян не заспеў. Пра тое, што яны наведалі Зямлю, нагадваў толькі інверсійны след, які павольна раставаў у паветры.

— Не паспелі! — заплакаў кіраўнік астранамічнай абсерваторыі.

Губернатар пачырванеў і ад душы вылаяўся.

— Талент! — погляды прысутных звярнуліся на мужычка ў вушанцы, ватоўцы і парваных на каленях штанах, запраўленых у заляпаныя граззю кірзавыя боты. У руцэ селянін, які выйшаў з кустоў, трымаў напалову поўную бутэльку. Што за каламутная вадкасць яе напаўняла, здагадацца было няцяжка — ад мужычка за некалькі крокаў несла самагонкай.

— Паважаны, вы бачылі іх?

— Гэтак жа, як бачу цябе, чатырохвокі!

— Яны ў вас аб чым-небудзь пыталіся?

— Пра чалавецтва!

— І што вы ім сказалі? — кіраўнік астранамічнай абсерваторыі пахаладзеў ад непрыемных прадчуванняў.

— Усю праўду!

Кіраўнік астранамічнай абсерваторыі збялеў і схапіўся за сэрца, і губернатару прыйшлося падхапіць яго пад рукі. Міліцыянеры са спазненнем кінуліся на дапамогу.

— Яны паляцелі, але абяцалі вярнуцца!.. — мужычок зрабіў вялікі глыток і выцер вусны рукавом. Запаліўшы, дадаў: — Праз сто гадоў!

— Значыць, шанс яшчэ ёсць! — выдыхнуў кіраўнік астранамічнай абсерваторыі.

# Сіндром Кеслера

Пасланец добрай волі Асамблеі разумных светаў Айкумены адмірал Хартэсно стаяў на капітанскім мосціку, што нібы скала ўзвышаўся над рубкай кіравання «Ла-Гроа», і назіраў за падрыхтоўкай да гіперпрасторавага скачку. Унізе панавала дзелавая мітусня: важдаліся тэхнікі, адбівалі на клавіятурах барабанны дроб аператары, перагаворваліся каардынатары. Манітор перад Хартэсно дубляваў інфармацыю з галаўнога камп'ютара — пабудова контуру ішла па графіку.

Побач з адміралам стаяў другі намеснік — капітан трэцяга рангу Лаворгс, не толькі падначалены, але і блізкі сябар Хартэсно. Як і адмірал, ён уважліва сачыў за ходам працэсу.

— Хвалюецеся, сір?

— Так, капітан! — кіўнуў Хартэсно. — Не кожны дзень даводзіцца выступаць у ролі дыпламата!

— У Вас усё атрымаецца, сір! — запэўніў Лаворгс. У яго голасе не было і кроплі ліслівасці. Вайскоўцы заўсёды былі наперадзе.

— Спадзяюся! Інакш уся гэтая задума не мае сэнсу!

Погляд адмірала слізгануў па рубцы кіравання і спыніўся на дыску — меднай пазалочанай пласцінцы з запісам гукавых і відэасігналаў, якая была запакавана ў алюмініевы футарал. Дыск з фанаграфічнай капсулай і іголкай для прайгравання запісу апынуўся ў руках Пагранічнай варты Асамблеі выпадкова — аўтаматычны зонд «Ваяджэр-1», які за доўгія гады падарожжаў у касмічнай прасторы стаў грудай металалому, трапіў у зону кантролю супрацьметэарытных сканераў. У гэты час аператар тэставаў сістэмы, таму агонь на знішчэнне мог весціся толькі ў ручным рэжыме. Спецыяліст трапіўся зоркі — адрозніў штучнае стварэнне ад касмічнага цела. На футарале былі выгравіраваны схема, якая паказвала ўстаноўку іголкі на пласцінку, хуткасць яе прайгравання, а таксама спосаб пераўтварэння відэасігналаў у малюнак. Тэхніка была архаічнай, так што з пласцінкай прыйшлося павазіцца. Валтузня акупілася з лішкам — на дванаццаціцалевы дыск у закадаваным выглядзе была нанесена паслядоўнасць са ста шаснаццаці каляровых і чорна-белых малюнкаў: фота сонечнага спектру; выгляд геоіда з нізкай арбіты; атамы і атамныя схемы для паказу структуры і дзялення малекулы ДНК; фатаграфіі і анатамічныя схемы, якія паказвалі розныя стадыі міцатычнага дзялення клеткі, апладненне яйкаклеткі, развіццё эмбрыёна і нараджэнне; восем анатамічных схем; фатаграфіі пейзажаў і ландшафтаў, форм жыцця і істот, якія насялялі планету. На дыску былі запісаны гукі і музыка, не меўшыя патрэбы ў расшыфроўцы. На пласцінцы прысутнічалі адзінкі вымярэння асноўных фізічных велічынь, схема атама вадароду. Меліся кадры з выявай карэнных звестак аб сістэме, з якой прыйшло пасланне, малюнак схемы пабудовы хімічных элементаў, якія ляжалі ў аснове функцыянавання геоіда.

Планета называлася Зямля. Гэта і яшчэ шмат чаго іншага Асамблея даведалася пасля поўнай расшыфроўкі паслання. Адкрыццё новага свету, які засялялі разумныя істоты, прымусіў Савет Старэйшын сабрацца на пазачарговае паседжанне. На ім было вырашана пасляць у Сонечную сістэму дыпламатычную місію з мэтай далучэння зямлян да Асамблеі разумных светаў Айкумены. Адмірала выбралі пасланнікам добрай волі аднагалосна — адыграў сваю ролю бездакорны паслужны спіс Хартэсно і яго маральна-дзелавыя якасці: аператыўнасць прыняцця рашэнняў у экстраных сітуацыях і ўменне знайсці агульную мову з любой разумнай істотай.

У адмірала не ўзнікла думкі аб адмове — пастанова Савета Старэйшын была абавязковай для выканання. Да таго ж місія азначала высокі гонар. Падрыхтоўка да падарожжа за сто пяцьдзясят тысяч светлавых гадоў доўжылася нядоўга: не прайшло і года, як зоркалёт адправіўся да Зямлі.

— Заўсёды трэба спадзявацца на лепшае, сір! — падбадзёрыў Лаворгс.

— І рыхтавацца да горшага! — адказаў Хартэсно, адрываючыся ад Дыска з тым , каб паглядзець на манітор. — Тое, што «Ла-Гроа» засталося ўсяго шэсць з паловай светлавых гадоў, зусім не азначае, што можна расслабіцца!

— Вы, безумоўна, маеце рацыю, сір! Дазвольце вярнуць эскорт?

— Ні ў якім разе! Узброенымі з прапановамі аб сяброўстве не прыходзяць! Хай чакаюць вяртання місіі! Не хапала толькі, каб зямляне прынялі ахову за флот уварвання!

Капітан трэцяга рангу паважна схіліў галаву.

У маўчанні прайшло некалькі хвілін.

— А вось цікава — якія яны, зямляне? — нечакана спытаў Хартэсно.

— Калі зыходзіць з дадзеных, атрыманых пры расшыфроўцы Дыска, людзі мала чым адрозніваюцца ад нас, сір!

— Гэта вонкава! Унутраныя адрозненні могуць быць палярнымі!

— Сір, ёсць толькі адзіны спосаб гэта праверыць — уступіць з чалавецтвам у Кантакт!

Адмірал кіўнуў. На маніторы з'явілася інфармацыя аб гатоўнасці контуру. Услед за ёй у адсеках зоркалёта загучаў сігнал абвесткі. Члены экіпажа пачалі займаць месцы ў кампенсацыйных крэслах.

— Сір! — нагадаў капітан трэцяга рангу, бачачы, што Хартэсно не спяшаецца сыходзіць з мосціка. Адмірал хацеў пераканацца ў тым , што ўсё ідзе як мае быць.

— Іду, Лаворгс!

Мужчыны спусціліся і селі ў крэслы, пасля чаго прышпіліліся. Корпус «Ла-Гроа» завібрыраваў — гіперпрывод пачаў разганяцца. Праз некалькі імгненняў у вушах зазвінела — гудзенне скачковай устаноўкі змяніла танальнасць.

Хартэсно і Лаворгс надзелі кіслародныя маскі. Як толькі мужчыны выканалі перадстартавыя працэдуры, абодва крэслы патанулі ў сілавых коканах, затым у сферы лінуў амартызацыйны газ. Сірэна змоўкла. Прыемны жаночы голас

па гучнагаварыцелю стаў весці адваротны адлік. Як толькі запіс дайшоў да нуля, зоркалёт пачаў імкліва набіраць хуткасць.

«Ла-Гроа» дасягнуў гіпермяжы праз дваццаць пяць секунд. Пераход быў падобны на падзенне ў бяздонную прорву — за лічаныя секунды перагрузка ўзрасла да дванаццаці g. Неадольная сіла ўціснула адмірала і капітана трэцяга рангу ў кампенсацыйныя крэслы, пазбаўляючы магчымасці паварушыцца. На шчасце, жахлівае паскарэнне ніколі не працягвалася доўга.

За дзесяць мільёнаў кіламетраў ад выхаду з гіперпрасторавага калідора ўключыліся тармазныя сістэмы, затым ціск на зняволены ў сферы экіпаж пачаў слабець. Зоркалёт выйшаў з гіперпрасторы ў трох мільёнах кіламетрах ад Зямлі і скінуў хуткасць да дасветлавой — Асамблея разумных светаў Айкумены давала зямлянам час на тое, каб падрыхтавацца да сустрэчы.

Як толькі сілавы кокан адключыўся, адмірал расшпіліў рамяні, сцягнуў маску і выбраўся з крэсла, імкнучыся суняць усхваляванае сэрца. Але даць рады ўсхваляванасці было не проста — на Хартэсно ціснуў цяжар адказнасці перад Саветам Старэйшын і ўсведамленне важнасці ўключэння новай расы ў Асамблею.

Гул і вібрацыя зніклі. Прайшоўшы дзвесце тысяч кіламетраў, «Ла-Гроа» нарэшце спыніўся.

Высілкам волі адмірал суняў трапятанне і падняўся на капітанскі мосцік, разважаючы пра тое, якія вышыні пакарыла чалавецтва з моманту старту «Ваяджэра-1». Мінула амаль пяць тысяч гадоў. Уяўленне малявала яркія карціны.

Следам за Хартэсно падняўся Лаворгс. Другі намеснік захоўваў маўчанне, не адважваючыся парушаць урачыстасць моманту.

Адмірал начапіў навушнікі з мікрафонам і запатрабаваў:

— Дыспетчар, агульны выгляд Сонечнай сістэмы!

— Ёсць, сір! — адгукнуўся нябачны суразмоўца, і на маніторы з'явіўся аб'ёмны малюнак — восем планет рознага памеру вакол жоўтага карліка, мноства ледзяных каметападобных аб'ектаў з вялікай паўвоссю, пояс астэроідаў, каласальная вобласць рэліктаў часоў узнікнення Сонечнай сістэмы, сферычнае воблака ледзяных груд.

— Павялічыць малюнак! — загадаў адмірал. — Мяжа — арбіта самага далёкага ад Бетэльгейзе газавага гіганта!

Малюнак змяніўся — аб'екты выраслі ў памерах.

— Нічога не разумею, — задуменна вымавіў капітан трэцяга рангу, — а дзе ж сляды астраінжынернай дзейнасці?

Хартэсно нахмурыўся, аднак спяшацца з высновамі не стаў. Адмірал запатрабаваў:

— Зум! Мяжа — пояс астэроідаў!

Каардынатар ізноў павялічыў карцінку. Планеты выраслі ў памерах яшчэ больш, сталі добра адрозныя малыя целы.

І зноў нічога, што магло б сведчыць на карысць асваення касмічнай прасторы.

— Сір? — другі намеснік перавёў на Хартэсно здзіўлены погляд.

Адмірал не адказаў, хоць быў уражаны пустэчай не менш за Лаворгса. Пяць тысяч гадоў для цывілізацыі, якая выйшла ў космас, — гэта шмат. Вельмі шмат...

— Зямлю — буйным планам ! — запатрабаваў Хартэсно.

Да здзіўлення адмірала і капітана трэцяга рангу, штучных аб'ектаў вакол планеты не назіралася. Сама яна была не бела-блакітнай, а шэрай з чорным адценнем.

Некалькі імгненняў мужчыны моўчкі разглядалі Зямлю, а затым Хартэсно сказаў у мікрафон, кінуўшы мімалётны погляд на пазалочаную пласцінку:

— Дыспетчар, параўнаць каардынаты выхаду з гіперпрасторавага калідора і дадзеныя з Дыска!

— Ёсць, сір!

Пацяклі хвіліны чакання. Адмірал разглядаў планету, песцячы надзею на тое, што штучны інтэлект «Ла-Гроа» памыліўся, і зоркалёт выйшаў з гіперпрасторы ў іншым месцы.

Пустата калязямной прасторы палохала — было ў ёй нешта няправільнае.

— Каардынаты супадаюць! — нарэшце паведаміў дыспетчар.

Сэрца Хартэсно ёкнула. Адмірал сціснуў кулакі і загадаў:

— Прыступіць да дыстанцыйнага сканавання!

Пакуль спецыялісты займаліся праверкай калязямной прасторы, Хартэсно спрабаваў асэнсаваць адсутнасць усякай пазаземнай актыўнасці. Для цывілізацыі, якая абмінула стадыю самагубнага ядзернага вар'яцтва, пустата бліжэйшага космасу не была характэрнай.

«Тады чаму нічога няма?»...

Адмірал перабіраў варыянты і адкідваў іх адзін за другім. Знаёмства з гісторыяй Айкумены дазваляла яму рабіць абгрунтаваныя высновы.

Нешта не давала пасланцу добрай волі спакою, але што? Разабрацца ён ніяк не мог.

«Вайна? Уварванне?.. А дзе тады сляды баявых дзеянняў?»

Хартэсно ўважліва сачыў за вынікамі сканавання, усё больш здзіўлены пустэчай. Разведка адказу не дала.

— Сір, дазволіце выкарыстаць зонды? — звярнуўся да адмірала другі намеснік.

Навукова-даследчыя апараты дазвалялі «разглядзець» любую планету на глыбіню ў тысячу кіламетраў.

— Толькі акуратна! Не хачу, каб зямляне вырашылі, што мы спрабуем разведаць іх абарону!

— Зразумела, сір! Усё будзе зроблена ў лепшым выглядзе! — запэўніў Лаворгс і аддаў у мікрафон загад пачаць разведку.

«Ла-Гроа» «выплюнуў» тры зонды. Бліскучыя металічныя кроплі накіраваліся да планеты. Па меры скарачэння адлегласці паміж зоркалётам і Зямлёй хваляванне адмірала ўзмацнялася.

Навукова-даследчыя апараты замерлі ў ста тысячах кіламетраў ад арбіты планеты і пачалі перадаваць першыя дадзеныя.

— Гэта смецце, сір! — уразіўся капітан трэцяга рангу.

— Бачу, Лаворгс! — кіўнуў Хартэсно і ў рэшце рэшт зразумеў, што выклікала ў яго неспакой, — тэхнагенныя аб'екты, якія ўтваралі тоўстую скарынку.

— Агульная маса — шэсцьсот мільёнаў тон! — жахнуўся другі намеснік. — І цэлых тры слаі: дваццаці, адзінаццаці і васьмі кіламетраў таўшчынёй адпаведна. Гэта не лічачы мноства фрагментаў рознай масы... Жах!

Першы слой смецця размяшчаўся ў трыццаці шасці тысячах кіламетраў ад Зямлі, другі — у дзвюх тысячах, трэці — у чатырохстах кіламетрах ад паверхні. Няма чаго было і думаць пра тое, каб прабіцца скрозь іх да планеты. Разлікі штучнага інтэлекта паказвалі, што «Ла-Гроа» пратараніць усе тры слаі не зможа, а магутнасці супрацьастэроідных гармат на прабіванне дзіркі дастатковай для праходу зоркалёта памеру не хопіць.

На капітанскім мосціку павісла напружаная цішыня.

Прайшло не менш за вечнасць, перш чым адмірал сказаў:

— Лаворгс, няхай зонды праверацць наяўнасць разумнага жыцця на планеце!

— Ёсць, сір! — адгукнуўся капітан трэцяга рангу і аддаў новы загад. Адказ прыйшоў праз некалькі хвілін: разумнае жыццё на Зямлі прысутнічала, але радавацца гэтай акалічнасці не даводзілася, бо чалавецтва вярнулася ў сярэднявечча. — Хто мог падумаць, што людскую цывілізацыю пераможа звычайнае смецце!..

Адмірал быў расчараваны — надзеі Асамблеі не апраўдаліся. Праляцець сто пяцьдзясят тысяч светлавых гадоў і нічога не знайсці...

Прысутнічала у гэтым злая іронія Універсума.

— Вяртаемся! — з цяжкім сэрцам загадаў Хартэсно.

— Так, сір! — не стаў пярэчыць Лаворгс. Капітан трэцяга рангу выдатна разумеў, што кандыдаты на ўступленне ў Асамблею разумных светаў Айкумены павінны яшчэ дарасці да Кантакту.

Самі, без старонняй дапамогі.

— Дыск з пасланнем пакінем на Месяцы. Няхай ён стане напамінам для будучых пакаленняў зямлян аб былой веліччы чалавецтва!

— Думаеце, яны зноў змогуць вярнуцца да зорак, сір?

— Хочацца на гэта спадзявацца!..

# Сёння ў продажы

Меладычны перазвон званочка вывеў Даўкурда Маліка з задуменнасці. Стары адарваўся ад «Ecce Homo» і сказаў:

— Добры вечар! Слухаю!

— Мне тэрмінова патрэбны грошы! — сказаў хлопец.

Даўкурд Малік зразумела кіўнуў.

— Вы прыйшлі па адрасе! Мой ламбард гатовы даць вам кароткатэрміновую пазыку пад два з паловай працэнты ў дзень на дзесяць, дваццаць і трыццаць дзён!

— Давайце на дваццаць, — нядоўга думаючы, папрасіў наведвальнік, — заробак дадуць у канцы месяца!

Стары адсунуў томік Ніцшэ і выцягнуў з шуфляды бланк дамовы.

— Якую суму вы хацелі б атрымаць?

— Я хачу купіць сабе новы айфон!

— Паказвайце, што прынеслі!

Наведвальнік паставіў сумку на стол і пачаў даставаць з яе кнігі.

— Колькі вы дасце за гэта?

Кнігі былі ні разу нечытанымі, са злепленымі старонкамі. Усё — сусветная класіка.

— На новы айфон вам не хопіць! На жаль, кнігі цяпер не карыстаюцца асаблівым попытам...

На твары наведвальніка адбілася прыкрасць. Па вачах было відаць, што хлопец ліхаманкава шукае выхад.

Даўкурд Малік чакальна маўчаў.

— Сумленне возьмеце?

— А як жа вы без яго?

— Жыў раней, пражыву і зараз!.. Бераце?

— Калі вам няма чаго больш прапанаваць... — стары, запоўніўшы бланк, даў наведвальніку на подпіс, пасля чаго забраў кнігі і сумленне. — Вось вашы грошы! Тут хопіць не толькі на айфон!

Наведвальнік зграб грошы і паспяшаўся да выхаду, нават забыўшыся падзякаваць.

— Вы павінны вярнуць пазыку праз дваццаць дзён! — крыкнуў наўздагон стары, аднак адказам Даўкурду Маліку быў толькі жаласны звон званочка на ўваходных дзвярах.

Стары прыбраў кнігі ў шафу, паглядзеў на сумленне і прыгнечана паківаў галавой — не вернецца.

Буйна напісаўшы маркерам на вялікім аркушы «Сёння ў продажы — сумленне», Даўкурд Малік прымацаваў яго ліпкай стужкай да вітрыны.

— Можа, хто і купіць!



# Ірына Хадарэнка

паэтка, празаік, навукоўца. Кандыдат культуралогіі, стыпендыятка праграмы Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы «Gaude Polonia» (2010), выпускніца Усходне-Еўрапейскай школы палітычных даследаванняў пры Радзе Еўропы (2010). Аўтар зборнікаў паэзіі і прозы: «Лабірынты душы», «Чорная ружа», «Танцы на шкле», дзвюх манаграфій і шматлікіх навуковых артыкулаў.
Нарадзілася ў 1976 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Хохлік, пачварык і чароўны ліхтарык

Далёка-далёка за ўзгоркамі, у атачэнні глухіх балот, стаяла прыгожая пушча. Жылі ў ёй розныя птушкі і звяры, а таксама істоты дзівосныя, да іншых не падобныя. Стагоддзямі ніхто не парушаў спакой тубыльцаў, пакуль аднойчы не з'явілася тут набрыдзь нахабная. Наляцела яна аднекуль знянацку, наламала галля, расцерушыла некалькі гнёздаў, пасцінала суквецці з раслін ды гэтак жа раптоўна знікла ў невядомым напрамку. І пачалі з таго часу ў пушчы хварэць дрэвы, перасталі спяваць птушкі, наваколле агарнулася ў суцэльнае сутонне, а ў сэрцах жыхароў пасяліўся страх.

І цягнулася так дванаццаць месяцаў і яшчэ дванаццаць дзён, да таго моманту, пакуль адным самотным ранкам пад разгалістым карчом ля імклівай ручаіны не здарылася нешта незвычайнае. З вялікага шэрага яйка вылупілася дзіўная істота залаціста-смарагдавага колеру з хітраватымі вачыма, вострымі зубкамі, жвавымі лапкамі і рабрыстым хвастом.

Двое баброў-родзічаў, што сноўдаліся паблізу, заўважылі гэта і здзіўлена пераглянуліся.

— А хто ж гэта такі? Што за неверагоднае стварэнне? — прамармытаў адзін.

— Не ведаю. З выгляду — нейкі пачварык, — прашамкаў другі.

Між тым, загадкавы няўрымста, адкінуўшы ўбок рэшткі шкарлупіны, з задавальненнем плёхкаўся ў ручаіне.

— І сапраўды, пачварык. Глядзі, каб ён нашу хатку не зруйнаваў... А можа... можа, яго тая навала прынесла? — схалануўся ад раптоўнай здагадкі маладзейшы бабёр.

— Наўрад ці. Хутчэй за ўсё ён са старажытнага роду яшчураў. Мая бабуля бачыла такіх рэліктаў у нашай пушчы, — разважліва прамовіў бабёр старэйшы.

Абсалютна не зважаючы на тое, як бабры точаць лясы, ды ігнаруючы іхнія трывожныя позіркі ў свой бок, стварэнне вылезла на беражок і пачало са смакам нешта ўсмоктваць, бесклапотна вільгаючы хвастом.

— Бач ты, які смелы! Толькі вылупіўся, а ўжо пачувае сябе, як тутэйшы гаспадар! — зайздросна адзначыў бабёр-юнак.

— Мабыць, такі нам і патрэбны, каб выратаваць пушчу ад занядбання, — задуменна ўздыхнуў стары бабёр.

Тым часам зялёныя лапкі ўжо накіроўваліся па сцяжынцы праз лясны абшар, а пільныя вочкі з цікавасцю свідравалі наваколле. Краявід патыхаў засмужанасцю: лістота блыталася ў павуцінні, злунелая трава хілілася да долу, а ў ройстах блукала беспрытульнае рэха.

Зрэагаваўшы на стракатыя пералівы крыльцаў страказы, што прысела на стары пень, стварэнне пацягнулася лапкамі да яе і незнарок наступіла на шматок поўсці.

— Ой-ёй, — пачуўся нечаканы віск, і калматы клубочак выкаціўся на сцяжынку, умомант ператварыўшыся ў сімпатычнага шарага пухнаціка з вялікімі, падобнымі да медных гузікаў, вачыма. Ён насцярожана зірнуў на гламаздаватую істоту, што спрычынілася да ягонай турботы, і сцішана вымавіў: «Ты хто?»

— Пачварык, — лагодна засведчыла стварэнне, адначасова глэмаючы доўгую зжаўцелую сцяблінку і набліжаючыся да суразмоўцы.

— Э-э, не падыходзь так блізка. Я цябе баюся.

— Чаму гэта?

— Усе ў нас усяго баяцца. Вось і я баюся. Бо раптам штосьці...

— Спакуха! Я больш не буду на цябе наступаць. Калі хочаш — наступі ў адказ мне на лапу.

— Ай, не, навошта. Нейкі ты дзіўны. Вось я — Хохлік, мясцовы гном. А ты адкуль узяўся? Тры гады жыву, а такіх, як ты, яшчэ не бачыў.

— Тутэйшы я. З-пад ракітавай ручаіны. А навошта ўсім чагосьці баяцца?

— Бо мяркуецца, што злая набрыдзь зноў вернецца і вялікую шкоду прынясе. Бачыш, якая ў нас пушча зараз — нібы ў зачараваным сне. А раней так весела і хораша было!..

— Дык што ж вы нічога не робіце? — Пачварык ахвотна схапіўся за новую сцяблінку.

— Мы неяк... прызвычаіліся патроху, — са скрухай вымавіў Хохлік. — Ніхто не хоча варушыцца, каб раптам горш не стала. Усе сядзяць па сваіх норах і маўчаць. Таму нават сонейка перастала на нашу пушчу звяртаць увагу.

— А хто ў пушчы самы старэйшы і разумнейшы? Чаму нічога не робіць?

— Напэўна, гэта Сава, сівая галава. Але яна спіць больш за год у сваім дупле. І як яе абудзіць — ніхто не ведае.

Назбіраўшы поўныя лапкі жалудоў, Пачварык строга паглядзеў на новага прыяцеля і загадаў:

— Ну ўсё, хопіць енчыць. Хадзем, пакажаш, дзе тая Сава жыве.

Нечакана для сябе, адкінуўшы прэч сумнеў і баязлівасць, Хохлік моўчкі кіўнуў у адказ, і яны разам пакрочылі праз пушчу да вялікай паляны. На той паляне расла старая ліпа з тоўстымі галінамі і велізарным дуплом. Раней паляна з ліпай з'яўлялася месцам усеагульных сходаў пушчанскіх жыхароў, а цяперака Хохлік з Пачварыкам аказаліся адзінымі наведвальнікамі месца былой талакі.

— Вось і прыйшлі, — спыніўся ля дрэва Хохлік. — Сава спіць у глыбіні ліпавага дупла.

Звонку анічога, апроч цемры, у гэтай чорнай дзірцы, не праглядалася. Крыху пастаяўшы ў разгубленасці пасярод паляны, Пачварык хмыкнуў:

— Хто не спіць — той есць. Прапаную падсілкавацца. Сырыя жалуды не надта смачныя. Трэба іх падсмажыць. Будзьма ладзіць вогнішча.

— Але здабыванне агню тут не прасцейшае за абуджэнне Савы. Усё галлё сапрэла-адсырэлае, — скептычна запярэчыў Хохлік.

— Табе толькі так падаецца. Зараз я вырыю ямку, а ты цягні сюды галінкі і пажоўклыя хваінкі, — загадаў Пачварык.

Калі на палянцы з хмызняковых парэшткаў утварылася падабенства пірамідкі, Пачварык гучна хукнуў на яго і маленькія язычкі полымя пачалі скакаць па драўляным стаўбуне.

— Ух ты! — зачаравана прамовіў Хохлік. — Як гэта табе ўдалося?

— Спадчынны дар, — усміхнуўся хвастаты сябрук. — Магу запальваць касцёр адным подыхам! А зараз дай сюды, калі ласка, вунь тую хваіну...

— Гэта ядловец. Ад яго дым будзе гаркаваты.

— Няхай сабе! Затое вогнішча будзе дыхтоўнае і жалуды атрымаюцца з водарам.

Прамінула некалькі гадзін, у вечаровай млосці сытых і абагрэтых падарожнікаў пачало няўмольна хіліць да сну. Але раптам аднекуль зверху даляцеў перарывістай хваляй глухаваты гук: «Уху-ху-уух!». Здрыгануўшыся ад такой неспадзяванкі, Хохлік узрадавана прашаптаў: «Гэта Сава! Яна прачнулася!».

У ліпавым дупле прыязна паблісквалі савіныя вочы. «Ядловец — гэта ухухух! Пах маёй маладосці!» — узнёсла прашапацела птушка.

— Ах, шаноўная Сава! Дапамажы нам адрадзіць пушчу! Бо пакуль ты спала, усё прыйшло ў такое занядбанне, — роспачна заклікаў яе Хохлік.

— Охо-хох! Толькі вы самі зможаце ўратаваць свой дом ад запусцення, — адказала Сава.

— Але як? Без тваёй падказкі, наймудрэйшая, нам не абысціся, — далучыўся да размовы Пачварык.

— Я ведаю, хто дапаможа вам знайсці паратунак. Але спярша вы мусіце адгадаць загадку:

«Спіць на дрэве, хоць не птах.
Ноччу ходзіць па лясах,
Там палюе і балюе.
Пэндзлі ёсць, ды не малюе».

Хохлік з Пачварыкам разгублена пазіралі адзін на аднаго. «Спіць на дрэве... Жыве ў лесе... І пэндзлі мае. Хто б гэта мог быць?»

— Ты старэйшы, — прамовіў Пачварык. Па пушчы шпацыраваў, шмат каго дзе бачыў. Думай!

— А можа, гэта... Рысь! — Хохлік узарадавана пракрычаў сваю здагадку ўслых.

— Угу, правільна, — задаволена крутанула галавой Сава. — Як розум ёсць, дык будзе ўсё ў парадку. Так, менавіта Рысь правядзе вас праз імшару да прошчы, дзе жыве супольнасць светлякоў. Іх род захоўвае чароўны ліхтарык, які ажыўляе наваколле. Але самі светлякі могуць толькі падтрымліваць святло ў ліхтарыку. Калі ж яно згасае, як і ў выпадку, які адбыўся пасля нашэсця, дык узнавіць святло нанова

самастойна яны не ў стане. Больш за тое — запальваць ліхтарык трэба акурат пасярод ночы, калі ззяе поўнік, а неба не зацягнута хмарамі. Дакладнасць і адказнасць, кемлівасць і смеласць — вось найважнейшыя рэчы ў гэтай справе.

— Усё зразумела, — упэўнена прыцмокнуў Пачварык. — Апроч аднаго: як нам знайсці Рысь?

— О-хо-хо, што можа быць прасцей! Бачыце тую вузкую сцежку, якая пачынаецца паміж двух кустоў арэшніку? Трэба ісці строга па ёй і нікуды не збочваць, тады патрапіце наўпрост у патрэбнае месца. Рысь жыве на ўскрайку пушчы, у густым гушчары ля высокай сасны. Там неабходна двойчы свіснуць у кожны з чатырох супрацьлеглых бакоў, тады яна сама прыйдзе да вас. Але памятайце — Рысь любіць хітрыць і лайдачыць, таму скажыце ёй, што гэта даручэнне непасрэдна ад мяне.

— Дзякуй табе, Сава! Не засынай больш гэтак надоўга! — наперабой загудзелі сябрукі.

— Угу-угу. Цяперака пакуль пушча канчаткова не абудзіцца, я ўвогуле спаць не буду! — і вялікія жоўтыя вочы пагрозліва бліскanулі ў глыбіні дупла.

А Хохлік і Пачварык таропка пакрочылі па згаданай Савой сцежцы. Спакваля адвячорак саступіў месца ночы, маўклівая цемра ўсё больш гусцела і зацягвала, як небяспечны вір у рацэ. Хохлік міжволі пачаў уздрыгваць і ўсхліпваць, але хады не спыняў, ледзь-ледзь паспяваючы за Пачварыкам, які без ваганняў рушыў наперад. Зрэшты, заўважыўшы напалоханы стан прыяцеля, ён прыпыніўся з абвесткай: «Перапынак на вячэру!» і пачаў вылушчваць прыхаваныя пад лістотай сакавітыя карэньчыкі.

— Ну чаго ты дрыжыш? На, падсілкуйся! — працягнуў ён Хохліку кавалак смакаты.

— Дрыжу, бо страшна, — прамовіў Хохлік.

— Не разумею. Якая карысць з таго страху? Вось з карэнняў ёсць карысць, яны надаюць моцы! А страх жа нам ніколі нічога не дае, толькі забірае.

— Эх, я спрабую не баяцца. Але гэта няпроста. Страх — ён, як вірус, разумееш? Адзін падчапіў яго, і дзясятак за ім следам.

— Значыць, ад гэтай хваробы трэба пазбаўляцца як мага хутчэй! Глядзі, а мы амаль прыйшлі — вунь наперадзе ўжо бачная прагаліна з высокай сасной, — апетытна пахрумкваючы, падсумаваў Пачварык.

Пасля восьмага пасвістання дрэвы марудна заварушыліся і ля сцежкі нячутна з'явілася таямнічая постаць з вусамі, якая санліва мяўкнула: «Хто і чаму прыйшоў у мае ўладанні без запрашэння?»

— Прывітанне табе, пані Рысю, ад Савы, — адвесіў лёгкі паклон Хохлік. — Яна сказала, толькі ты зможаш дапамагчы нам патрапіць да светлякоў.

— Мрр, я, канешне, магу, але навошта вам тыя светлякі? — Рысь падазрона разглядала незнаёмцаў.

— Мы шукаем чароўны ліхтарык, каб адрадзіць пушчу! — горда заявіў Пачварык.

— Вурр, якія наіўныя фантазёры! І чаго вам бракуе? Я вось шмат дзе бываю — у іншых пушчах яшчэ горш жывуць!..

— Рысю, не загаворвай нам зубы, лепш адразу адкажы — будзеш нам спрыяць ці не? Мы ўжо такі доўгі шлях прайшлі, — ледзь не плакаў ад роспачы Хохлік.

— Добрра, правяду вас. А то мне потым Сава жыцця не дасць, паляванне сапсуе. Толькі варта паспяшацца — пасля апоўначы ў імшары ўзнімаецца ўзровень вады і да светляковай прошчы не падбярэшся. Сядайце мне на спіну — так будзе шпарчэй!

І яны паляцелі, нячутна падскокваючы на мяккіх рысіных лапах, — наўздагон за святлом зорак і насустрач сябрыне светлякоў, праз шчыліны ў спляценні густых галін, над аброслымі мохам купінамі і багністым нерушам. Урэшце, на паляне побач з маладым ельнічкам Рысь спынілася:

— Усё, далей самастойна! Бо мне яшчэ назад трэба паспець. Чакайце тут, светлякі зараз з'явяцца. Вунь, ужо мільгацяць у паветры.

І сапраўды, да ельнічка з усіх бакоў набліжаліся маленькія яскравыя агеньчыкі, якіх станавілася ўсё больш і больш.

«Шанцунку!» — прамурчэла Рысь і бязгучна знікла ў начной прасторы.

Хохлік і Пачварык, не згаворваючыся, узнялі позіркі ў неба. Там не было ніводнага воблачка. Зоркі ўвышыні, здавалася, перамігваліся з рухомымі зоркамі на зямлі — светлякамі. Яны кружлялі вакол і ўтваралі ціхі рытмічны спеў, ад якога ў душы станавілася светла і прыемна. Некуды спакваля знікалі рэшткі былога страху, а замест яго з'яўлялася жаданне танчыць і агарнуць у абдымках цэлы сусвет.

Паглыбленыя ў свае летуценні, юныя вандроўнікі зачаравана назіралі, як карагод сотняў светлякоў утварае велічэзную гірлянду, што ўпрыгожыла ельнічак. І тут Хохлік заўважыў, што на галінцы адной з ялінак трымціць нейкая адмысловая рэч. «Глядзі, гэта той самы чароўны ліхтарык!» — штурхануў ён пад бок Пачварыка. Той адразу ж падышоў да дрэўца, па-свойску зняў ліхтарык і працёр у ім шкельцы.

«Мы не можам запаліць яго» — пачуўся шэпт мноства святлякоў. «Усё прасцей, чым падаецца», — хіхікнуў Пачварык і, крыху адсунуўшы адно са шкельцаў, хукнуў на ліхтарны кнот. Яго зачапіла іскра і маленькі агеньчык затанчыў унутры. «Гэта цуд! Ліхтарык зноў гарыць! І цяпер мы ніколі не дамо яму згаснуць», — на радасцях светлякі выпісвалі ў паветры неймаверныя фігуры, а пасмялелы Хохлік весела коўзаўся па траве.

— Урэшце наша пушча абудзіцца. Ты выратаваў нас! І я больш нічога не баюся, — удзячна сказаў ён Пачварыку.

— Гэта не я, а ўсе мы разам, — удакладніў яго смелы прыяцель. — Без цябе я не патрапіў бы сюды. І без дапамогі Савы, Рысі і светлякоў мы не здолелі б гэта зрабіць.

— Так, насамрэч. Разам заўсёды прасцей перамагаць страх і адольваць бяду! — і Хохлік, схапіўшы Пачварыка за лапку, далучыў яго да бліскучага сяброўскага карагоду са светлякамі.



# Пэтэр Мілчак

**паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар паэтычных зборнікаў: «Вупраж перад зімой» (1989), «Падрыхтоўчая лінія 57 / Preparation Line 57» (2005), «Брум» (2013); літаратуразнаўчых прац «Персанаж і яго функцыі ў казачным тэксце» (2006), «Як чытаецца верш: 27 аўтарскіх інтэрпрэтацый» (2014, у суаўтарстве). Нарадзіўся ў 1966 годзе ў Левачы (Славакія). Жыве ў Мінску і Левачы.**

# Калі дзьме вецер...

## Усё, што ёсць у Віктара

У Віктара ёсць чорны балёнік. Караль ужо бачыў балёнікі чырвоныя, жоўтыя і сінія, але чорнага — яшчэ ніколі.

Віктар кажа, што гэта не балёнік, а душа ягонага дзядзькі Фларыяна. Фларыян заўсёды баяўся памерці ўдзень. Ён жадаў памерці ўначы. Уначы ягонай чорнай душы ніхто б не пабачыў.

Але Фларыян памёр удзень. Свяціла сонца і не было ветру. Як толькі Фларыянава душа пачала ўздымацца, Віктар прывязаў да яе вяроўку.

Цяпер ён паўсюль носіць Фларыянаву душу з сабой. Нават у школу, у цэлафанавым пакеце, каб яна не кідалася ў вочы настаўнікам.

У Віктара ёсць чорны балёнік, але з дзвюма душамі Віктару не жывецца лёгка.

## Караль, Віктар і цукерка

Шакаладная цукерка — гэта не плітка шакаладу. Плітку шакаладу можна разламаць напалам, потым зноў напалам, а пасля яшчэ раз напалам.

Але цукерка блішчыць цёмным бляскам і ўздымаецца над паверхняй стала. Уверсе, на самай вярхушцы, яна падобная да застылай віхуры.

Цукерку можна толькі раскусіць і назіраць, як тое, што ўнутры яе , паціху выцякае праз край.

Або можна пакласці цэлую цукерку на язык і заплюшчыць вочы. Або, як гэта зрабілі цяпер Караль і Віктар, можна пакінуць яе на стале.

І добра, што яны так зрабілі.

Бо тое, што ўнутры цукеркі, было салодкім, але ж затое бязмежным і ўсеабдымным, і потым ужо нішто не было б такім, як раней.

Бо ёсць свет без цукеркі.

І ёсць свет з цукеркай.

## Віктар, Караль і вясна

З таго часу, як Караль пабачыў індзейскага следапыта, які прыкладваў вуха да зямлі, яму хацелася зрабіць тое самае.

Асабліва пры канцы зімы: мажліва, ён пачуў бы тады першае непрыкметнае шапаценне або які аддалены павеў.

Бо яшчэ ніхто ніколі не бачыў прыходу вясны.

Можа, таму, што яна набліжаецца пад зямлёй.

Пакуль Караль засяроджваецца і, прыжмурыўшы вочы, прытульвае вуха да зямлі, каб ад яго не схаваўся нават найменшы шоргат, Віктар стаіць на ўзгорку, ягоны твар звернуты да паўночных лясоў.

У яго ёсць нясмелае прадчуванне.

Вясна заўсёды можа з'явіцца толькі як супольная думка ўсяго змярцвелага, што пазней у яе прысутнасці будзе радасна варушыцца і разрастацца.

## Хто, Віктар і зялёны капялюш

Караль — гэта Караль, а Віктар — гэта Віктар, але толькі да таго часу, пакуль Віктар не надзене на галаву зялёны капялюш. Тады ён цалкам прыпадабняецца да Снусмумрыка. Калі б ён таксама сядзеў на краі моста, боўтаў нагамі і граў на губным гармоніку песеньку «Кожны маленькі звярок мае на хвосціку банцік», то іх цяжка было б адрозніць.

У Марылі доўгія завітыя валасы, але калі яна іх завязвае ўверх, то робіцца вельмі падобнай да малой Мрнкі. Тады яна можа размаўляць з Віктарам, які ў той момант ёсць Снусмумрыкам, і гаварыць сваёй загадкавай мовай, у якой замест «шакаладка» трэба казаць «кашалатка».

Калі Віктар надзявае Марылі на галаву свой зялёны капялюш, яна перастае быць малой Мрнкай, гэтак жа як і Віктар перастае быць Снусмумрыкам.

Капелюшу падабаецца быць на галовах. Толькі ён заўжды дакладна ведае, хто ёсць хто.

## Што задумваюць Віктар і Караль

Безгаловы мужчына вядзе мядзведзя на ланцугу. Уласна, гэта яшчэ не безгаловы мужчына.

Віктар і Караль вызваляць мядзведзя з ланцуга ўжо гэтай ноччу.

## Караль, Віктар і пясочны гадзіннік

У хвіліны, калі Віктар бываў шчаслівым, ён сядаў у высокую траву і назіраў за сваім статкам лугавых конікаў — як той рыхтуецца і адным скокам перасоўваецца да вучэбнай непрыяцельскай зоны.

Аднак мурашак, якія на гэтым жа лузе без адпачынку працуюць, як пясчынкі ў пясочным гадзінніку, шчасце не цікавіць.

Віктар ужо даўно не паказваўся, чмель з дэпешай пра татальную асаду не прылятае, і таму спрыт, рашучасць і вернасць яго таемнай арміі выпараюцца.

Аднак мурашак няшчасце не цікавіць. Яны цалкам задаволеныя тым, што ведаюць дакладна, колькі пясчынак патрэбна яшчэ.

І нават Караль не ведае, што да гэтага можна дадаць.

## Віктар, Караль і канец свету

Караль кажа, што канец свету пачаўся ў той момант, калі свет узнік. Віктар кажа, што канец свету пачаўся толькі тады, калі Ёнаш знайшоў малое птушанятка. Пэўна, яно выпала з гнязда высачэзнага дрэва.

У Ёнаша добрае сэрца, і ён вырашыў паклапаціцца пра птушаня, пакуль яно не адляціць на ўласных крылах.

Спярша ён карміў яго дажджавымі чарвякамі, потым хрушчамі, а калі птушаня заблукала на падворак, то праглынула там цэлую курыцу. Потым яно пажывілася каровай, а ў садзе ў яго дзюбе знікла цэлае чарэшневае дрэва.

Караль з палёгкай кажа, што, калі падзьме моцны вецер, птушанятка распрастае крылы і адляціць назаўсёды.

Аднак Віктар прадчувае, што, калі птушанятка ўзляціць, апошняе, што схаваецца ў яго дзюбе, будзе наша Зямля.

Але, мажліва, у гэтае імгненне яшчэ не надыдзе канец усяму. Унутры птушаняці будзе няспынна біцца Ёнашава добрае сэрца.

## Віктар, Эрнэст і сталёвы шарык

Чалавек можа стаць у жыцці чым заўгодна. Але каб здолець гэта, важна прыняць цвёрдае рашэнне ў патрэбны час. Найлепей — яшчэ ў пачатковай школе.

Пакуль усе астатнія ў класе хочуць стаць чым заўгодна, Эрнэст сцвярджае, што ён прагне быць не дальнабойшчыкам і нават не касманаўтам, а засохлай мухай за шыбай.

«Толькі не гэта», — думае Віктар, тым часам як Караль не перастае вагацца, а ўсе астатнія ўжо ў мроях пра тое, чым хочуць быць.

«Ён тут, але быццам яго й не было,» — кажа Віктар Эрнэсту на перапынку пра ніколі недасяжны шырокі свет на другім баку шыбы, пра вечна неспатольную прагу разбіць шкло, нібы сталёвы шарык, і вылецець, застацца ў вірлівым леце і быць праглынутым мясажэрнай птушкай.

## Караль і Віктар на другім баку

Караль бяжыць штосілы. З таго часу, як сонца ўзнялося высока, ён больш не можа хавацца ва ўласным цені. Пераследнікі наступаюць на пяты, яму патрэбна перабрацца на другі бок.

На крутой дарозе да лесу ён трапляе пад абстрэл, азіраецца, але камяні, якія злятаюць згары, набліжаючыся да яго, выпростваюць крылы і ператвараюцца ў вераб'ёў, тым часам як вераб'і, што пралятаюць над пераследнікамі, ператвараюцца ў камяні і падаюць ім проста на спіны і плечы.

Цяпер, калі Караль на імгненне прыкмеціў водбліск другога боку, ён не мае права збочыць і не мае права спыніцца. Ён мусіць дабегчы да высокай піхты, схавацца ў яе галінах, счакаць, на змярканні ўзлезці на самую верхавіну дрэва.

Потым у серабрысты люк над галавой, які можна адчыніць толькі знутры, выгрукаць дамоўлены сігнал. Тады Віктар ведае, што можна адчыніць.

## Караль у доме цудаў

Караль у гасцях у доме цудаў.

Тыя, хто ў ім жыве, — мама, бацька і сын — штодня накрываюць на стол на кагосьці яшчэ. Робяць гэта нязменна цягам гадоў.

Раніцай, на абед і ўвечары старанна і вельмі акуратна яны спачатку кладуць, а потым прыбіраюць адзін і той жа прыбор, кубак, келіх і талеркі.

Караль пераканаўся, што нават праз такі доўгі час нож не затупіўся, на талерцы не з'явілася нат найдрабнейшых драпінак, а кубак застаўся нібы і некранутым.

Але гэта не павінна значыць, што за ўсе гады з кубка ніхто не напіўся, ніхто не паварушыў прыборам, а з талерак ніхто не наеўся.

Не быў бы Караль у доме цудаў.

## Віктар і Караль падкідваюць манетку

Манетка, падкінутая ў паветры, выбірае сама.

Яна не стараецца імпэтна круціцца, мігцець у святле, што ляціць невядома куды, у глыбокай цішы легкадумна ўдаваць прысутнасць лёсу, таемнай сувязі з тым, што будзе, што надыдзе, што павінна быць.

Яна не жадае ўпасці рабром і колькі секунд яшчэ абыякава каціцца, хістаючыся з боку на бок, каб потым канчаткова пераважыў адзін з іх.

Яна проста строма падае, тупа і без звону цяжка апускаецца на паверхню.

Манетка, падкінутая ў паветры, абірае толькі ўласны бок.

Гэта так. Бо нават на імгненне яна не застыне ў вышыні, бо неспадзявана і бяследна не знікне ў асляпляльным промні сонца, бо пасля падзення на зямлю не ўпадзе кудысьці праз вока, якім пекла пазірае на свет.

Бо яна магла б.

## Караль, Віктар і палёт кроны

Караль ніколі б не падстрэліў птушку з рагаткі.

Нават тую, якая напляла самотнай ліпе на краю поля, што, калі ліпа будзе доўга і нізка нахіляцца пад ветрам, яе крона аддзеліцца ад камля і адляціць.

З таго часу, калі нахіляецца ліпа, толькі гучней трашчыць яе драўніна, а карані крыху мацней трымаюцца зямлі.

«Не здавайся, — кажа птушка, пералятаючы з галіны на галіну. — Мажліва, потым вецер вынесе цябе ўвысь, і ты станеш адной з тых белых крон, якія пры бясклапотным руху па нябёсах маюць цэлыя палі пад сабой.

Але я не ведаю гэтага дакладна, так высока я ніколі не далятала», — аўтарытэтна дадае птушка, бо Віктар ужо стаіць пад дрэвам і пляскае ў далоні, каб спалохаць яе, тым часам як Кароль выцягвае рагатку і цэліць у галінку, абхопленую птушынымі лапкамі.

У Караля дакладная мушка, і ён ведае, што, пацэліўшы ў галінку, абавязкова спужае птушку.

Але як толькі камень пакідае скураную кішэньку рагаткі, першыя лісты на ліпе пачынаюць трымцець, галіны цягнуцца ў супрацьлеглы бок, у які цэліла рагатка, і ўся крона з птушкай дастаткова нізка нахіляецца.

І толькі тады дзьме вецер.

## Віктар, Кароль і Іветка

Калі ўсе разам заходзяць у кабінет біялогіі, Віктар трымае Іветку за левую, а Кароль — за правую руку.

У кабінеце вечны змрок, як у пячоры, толькі вузкія палоскі святла праходзяць праз шчыліны паміж шторай і рамай акна.

Віктар трымае Іветку за левую руку, бо з левага боку б'ецца Іветчына сэрца, тым часам як Кароль сціскае яе правую руку, бо менавіта гэтай рукой яна прывыкла змахваць і разгладжваць свае доўгія прамыя валасы.

Іветка спярша прачыняе акно, каб праз вузенькую адтуліну мог азвацца звонку ўвесь жывы свет.

Потым яна звяртаецца да чучала ласкі і кажа ёй: «Бяжы». Але звярок толькі лапкай дастае са свайго вока бліскучы чорны шарык і гаворыць: «Я ўжо не ласка». Тады Іветка правай рукой, той, якой разгладжвае свае доўгія прамыя валасы, устаўляе шарык назад у вока і кажа: «Бяжы, з тваёй пашчы яшчэ чуваць пах трусінай крыві».

Пасля гэтага яна паварочваецца да трусіка і кажа: «Я ўжо бачу тут безнадзейнасць ласкі, калі твой хвосцік маланкава хаваецца ў адной з дванаццаці дзірак нары».

А калі Іветка глядзіць на вітрыну з матылькамі, што вісіць на сцяне, матылькі пасля дзесяцігоддзяў, праведзеных за шклом, без намаганняў плануюць да акна, лягчэйшыя за паветра.

Як толькі ўся праца зроблена, яны зачыняюць за сабой дзверы кабінета, Віктар і Кароль рушаць кожны ў сваім кірунку. Іветка падзяляецца на дзве амаль аднолькавыя паловы і ідзе з Віктарам, які можа ўслухоўвацца ў біццё яе сэрца, і з Каралем, якому часам яна пагладжвае каштанавыя кучаравыя валасы.

**Са славацкай мовы пераклала Святлана Богуш**



# Эдуард Дубянецкі

паэт, гісторык, культуролаг, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі: «Душы маёй няскончаны палёт» (2011 г.) і «Покліч самотнага неба» (2013 г.), навукова-папулярных кніг, энцыклапедычных даведнікаў і навучальных дапаможнікаў па гісторыі Беларусі, беларусазнаўству, культуралогіі. Кандыдат гістарычных навук (1995 г.). Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

# Эгацэнтрызацыя мастацтва: плюсы і мінусы для творцы і грамадства

Гісторыя сусветнага мастацтва па сутнасці ўяўляе сабой няспынную барацьбу паміж рознымі мастацкімі плынямі, кірункамі і напрамкамі. Сутнасць такога своеасаблівага змагання найчасцей зводзілася да адкрытага ці прыхаванага супрацьстаяння творцаў і іх прыхільнікаў па розных этычных, эстэтычных, ідэалагічных і маральна-духоўных пытаннях. Найчасцей падобнае супрацьстаянне было досыць мірным, лагодным, карэктным, але бывалі і такія часы, калі яно было, наадварот, надзвычай вострым, ваяўнічым і бескампрамісным. Прычым звычайна такая спецыфічная барацьба дзейнічала на сферу культуры не разбуральна, а, наадварот, станоўча, паколькі не дазваляла творчай стагнацыі і давала дадатковая імпульсы для творчага самаўдасканалення і пошуку новых сродкаў мастацкай выразнасці.

Практычна ва ўсе часы мастацкая творчасць ацэньвалася даволі высока, а сам мастак нярэдка ўспрымаўся (напр., у антычную эпоху) як своеасаблівы жрэц, вяшчун, прарок альбо як носьбіт Божа дару. Кожны выдатны творца стварае свой уласны мастацкі свет, дзе ў вялікім клубку шчыльна сплецены рэаліі жыцця аўтара і ягоныя мроі, фантазіі, ідэалы, стэрэатыпы мыслення, фобіі, пэўныя грамадскія з'явы, розныя феномены народнай культуры і інш. Творчая практыка заўжды мае відавочна суб'ектыўны характар, і ў той жа час у мастацкіх артэфактах у той ці іншай форме ў трансфармаваным выглядзе адлюстроўваецца аб'ектыўная рэчаіснасць. І тут адразу паўстае некалькі досыць важных і прынцыповых пытанняў. Скажам, як суадносяцца паміж сабой уласна суб'ектыўныя і аб'ектыўныя пачаткі ў творчасці любога таленавітага мастака? Якой павінна быць ступень творчага суб'ектывізму, каб мастацкія творы сталіся значнай падзеяй нацыянальнай і нават сусветнай культуры? Ці можа эгацэнтрызм творцы быць спрыяльным для яго мастацкай дзейнасці? І нарэшце, ці ўяўляе небяспеку для грамадства празмерная эгацэнтрызацыя мастацтва? Вось на гэтыя і некаторыя іншыя няпростыя, але актуальныя пытанні зараз і паспрабуем адказаць у нашым эсэ.

## Суб'ектыўнасць і аб'ектыўнасць мастацкай творчасці: праблема ўзаемаадносін

Зразумела, кожны мастак адлюстроўвае ў сваіх мастацкіх творах суб'ектыўныя перажыванні, адчуванні, перакананні. Бо ў мастацкай творчасці ні-

колі не бывае поўнай аб'ектыўнасці і своеасаблівай адчужанасці творцы ад абраных тэмаў, сюжэтаў, герояў, вобразаў. Аднак у сэнсе сутнасці мастацтва можна весці гаворку пра тую ці іншую ступень суб'ектыўнасці і адпаведна аб'ектыўнасці, прычым найчасцей у кожнага таленавітага мастака ў розных прапорцыях сумяшчаюцца абедзве плыні — унутраная суб'ектыўная і знешняя аб'ектыўная. Таму, разважаючы пра суб'ектывізм і аб'ектывізм мастацтва, неабходна заўжды мець на ўвазе пэўную ўмоўнасць такога падзелу і весці размову тут выпадае ў першую чаргу пра дамінуючую тэндэнцыю ў мастацкай практыцы асобных творцаў.

На мой погляд, *аб'ектыўнай (аб'ектывізаванай)* неабходна лічыць такую творчасць, якая, нібы магутны вір, «зацягвае» ў сябе досыць значную колькасць паўсядзённых рэалій асобы, гістарычных і сучасных падзей, артэфактаў і феноменаў нацыянальнага і сусветнага мастацтваў, традыцыйных маральна-духоўных каштоўнасцей, ідэалаў і г.д. Прычым відавочна, што ўсе вышэйназваныя з'явы прадстаўлены ў мастацкіх творах у трансфармаваным творчай фантазіяй выглядзе, у арыгінальна пераўтвораных вобразах, персанажах, у адмысловых метафарах, параўнаннях, асацыяцыях. Але ўсё-ткі гэтыя вобразы, персанажы маюць досыць прыкметную сувязь з рэчаіснасцю, вызначаюцца больш-менш выяўленай рэалістычнасцю, жыццёвасцю, своеасаблівай прыналежнасцю да пэўных сацыяльных і полаўзроставых груп, этнакультурных супольнасцей. Таму многія з падобных персанажаў адразу «апазнаюцца» і нярэдка нават становяцца «блізкімі» большасці чытачоў, гледачоў і слухачоў.

Да ліку такіх найбольш выдатных айчынных пісьменнікаў, якім была ўласціва пераважна аб'ектывізаваная творчасць (іх умоўна можна назваць мастакамі-аб'ектывістамі ці аб'ектывізаванымі творцамі), неабходна аднесці найперш Багушэвіча, Купалу, Коласа, Цётку, Гаруна, Гарэцкага, Чорнага, Мележа, Геніюш, Быкава і інш. Іх творчая спадчына вызначаецца надзвычайнай шырынёй ахопу і мастакоўскага ўвасаблення шматлікіх падзей, праблемных момантаў грамадскага і індывідуальнага жыцця-быцця. Гэтыя мастакі лічылі адной з найгалоўнейшых задач сваёй творчасці як мага больш поўнае спасціжэнне псіхалогіі асобнага чалавека, пэўнага калектыва і нават усяго народа, а саміх сябе нярэдка лічылі найперш выразнікамі народных памкненняў, перажыванняў, спадзяванняў або адмысловым «голасам» перажытай эпохі. У дадзеным кантэксце згадваецца адзін з ранніх вершаў Купалы «Не кляніце мяне...» (1906), у якім айчынны пясняр наступным чынам тлумачыць сум і смутак сваіх песень:

*Не магу маску ўздзець,*
*Крывіць роднай душой,*
*Песні весела пець,*
*Калі смуцен брат мой.*

*Калі столькі бяды,*
*Столькі гора і слёз*
*Бачу ўкруг заўсягды,*
*Столькі й сам перанёс?..*

Улічваючы такія жыццёва-творчыя арыенціры мастакоў-аб'ектывістаў, абсалютна слушным выглядае меркаванне Антона Луцкевіча, выказанае ім у артыкуле «Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры» (1921), пра тое, што Купала як сапраўдны нацыянальны прарок сілай свайго таленту жыва, праўдзіва і па-мастацку «малюе поўню нашага нацыянальнага жыцця ва ўсіх яго мінулых і сучасных праявах», а таму ў яго асобе «найбольш поўна выявіліся ўсе тыя думкі і ідэалы, якія творыць працэс адраджэння нашага народу» [8, с.89].

Інакш кажучы, аб'ектывізаваныя творцы ў сваёй творчай дзейнасці арыентаваны пераважна на адлюстраванне менавіта знешняга свету ва ўсёй яго невымернай складанасці і шматаблічнасці.

У процівагу пераважна аб'ектывізаванаму мастацтву, да *суб'ектыўнай (суб'ектывізаванай)* мастацкай творчасці варта адносіць такую, у якой у найбольшай ступені прадстаўлены спецыфічныя аўтарскія ўяўленні, погляды, разнастайныя фантазіі, фобіі, усвядомленыя ацэнкі, падсвядомыя імпульсы і інш. Прычым ступень суб'ектыўнасці творчасці можа вельмі значна адрозніваццa ў розных відах і жанрах мастацтва. З улікам спецыфікі мастацкай дзейнасці найбольш суб'ектыўнымі відамі мастацтва, на мой погляд, неабходна лічыць найперш літаратуру (асабліва лірычную паэзію) і музыку, бо менавіта тут галоўную ролю адыгрываюць асабістыя схільнасці, перажыванні, пачуцці, уяўленні творцы, а рэальныя знешнія з'явы, феномены «падаюцца» ў досыць моцна трансфармаваным выглядзе. Тады як да ліку найбольш аб'ектыўных небеспадстаўна можна аднесці выяўленчае мастацтва ва ўсіх яго жанрах (жывапіс, скульптура, кніжная графіка), архітэктуру, кінамастацтва, паколькі ўсе яны маюць больш ці менш шчыльную сувязь з асаблівасцямі прыроднага асяроддзя, грамадскімі інтарэсамі, пажаданнямі і чаканнямі многіх людзей — г.зн. з усім тым, што знаходзіцца па-за межамі ўласнага аўтарскага «Я».

У сферы айчыннага прыгожага пісьменства да ліку найлепшых пераважна суб'ектывізаваных творцаў адносяцца найперш Багдановіч, Жылка, Танк, Арсеннева, Юхнавец, Янішчыц, Разанаў і інш. У творчасці названых мастакоў найперш выяўляюцца (прычым часам ва ўскладнёнай і нават зашыфраванай форме) асабістыя эмоцыі і пачуцці, перажыванні, думкі і фантазіі, свядомыя арыентацыі і падсвядомыя імпульсы, а таксама адчуваецца імкненне да асэнсавання экзістэнцыяльных праблем. Такія творцы, безумоўна, могуць «прарывацца» да шырокага асвятлення і глыбокага спасціжэння праблем народнага жыцця, але адбываецца гэта адносна рэдка і як бы мімаходзь, па-за межамі

магістральнай лініі іх творчай практыкі. Мяркую, што досыць красамоўна раскрыў мэты творчасці мастакоў-суб'ектывістаў адзін з найлепшых беларускіх паэтаў Уладзімір Жылка ў наступных сваіх радках:

*Ўзысці на вогнішча натхнення,*
*Над тайнаю вякоў гадаць;*
*Валодаць воляй да здзяйснення*
*І ўмець, бязмежна ўмець жадаць.*

У свой час асобныя даследчыкі, гаворачы пра месца і ролю нашага наймаладзейшага класіка айчыннай літаратуры, слушна адзначалі: «З прыходам Багдановіча ў беларускую паэзію ў ёй надзвычайна паскорыўся працэс суб'ектывізацыі лірыкі, працэс вылучэння і эмансіпацыі чалавечай асобы, якая выразна і ясна ўсведамляе сваю адметнасць і ўмее ў свеце, населеным агромністым мноствам «не-я», жыва, канкрэтна і вобразна выявіць сваю непаўторную «самасць», свае адносіны да ўсяго, што «не-я» [3, с.89]. Але ўзгадайма, што Міхась Стральцоў у сваім бліскучым эсэ «Загадка Багдановіча» казаў пра нібыта іншае, паколькі лічыў адным з самых істотных адрозненняў нашага самага маладога літаратурнага класіка ад усялякіх мадэрністаў тое, што для яго «жыццё, свет ніколі не існавалі разарванымі, абмежаванымі нейкім суб'ектыўным момантам, для яго не існавала «кавалачкаў жыцця». Спачатку здаецца, што адзін з вышэйназваных крытыкаў гаворыць пра суб'ектыўны пачатак у творчасці Багдановіча, а другі яго спрабуе быццам аспрэчыць, тонка намякаючы на аб'ектыўны характар мастацкай працы творцы. Але тут па-сутнасці няма супярэчнасці, бо апошнюю «здымае» той факт, што сярод усіх нацыянальных геніяў Максім Багдановіч быў, бадай, самай гарманічнай творчай асобай, у якой найлепшым чынам спалучаныя суб'ектыўныя і аб'ектыўныя пачаткі прывялі да стварэння мноства сапраўдных мастацкіх шэдэўраў.

Зразумела, што і ў пазнейшыя часы ў айчынным прыгожым пісьменстве зрэдку з'яўляліся такія шматгранныя ўніверсальныя мастакі, здольныя плённа працаваць у розных галінах літаратуры, асвойваючы пры гэтым здабыткі розных мастацкіх плыняў. Адным з такіх выдатных мастакоў слова па праву лічыцца Максім Танк, які, з'яўляючыся пераемнікам традыцый класікаў роднай літаратуры Купалы, Коласа, Багдановіча, быў здольны ў сваіх творах «выражаць не толькі ўласную індывідуальнасць, але і памкненні, і надзеі свайго пакалення, людской супольнасці, народа ў цэлым» і ўвогуле належаў да такога тыпу мастакоў, у творчасці якіх «з аднолькава магутнай сілай праяўляюцца і суб'ектыўна-творчы патэнцыял, і аб'ектыўна-выяўленчыя магчымасці» [5. с.37].

У кантэксце разглядаемай праблемы варта яшчэ раз акцэнтаваць увагу на тым, што ў творчай практыцы таленавітых аўтараў асобаснае і аб'ектыўнае «скрыжоўваецца ў кожным з іх самым мудрагелістым чынам» [6, с.32]. Таму невыпадкова выдатны айчынны літаратуразнавец Адам Бабарэка ў 1920-я гг.

падкрэсліваў, што «калі мы гаворым пра літаратуру як сацыяльную з'яву, то мы маем на ўвазе асоб, што вылучыліся з грамады як асобыя тыпы яе, якія ўладаюць знаннем умоваў жыцця грамады, чуццём формы і здольнасцю выяўлення гэтых формаў...» [2, с.338]. І такім вось надзвычай глыбокім разуменнем псіхалогіі канкрэтнай асобы і ўсёй грамады, а таксама адпаведным уменнем выказаць гэта ў бездакорных (з эстэтычнага пункту гледжання) мастацкіх творах заўсёды вызначаліся найярчэйшыя «зоркі» айчыннай і сусветнай культуры.

На маю думку, гісторыя сусветнага мастацтва пераканаўча сведчыць пра паступовае нарастанне суб'ектыўнасці ў творчай дзейнасці майстроў культуры. Прычым варта падкрэсліць, што гэтая тэндэнцыя заўважалася ў розныя гістарычныя эпохі (напр., у антычнасці і ў эпоху Рэнесансу) і ў розных відах мастацтва — найчасцей у літаратуры. І галоўнымі праяўленнямі падобнай узмоцненай суб'ектыўнасці можна лічыць стварэнне мастацкіх твораў, для якіх уласціва выказванне найперш ад свайго імя, ад уласнага «Ego», нязначная выяўленасць грамадскіх матываў, а таксама наяўнасць ускладнёных па форме і зместу артэфактаў культуры (вершаў, паэм, скульптур, жывапісных, музычных работ і інш.). Так, ужо ў антычную эпоху побач з аўтарамі, якія пісалі ясныя, празрыстыя па стылі творы (Катул, Авідый, Гарацый і інш.) тварылі і такія мастакі, творы якіх нярэдка вызначаліся празмернай складанасцю для ўспрымання, нават цьмянасцю стылю — да прыкладу, старажытнагрэчаскі паэт Піндар.

У пазнейшыя гістарычныя перыяды таксама колькасна пераважалі аўтары з яснымі, усенароднадаступнымі творамі, аднак і тады часам сустракаліся, умоўна кажучы, «цьмяныя» мастакі. Да ліку апошніх на працягу мінулых стагоддзяў можна з большай ці меншай доляй умоўнасці аднесці іспанскага паэта Гангору, англійскіх паэта У. Блэйка, нямецкіх паэтаў Гёльдэрліна, Наваліса, французскіх паэтаў А. Рэмбо, С. Малармэ, П. Валеры, амерыканскіх паэтаў Т. С. Эліёта і Э. Паунда, польскага паэта Ц. К. Норвіда, рускага паэта В. Хлебнікава і інш. Практычна ўсе вышэйназваныя мастакі слова цяпер лічацца геніяльнымі творцамі, аднак пры жыцці многіх з іх сучаснікі не прызнавалі, недаацэньвалі, высмейвалі, лічылі вар'ятамі, дзівакамі і вельмі з'едліва крытыкавалі іхнія незвычайныя вершы, паэмы, празаічныя творы.

Аднак сапраўдны росквіт надзвычай суб'ектыўнага, а часам і наўпрост «цьмянага» мастацтва адбыўся на працягу мінулага 20 стагоддзя. Гэта было звязана ў першую чаргу з узнікненнем і шырокім распаўсюджаннем з канца 19 ст. на розных кантынентах (найперш у Еўропе і краінах Амерыкі) мадэрнісцкага мастацтва ва ўсіх яго праявах і формах.

Менавіта з таго часу пачалося своеасаблівае пераможнае шэсце шматлікіх кірункаў і плыняў мастацкага мадэрнізму (а з другой паловы 20 ст. і постмадэрнізму) практычна па ўсіх цывілізаваных краінах свету, пра што пе-

раканаўча сведчыць актыўная дзейнасць прадстаўнікоў мноства буйных і дробных мадэрнісцкіх плыняў, напрамкаў і кірункаў.

Да ліку найбольш вядомых з іх неабходна аднесці найперш сімвалізм, футурызм, дадаізм, сюррэалізм, кубізм, экспрэсіянізм, «плынь свядомасці» і да т.п.

Творчая практыка стваральнікаў і паслядоўнікаў большасці з гэтых кірункаў вызначалася даведзеным амаль да максімальна магчымай ступені аўтарскім суб'ектывізмам, ледзь не поўнай адсутнасцю сацыяльных матываў і грамадскіх праблем, парушэннем усялякіх лагічных сувязяў, разбурэннем былой гармоніі формы і зместу. У выніку адбылося адмаўленне ад традыцый класічнага мастацтва, ад скарбаў старажытнай народнай культуры, а ў крайніх выпадках нават і ад выпрацаваных тысячагоддзямі чалавечага развіцця маральна-духоўных каштоўнасцей, ідэалаў. У выніку своеасаблівага вызвалення ад «ланцугоў традыцый» прыкметна ўзрасла (аж да поўнага свавольства) творчая свабода мастакоў, што выявілася найперш у нястрымным жаданні творцаў любымі магчымымі сродкамі (уключаючы эпатаж, скандалы) звярнуць увагу да сваёй асобы, сцвердзіць сваё самабытнае «Я», даказаць грамадству сваю нібыта выключную значнасць.

На маю думку, адной з найбольш важных прычын такой надзвычайнай суб'ектывізацыі было відавочнае ўзмацненне эгацэнтрызму (эгацэнтрычнасці) мастакоў, што праяўлялася ў своеасаблівым кульце ўласнага «Я», моцнай засяроджанасці на задавальненні любых сваіх патрэб і капрызаў, непавазе да былых мастацкіх аўтарытэтаў, адмаўленні ад традыцыйнай народнай культуры, а таксама ў нежаданні і няўменні паставіць сябе на месца іншага чалавека, зразумець яго інтарэсы і перажыванні. Менавіта такая спецыфіка мыслення, паводзінаў і творчай дзейнасці якраз і складае аснову, сутнасць таго феномену, які мы можам з пэўнай доляй умоўнасці назваць «мастацкім эгацэнтрызмам», тады як працэс паступовага нарастання ў сферы творчасці ўласнага Ego кожнага творцы можна акрэсліць як своеасаблівую эгацэнтрызацыю мастацтва. Прычым падобны мастацкі эгацэнтрызм можа мець амаль супрацьлеглыя наступствы ў залежнасці ад таго, у якой ступені ён уласцівы творцам і ў якім сацыякультурным асяроддзі праяўляецца вышэйназваны псіхалагічны феномен.

На працягу мінулага і бягучага стагоддзяў відавочна ўзмацнілася тэндэнцыя да няўхільнай эгацэнтрызацыі мастацтва, пра што сведчыць частае «выпячванне» больш-менш адоранымі мастакамі свайго «Я», своеасаблівае вывядзенне апошняга на пярэдні план за кошт адмаўлення ці пэўнага «прыніжэння» поглядаў, меркаванняў і думак іншых дзеячоў культуры. Адной з тыповых прыкмет такіх эгацэнтрычных творцаў з'яўляецца тое, што яны звычайна пішуць толькі ад уласнага імя і не могуць выказвацца ад імя іншых асоб, бо апошніх яны фактычна зусім не разумеюць, не могуць сябе паставіць на іх месца і, натуральна, ніяк не могуць ім суперажываць.

# Пазітыўныя аспекты эгацэнтрычнасці мастака

Адразу хочацца падкрэсліць, што празмерная эгацэнтрызацыя мастацтва з'яўляецца неадназначнай, або, гаворачы навукова, амбівалентнай (двaістай) з'явай, феноменам. Тут многае вызначаецца менавіта мерай, ступенню выяўленасці названага феномена. Калі эгацэнтрызм таленавітага творцы мае досыць умераны, адносна здаровы характар, то ён патэнцыяльна можа даваць пэўны імпульс для творчага самаразвіцця і самаўдасканалення, да паляпшэння і паглыблення мастацкай творчасці, бо гісторыя амаль не ведае такіх прыкладаў, каб вяршынь мастацтва дасягаў зусім няўпэўнены ў сваіх сілах, надта сціплы і пазбаўлены дзёрзкасці, усялякіх асабістых амбіцый творца. Прычым апошні можа не выказваць свае амбіцыйных планаў услых на публіцы, не выхваляцца сваёй адоранасцю перад кожным сустрэчным, а проста натхнёна і высокапрафесійна рабіць сваю справу, так бы мовіць, адпрацоўваць сваё боскае пакліканне. А калі, наадварот, гэтая ж псіхалагічная якасць вызначаецца надзвычай моцным, нават гіпертрафіраваным, хваравітым развіццём, то яна, наадварот, можа досыць істотна перашкаджаць стваральнай дзейнасці, бо робіць мастака ў пэўным сэнсе закладнікам неадэкватнага пераканання ў сваёй выключнай самабытнасці і ўнікальнасці.

Развіццё літаратуры на працягу толькі некалькіх мінулых стагоддзяў яскрава пацвярджае, што калі эгацэнтрычнасць у той ці іншай ступені была ўласціва самым адораным, геніяльным творцам (напрыклад, Гётэ, Байран, Міцкевіч, Пушкін, Бадлер, Гюго, Рэмбо, Верлен, Рыльке, Джойс, Блок, Ахматава, Купала, Багдановіч і інш.), то гэта прыводзіла да стварэння надзвычай арыгінальных, непаўторных, вытанчаных па форме і глыбокіх па змесце мастацкіх твораў, якія ўносілі прыкметны ўклад у нацыянальную і сусветную культурную скарбніцу.

Менавіта ў такіх творах знаходзілі яскравае адлюстраванне ўнікальнасць мастацкага светабачання названых пісьменнікаў, універсальнасць творчых магчымасцей, надзвычайная складанасць іх жыццёвых эмоцый і перажыванняў, а таксама выяўлялася іх празорлівавасць, нават здольнасць да прароцтваў. Таму невыпадкова асобныя літаратуразнаўцы падкрэслівалі, што «творчая думка геніяльнага пісьменніка ўбірае ў сябе духоўныя памкненні, надзеі і расчараванні, парывы і спадзяванні шэрагу пакаленняў», пры гэтым у творах такіх мастакоў «раскрываецца вечнае і нязменнае, што складае аснову чалавечай прыроды» [1, с.4]. Прычым найлепшыя мастацкія творы прыцягваюць чытачоў любых гістарычных эпох не толькі сваёй дасканаласцю, гармоніяй зместу і формы, але таксама і нейкай сваёй неспасцігальнай таямніцай, бо практычна заўжды «тварэнне

генія гаворыць нам аб чымсьці іншым, больш глыбокім, больш прыгожым, больш трагічным, больш боскім, чым тое, што яно непасрэдна выказвае» [7, с.28].

Паказальна, што такія ўніверсальныя мастакі маглі ствараць як вельмі ясныя, празрыстыя, так і максімальна складаныя, часам нават цьмяныя творы — вершы, паэмы, п'есы, апавяданні, аповесці, раманы і інш. Акрамя таго, гэтым звышадораным мастакам найчасцей уласціва здольнасць пісаць на амаль аднолькава высокім узроўні як вытанчана-душэўныя, тонкія творы, так і вершы сацыяльнага гучання. Напрыклад, тут можна ўзгадаць інтымна-камерныя вершы дзвюх найвялікшых рускіх паэтэс — Ахматавай і Цвятаевай, а таксама прыналежныя першай з іх паэму «Рэквіем», а другой — адпаведна грамадзянскія «Стихи к Чехии». А яшчэ варта прыгадаць раннія містычна-сімвалісцкія вершы Блока і яго ж познія завострана-рэалістычныя паэмы «Двенадцать» і «Возмездие», альбо ўзоры вытанчанай любоўнай і пейзажнай лірыкі Максіма Багдановіча і яго славутыя «Пагоня», «Слуцкія ткачыхі»... Фактычна толькі геніяльным творцам удаецца больш-менш гарманічна сумяшчаць, аб'ядноўваць у сваёй творчай практыцы разнастайныя мастацкія стылі, падыходы, формы і жанры. Увогуле, мастацкай дзейнасці такіх звышадораных творцаў уласціва, так бы мовіць, «шырокая глыбіня» ці «глыбокая шырыня», што дазваляе ствараць мноства твораў з глыбокім сэнсам, бездакорнай формай, вытанчаным густам і вельмі шырокім ахопам шматлікіх індывідуальных і грамадскіх праблем.

Выдатныя майстры культуры звычайна нібыта пераадольваюць, сціраюць межы між «Я» і ўласна «не-Я», таму іх непасрэднымі і ўяўнымі суразмоўцамі выступае адразу мноства людзей — знаёмых ці незнаёмых, блізкіх ці далёкіх, бо ўсе яны па-свойму цікавыя таленавітым творцам, а нярэдка і «падкідваюць» ім тэмы, сюжэты для новых твораў. Такім мастакам уласціва пэўная рэальная ці нават ірацыянальна-містычная еднасць з прыродай і грамадствам, пра што сведчаць відавочныя фальклорныя матывы ў іх творчасці, а таксама пільная ўвага да маральна-духоўнага жыцця сваіх сучаснікаў, да вострых грамадскіх праблем.

Калі адораны мастак як бы ўключае вялікі знешні свет у свой малы ўнутраны свет, то звычайныя творцы-аматары, наадварот, найчасцей закрываюцца ад гэтага свету, бягуць ад яго, бо яны звычайна ім не цікавіцца, а часам і ўвогуле яго баяцца.

Дарэчы, калі падобным мастацкім эгацэнтрызмам пачыналі «хварэць» малаадораныя або ўвогуле бесталентныя мастакі з, так бы мовіць, «плоскапавярхоўнай душой», то ў выніку з'яўлялася мноства банальных, стандартных, аднастайных, нецікавых, неахайных, а часам і проста графаманскіх опусаў у розных відах мастацтва, што ў сваю чаргу істотна забруджавала агульную мастацкую прастору любой краіны. Такія творцы найчасцей проста не ў стане больш-менш заўважна «прыўзняцца» над уласнымі стэрэатыпамі

мыслення, забабонамі, неглыбокімі эмоцыямі, павярхоўнымі перажываннямі і акінуць сваім вокам усё, што робіцца наўкол, па-за межамі іх малацікавага для іншых людзей унутранага свету. Своеасаблівым вынікам такога падыходу з'яўляецца, як правіла, дробнатэм'е, надзвычай вузкі творчы дыяпазон, трывіяльныя вобразы, банальныя рыфмы, «зацяганыя» рытмы, стандартная кампазіцыя твораў, практычна поўная адсутнасць сур'ёзных сацыяльных матываў і да т.п. І таму цалкам натуральна, што падобныя опусы найчасцей не маюць ніякай мастацкай каштоўнасці, не здольныя абудзіць у дасведчанага чытача/слухача/гледача ніякіх станоўчых эмоцый і ніякага суперажывання.

Метафарычна кажучы, такіх малаздольных творцаў можна параўнаць з невялікім вужом, які поўзае ў лясных і балотных нізінах і бачыць толькі тое, што знаходзіцца непасрэдна перад ім. Тады як геніяльных мастакоў можна рызыкнуць параўнаць з магутным і доўгакрылым кондарам, які лётае вышэй за ўсіх птушак і адтуль аглядае ўсё, што робіцца ў небе і на зямлі.

Увогуле, калі геніяльны мастак публічна дэманструе людзям найперш свае яскравыя артэфакты культуры (вершы, раманы, музычныя творы, жывапісныя работы і інш.), то слабаадораны творца з-за натуральнай немагчымасці прадставіць свету выдатны твор вымушаны найчасцей проста дэманстраваць свету самога сябе. Прынамсі, хаця б рабіць спробы такой адмысловай «дэманстрацыі», бо звычайна творы такога мастака практычна нікога не цікавяць — акрамя хіба што некалькіх ягоных блізкіх сваякоў і асобных сяброў, калег, знаёмых.

Па сутнасці, атрымліваецца, што вялікія творцы размаўляюць, фігуральна кажучы, адначасова з многімі людзьмі і нават ледзь не з усім чалавецтвам, тады як малаталенавітыя ці ўвогуле бяздарныя мастакі могуць весці падобную размову толькі з самімі сабой (ды і тое не заўсёды) і са сваім бліжэйшым атачэннем — а гэта азначае з такімі з ж, як яны самі, аматарамі ці ўвогуле графаманамі.

## Адмоўныя наступствы мастацкага эгацэнтрызму

Надзвычайная, хваравітая эгацэнтрызацыя мастацтва нярэдка можа прыводзіць да разнастайных і шматаблічных негатыўных наступстваў.

Сярод апошніх варта найперш назваць такія, як: — няспыннае «забруджванне» культурнай прасторы нізкапробнымі мастацкімі опусамі (часам проста графаманскімі); — распаўсюджанне ўсялякай безгустоўшчыны; — культывацыя дысгарманічнасці як свядомага парушэння пачуцця меры і гармоніі; — апалогія брыдкага, непрыгожага, амаральнага, бездухоўнага ў супрацьвагу прыгажосці, духоўнасці і высокай маральнасці; — адсутнасць глыбокага гра-

мадска-значнага зместу і, адпаведна, наяўнасць банальных думак, вобразаў, сюжэтаў; — фіксацыя мноства практычна нікому не цікавых памкненняў і перажыванняў «плоскай» аўтарскай душы, і да т.п.

У выпадку творцы без асаблівых мастацкіх здольнасцей празмерны мастацкі эгацэнтрызм можа, так бы мовіць, выступаць у якасці небяспечнага двухбаковавострага меча, якім можна як больш-менш паспяхова прабіваць дарогу для сваіх малакаштоўных твораў (па дарозе знішчаючы «ворагаў» у выглядзе надта строгіх крытыкаў і недобразычліўцаў), так і нанесці шкоду самому сабе (а значыць, «падарваць» свае творчыя здольнасці) з-за няўмелага карыстання гэтай зброяй і ў выніку зусім сысці з арэны барацьбы за шырокае прызнанне.

Менавіта такая псіхалагічная якасць творцы, як выключная эгацэнтрычнасць, прама ці ўскосна аказвае досыць істотны негатыўны ўплыў на агульны ўзровень і глыбіню мастацкіх твораў. Бо звычайна такія мастакі не могуць адэкватна зразумець сваё сапраўднае месца ў мастацкай іерархіі і без усялякіх комплексаў працягваюць дабівацца апублікавання сваіх аднастайных, неарыгінальных, абсалютна невыразных опусаў, пры гэтым без аніякіх сумненняў лічаць сябе выдатнымі, нават геніяльнымі пісьменнікамі.

Вышэйназваная рыса псіхалогіі быццам стварае адмысловае замкнёнае кола, калі яна, з аднаго боку, у пэўным сэнсе «асляпляе» мастака, не даючы яму магчымасці адэкватна ацэньваць свае опусы і працаваць над іх удасканальваннем, паляпшэннем, што ў цэлым зніжае агульны ўзровень творчасці, а з другога боку, такі «аслеплены» творца з-за немажлівасці ці складанасці дасягнення славы і жаданай папулярнасці адчувае відавочны дыскамфорт і яшчэ больш «распальвае» сваю эгацэнтрычнасць, што ў сваю чаргу «падштурхоўвае» яго да яшчэ больш актыўнай і мітуслівай творчай дзейнасці.

Пры гэтым галоўная праблема падобных безталентных мастакоў заключаецца ў тым, што яны найчасцей бываюць не ў стане разарваць гэты заганны замкнуты круг і выйсці на шырокія абсягі сапраўднага прафесійнага мастацтва. У выніку такія празмерна амбіцыйныя паэты нярэдка трапляюць у сітуацыю, якую прыблізна два стагоддзі таму з пэўнай доляй іроніі апісаў нямецкі геній Гётэ (ніжэйпрыведзеная цытата даецца ў рускім перакладзе В. Левіка):

*Стихи напишет гладко он,*
*Чтоб миром труд был оценен,*
*И, рад ли встречный иль зевает,*
*Он всем в восторге их читает.*

У сувязі з вышэйсказаным узгадваецца, што ў пачатку 20 ст. у Расіі ўзнік такі адмысловы мадэрнісцкі літаратурны кірунак, як «эга-футурызм», заснавальнікам якога быў шырока вядомы паэт Ігар Севяранін — той, што ў маладосці адкрыта казаў пра сябе «Я, гений Игорь-Северянин // Своей победой упоен».

У назву гэтага кірунка свядома было вынесена слова «эга» («Я») дзеля таго, каб падкрэсліць надзвычайную важнасць у творчым працэсе суб'ектыўнага пачатку ў супрацьвагу больш-менш яўна акрэсленай аб'ектыўнасці. Разглядаючы яго надзвычай бурную паэтычную дзейнасць (а ён не толькі пісаў шмат вершаў, але і выступаў з іх чытаннем на т.зв. «паэзаканцэртах»), адной з галоўных прычын таго, што гэты вельмі таленавіты ад прыроды версіфікатар не стаў уровень з найлепшымі паэтамі свайго часу, бачыцца якраз у яго празмерным эгацэнтрызме, які не даваў яму магчымасці пераадолець пэўную вузасць тэм і сюжэтаў і ўрэшце рэшт выйсці на новыя, больш шырокія і глыбокія абсягі ўласнай творчасці. Хаця, дзеля справядлівасці варта сказаць, што ў позні, эміграцкі перыяд свайго жыцця, паэт амаль зусім адмовіўся пісаць уласцівыя яму з часоў маладосці штучныя, манерныя, часам безгустоўныя вершы і пачаў ствараць досыць сур'ёзныя і шчырыя настальгічныя вершы пра страчаную Радзіму.

І ў канцы, спрабуючы падвесці некаторыя папярэднія вынікі разгляду пастаўленай праблемы, хацелася б звярнуцца да меркавання расійскага мастацтвазнаўца Уладзіміра Вейдле, які ў сваёй фундаментальнай працы пад красамоўнай назвай «Паміранне мастацтва» (1937) выказаў цікавую, але досыць спрэчную думку пра тое, што ў пачатку 20 ст. мастацтва гіне «ад працяглай адсутнасці рэлігійнай адухоўленасці, ад доўгага пагружэння ў разважны, няверуючы свет» [4, с.83].

На мой погляд, тэзіс аўтара пра нібыта хуткае «паміранне» мастацтва варта ўсё-ткі лічыць празмерна песімістычным і нават паспешлівым. Бо, зразумела, нельга адмаўляць таго факта, што ў той перыяд і асабліва ў пазнейшы час сапраўды адбылося пэўнае згасанне высокага мастацтва і яго выцясненне на перыферыю грамадскай свядомасці. Аднак і ў сярэдзіне, і ў канцы 20 ст., і ў пачатку 21 ст. з'яўляліся і працягваюць з'яўляцца (хаця і нячаста) надзвычай таленавітыя, арыгінальныя мастацкія творы, якія прыцягваюць да сябе пільную ўвагу, выклікаюць гарачыя дыскусіі і атрымліваюць ледзь не дыяметральна супрацьлеглыя ацэнкі крытыкаў і простых спажывальнікаў культурных артэфактаў. Пры гэтым ёсць адчуванне таго, што ў сучасны перыяд сярод сурёзных мастакоў узрастае патрэба ў стварэнні высокамастацкіх твораў у якасці своеасаблівага супрацьдзеяння небачанаму раней «разгулу» мастацкага кічу і «шабашу» прымітыву і безгустоўшчыны, якія, на вялікі жаль, найчасцей актыўна прапагандуюцца сёння праз тэлебачанне і Інтэрнэт.

У дадзеным выпадку спрацоўвае механізм своеасаблівага «адмаўлення адмаўлення» — г.зн. калі адораны творца стварае свае творы не ў апошнюю чаргу насуперак навязванню ў якасці актуальнага мастацтва твораў тых мастакоў, якія адмаўляюць (пад выглядам нібыта старамоднасці) у сваёй творчай практыцы прыгажосць, хараство, гармонію і вытанчаны густ.

Пры падобным ракурсе разгляду праблемы можна выказаць асцярожную ўпэўненасць у тым, што і ў бліжэйшай перспектыве паміранне сапраўднага мастацтва не адбудзецца, і што хаця яно за ўвесь папярэдні час свайго развіцця і выказала шмат надзвычай цікавага і арыгінальнага, але ж яшчэ не сказала свайго апошняга слова. Таму, метафарычна кажучы, ёсць надзея, што і далей праз амаль паўсюдна заліты асфальт бездухоўнага сучаснага псеўдамастацтва будуць прабівацца парасткі высокадухоўных мастацкіх твораў, здольныя парадаваць вока і слых, душу і розум многіх зацікаўленых і ўдзячных асоб.

***

Такім чынам, разгляд праблемы эгацэнтрызацыі мастацтва дазваляе зрабіць некалькі кароткіх заключных высноў.

Па-першае, сама эгацэнтрызацыя з'яўляецца, так бы мовіць, «двухбаковазавостранай зброяй», якая можа даваць адначасова як пазітыўны, станоўчы, так і негатыўны, адмоўны плён, і якім канкрэтна ён, будзе, залежыць у першую чаргу ад ступені выяўленасці дадзенай эгацэнтрызацыі і ад складу характару, спосабу мыслення, стылю паводзінаў канкрэтнага носьбіта дадзенай псіхалагічнай якасці.

Па-другое, празмерная эгацэнтрызацыя найгоршым чынам уплывае найперш на малаадораных ці ўвогуле безталентных мастакоў, паколькі на іх гэтая псіхалагічная якасць дзейнічае надзвычай негатыўна і ў крайнім выпадку можа прывесці да (сама)разбурэння асобы творцы і заўважнага забруджвання ўсёй мастацкай прасторы. У той жа час таленавітым, адораным мастакам умераная эгацэнтрызацыя нярэдка дае неабходны імпульс для пашырэння дыяпазону іх творчай дзейнасці і нястомнага ўдасканалення створаных артэфактаў культуры.

Па-трэцяе, пры ўмове далейшага ўзмацнення эгацэнтрызацыі ў будучым патэнцыяльна можа адбыцца практычна поўны адрыў мастацтва ад рэальнага жыцця, што ў выніку прывядзе да стварэння своеасаблівага «культурнага гета», зусім нецікавага для абсалютнай большасці насельніцтва — нават для тых людзей, хто раней праяўляў непадробны інтарэс да мастацкай творчасці. А гэта, у сваю чаргу, можа стварыць аб'ектыўныя перадумовы для беспрэцэдэнтнай, нечуванай у гісторыі чалавецтва маргіналізацыі мастацтва, што будзе сведчыць пра канчатковы заняпад нацыянальных культур у прыватнасці і сусветнай культуры ў цэлым.

Але мы хочам выказаць асцярожную ўпэўненасць у тым, што такі змрочны сцэнарый ніколі не адбудзецца (прынамсі, у бліжэйшай гістарычнай перспектыве) і сапраўднае мастацтва ў яго суб'ектыўнай ці аб'ектыўнай формах яшчэ доўга будзе прыносіць нам радасць і эстэтычную асалоду.

## Літаратура:

1. Аникст А.А. Творческий путь Гете. — М.: Худож. лит., 1986. — 544 с.

2. Бабарэка Адам. Збор твораў у двух тамах. Т.1. Літаратурна-крытычныя працы. — Вільня: Інстытут беларусістыкі; Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2011. — 940 с.

3. Бярозкін Р. Звенні. Творчая індывідуальнасць і ўзаемадзеянне літаратур: Нарысы. — Мн.: Маст. літ., 1976. — 384 с.

4. Вейдле В. Умирание искусства. Размышления о судьбе литературного и художественного творчества. — СПб.: Аксиома, Мифрил, 1996. — 336 с.

5. Гараднiцкі Я. Мастацкі свет беларускай літаратуры XX стагоддзя / Я.А.Гараднiцкі; навук. рэд. У.В.Гніламёдаў. — Мінск: Бел. навука, 2005. — 206 с.

6. Грифцов Б.А. Психология писателя. — М.: Худож. лит., 1988. — 462 с.

7. Иванов В. Предчувствия и предвестия. Сборник / Сост. и коммент. С.Стахорского. — М.: ГИТИС, 1991. — 128 с.

8. Луцкевіч А. Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва / Антон Луцкевіч; уклад.. прадм., камэнт., індэкс імёнаў, пер. з пол. і ням. А.Сідарэвіча. — Мінск: Кнігазбор, 2006. — 460 с.



# Глеб Лабадзенка

паэт, журналіст. Аўтар кніг: «Пагер-вершы» (2005 г.) і «Дзіцячая заМова» (2012 г.). Як журналіст напісаў больш за 1200 артыкулаў. Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Бог добра разумее па-беларуску...

***Ягонай энергіі і жыццёваму пазітыву можна толькі пазайздросціць. Яго хапае літаральна на ўсё. І за што ён не бярэцца, робіць гэта па-сапраўднаму крэатыўна, ярка і запамінальна. Сённяшні мой суразмоўца — паэт, журналіст, фотамастак, лінгвіст, краязнаўца, выкладчык і выдавец Глеб Лабадзенка.***

**Эдуард Акулін.** — Скажы, калі ласка, Глеб, якая з пералічаных творчых іпастасяў табе найбольш імпануе як творцу? Ці не замінае гэта табе ў дасягненні галоўнай жыццёвай мэты?

**Глеб Лабадзенка.** — У цяперашні момант мяне найбольш займае арганізацыя публічных курсаў беларускай мовы «Мова нанова». У Менску штотыдзень на курсы прыходзіць пад 250 чалавек. Апроч таго, курсы пад нашаю назваю адкрыліся ў Бабруйску, Гародні, Берасці, Баранавічах, Нясвіжы, Маладзечне і нават Кракаве. Што да пытання празмернай колькасці актыўнасцяў, то ёсць такі выраз — і швец, і жнец, і на дудзе ігрэц. Зрэшты, не думаю, што гэта некаму шкодзіць. Хоць некаторых, ведаю, раздражняе. Але нічога — хай таксама варушацца.

**Э. А.** — *З чаго ты пачынаўся як паэт?*

**Г. Л.** — У 13 год пачаў пісаць вершы па-беларуску. Праз гэта пазнаёміўся з Рыгорам Барадуліным — прынёс паказаць яму свае крэмзы.

**Э. А.** — *А хто цябе пазнаёміў з Рыгорам Барадуліным? Які ўплыў на твой творчы лёс аказаў дзядзька Рыгор?*

**Г. Л.** — Да нас у школу прыйшла выкладаць кабета, якая вучылася разам з Барадуліным ва ўніверсітэце. Я, сямікласнік, быў шакаваны навіной, што нехта з беларускіх пісьменнікаў яшчэ жыве. Беларуская літаратура ў нас у школе выкладалася так, што літаратары для мяне былі толькі партрэтамі-абразамі на сценах кабінета беларускай літаратуры. Без перабольшання скажу, што дзядзька Рыгор — той чалавек, які ў прынцыпе зрабіў у гэтым жыцці на мяне найбольшы ўплыў. 14 гадоў, праведзеных побач з ім, я лічу шчасцем. Бо даволі хутка зразумеў, што гэта чалавек маштабу Купалы, Багдановіча... Робячы нешта, я заўжды распавядаў пра гэта дзядзьку Рыгору, раіўся. І цяпер часта лаўлю сябе на думцы, што ўяўляю, што б ён сказаў на тое ці гэта.

**Э. А.** — *Сябраваць з Барадуліным было цяжка?.. Я маю на ўвазе не толькі няпросты характар народнага паэта, але і велізарную розніцу ва ўзросце паміж вамі? Гэта дапамагала ці перашкаджала знаходзіць ўзаемапаразуменне?*

**Г. Л.** — Думаю, што да мяне 13-гадовага хлапчука дзядзька Рыгор паставіўся як да ўнука, няхай даруе ён такое нахабнае меркаванне. Мы ні разу не пасварыліся. А розніца ва ўзросце... Дзядзька Рыгор часта казаў пра маладых, што ў стасунках з імі ён і сам маладзее. Я ж стараўся хоць крыху сталець і

разумнець побач з ім, цягнуцца да яго, слухаць і чуць яго. Дзякуючы Барадуліну, я не наступіў на многія граблі: ведаючы ад яго, з кім не варта вадзіцца, куды не варта лезці.

**Э. А.** — *У сяброўстве вельмі важны аспект — узаемадараванне... А што ты ніколі б не змог даравать сябру?*

**Г. Л.** — Здраду. Асабліва здраду ў цяжкія моманты, у моманты выбару. Напрыклад, памятаю, як улады закрывалі наш Коласаўскі ліцэй. І ўсім прыйшло запрашэнне без іспытаў перайсці ў ліцэй БДУ. Гэта быў нялёгкі выбар: скокнуць ва ўтульнае месца з перспектывай паступлення, або пайсці ў невядомасць, на падпольную адукацыю са сваімі настаўнікамі. І хлопец, які сядзеў са мной за адной партай, абраў лягчэйшы і цяплейшы варыянт. Для мяне гэта быў удар, бо я лічыў яго сваім сябрам. Хоць потым падумаў, што з яго боку гэта было не зусім нечаканасцю: бацька — чаргінцоўскі падпявала, маці таксама афіцыйны чалавек. Ён сам так і застаўся па жыцці прыстасаванцам: і вашым, і нашым. Але я вельмі цаню такія моманты ў жыцці. Калі чалавеку побач з табой наканавана аказацца мудаком — то хай гэта адбудзецца чым раней.

**Э. А.** — *У тваім фотаархіве сотні фотаздымкаў нашых вядомых пісьменнікаў, мастакоў, музыкаў... Фотамастацтва — для цябе хобі, ці нешта большае?*

**Г. Л.** — Ніякіх амбіцый фатографа ў мяне няма, ды і тэхніка самая простая. Свой архіў, дзе сапраўды здымкі сотняў і сотняў асобаў, цаню найперш з дакументальнага пункту гледжання. Там ёсць здымкі людзей, якія ўжо пакінулі гэты

*З юнай чытачкай «Дзіцячай заМовы»*





*Музы і паэты*

свет. Напрыклад, толькі дзядзькі Рыгора каля 4500 здымкаў. Зробленых у ягонай хаце, на імпрэзах, у Вушачах, падчас нейкіх сумесных вандровак... Можа, яны і не маюць мастацкай вартасці, але на іх зафіксаваная гістарычная асоба, найвялікшы беларускі паэт апошніх дзесяцігоддзяў — таму яны ўнікальныя. Таксама ў архіве шмат здымкаў архітэктуры. Гэта маё вялікае захапленне: аб'ехаў у нашай краіне больш за 1000 населеных пунктаў, дзе захаваліся нейкія архітэктурныя цікавосткі. Зноў жа, можа гэта і невысокай мастацкай вартасці фота... Але, як у нас часам бывае, помнікі архітэктуры руйнуюць — і трэба іх фіксаваць як найболей.

**Э. А.** — *Ты некалькі гадоў працаваў журналістам у газетах «Камсамольская праўда» і «Звязда», у цябе ёсць асабісты інтэрнэтблог... Што табе дала праца ў журналістыцы? Ці лічыш ты гэты этап у сваім жыцці пройдзеным?*

**Г. Л.** — Журналістыка — мая прафесія, якая давала і дае мне хлеб. Таму пройдзеным этапам яна быць не можа, бо я пакуль жыць без хлеба не навучыўся. Прафесія вельмі цікавая! Пра журналістаў кажуць: людзі, якія нічога не ведаюць добра, але ўсяго ведаюць патроху. Тысячы і тысячы кантактаў, набытых у працоўных стасунках, прыдаюцца і ва ўсіх іншых актыўнасцях, пералічаных вамі вышэй.

**Э. А.** — *Пасля выхаду твайго першага паэтычнага зборніка «Пагер-вершы» прайшло некалькі гадоў... Чаму такая затрымка з новай кнігай? Нестае натхнення, жадання, вершаў, грошай ці часу?*

**Г. Л.** — Няма такой мэты. У нас жа паэтаў — ё-маё! Ці магу я нешта дадаць да гэтай пляяды галасоў?.. Да таго ж, літаратура добра ўдаецца тым, хто займаецца толькі літаратурай. У мяне такой магчымасці няма. А быць шэраговым паэтам, каб у пераліку тваіх «рэгаліяў» дадалося яшчэ адно слова?.. Сумнеўнае жаданне.



*Ля святыні*

**Э. А.** — *Твая «Дзіцячая заМова» зрабіла сапраўдны фурор у айчынным кнігавыдавецтве. Хто падказаў табе ідэю жывых малюнкаў — відэаскрайбінга для ажыццяўлення мастацкай задумы кнігі? Ці плануеш ты далейшую працу ў гэтым накірунку?*

**Г. Л.** — Вось, спадар Эдуард, дзякуючы вам даведаўся новае слова — відэаскрайбінг!.. Ідэя з'явілася выпадкова — намаляваў для жонкі схему з розніцай

між «цяпер» і «зараз». Падумаў, што схема можа быць карысная і іншым — вывесіў у блог. Людзі пачалі пытаць: а гэта як адрозніць, а тое як запомніць?.. Так і пайшлі малюнкі. У кнігу ўвайшло 112. І яна за год прадалася амаль цалкам — а гэта 2000 асобнікаў. Цяпер ужо гатовыя новыя 70 малюнкаў — два разы на тыдзень яны з'яўляюцца на сайце кампаніі «Будзьма беларусамі!» Дзякуй «Будзьме» за такую прапанову — бо сам бы я, пэўна, ленаваўся рабіць гэта з такой рэгулярнасцю. Як назбіраецца сотня ці больш — хачу зрабіць другую частку «Дзіцячай заМовы», раз ужо яна прыйшлася даспадобы чытачам!

**Э. А.** — *Як актыўны ўдзельнік культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!» ты аб'ехаў велізарную колькасць беларускіх гарадоў, мястэчкаў і вёсак... І калі напачатку аб'ектам тваіх вандровак-выступаў была літаратура, то апошнім часам ты ўсклаў на сябе місію айчыннага цмоказнаўцы... Гэта для цябе звычайная літаратурная авантура, ці нешта іншае?*

**Г. Л.** — Калі мы з калегамі з «Будзьмы» абмяркоўвалі канцэпцыю кампаніі «У пошуках Цмока», то прыйшлі да высновы, што няважна, «пад якім соўсам» людзі паедуць вандраваць па Беларусі — абы паехалі. А край наш бязмежны! Дзе ўжо я люблю вандраваць па радзіме, але і тое пабыў у дзясятках найцікавейшых месцах, дзе не бываў раней. Скажам, адзіная ў Беларусі пячора пад Празарокамі... Сапраўдная пячора, са сталактытамі і сталагмітамі, хоць і з пясчаніка!.. Або адзін з самых вялікіх у Беларусі валуноў — Змееў камень — пад Чашнікамі. Ці 5000-гадовыя крамянёвыя шахты пад Ваўкавыскам... Дарэчы, шукаць Цмока нескладана. Нас даслоўна пераследавалі рознага кшталту цмокі на нашым шляху. У Гомелі за палацам Румянцавых і Паскевічаў стаіць фігура першага гамельчука — на чаўне з рыссю. У яго на шыі — амулет з Цмокам! У Ветцы знайшлі выяву Цмока ў рукапісным Евангеллі XVII стагоддзя. У Браславе фігура Цмока стаіць проста перад мясцовым пунктам аховы правапарадку. У Жыткавічах Цмок пазірае са стэлы каля вядомай кавярні-карабля. У Міры нам распавялі легенду, што некалі тут забілі Цмока — а каб не вылез з магілы, на гэтым месцы паставілі замак... Увогуле ж, Цмок — гэта для мяне сімвал звышбеларуса. Дарэчы, збольшага станоўчы персанаж! Калі ўсё спакойна — то і ён нікога не чапае. А як надарыцца небяспека — абернецца цераз сябе, здабудзе крылы і гатовы агнём паліць ворагаў. Я б хацеў, каб беларусы былі якраз такімі цмокамі...

**Э. А.** — *Нядаўна ты спрычыніўся да выхаду ў свет унікальнай рукапіснай кнігі Рыгора Барадуліна «Лепей», якой паэт паспеў парадавацца яшчэ пры жыцці... Ці плануеш ты надалей працаваць з архівам народнага паэта?*

**Г. Л.** — Я чалавек несістэмнага, ненавуковага складу. Таму ў працы з архівамі дзядзькі Рыгора ўвесь спадзеў на ягонага сябра і даследчыка ягонай творчасці Сяргея Шапрана. Ужо да саракавін Сяргей падрыхтаваў зборнік апошніх вершаў «У неба пехатою». Усім раю займець! Там проста касмічныя вершы, паэт размаўляе з Богам... І ўзнікае жывое адчуванне, што Бог добра разумее па-беларуску.

**Э. А.** — *Скажы яшчэ колькі слоў пра свой удзел у праекце «Мова нанова». Што, на тваю думку, дае людзям гэты праект?*

**Г. Л.** — Самае неверагоднае і каштоўнае: калі на першыя заняткі прыйшло пад 300 чалавек — я практычна нікога з іх не ведаў! Нават у твар! Бо ведаеце, як гэта бывае: прыходзіш на канцэрт ці вечарыну — і прынамсі ў твар большасць ведаеш... А гэта — новыя, незаангажаваныя раней у беларускую справу людзі. Для якіх мова — гэта не «палітыка» і «апазіцыя», а пункт уваходу ў грамадскую актыўнасць. Як прыемна прыходзіць у філармонію, у мастацкі музей, на іншыя беларускія імпрэзы — і сустракаць там слухачоў нашых курсах. «Вучняў» язык не паварочваецца сказаць, бо палова людзей за мяне старэйшая. Гэта яшчэ адзін цікавы момант — навошта на курсы ходзяць людзі сярэдняга і нават старэйшага веку? Я распытваў — і выявілася, што яны даўна хацелі неяк увайсці ў гэтую беларускую плынь, але не ведалі як. А курсы — безбалючы спосаб. Галоўнае — прыйсці. Да таго ж, ніхто з іх тут не белая варона. Ніхто не смяецца за трасянку, не паказвае пальцам за памылкі. Атмасфера дабразычлівая і нават сямейная. Таму колькі людзям будуць патрэбныя такія курсы — мы з калегай Алесяй Літвіноўскай будзем іх ладзіць.

**Э. А.** — *Якія перспектывы дадзенага праекту?*

**Г. Л.** — Перспектывы бачу ў тым, каб не спыняцца, развівацца. Тое, што курсы папулярныя — нагода не сядзець і цешыцца, а думаць, як зрабіць іх яшчэ лепшымі. Важным лічым далейшае развіццё курсаў у рэгіёнах. Цяпер, апроч Менска, ахоплена шэсць гарадоў, але ж у нас райцэнтраў больш за 100!..

**Э. А.** — *А які Глеб Лабадзенка па-за межамі грамадскай дзейнасці? Што для цябе сям'я?*

**Г. Л.** — Сям'я — гэта, безумоўна, самае галоўнае. Тое, што дае сілы і энергію на ўсё астатняе. Бо калі б у сям'і нешта было не так — то і астатняе не клеілася б.

**Э. А.** — *Без чаго, на тваю думку, не могуць існаваць сямейныя адносіны?*

**Г. Л.** — Без сяброўства, без даверу, без рады і згоды.

**Э. А.** — *Што галоўнае для цябе ў жанчыне?*

**Г. Л.** — Здольнасць разумець. Мужчына — ён жа па сваёй натуры каўбой, воін. Хай і ў драбязе. Мудрая жанчына павінна адчуваць гэта і даваць мужчыну рэалізавацца — бо іначай ён будзе анучаю ці ўвогуле сап'ецца. Канешне, я кажу няправільныя рэчы з пункту гледжання гендэрнай роўнасці... Але сваёй жонцы часта стаўлю ў прыклад Валянціну Міхайлаўну Барадуліну. Дзядзька Рыгор за ўсё жыццё не ўбіў дома ніводнага цвіка, нават паліцу павесіць яна клікала суседа. Мне жонка на гэта адказвае, што я не Барадулін. Але каб Валянціна Міхайлаўна кіравалася такой логікай, уявіце: мы б не мелі сёння Рыгора Барадуліна! Я не хачу сказаць, што мужчына не павінен забіваць цвікі і вешаць паліцы — сам я ўсё па хаце і на лецішчы раблю сваімі рукамі. Але разумная жанчына павінна памятаць, што доля мужчыны — не толькі забіваць цвікі...



*Сувеніры ад кампаніі «Будзьма беларусамі!»*

**Э. А.** — *Ці можа быць жонка Музай?*

**Г. Л.** — Натуральна! Больш за тое, бачу і ведаю такія прыклады: Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Уладзімер Арлоў... Калі ёсць каханне, то жонка будзе і Музаю.

**Э. А.** — *Не сакрэт, што жонкі беларускіх літаратараў у сям'і нярэдка размаўляюць па-руску... Як ты да гэтага ставішся? На якой мове ты размаўляеш са сваёй жонкай?*

**Г. Л.** — Не хачу судзіць іншых. Мне пашанцавала — сваю жонку я ўзяў ужо беларускамоўнай. Не тое, каб гэта стала вырашальным чыннікам... Але ці змог бы я дарэшты даверыцца чалавеку з чужой моваю? Таму выбару, на якой мове размаўляць у сям'і, паўстаць не магло. І сына мы гадуем выключна па-беларуску.

**Э. А.** — *Якія сямейныя святы вы адзначаеце? Хто ў хаце гаспадар? Ці любіш ты кухарыць?*

**Г. Л.** — Шчыра скажу, увогуле не люблю святы. Нават свой дзень нараджэння не адзначаю. З фармальнага пункту гледжання свята: вось вам нейкі дзень — і мусіце весяліцца. А калі настрой кепскі? А калі зуб баліць? Найбольшае сямейнае свята для мяне — нараджэнне сына. Кожны месяц кажам: вось яму столькі, а вось яму ўжо на месяц больш. А іншыя фармальныя даты абмінаю. Лепш прынясу кветкі жонцы ў звычайны дзень, чым на якое свята. У хаце гаспадар раней быў кот, а цяпер, натуральна, Стэфан Глебавіч — усё падпарадкавана яму, усё круціцца вакол яго. А наконт кухарыць, маем у сям'і такую завядзёнку, што дранікі раблю выключна я. І жонка нават кажа, што ёй падабаюцца!



*З лепельскім цмокам*

**Э. А.** — *Твая любімая страва...*

**Г. Л.** — Я тут не арыгінальны — люблю ўсё з бульбы. Дранікі са смятанаю ці калдуны гатовы есці штодня. З супоў люблю флякі, супы-пюрэ з брокалі, са шпінату. З замежных страваў дужа люблю сушы і сыр з цвіллю. У нас яно дарагое, але як трапляю куды за мяжу — то наядаюся.

**Э. А.** — *Твой любімы адпачынак...*

**Г. Л.** — Вандроўкі па Беларусі, майстраванне нечага на лецішчы. Увогуле, не магу легчы і ляжаць — даволі хутка пачынаю дурэць. Люблю пасядзець пры вогнішчы з сябрамі — у такіх гутарках нараджаюцца планы, з'яўляюцца адказы на пытанні, тлумачэнні многіх рэчаў.

**Э. А.** — *Твой любімы гурт...*

**Г. Л.** — З нашых музыкаў дужа люблю Лявона Вольскага, Змітра Вайцюшкевіча, гурты HandmadE, «Босае сонца», «Троіцу»... Мая любімая музыка — гэта нашыя народныя спевы, а таксама класіка — Шапэн, Агінскі, Манюшка... Пад гэта магу і працаваць, і адпачываць, і асабліва думаць у доўгіх дарогах за стырном.

**Э. А.** — *Твае любімыя кветкі...*

**Г. Л.** — Вельмі люблю ландышы — за пах і кітайскія гваздзікі, пралескі, гваздзікі — за выгляд.

**Э. А.** — *Твая запаветная мара...*

Г. Л. — Каб мары паспяхова пераходзілі ў разрад задач, а затым увасабляліся!

**Эдуард Акулін**



# Ніл Гілевіч

народны паэт Беларусі. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Прафесар. Паэт, празаік, драматург, перакладчык, фальклярыст, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1980 г.). Аўтар кніг: «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Пераздвоны», «Святлынь», «Родныя дзеці», «Замова ад страху» і інш. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску

# У віры быцця і дум...

## Усім, у каго ёсць сумленне...

«Для навукі беларуская мова не гадзіцца!» — фанабэрыста заяўляюць (у друку!) моцна вучоныя акадэмікі.

А для чаго гадзіцца? Гадзіцца — каб рабіць хлеб, гадаваць жывёлу, ну яшчэ — каб каваць жалеза ці абпілоўваць бярвенне... Якую ж трэба мець любоў да Беларусі, каб так зневажаць яе мову! З такой любоўю самы раз выводзіць нашу краіну з беднасці, уздымаць яе да вяршынь дабрабыту.

У часы Скарыны і Буднага, — гадзілася, а сёння ўжо — не!..

І што ж гэта за няшчасная доля наша, што за пракляцце на нас звалілася? Генералы ад навукі і мастацтва імгненна забываюць, хто яны, трацяць паважнасць і набываюць халуйскую міну, і пляскаюць у ладкі, глытаючы чарговую порцыю папулісцкай дэмагогіі.

Яны вераць, што можна пабудаваць беларускую дзяржаву без нацыянальнай беларускай ідэі і без беларускай мовы. Марная задума! Гэта тое самае, калі нехта бярэцца зварыць піва без драждэжй. Але ж такога цуда людзі не бачылі. Не звараць! Зварацъ гідкае пойла, а не піва.

Што датычыць нашай мовы... Усім, у каго ёсць сумленне, раю запомніць адзін «дробязны» факт. Калі гарэлі беларускія вёскі з жывымі людзьмі — з агню-полымя далятаді жудасныя (больш жудкіх не бывае) крыкі: «Ратуйце!» Не «спасите!», а «ратуйце!» Калі вам і гэта нічога не гаворыць — то на высокім маральным узроўні трымаецеся, панове-таварышы!

*1993*

## Так пачыналася наша новая літаратура

У газеце «ЛіМ» за 23.06.1956 г. апублікаваны артыкул І. Баса «Да пытання аб аўтарстве «Энеіды навыварат». Аўтар артыкула далучаецца да думкі тых, хто лічыць, што знакамітую паэму напісаў жыхар заходняй Смаленшчыны (г. зн. этнічна беларускай тэрыторыі) памешчык Вікенцій Паўлавіч Равінскі. Мне здаецца, гэту версію аўтарства можна лічыць даказанай. Паэма была напісана, па ўсім бачна, у першай палове 1840-х гадоў, тады ж, як спрабавалі на «мужыцкай» беларускай мове пісаць Я. Чачот, Я. Баршчэўскі, А. Рыпінскі і інш. (Нібыта нават і А. Міцкевіч). Міжволі ўзнікае пытанне: што цягнула адукаваных паноў з даўно апалячаных ліцвінскіх родаў пісаць па-беларуску? Дзеля забавы-пацехі? Ці ўсё ж адчувалі сілу-моц гэтай тутэйшай «мужыцкай» мовы? Адчувалі, што за ёй — будучыня? Чаму б і не? Чаму б адукаваным людзям і не прыйсці да думкі, што такое магчыма? Тым больш, што ўжо набірала сілу нацыянальнае адраджэнне ў такіх славянскіх краях, як Балгарыя, Сербія, Славенія, Чэхія?..

*1956*

## І ніводнага фальшывага слова...

Зноў і зноў перачытваю ацэнку, якую даў паэме Твардоўскага «Васіль Цёркін» лаўрэат Нобелеўскай прэміі, геніяльны рускі пісьменнік Іван Бунін. «Гэта сапраўды рэдкая кніга. Якая свабода, якая цудоўная ўдаласць, якая трапнасць, дакладнасць ва ўсім і якая незвычайная народная салдацкая мова — ні сучка, ні задзірынкі, ніводнага фальшывага, гатовага, гэта значыць літаратурна пошлага слова». Проста неверагодна: зацяты вораг савецкай улады і камуністычнай ідэалогіі з такім захапленнем гаворыць пра твор савецкага паэта-камуніста! Неверагодна? Ну чаму ж неверагодна! Калі адзін вялікі мастак слова і палымяны патрыёт Расіі адкрывае для сябе другога вялікага мастака слова і палымянага патрыёта Расіі, — чаму ж яму не парадавацца і не выказаць захапленне? Ён жа радуецца за родную рускую паэзію, за яе поспехі, за геніяльную выяву рускага мастацкага слова, а гэта значыць — рускай душы і сэрца. Радуецца, бо ведае: гэта вышэй за сацыялагічныя пастулаты, яны — часовыя, а роднае слова — вечнае. І калі яно такое, як у Твардоўскага — жывое, па-народнаму трапнае, прыказкава мудрае, дасціпнае, сакавітае, свежае, — дык было б вялікім грахом зрабіць выгляд, што яго няма, і прамаўчаць. Іван Аляксеевіч Бунін на такое пайсці не мог.

*1980*

## Ногі і душа

*(З прамовы на рэспубліканскай канферэнцыі Таварыства «Веды»)*

Каб грамадства развівалася гарманічна — трэба клапаціцца пра яго маральныя асновы, гэта значыць пра душу чалавечую. Калі мастацтва і літаратура будуць у заняпадзе, будуць адставаць — будзе адставаць і душа. Згадваецца адна мудрая показка, вычытаная мной у выдатнага балгарскага празаіка Святаслава Мінкава: «Адзін купец наняў насільшчыкаў. І сказаў: «Чым шпарчэй будуць ісці ногі, тым больш заплачу». Неслі адзін дзень (а дарога далёкая) — і добра зарабілі. Другі дзень ішлі яшчэ шпарчэй — і яшчэ больш зарабілі. А на трэці дзень сказалі: «Першы і другі дзень ішлі так шпарка, што абагналі нашы душы. Цяпер трэба пачакаць, калі нас дагоняць нашы душы».

Па-мойму, вялікая мудрасць месціцца ў гэтай кароценькай показцы.

*1984*

## Устаноўка — «На ўсю лаву»

У 50-я — 60-я гады я досыць пільна сачыў, якія беларускія народныя песні гучаць па радыё ў сольным выкананні. І што ж высачыў? «У месяцы верасні», «Чабарок», а затым — «Каб сядзела на ўсю лаву». Крыху ўтрырую, але сапраўды, часцей за тры-чатыры іншыя гучала гэтая «Каб сядзела...» («Касіў Ясь канюшыну»). Дарэчы, песня псеўданародная, зробленая, у пагоні за гумарам, з традыцыйнай народнай «Пасылала мяне маць яравое жыта жаць» («А

я жыта не жала — ў баразёнцы ляжала. Баразёнка вузенька — не памесцілася. Летня ночка каротка — я не выспалася. А я дня ўкарачу ды й да ночкі надтачу»). Устаноўка была такая: дай жартоўную, забаўную, ды яшчэ каб і грубаватую! А тысячы цудоўных лірычных песень заставаліся незапатрабаванымі. І людзі прывыкалі: беларуская — значыць з грубаватым вясковым гумарам.

Вялікай радасцю было, калі па радыё народныя песні гучалі ў харавым выкананні (хор Шырмы, хор Цітовіча і інш.).

*1987*

## Пра нашу вёску

Беларускага селяніна адарвалі ад зямлі, ад традыцый і звычаяў, ад памяці, ад гісторыі, нарэшце, ад мовы... А да чаго далучылі, да чаго прывязалі? Да якіх каштоўнасцяў? Усё роўна жыве цяга да зямелькі, да гародчыка, да градкі, да дрэўцаў у садку, — як у прафесійных рыбакоў да мора...

Успамінаю апошнія гады, калі яшчэ не парвалася канчаткова тая адвечная прыродная сувязь, рвалася, але яшчэ трымалася, давала трэшчыны, рваліся асобныя валаконцы, але яшчэ Вёска жыла, была...

*Канец 1980-ых*

## А яны насміхаліся...

*Ці будзе суд? Ці будзе кара*
*Царам, царатам на зямлі?*
*Ці будзе праўда між людзьмі?*
*Павінна быць, бо сонца стане*
*Й зямлю спаганеную спаліць.*

Тарас Шаўчэнка... Здольнасць так шчыра, адкрыта спавядацца — рэдкі дар. Споведзь няздары, дробнай нікчэмнай істоты — каму патрэбна? У генія — і яго памылкі і грахі вялікія. Вялікі боль. Вялікія пакуты. Вялікае, хворае сумленне. Як у Дастаеўскага, сучаснікам і амаль равеснікам якога ён быў.

Ёсць засведчаны ва ўспамінах эпізод, які асабліва сорамна чытаць. Яны, у Пецярбургу, насміхаліся з яго. Яны думалі і не сумняваліся, што вышэй за яго — яны, адукаваныя, вышкаленыя еўрапейскай культурай, узброеныя еўрапейскімі манерамі...

Так сёння і на беларускую мову глядзяць «вышкаленыя».

*1989*

## Хай бы такой і заставалася

Беларускай літаратуры заўсёды была арганічна ўласціва якасць, якую акадэмік Дз. Ліхачоў удала назваў «сарамлівасцю формы» — сціпласць, некрыклівасць, невычварнасць, няздольнасць лезці на прэзент. І ў гэтым была асаблівасць зместу — асаблівасць беларускага нацыянальнага характару, якім спакон веку ганарыліся. Аснова нашай нацыянальнай паэтыкі — тут: глыбіня пачуццяў,

перажыванняў, дум — і прастата, сціпласць, «сарамлівасць» формы. Успомнім самых вялікіх з пантэону: Дунін-Марцінкевіч, Багушэвіч, Купала, Колас, Багдановіч, Гарэцкі, Чорны, Куляшоў, Мележ... У апошні час мелі месца патугі падтачыць і расхістаць гэтыя асновы нацыянальнай паэтыкі. Напрыклад, у паэзіі — зрабіць стаўку на крыклівасць, экстравагантнасць вобраза, на прэтэнцыёзную словатворчасць, іначай — на аглядку «изящно ли пляшу я». Тут ужо пра «сарамлівасць формы», а значыць і характару, гаварыць не прыходзіцца. У выніку, глыбокі, сапраўды народны паэт Аляксей Пысін і пры жыцці і пасля смерці — у цяні (на ганьбу ўсім нам!). Пры гэтым звернем увагу, што ў абарону крыклівай, нясціплай формы бяруцца сродкі выпрабаваныя і дзейсныя: абвінавачванне ў нацыянальнай замкнутасці і замшэласці, у адгароджванні ад сусветнай паэтычнай культуры, ад вятроў часу. О, як гэта дзейнічае на кволых, на наіўных і прастадушных! Хто ж гэта хоча заставацца «ў хвасце прагрэсу»? Прыклад паэта сусветнай культуры Багдановіча пад увагу не бярэцца. Як і нічога не бярэцца. Таму што задача занадта ясная і неадступная: расхістаць асновы нацыянальнай паэтыкі! Любымі спосабамі!.. Любой цаной!..

1990

## Браты Гарэцкія

Рэдка, вельмі рэдка лёс пасылае нам такія знакавыя постаці, як браты Гарэцкія. І мы не цэнім, не шануем высакароднасці, якая была ўласціва ім. Так нічога не засталося і ад шляхетнасці, ад прыроднай інтэлігентнасці, чым вызначаліся браты Гарэцкія. Такія, як Гарэцкія, маглі супрацьпаставіць злу і подласці толькі культуру, толькі сумленнасць, толькі высокасць духу, толькі маральныя перакананні і прынцыповасць. А больш у іх нічога не было: улады не было, крывадушнасці не было, здольнасці падкупіць і падлізнуць не было... А яшчэ — не было абыякавасці да лёсу свайго народа, сваёй Бацькаўшчыны. А было — пачуццё адказнасці перад народам і краінай, пачуццё абавязку і доўгу, які да астатку трэба сплаціць...

*1991*

## З думак пра Купалу

Не перачытваючы — усенародна — Купалу, мы да беларускай Беларусі не дойдзем. Да сапраўды суверэннай, свабоднай, дэмакратычнай.

*«Не магу маску ўздзець,*
*Крывіць роднай душой,*
*Песні весела пець,*
*Калі смуцен брат мой».*

Сіла пераканаўчасці купалаўскага радка. Паэт гаварыў так, што яму верылі. Бо — да мужыцкага народа гаварыў сам мужык, падрабляцца (апускацца) не было патрэбы.

Душа — родная. Каму? Мужыкам.

Яго муза ўдыхнула гарачага паветра рэвалюцыйных бітваў Першай рэвалюцыі ў Расіі (1905-1907).

Трэба ж было адчуць, што прыйшоў гістарычны час для Беларусі, для беларускага народа — і ён адчуў! І стаў вешчуном, павадыром, сцяганосцам. Мала ў сусветнай паэзіі геніяў, якія ў такой ступені былі ідэолагамі нацыянальнага адраджэння.

У яго была найвышэйшая ступень усведамлення абавязку паэта-грамадзяніна. Ніхто ні да яго, ні пасля яго да такога ўсведамлення не падымаўся. Адзіная і ўсёабдымная жарсць, ідэя, апантанасць. Усё, да апошняга радка, было падпарадкавана гэтаму — яго беларускаму болю.

*1997*

## Пра «Харошкі»

Быў на канцэрце «Харошак», запрасіла сама Валянціна Іванаўна Гаявая. Агульнае ўражанне — цуд! Атрымаў найвышэйшую асалоду. Амаль усё глядзеў і слухаў у захапленні. І «Местачковы вальс», і «Ойру», і «Падэспань», і «Польку крутуху». А «Каханачка!» Божа, які лірызм у «Каханачцы»! Увогуле, колькі паэзіі ва ўсім, што прайшло перад вачыма! Хацелася крычаць: «Людзі, гэта ўсё патрэбна нам! Вы бачыце і чуеце талент на сцэне — ну а ў жыцці? Няхай ніхто не думае, што падробкай можна ашукаць густ народа. Ніколі!»

У чым сакрэт гэтага мастацкага цуда — я прафесіянальна не растлумачу, ні ў музыцы, ні ў харэаграфіі не дасведчаны. Але ўсім нутром чую: гэта ўсё наша, беларускае. Гэта абуджае ў душы ўсё, што ў яе ўваходзіла ад калыскі — там, у вёсцы, і тое, што ўваходзіла ў душы бацькоў, дзядоў і прадзедаў, а мне перадалося падсвядома, чаго сам я непасрэдна ні разу не чуў. А ўсе ж гукі — родныя. Усё — ад нашых вясковых вечарынак. І мелодыі, і інструменты... Нашы скокі, іх тэмперамент, іх жартоўнасць... Ва ўсім мы знаходзім сябе, адкрываем сябе. А свету — адкрываецца Беларусь. Сапраўдная.

Каб тварыць такі цуд на сцэне — вельмі многа трэба. Па-першае, глыбокая перакананасць у вернасці абранага шляху, у святасці місіі. Па-другое, чысціня... Гэта было нашым заўсёды. Яшчэ ад Буйніцкага. Заўсёды — на энтузіязме. Доля не давала нам іншага — толькі любоў, толькі энтузіязм. Толькі б не прымяшаўся цынізм, пошласць прагматызму!.. «Харошкі» — гэта высокі прафесіяналізм пры якойсь першароднай непасрэднасці, прастаце, шчырасці.

Людзі! Вернем славу нашым нацыянальным скокам! Тую, што азарала калісь тэатр Буйніцкага!.. «Харошкі» пераконваюць, што мы здольныя зрабіць гэта.

*1990-ыя*

## У Расіі — не супадае...

Выпадковая цытата: «Не давая перевеса любви к Родине над любовью к Отечеству». (У пісьме цару з ІІІ аддзялення Канцылярыі Яго Імператарскай

Вялікасці, 1847 год.) І так, «родина и отечество». «Родина» — гэта Украіна, Беларусь; «Отечество» — Расія, Расійская імперыя. Як і ў 1917-м; як і сёння — у 1991-м. Вось гэта і ўнушалася! Айчына! «Славься, Отечество наше свободное!..» Але ж па-беларуску «Отечество» — Бацькаўшчына, г. зн. зямля бацькоў. Гэта — і дзяржава, і родны край, Радзіма, Бацькаўшчына. У Расіі не супадае: «Отечество» — гэта дзяржава, а «Родина» — родная зямля...

*1991*

## Высакароднасць

Часопіс «Нёман» апублікаваў вельмі цікавы дакумент — «Тлумачальную запіску» У.С. Караткевіча, зробленую ім па патрабаванні КДБ БССР. Патрабаванне ўзнікла па нейчаму даносу, што ў Караткевіча на кватэры збіраюцца і пра штосьці гавораць навукоўцы і літаратары, якія знаходзяцца на падазрэнні ў КДБ. Па кожнай з гэтых асоб Караткевіч і дае сваё тлумачэнне — сваю маральную і грамадска-палітычную ацэнку. Пра каго — зусім лапідарную (Г. Тумас, А. Ліс), пра каго — больш разгорнутую (М. Прашковіч, Л. Геніюш, М. Чарняўскі, С. Міско, В. Лапуць). Пра кожнага з пералічаных Уладзімір Сямёнавіч гаворыць з вялікай павагай, падкрэсліваючы іх выдатныя чалавечыя і грамадзянскія якасці, іх навуковы або пісьменніцкі аўтарытэт. І завяршае свае паказанні агульнай ацэнкай і дзейнасці «падазроных» і ўсёй грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі, — завяршае не гнучыся, не ўгодліва, не з дрыжыкамі ў каленьках, а шчыра і мужна, з высокай чалавечай і пісьменніцкай годнасцю. Вось некалькі радкоў з ягонага «падагульнення»:

«...За своих знакомых я ручаюсь в том, что они люди порядочные, что они любят свою Родину и, в случае чего, не подведут... А то, что некоторые факты... скажем, отношение к белорусскому языку в школе, к тому, что некоторые принижают роль белорусов в войне, к тому, что Минск не имеет национального лица — что эти факты вызывали наше законное, может быть, излишне резкое возмущение, то, я думаю, это было не только наше право, но и наша обязанность».

Вось так: «не толькі наша права, але і наш абавязак». І можаце сабе судзіць мяне, калі мая праўда вам не падабаецца.

*1993*

## На Першым з'ездзе пісьменнікаў СССР

Калі галоўны дакладчык Мікалай Бухарын сказаў: «Другой крупнейшей фигурой нашей поэзии является Владимир Маяковский», — загрымелі бурныя апладысменты, і ўсе ўсталі. Пачаў гаварыць пра Багрыцкага — воплескі, усе ўсталі. І пасля — двойчы воплескі. Назваў Безыменскага — воплескі, і пасля яшчэ колькі разоў. Безыменскаму!.. Колькі гаварыў пра Ясеніна — ніякіх ні разу воплескаў. Як гэта кажуць у такім разе рускія людзі: «Каково?..»

Калі Бухарын кончыў — зала бы звар'яцела: бурныя воплескі, авацыі, крыкі «ура», усе ўсталі, і гэта цягнулася колькі хвілін. Такога даклада пасля не было ні на адным з'ездзе.

Вось так!.. Ні разу не бачыў — на ўсіх з'ездах у Беларусі — каб усталі пры імені Купалы, ці Коласа, ці Багдановіча... Ні разу, ніколі.

*1990-я*

## Пра М. А. Някрасава

Ніхто ў рускай паэзіі так балюча не ўспрымаў пакуты абяздоленых, так не спачуваў няшчаснаму чалавеку, так не апеляваў да сумлення, як Някрасаў. І вось цяпер, калі мы пачынаем разумець, што гібельны шлях літаратуры — гэта адыход ад «больной совести», ад грамадзянскай сумленнасці і мужнасці, — іменна цяпер Някрасаў выкідваецца з ліку святых. Ён не ўспамінаецца. Яго не стала! Няма! Але калі такі паэт стаў не патрэбен — гэта бяда! Для літаратуры. Для Расіі. Для нацыі. Для духоўнага існавання народа.

*1993*

## «Паэт! Подзь сюда!»

Выступалі з чытаннем вершаў перад рабочымі трактарнага завода — пасярэдзіне дня, відаць, на іх абедзенным перапынку (тады, у пачатку 60-х, так практыкавалася — даць «духоўны пішч» людзям ад варштатаў!) Былі: Сяргей Грахоўскі, Навум Кіслік, Валянцін Тарас, аўтар гэтых радкоў, здаецца, яшчэ хтосьці, не помню. «Адстраляліся», сустрэча закончылася. Падзякавалі за ўвагу і выходзім. Пакуль ідзем па краю залы на выхад — нашы слухачы, падняўшыся з месц, стаяць, з павагі даюць магчымасць гасцям прайсці першымі. Ідзем адзін за адным, ланцужком — і раптам чуем досыць гучны пралетарскі голас:

— Паэт! Подзь сюда!

Паднялі галовы, глядзім: каго з нас гэтак фамільярна хтось аклікае. Бачу — хто: гадоў сарака рабацяга, стаіць між радоў крэсел, скраю, і робіць знак рукою: маўляў, ступі сюды, трохі бліжэй. Зразумеў, што не мяне, але прыпыніўся, цікава: каго і навошта? Аказваецца, Валянціна Тараса. І той выйшаў на паўкрока з нашага ланцужка.

— Я вас слухаю.

І што ж ён і ўсе мы пачулі?

— Нада праўду пісаць! Понял?

— Понял, — разгубіўшыся ад нечаканай парады, адказаў, зусім як школьнік настаўніку, Валянцін.

І мы выйшлі з залы і накіраваліся дадому. Моўчкі. Азадачаныя. Рабочы пыльнуў у вочы Тарасу, а хіба не мог даць тую параду любому з нас?

*1999*

## «Нас падзялілі»

І тады Колас напісаў гэтыя геніяльныя радкі:

*Нас падзялілі. Хто? Чужаніцы.*
*Цёмных дарог махляры.*
*К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!*
*Нашы тут гоні, бары!*

Гэта — самая высокая праява грамадзянска-патрыятычнага духу ў творчасці Якуба Коласа. Самае адкрытае, самае мужнае слова ў абарону цэласнасці роднай зямлі, самы рашучы адпор «ворагам беларушчыны» ўжо ў новых — не царскіх, а бальшавіцкіх кіпцюрах. Самы шчыры, непрытворны крык працятага болем сэрца. Самае мудрае асэнсаванне падзеі паэтам-палітыкам і мысляром, які зыходзіў з глыбокага разумення, што значыць для лёсу народа, лёсу краіны такі разбой, такі гвалт, як рассячэнне напалам роднай зямлі, а значыць — рассячэнне напалам этнічна цэласнага арганізма народа, мовы і культуры яго, а сказаць дакладней — сэрца яго, душы яго... Колас, паўтараю, успрыняў гэта не толькі на ўзроўні эмоцый, але і на ўзроўні дзяржаўнай мудрасці.

Дзіўлюся, што пра гэты трагічны для лёсу Беларусі падзел сёння зноў стараюцца не ўспамінаць.

*2000*

## Справа годнасці і гонару

Самае горшае будзе, калі моладзь пойдзе за дэмагогамі і цынікамі, за іх хлуснёй. Дэмагогі крычаць пра патрыятызм, імянуюць сябе вялікімі патрыётамі. Прабачце, патрыётамі якой краіны, якой зямлі? Зямлі Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага, Чорнага, Геніюш, Караткевіча? Зямлі Буйніцкага, Галубка, Драздовіча, Сергіевіча, Забэйды-Суміцкага, Шырмы? Ці патрыётамі «Отечества»? Заўважце, як гэтыя патрыёты любяць слова «Отечество». Не сумнявайцеся, што яны маюць на ўвазе не Беларусь, о не!

Таму і кажу маладым: толькі не паддайцеся на хлусню! Адзін раз не вытрымаеце — і цяжка будзе ўтрымацца, цяжка. Ні ў якім разе не памыліцеся і не клюньце на ільсцівую прыманку! Яна — атрутная. Калі своечасова не спахапіцца, не адрынуць — гэта кончыцца маральнай смерцю.

Сёння ўсё ясна: вы — за свабодную, незалежную, беларускую Беларусь — ці за «Отечество»? Так, усё ясна. Справа годнасці і гонару — у гэтай яснасці не заблудзіцца.

*2001*

## Аказалася...

Задрамаў каля прыёмнічка, пад лёгкую музыку; прахапіўся і чую: як прыгожа якоесь малое дзеўчанятка шчабеча па-англійску! Ніколі не чуў, каб англійская гучала так прыгожа, так міла для майго слыху. Па шчырасці кажучы,

мне англійская мова не здавалася прыгожай — ад пачатку знаёмства з ёю. Разумею, што так думаць несправядліва, бо непрыгожых моў у свеце няма. І аднак жа — што праўда, тое праўда. А тут раптам... Што такое? Што такое? Аказалася: гэта малая беларусачка гаворыць! Гэта англійская мова ў яе беларускім выкананні! Гэта ў яе беларускім горлачку яна так папрыгажэла! Стала такой мяккай, пяшчотнай, мілай...

*2002*

## Руйнаванне нашай гісторыі

Гісторыя кожнага народа — у назвах яго населеных пунктаў і ў назвах вуліц. Перайменаванне — неапраўданае, неабгрунтаванае — і старажытных паселішчаў, і вуліц наносіць шкоду гістарычнай памяці народа, разбурае аб'ектыўна абумоўленую цэласнасць бачання мінулага, пазбаўляе гэтае бачанне яркіх каштоўных момантаў. Сціраецца і бяднее гісторыя краіны — бяднее аўтарытэт нацыі ў вачах свету. Вось прыклад, як гэта рабілася ў нас.

Паводле Паўла Шпілеўскага, да захопу Беларусі царыстамі ў Менску былі вуліцы: Францішканская, Зборавая, Валоцкая, Зыбіцкая, Дамініканская, Койданаўская, Феліцыянаўская, Бернардынская... Царысты замянілі гэтыя назвы на: Губернаторская, Крещенская, Преображенская, Торговая, Петропавловская, Богадельная, Маломонастырская... Пасля ўвесь Менск (і ўсе іншыя нашы гарады!) спрэс запаланілі назвы ў гонар вялікіх сыноў і дачок Беларусі: Маркса, Энгельса, Леніна, Лібкнехта, Люксембург, Свярдлова, Урыцкага, Валадарскага, Сталіна, Дзяржынскага, Калініна, Фрунзе, Кірава, Куйбышава, Арджанікідзе, Мяснікова, Варашылава, Будзённага, Чкалава і многіх іншых; а яшчэ такія каларытныя беларускія назвы, як Рэвалюцыйная, Інтэрнацыянальная, Савецкая, Мопраўская, Першамайская... Гэтая нялюдская, прадыктаваная невуцтвам і маральным убоствам практыка працягвалася да нядаўняга часу. Ад старажытных пазнак Менска амаль ні следу не засталося... На пачатку 90-х некалькі назваў вярнулі: Раманаўская Слабада, Залатая горка, Гарадскі вал, Кальварыйская... Якія цудоўныя назвы!.. Але ў 1994-м гэтая мудрая ініцыятыва воляй вялікіх «патрыётаў» спынена.

*2002*

## Хто зацікаўлены?

Гэта ж трэба ўмець — выгнаць з Беларусі самага выдатнага эстраднага спевака апошняга часу Яраслава Еўдакімава! Выдатнага па прыгажосці голасу, па непаўторнасці тэмбру, па ўзроўні майстэрства... І хто ж гэта зрабіў? Хто пастараўся? Хто быў зацікаўлены, каб пазбавіць Беларусь, беларускіх аматараў песні такога яркага, рэдкай таленавітасці, рэдкай абаяльнасці спевака? Хто?

Маўчанне. Поўнае маўчанне. Як бы нічога не здарылася. Ну не стала — і што? У нас такіх — хоць гаць гаці. Вось, калі ласка: Адам Скрыгітайла, Мікола Сіпайла, Антось Заікайла, Алесь Хрыпач...

Дзесяць гадоў таму прымусілі паехаць за акіян Валянціну Пархоменка — рэдкага прыроднага дару спявачку, выканаўцу беларускіх народных песень. Ну і кім жа замянілі? Ах, замянілі? Ну так! На яе месца прыйшлі : Дуся Піскляўка, Люся Гугняўка, Муся Гундоска...

З чыёй жа «ласкі», з чыёй волі, з чыйго загаду пакідаюць Беларусь лепшыя з лепшых? Каму на карысць-выгаду?

Маўчанне. Поўнае маўчанне.

*10.XI.2002*

## Павіншуймася, браткі!

«Галоўная пастаўшчыца прастытутак для Эўропы — Беларусь. На першым месцы!»

Ну вось, выйшлі нарэшце на першае месца і мы. Ёсць галіна, у якой беларусы апярэдзілі ўсіх астатніх.

І самыя танныя прастытуткі ў свеце — ад нас, нашы.

І самыя паслухмяныя, пакорныя, «безропотные».

Іншыя — хоць куды горшыя целам — дык вунь колькі грошай патрабуюць за сеанс, а беларускія прыгажуні... Ды ім жа цаны няма! Ды яны ж і тут як цноткі, як петнастоўкі, — такія сарамлівыя, як у першы раз, а аддаюцца за паўцаны і нават за трэць цаны.

Ну і якое ж гора іх прымусіла? І хто ж гэта іх так выхаваў? Чаму ж гэта ніхто ў свой час ім не растлумачыў, як трэба трымацца жанчыне такой прыгажосці! І наогул — як трэба трымацца жанчыне!..

Дык павіншуймася, браткі! На першае месца выйшлі!..

*14.XII.2002*

## Свята Перамогі

Па тэлевізары паказалі шэсце герояў Перамогі. Некалькі чалавек старых і зусім састарэлых удзельнікаў ВАВ. А ўсе астатнія — ветэраны Савецкай Арміі: дзябёлыя, здаровыя, бравыя генералы і палкоўнікі, якім ледзь пераваліла за шэсцьдзясят, або толькі падбіраецца пад шэсцьдзясят. Гэта значыць, нарадзіліся або ў 1941-м, або ў 1945 — 1946-м, пасля Перамогі. Пра Вялікую Айчынную ведаюць па кнігах і кінафільмах. Ды па песнях той пары.

Дарэчы — аб песнях. За ўсю перадачу пра свята прагучалі толькі дзве песні — і абедзве не беларускія. Ну хоць бы адна з дзвюх беларуская! Браткі беларусы, ці чуеце? Ну хоць адна песня, хоць паўпесні, хоць чвэрць песні — можа быць беларускай? У Беларусі. У вашай Беларусі. Дзе вы нарадзіліся і пражылі жыццё. Дзе змагаліся супраць чужынцаў-ворагаў... Як жа гэта здарылася, браточкі і сястрыцы?

*2005*

## У эпоху сурагатаў

Ідзе звыродны працэс прафанізацыі і люмпенізацыі нацыянальнай літаратуры, музыкі, мастацтва. Сапраўдны клопат аб духоўнай культуры падмяняецца паказухай, мімікрыяй клопату, прычым усё гэта дзеецца на нейкім плебейска-жабрацкім узроўні. У такіх умовах і плодзяцца няшчасныя «тоже писатели», графаманы набываюць прызнанне, аграбаюць прэміі, пралазяць у кіраўнічыя органы творчых саюзаў, у розныя журы і камітэты. Усё гэта — мітусня, за якою хаваецца творчая пустата, «адсутнасць прысутнасці». Падобна, што крытэрыі мастацкасці скора будуць зведзены на нішто. Ідзе масавая фабрыкацыя «мастацтва», напрыклад, эстрадных песень. Нейкая суцэльная самадзейнасць. І ўсё гэта прымаецца за норму. Бяда! Вялікая бяда, браточкі!..




# Уладзімір Сіўчыкаў

пісьменнік, мастак, выдавец. Аўтар кнігі апавяданняў і п'ес «Гульня ў тастамант» ( 1992 г.), кніг прозы: «Лісты да брата» (1998 г.), «Бювар» (2009 г.), кнігі паэзіі «Высакосны год» (2004 г.). Укладальнік (разам з А. Марачкіным) і адзін з аўтараў альбомаў «Жодзінцы. Жывапіс. Графіка. Мастацкае слова» (2008 г.), «Рыцары Пагоні і Арла» (2010 г.) і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў горадзе Жодзіна. Жыве ў Мінску.

# З «Жодзінскіх нататак і фацэцый» *

## «Залатая яблынька»

Практычна не гаворыцца пра такі спецыфічны і адметны від літаратурнай дзейнасці як укладальніцтва.

А між тым сам укладальнік ёсць і генератарам выдавецкай серыі, праекта або асобнага тома. Нярэдка ён, як пазначылі б у цітрах кінематаграфісты, аднаасобна з'яўляецца і аўтарам ідэі, і сцэнарыстам, і рэжысёрам-пастаноўшчыкам.

Бывае так, што супрацоўнік выдавецтва прагматычна выконвае вытворчы план і толькі дае новую назву, скажам, зборніку казак, якія ўжо выходзілі раней.

Але бывае і так, што ўкладальніцкі працэс расцягваецца на месяцы і нават гады, вымагае як эўрыстыкі, так і чарнавой засяроджанай працы за кампутарам, у бібліятэках, а таксама за каваю і ў тэлефонных размовах, па скайпе з аўтарамі ці іх спадкаемцамі, перакладчыкамі, бібліёграфамі, навуковымі кансультантамі, рэцэнзентамі...

У дзень нараджэння Ганса Хрысціяна Андэрсена, які адзначаецца як Міжнародны дзень дзіцячай кнігі, завязаў я матузкі тэчкі «Залатая яблынька» з раздрукоўкаю вычытанага карэктарам рукапіса, а таксама скінуў, спадзяюся, апошні варыянт тэкста і на флэшку.

У гэтай чытанцы, кажучы словамі анатацыі, адрасаванай дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту, іх бацькам, бабулям і дзядулям, а таксама навучэнцам педагагічных каледжаў, настаўніцам і выхавацелькам, сабраў народныя казкі, легенды і паданні, а таксама творы беларускіх пісьменнікаў.

Хоць і кажуць, што не ўсё тое золата, што блішчыць, спадзяюся, назва «Залатая яблынька» паводле найменне адной з казак — традыцыйная, пазітыўная, удалая. Хочацца верыць, што нясе яна станоўчы зарад і прыемныя асацыяцыі, дазваляе згадаць такія казачныя дыяменты як «Каток — залаты лабок», «Ох і залатая табакерка», «Залаты птах», «Залатая Горка», «Скарб у балоце», «Заклятая магіла волата»... Не сумняваюся, што і падзагаловак «Казкі, легенды, паданні» спрацуе як прыцягальны брэнд: людзей прываблівае ўсё старажытнае і загадкавае.

Склаў кніжку з шасці раздзелаў: «Казкі пра жывёл», «Чарадзейныя казкі», «Сацыяльна-бытавыя і авантурна-навелістычныя казкі», «Легенды», «Паданні», а таксама «Слоўнічка», у якім патлумачыў некаторыя тэрміны і паняцці.

Няраз дзякаваў у думках пісьменніку Алесю Якімовічу (1904—1979), які ў свой час таленавіта выканаў вялізарную працу — давёў да чытэльнага, літаратурнага стану важкі пласт (больш за 200 тэкстаў!) беларускіх народных

* Радкі, якія прыйшлі, напісаліся, надыктаваліся ці зняліся з дыктафона, набраліся на кампутары, адрэдагаваліся ў родным Жодзіне.

казак. За савецкім часам ягоная карпатлівая творчая дзейнасць азначалася словам «апрацоўка». Чуецца ў гэтым пэўная нівеліроўка і механістычнасць, нібыта апрацоўваў ён фальклорныя запісы як драўляныя цурбакі на сталярным варштаце. І добра яшчэ, калі выдаўцы не забываліся потым пазначыць гэтую самую пісьменніцкую апрацоўку, бо надаралася і такое!

Падчас працы так захапіўся матэрыялам, што падахвоціўся, сам пераказаў некалькі тэкстаў, і асабліва ўсцешаны паданнем пра роднае Жодзіна. Гаварыў пра гэта з калегамі — Крыстынаю Лялько і з Уладзімірам Ягоўдзікам. Пагадзіліся, што казку, легенду, паданне літаратар усё ж пераказвае, а не апрацоўвае! Прычым пераказвае часам настолькі адвольна, што і падпісвае як свой твор. Да прыкладу, Якуб Колас пазначаў тэкст «Музыкі» (беларускі аналаг нямецкіх «Брэменскіх музыкаў») як пераказ, а казку «Зайчыкі» ці паданне «Чаму ў сенакос і ў жніво ідзе дождж» падпісваў як аўтарскія.

Таму палічыў мэтазгодным і лагічным у кожным раздзеле паставіць пасля фальклорных узораў літаратурныя казкі, быліны, інтэрмедыі, інсцэніроўкі Яна Баршчэўскага, Янкі Купалы, Клаўдзіі Каліны, Пятра Васючэнкі... Прыўнесены ў іх і прыкметы сучаснасці — у быліне Максіма Танка мураш Бадзіня выправіўся ў касмічнае падарожжа, а ліса ў Станіслава Шушкевіча задзейнічала на свае лісіныя патрэбы магнітафон.

Прадчуваю асалоду і ад суаўтарства — мастачка-графік Алена Карповіч, з мужам якой Алегам вучыўся адначасна ў мастацкай вучэльні і нават жыў у адным інтэрнатаўскім пакоі, днямі мусіць здаць рэшту ілюстрацый да «Залатой яблынькі». Вельмі задаволены, як аздобіла яна ў нашым выдавецтве чытанку «Крынічка», зборнік польскай паэзіі дзецям «Качка-дзівачка», том казак народаў свету, а таксама кніжкі паэзіі Рыгора Барадуліна і Артура Вольскага.

Па электроннай пошце выслаў спрактыкаванаму дызайнеру Мішу Драко неабходныя матэрыялы і звесткі, каб падрыхтаваў макет, а таксама тытул і авантытул. А вось вокладка чамусьці бачыцца мне пераважна сіне-блакітнаю, з ліхтарыкамі залатых яблыкаў.

Адначасна шчыруе над кніжкаю і вярстальнік Васіль Козлік, пасля першай вёрсткі якога можна будзе паправіць, удакладніць і змяніць тое-сёе па ўкладанні і па карэктуры.

Разлічваю на тыраж у пяць тысяч асобнікаў, што не так і мала на сённяшні дзень, а таксама на дадрукоўкі наступнымі гадамі. Бо нярэдка бывае і так — гартаеш ці нават прачытваеш кніжку з тыражом у сотню-дзве асобнікаў, які на сёння, асабліва для паэтычных зборнікаў, ёсць сумнай рэаліяй, і думаеш: «А і праўда, каму яна, акрамя самога аўтара, ягоных сваякоў і знаёмцаў увогуле патрэбная?!»

Міхась Скобла, які ўклаў не адну грунтоўную анталогію, нярэдка скарыстоўвае дасціпную прыказку: «Хочаш насмяшыць Бога — падзяліся сваімі планамі!»

Але гэтым разам, хочацца верыць, усё пройдзе гладка і не пазней як на Яблычны спас мецьмем плён з «Залатой яблынькі».

*2 красакавіка 2013 г.,*
*на Міжнародны дзень дзіцячай кнігі*



*З папарацы. Брацiслава. Жнiвень 2001 года.* **Фота Яна Коваля**

## Адмазка

Як i прадчуваў, падборку маю перанеслi ў наступны нумар часопiса.

Дый тлумачэнне галоўны рэдактар агучыла проста смеху вартае: нiбыта тэхнiчны рэдактар Алег Г. заявiў на планёрцы, што нядобра (маўляў, будуць смяяцца чытачы), калi ў адным нумары прачытаюць кароткую прозу амаль што цёзак па прозвiшчы — Франца Сiўко i Уладзiмiра Сiўчыкава.

Па-першае, запярэчыў ёй, праз свой сцiплы аб'ём часопiс не можа публiкаваць нi п'есы, нi паэмы, нi аповесцi, нi, тым болей, раманы.

Па-другое, нягледзячы на тое, што тэхрэд уваходзiць у рэдакцыйную раду, зусiм не ягоная прэрагатыва вызначаць рэдакцыйную палiтыку выдання ў галiне лiтаратуры, зусiм не ён мусiць ухваляць аўтараў, тэматыку i жанры.

Па-трэцяе, стаiм мы з шаноўным Францам Iванавiчам поруч, скажам, у тэлефонным даведнiку Саюза беларускiх пiсьменнiкаў, i нiкога той факт не весялiць. Як i тое, што нарадзiлiся мы ў адзiн травеньскi дзень, але з розніцаю ў пяць гадоў.

Вынікае, што паводле тэхрэдаўскага (?) ўяўлення не могуць надрукавацца пад адной вокладкай, да прыкладу, гісторык Аляксандар Пашкевіч і аўтар гістарычных раманаў Алесь Пашкевіч. Не можа быць апублікаваны поруч плён працы мовазнаўцы Аляксандра Лукашанца, журналіста Аляксандра Лукашука, мастака Уладзіміра Лукашыка і фотамайстра Алега Лукашэвіча.

Калі апеляваць да згаданага ўжо пісьменніцкага даведніка, дык няцяжка знайсці ў ім па тры літаратары з прозвішчамі Дубянецкі і Марціновіч, а ўжо па два можна адшукаць з добры тузін: Адамовіч, Баршчэўскі, Вольскі, Галубовіч, Дэбіш, Жук, Кавалёў, Касцюкевіч, Міхно, Пятроў, Станкевіч, Сямёнава, Яскевіч... І ўжо зусім бяда, калі творца носіць прозвішча з коранем «Барыс», бо паводле заганнай логікі не могуць, проста не маюць права надрукавацца ў адным нумары часопіса Сымон Барыс, Сяргей Барысавец, Юрый Барысевіч, Уладзімір Барысенка, Таццяна Барысік і (які жах — зноў Таццяна!) Таццяна Барысюк!

«Чытачы будуць смяяцца!»

*13 красавіка 2013 г.*

## Рыба гніе з галавы

Эсэіст, паэт, радыёжурналіст Міхась Скобла гады тры таму спытаўся на літаратурным выступе ў аўдыторыі жодзінскіх школьнікаў, ці ведаюць яны, хто такі Багуслаў Радзівіл, і пабачыў, што называецца, лес рук!

Фотарэпарцёр Сяржук Гудзілін сфатаграфаваў і размясціў на сайце газеты «Наша Ніва» графіці на паркане пры жодзінскім гарадскім стадыёне. З яго вынікае, што футбольныя заўзятары каманды «Тарпеда — БелАЗ» ахвотна і горда імянуюцца «багуслаўцамі». І праўда, мець за прашчура князя Багуслава Радзівіла, які быў у сваяцтве з многімі еўрапейскімі каранаванымі асобамі, а з ім і 370-гадовую гісторыю, куды больш пачэсна, чым 65-гадовую гісторыю пралетарыяў-прыхадняў.

Пра старадаўнюю гісторыю, а ў тым ліку і гісторыю Жодзіна, можна было гаварыць з колішнім старшынём гарвыканкама Васілём Грышчанкам, можа і праз тое, што папрацаваў ён і ў Нясвіжы, дзе нельга было не прасякнуцца беларушчынай.

На вялікі жаль, цяперашні «граданачальнік» ёсць тыповы homo soveticus, які жыве старымі ўяўленнямі і ведамі пра Жодзіна. Натуральна, на пасаду ён прызначаны, а не абраны дэмакратычна. Перад гэтым паспеў пасядзець у чыноўніцкіх крэслах у Лагойску, Карэлічах, Браславе, Дзяржынску...

Увосень плануе ён адсвяткаваць 65-годдзе беларускага аўтазавода і... 50-годдзе горада! Няўжо аўтамабілебудаўнікі-белазаўцы пятнаццаць гадоў жылі ў чыстым полі?! І як можна святкаваць гэта пасля таго, як гісторыкі і краязнаўцы пераканаўча, з дакументамі ў руках давялі, што век паселішча — у сем з лішкам разоў большы! А адзначаць дату, калі гораду рашэннем Савета міністраў БССР надалі статус горада абласнога падпарадкавання, за дату ягонага нараджэння — гэта прафанацыя гісторыі і поўны абсурд!

Таму не дзівіць, але моцна засмучае, што ў школах занядбаны факультатыў жодзіназнаўства, што пра Другія Радзівілаўскія чытанні ва ўладных кабінетах не хочуць і слухаць. Канца краю не відно рамонту будынка краязнаўчага музея, бясконца таўчэцца вада ў ступе наконт гарадской карціннай галерэі.

Затое плануе мэр ачысціць, паглыбіць і выпрастаць(!) рэчышча Жодзінкі, якую з XVII стагоддзя імянуюць яшчэ і Жодыняй. (Лепш бы зладзіў масток праз рачулку паміж вуліцамі Партызанскай і Багуслаў Поле!) Рэчка жыве па сваіх законах, і нельга выпростваць яе, ператвараць у канаву! Ваданосныя слаі — гэта тонкая і далікатная матэрыя, няможна сунуцца на яе з экскаватарам! Жодзінцы ведаюць, што пасля таго, як закулі ў жалезабетон крыніцу па-за плацінаю водасховішча на Плісе, тая ледзь-ледзь ліпее.

Але мэр упэўнены, што ягонае меркаванне апрыёры ёсць адзіна правільным на падуладнай яму тэрыторыі нават у дачыненні да жыцця духоўнага! Пастару Царквы «Дом Божы» Аляксандру Шавякову ён наўпрост заяўляе, што ягоная царква — гэта прытон. Маўляў, існуюць толькі дзве царквы — праваслаўная і каталіцкая, а астатнія не маюць права існаваць. Але куды падзецца ў такім разе грэка-каталікам, пратэстантам, іўдзеям, мусульманам?!

Як да Бога далёка вертыкальшчыку да Вальтэраўскага: «Я не падзяляю Вашага пункту погляду, але гатовы аддаць жыццё за Вашу магчымасць выказваць яго!»

Няўжо і ён, дачаснік, лічыць свайго сюзерэна вышэйшым за Бога, няўжо не баіцца праз тое і суда Божага?!

*На Радаўніцу,*
*14 траўня 2013 г.*

## Тапанімічныя рэзервы

Атрымаў ад жодзінскага краязнаўцы Галіны Аніскевіч электроннае пасланне. Напісала яна і пра тое, што ў раёне Кавальскага завода цяжкіх штамповак работнікі выканкама надалі новым вуліцам найменні: Вілейская, Мядзельская, Салігорская, Слуцкая, Смалявіцкая, Смілавіцкая, Пухавіцкая...

Зразумела, гэта куды лепей, чым сталічныя Алтайская, Амурская, Ангарская, Байкальская, Ілімская, Іркуцкая, Томская, Хабараўская...

І ўсё ж.

Анічога не маю супраць гарадоў, ухваленых выканкамаўцамі ў назвах вуліц. Больш за тое, можна і трэба вітаць найменне Смалявіцкая, бо з аднайменным горадам Жодзіна крэўна зніtаванае, узнікла на ўсходняй ускраіне Смалявіччыны як Жодзіна Слабада. Узнікла ў 1643 годзе пад першапачатковай назваю Багуслаў Поле, якую дасведчаныя гісторыкі лічаць скажоным Багуслаў Полісам (Boguslaw-polis — горад, што належаў яго заснавальніку князю Багуславу Радзівілу). Зазначу тут, што раней найменні вуліц мелі пад сабою канкрэтыку, неслі сэнсавую нагрузку. Калі вуліца звалася Смалявіцкай, дык і вяла яна абавязкова

ў бок Смалявічаў. На жаль, сёння гэты прынцып занядбаны: поруч паралельнымі ці перпендыкулярнымі могуць аказацца, скажам, Дняпроўская і Нёманская.

Як арганічную можна прымаць і Смілавіцкую. Вуліца з такой назваю ўзнікла ў XVII стагоддзі адной з першых поруч з Менскай, Барысаўскай, Жодзінскай.

Але як абгрунтоўваюцца астатнія назвы-наватворы? Проста з павагі да адпаведных гарадоў і іх жыхароў? Тады як вызначаць прыярытэты?! У Беларусі ёсць самастойная адміністрацыйная адзінка Мінск, шэсць абласных цэнтраў, дванаццаць гарадоў абласнога падпарадкавання і сто васемнаццаць райцэнтраў — рэзерв для падобных найменняў, лічы, невычарпальны!

Найменні вуліц паводле беларускіх гарадоў, канечне, больш мілагучныя і не такія груваслкія, зсаветызаваныя і недарэчныя, як, скажам, 50 гадоў Кастрычніка, на якой давялося жыць і мне.

Але хацеў бы прасіць не толькі жодзінскіх выканкамаўцаў звярнуць увагу на яшчэ адзін, натуральны рэзерв для вулічных найменняў. Гэта назвы вёсак, хутароў і ўрочышчаў, якія паглынуў горад.

Магу прывесці як мінімум тры-чатыры аргументы на іхнюю карысць.

Па-першае, гэта дазволіла б захаваць этнічную і гістарычную памяць пра іх.

Па-другое, гучаць яны прыгожа і натуральна — варта толькі ўслухацца: Дубовы Лог, Дымкаўка, Крушыннікі, Ракітаў Кут, Яловіца.

Па-трэцяе, яны непаўторныя. Малаверагодна, што яшчэ недзе знайшліся б вуліцы з назвамі Баршчоўка, Кас'ё, Ліпавая Клець, Падасоўе, Цітаўка...

І ўрэшце, гэта было б зусім невялікай платаю, прабачэннем за знішчаныя сялібы перад тубыльцамі і прашчурамі, а таксама данінаю памяці ім.

*30 траўня 2013 г.*

## Лысіну на плеш не змяняеш

Чапляе, рэжа вока новамодная завядзёнка ў перыёдыцы — дзіўным чынам выкадроўваць фотапартрэты аўтараў, зразаць верхнюю і ніжнюю часткі твараў.

Пытаўся пра гэта ў рэдактара тоўстага часопіса і атрымаў адказ: маўляў, самае галоўнае, самае выразнае на твары — гэта вочы.

Не стаў спрачацца, але, упэўнены, што выявы інака Мікалая (паэта Зніча — Алега Бембеля) і мастака Уладзіміра Пракапцова будуць няпоўныя без клабука і шырокай барады дый кучаравай шавялюры адпаведна.

А пазней заўважыў, што некаторыя з рэдактараў і дызайнераў і самі не вызначаюцца багатай расліннасцю на галовах!

Сумняваўся быў гэтаксама і наконт таго, як пазначаюць аўтарства фотаздымкаў. Лічыў і лічу непрымальным, калі на абароце тытула ці на апошняй старонцы пішацца: «У нумары выкарыстаны фотаздымкі...» і далей гамузам падаецца пералік імёнаў фатографаў. Нікому ж не прыходзіць у галаў напісаць: «У нумары выкарыстаны раманы, вершы, паэмы, эсэ, артыкулы...» і падаць следам спіс літаратараў!

Наўрад ці слушныя падобныя спісы і таму, што адзін фатограф здымаў у камфортных умовах студыі, а другі рызыкаваў не толькі сваёй апаратурай, але і здароўем ці нават жыццём, адзін шчоўкаў падчас дамоўленай фотасесіі, а другі падлавіў каштоўны кадр як папарацы, адзін падаў «сырэц», а другі апрацаваў выяву ў «фаташопе». Кожны творца мусіць адказваць за сваё, зробленае менавіта ім.

Таму найлепей даваць подпіс да кожнага канкрэтнага здымка, а калі ўжо зусім нявыкрутка, дык спіс можна ўдасканаліць — пазначыць старонкі: «У нумары скарыстаныя здымкі Віталя Гіля (с.154—156), Юрыя Дзядзінкіна (с.9, 11), Уладзіміра Кармілкіна (с.14), Уладзіміра Крука (с.29, 105), Сяргея Шапрана (с.120—122), Яўгена Коктыша (с.150-153) і Яўгена Шатохіна (с. 310, 314)».

Зразумела, некаторыя фота бывае ідэнтыфікаваць нялёгка. Але і тут можна падаслаць саломкі, пазначыць іх: «Фота з архіва часопіса», чым падаваць зусім безыменнымі.

А на сайце адной з радыёстанцый агледзеў вельмі тактоўны подпіс «Courtesy photo», што азначае «Здымак ласкава прадастаўлены».

Калі сам аддаю фоткі на сайты ці ў друкаваныя выданні, дык падпісваю іх як мага падрабязней — хто зняты, у якім месцы і калі шчоўкнуў затвор. Асабліва дбайна стараюся пазначаць аўтарства, калі гэта не мае асабістыя фоткі, а з майго архіва: раптам не будзе мажлівасці іх аплаціць, дык хоць паспрыяю, каб захавалася аўтарскае права на імя.

Але, як у кожным з правілаў, і тут ёсць выключэнні — гэта калі сам фатограф просіць не пазначаць ягонае імя ці хоча скарыстаць псеўданім. Да прыкладу, калі лічыць, што ў нумары зашмат ягоных матэрыялаў, калі да ягоных падпрацовак раўніва ставіцца асноўны працадаўца альбо кантрактам увогуле не ўхваляецца супрацоўнічаць з іншымі выданнямі.

Але ёсць і пытанне, якім чынам падпісваць фота. Малапрымальным бачыцца, калі імя майстра накладаецца проста на ягоны здымак. Наўрад ці хто насмеліцца падпісваць падобным чынам рэпрадукцыю з мастацкага палатна! Ёсць жа цяпер тэхнічная мажлівасць прабіць імя аўтара ці інфармацыйнага агенцтва хаця б дробным кеглем па вертыкалі, збоку здымка.

***

Але множацца і сімпатычныя тэндэнцыі.

Літаратурны дадатак да штотыднёвай газеты стаў падаваць не толькі галовы, але і паясныя партрэты, а часам і сітуацыйныя, сюжэтныя фота.

З прыходам маладога мастацкага рэдактара Дар'і Б. літаратурна -мастацкі часопіс пайшоў яшчэ далей — стаў змяшчаць і палосныя, на ўсю старонку фота.

Прыемна, калі не баяцца рэдактары ставіць не «зашпіленыя на ўсе гузікі», а адкрытыя, усмешлівыя ці нават «хуліганістыя» здымкі.

Добра, калі разумеюць, што часам аўтару выгодна папазіраваць знакамітасці, асабліва калі даць ёй на колькі мінут свой фотаапарат ці мабільнік з уманціраванай у яго камерай. Гэта амаль тое самае, як сфатаграфавацца поруч з самой знакамітасцю.

Мабыць, схітраваў Сяргей Панізнік, калі быў яшчэ курсантам Львоўскай вайскова-палітычнай вучэльні. Папрасіў класіка, каб той націснуў на спуск ягонага фотаапарата, а з таго часу ахвотна публікуе здымак, дзе ён у вайсковай форме, з подпісам «Фота Івана Мележа».

Блогера, радыёжурналіста і паэта Міхася Скоблу фатаграфавалі дзясяткі, калі не сотні разоў, але ў сваёй кнізе гутарак «Вольная студыя» змясціў ён фотаздымак, зроблены фактычна першым прэзідэнтам незалежнай Беларусі Станіславам Шушкевічам!

*10 чэрвеня 2013 г.*

## Гуманнае свята

Трэцяй нядзеляй чэрвеня дачка Алеся, якая цяпер у Нью-Ёрку, эсэмэскай, а потым і па скайпе павіншавала з Татавым днём, паабяцала перадаць прынагодна прэзент, падзякавала за апалую восеньскую лістоту, якой разам шапацелі ў дзіцячым парку, за належнае (паводле яе слоў) выхаванне і за шчаслівае дзяцінства. Аказваецца, ёсць у амерыканцаў, у адрозненне ад нашых — пераважна мілітарных і прасавецкіх — і такое гуманнае свята як Father's Day.

Упершыню адзначалі яго больш за сто гадоў таму, 19 чэрвеня 1910 года, а ініцыятаркай гэтага фэста лічаць Санору Смарт Дод з горада Спокана (Spokane), што ў штаце Вашынгтон. Такім чынам жанчына хацела выказаць невымерную ўдзячнасць свайму татку, Уільяму Джэксану Смарту і ўсім амерыканцам, якія старанна выхоўваюць дзетак. Ягоная жонка памерла, калі нараджала шостае дзіця, але бацька-адзіночка выхаваў на сваёй ферме і тое немаўлятка, і пяць старэйшых за яго дзетак.

Але прыхільнікам свята давялося яшчэ больш за паўстагоддзя пераадольваць супраціў кангрэсменаў, якія лічылі, што свята лабіруюць гандляры, якія хочуць на ім нажыцца. Агульнанацыянальным фэстам гэты дзень стаўся толькі ў 1966 годзе, калі прэзідэнт Ліндан Джонсан (Lindon B. Jonson) абвясціў трэцюю нядзелю чэрвеня нацыянальным святам. Падчас штогадовых урачыстасцей дзяржава, царква і простыя грамадзяне традыцыйна аказваюць падтрымку бацькам з невысокімі прыбыткамі, якія самі выхоўваюць дзяцей.

З цягам часу і іншыя краіны, якія абвяшчаюць, што цэняць сямейныя каштоўнасці, сталі адзначаць гэты дзень і ўшаноўваць мужчын-бацькоў. Сярод іх — Аргенціна, Вялікабрытанія, Канада, Кітай, Куба, Ізраіль, Індыя, Ірландыя, Мексіка, Нідэрланды, Паўднёвая Афрыка, Славакія, Францыя, Чэхія, Швейцарыя, Японія і многія іншыя. У некаторых краінах свята гэтае таксама адзначаюць у першым летнім месяцы: у першую нядзелю — у Літве, а ў другую — у Бельгіі. У арабскіх краінах — Іярданіі, Ліване, Палесціне , Сірыі, Ягіпце мужчын віншуюць 21-га чэрвеня, у дзень летняга сонцастаяння і першы дзень лета паводле іх календара, а 23-га чысла — у суседняй з намі Польшчы. У раманскамоўных Італіі, Іспаніі дый Партугаліі бацькоў-мужчын вітаюць 19 сакавіка, а ў краінах Балтыі: Нарвегіі, Фінляндыі, Швецыі, Эстоніі, а таксама ў Ісландыі — у другую нядзелю лістапада...

А што ў нас?

Відавочная дыскрымінацыя... мужчын! Дзень міжнароднай салідарнасці жанчын 8 Сакавіка — чырвоны дзень календара, дзень непрацоўны. А вось быццам бы і існы ў Беларусі Матчын дзень мінаецца фактычна незаўважным ці то 13 красавіка, ці то 14 кастрычніка.

Але нават нібыта мужчынскі дзень 23 лютага не парупіліся вылучыць у календары чырвоным колерам, зрабіць выходным тыя, каму так да душы саўковыя традыцыі.

Дагэтуль культывуецца іх заганная традыцыя віншаваць мужчын, найперш як ваяроў і абаронцаў, у лютым. А між тым хлуслівае вайсковае свята не мае да Беларусі аніякіх адносінаў. Па-першае, незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі была абвешчана патрыётамі толькі 25 сакавіка 1918 года. Па-другое, лютаўскімі днямі таго года кайзераўскія войскі пераможна наступалі і на расейскую сталіцу, захоплівалі ўсё новыя тэрыторыі. А яшчэ пазней, каб утрымаць сваю ўладу ў Расеі, бальшавікі адкупаліся ад немцаў гіганцкімі рэпарацыямі і землямі на ўскраінах былой імперыі, а ў тым ліку і беларускімі!

З задавальненнем прыняў доччыны віншаванні з найперш амерыканскім святам, бо імаверная ўрачыстасць з такім найменнем успрымалася б сёння ў Беларусі як трагікамічная і двухсэнсавая. Мімаволі асацыіраваўся б Дзень бацькі з мянушкамі і эўфемізмамі на адрас адной вядомай асобы...

Сёлета запабег наперад цягніка мінскі дзіцячы парк імя М. Горкага — наладзіў Татаў дзень, які прысвяціў... Міжнароднаму дню бацькі! Але пры заўсёднай любові і бясконцай павазе да тае ўстановы мушу зазначыць, што мімаволі згадаліся заакіянскія гандляры, якіх апасаліся кангрэсмены, бо запрашаў парк на... няіснае свята!

З задавальненнем перадам ад Алесі эстафету віншаванняў тым сябрам і знаёмцам, якіх лічу ўзорнымі бацькамі, і не толькі ў Беларусі!

*16 чэрвеня 2013 г.*

## У дзівоснай краіне

— Гэта мой сябар, Чэшырскі Кот, — сказала Алеся. — Дазвольце, я вас пазнаёмлю.

*Люіс Керал. Алесіны прыгоды ў дзівоснай краіне*

Казкі дзецям у розных формах — празаічнай, паэтычнай, драматычнай — пісалі пачынальнікі новай беларускай літаратуры Францішак Багушэвіч, Карусь Каганец, Ядвігін Ш., Цётка, Змітрок Бядуля. Іх традыцыі развівалі Якуб Колас, Максім Багдановіч, Вацлаў Ластоўскі, Максім Танк, Васіль Вітка, Артур Вольскі, Павел Місько, Рыгор Барадулін. Актыўна працуюць у гэтым жанры і літаратары нашага дня.

Таму дзіўна, што ні ў 5-томнай «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», ні ў 18-томнай «Беларускай энцыклапедыі» няма нават маленечкага артыкульчыка «Казка літаратурная».

А дарма! Варта пагартаць хаця б дзясятак-два тамоў, каб ў гэтым пераканацца.

Пасля таго, як напоўніцу глытнуў ГУЛАГаўскай рэчаіснасці, Уладзімір Дубоўка ледзь не цалкам пераключыўся на творы дзецям, якія, мабыць, падаваліся бяспечнымі. Ягоная кніга «Казкі» пабачыла свет амаль што паўстагоддзя таму ў выдавецтве «Народная асвета».

Змешчаныя ў ёй творы «Кветка шчасця», «Разумная дачка», «Хто дужэйшы?», «Сонейка і певень», «Чаму ў зайцаў кароткія хвасты», «Аленняя сцежка», «Вожыкаў суд» і іншыя, віртуозна напісаныя на аснове беларускіх народных казак, паданняў і легенд.

Але з няменьшым майстэрствам пераказаў Мэтр бурацкую казку «Крошачка хлеба», нанайскую «Айога», ненецкую «Тры браты» а таксама ўсходнія «Ганарысты конь» і «Дзяўчына і кілім».

Натуральна, што ў зборнік «Казкі беларускіх пісьменнікаў» («Юнацтва», 1983) увайшлі найперш рэчы, якія сталі ўжо хрэстаматыйнымі: «Вавёрчына гора» Васіля Віткі, «Чортаў скарб» Уладзіміра Караткевіча, «Быліна пра касмічнае падарожжа Мураша Бадзіні» Максіма Танка...

*Алеся ў дзівоснай краіне. Цэнтрал-парк. Нью-Ёрк.* **Фота Алесі Сіўчыкавай**



Калі даверыцца ўкладальніцы І. Чаплаводскай, дык можна прыйсці да высновы, што беларускіх паэтычных казачных тэкстаў удвая болей ніж празаічных, бо ў зборніку іх дваццаць сем і чатырнаццаць адпаведна.

Сумнеўным падаецца і алфавітны, паводле прозвішчаў літаратараў прынцып падачы тэкстаў. Паводле яго атрымалася, што творы бясспрэчных класікаў, «жывёльныя» казкі «Мушка-Зелянушка і Камарык-насаты тварык» Максіма Багдановіча і «Рак-вусач» Якуба Коласа апынуліся далёка адзін ад аднога. Ці не лепш было б кіравацца прынцыпам храналагічным, паводле датаў нараджэння пісьменнікаў? Прынамсі, гэта дазволіла б адсачыць эвалюцыю жанра, логіку з'яўлення новых пабытовых рэалій.

Двухтомнік класіка дзіцячай літаратуры Васіля Віткі з лаканічным надпісам «Дзецям» на вокладках выклікае пэўную непаразумеласць, бо аформлены і пададзены нібыта акадэмічнае выданне выбраных твораў. Шмат што гаворыць за гэта — і недзіцячы фармат, і строгі бумвінілавы пераплёт вірыдонавага колеру, і ілюстрацыі на ўклейках з подпісамі ў стылі кніжак сталінскіх дзесяцігоддзяў.

З анатацыі да казкі «Сонейка, свяці!», якая дала назву цэлай кніжцы Уладзіміра Ягоўдзіка («Юнацтва», 1988) можна дазнацца, што ў даўнія-даўнія часы жыў-быў пан. Цяжка жылося ў яго сялянам. А яшчэ горш стала, калі цмок па панавай просьбе скраў з неба сонца. Каб вярнуць сонейка добрым людзям, і выпраўляецца ў нялёгкую і небяспечную дарогу Яська-каваль са сваімі, як аказалася, падспуднымі памагатымі царэвічам дый панічам.

У кнігу ўвайшлі яшчэ дзве казкі: «Прыгоды Званочка» і «Зайка, тупні ножкай!..»

Усё, што ні робіць Уладзімер Ягоўдзік — піша казкі дзецям, рэдагуе газету «Дзеці і мы» або часопіс для падлеткаў «Бярозка», засноўвае і выдае альманах «Лесавічок», бароніць птушак Бацькаўшчыны, праводзіць шматлікія літаратурныя сустрэчы са школьнікамі, — атрымліваецца ў яго прыгожа і высокапрафесійна. Мабыць, таму ахвотна супрацоўнічаюць з ім такія майстрыілюстратары як Уладзімір Савіч і Павел Татарнікаў.

У доміку «Выбраных твораў» Ядвігіна Ш. найбольш грэе мяне казка «Сакатушка» пра дбайную курачку. Грэе і цешыць таму, што яшчэ студэнтам-філолагам уведаў адну з імаверных этымалогій свайго прозвішча: сіўчык — леташняя трава, што ссохла і прабыла зіму пад снегам. «Сакатушка, увокал агледзеўшы, паправіла сухія лісточкі каля гнязда, абаткнула яго сіўчыкам і, пакруціўшы галоўкай, памчалася на суседнія гароды».

Безліч кніжак выйшла пад тытулам спецыялізаванага на літаратуры дзецям і падлеткам выдавецтва «Юнацтва», якое штогод выпускала да ста дваццаці найменняў. Пасьпяхова працавала яно з 1981-га па 2002 год, але потым было ўключана ў склад гэтаксама дзяржаўнай «Мастацкай літаратуры» як рэдакцыя дзіцячай літаратуры. У выніку гэтага «інтэграцыйнага» свербу дзіцячых кніжак стала выходзіць куды меней, але былі сярод іх і тыя, якія можна было б назваць шэдэўрамі.

У 2003 годзе да іх трэба было б залічыць казачныя аповесці Пятра Васючэнкі «Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі».

«Варголы», «Цар Максімілян», «Кот Велярыб», «Яйка ад Куры Шчабятуры», «Здарэнне на Дзяды», «Каханне ката Буркуна» — у гэтых і іншых казках, якія сюжэтна звязаныя паміж сабою, з мяккім гумарам расказваецца пра неверагодныя прыгоды і авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага. Гратэск, гіпербала, вясёлыя парадоксы, іронія, тактоўнае наследванне традыцыям Яна Баршчэўскага — усё гэта стварае атмасферу своеасаблівую, трохі алагічную, а таму і слоўнічак, дзе тэрміны размешчаны не ў алфавітным парадку, бачыцца прымальным.

Дзякуючы тонкаму прачытанню тэкстаў, выключнаму густу і найдасканалай кампутарнай графіцы мастака Уладзіміра Лукашыка выданне было прэміравана на кніжных фэстах у Мінску, у Маскве і ў Браціславе.

Непаўторная мова, дасканалы стыль, а таксама любоў да жыцця, што нясуць героі казак Уладзіміра Караткевіча, — усё гэта з першых радкоў захопіць і дзяцей, і дарослых у кнізе «Лебядзіны скіт» той жа «Мастацкай літаратуры».

Малыя з цікавасцю праслухаюць або прачытаюць творы «Жабкі і Чарапаха», «Вясна ўвосень», «Незвычайная котка». Падлеткам адрасаваныя шчымлівыя «Скрыпка дрыгвы й верасовых пустэчаў», лірычная «Вужыная каралева» і культавая, нацыянальна адметная, бо пра такую сельскагаспадарчую культуру і аснову соцен страў, як бульба, «Кацёл з каменьчыкамі». А чытач дарослы, можа, адкрые для сябе Караткевіча — геніяльнага казачніка.

Усё ў гэтай кнізе дасканала і выверана, як форма — фармат, папера, так і змест — і прадмова «У нейкім прыгожым краі» Пятра Васючэнкі, і тэксты, падабраныя Аленай Масла, і акварэльныя ілюстрацыі Міколы Купавы. Зусім не лішнім глядзіцца тут і аўтабіяграфічны нарыс Майстра «Дарога, якую прайшоў».

Мабыць, самая прыгожая з усіх кніжак казак Артура Вольскага — «Казкі з праўдай напалам» недзяржаўнага выдавецтва «Асар». Яны файна закампанаваныя: пачынаюцца своеасаблівай прадмоваю — «Песенькай пісьменніка», а заканчваюцца пасляслоўем — «Падслуханай песенькай Дзядоў Марозаў». Шмат песень і ў саміх казках, а ў тым ліку такіх вядомых як «Сцяпан — вялікі пан», «Граф Глінскі-Папялінскі», «І зноў — Чырвоная Шапачка». Шкада хіба што — не знайшлося месца «літаратуры ў квадраце» — п'есе-казцы «Чортаў скарб» паводле аднайменнага твора Уладзіміра Караткевіча.

Можна доўга дзівіцца «Беларускім казкам» выдавецтва «Парадокс», у якіх чвэртку аб'ёму займаюць нібыта казкі беларускіх пісьменнікаў. Незразумела, паводле якога прынцыпу раскіданыя ў гэтым раздзеле казкі таго ж Уладзіміра Караткевіча. Няўцямна, чаму ягоная «Верабей, Сава і птушыны суд» друкуецца з пазнакай «Паводле». Што гэта значыць — папрацавалі рэдактарскае пяро ці цэнзарскія нажніцы? Паданне «Адкуль пайшлі буслы на Беларусі» пазначана імем Уладзіміра Ягоўдзіка як аўтарскае, хаця ў іншых кніжках фігуруе яно як пераказ народнага!

Можна лічыць парадаксальным, што дагэтуль так і не пабачылі свету кніжкі гарадскога фальклору — казак-«жахалак», хаця яшчэ напрыканцы 80-х гадоў



*Помнік Х. К. Андэрсену. Брацілава.* **Фота Хрысціны Сіўчыкавай**

мінулага стагоддзя на старонках часопіса для падлеткаў «Бярозка» друкаваліся такія п'есы-казкі як «У чорным-чорным горадзе» Максіма Клімковіча.

«Нас няма!» — следам за філосафам Валянцінам Акудовічам маглі б заляментаваць ненапісаныя і нявыдадзеныя кніжкі некаторых іншых жанраў. Да прыкладу, кніжкі казак абсурду кшталту «Алесіных прыгодаў у дзівоснай краіне» англічаніна Люіса Керала (Lewis Carroll, 1832 —1898). Цешыць, што ў беларускім перакладзе гераіню завуць менавіта Алеся (не Аліса!), бо мімаволі згадваю старэйшую дачушку ў дзяцінстве, калі яна гаманіла з катамі дый трусамі.

Але ж лакуны раней ці пазней запаўняюцца?!

*У дзень летняга сонцавароту 2013 г.*



# Генадзь Лапацін

паэт, фальклярыст. Аўтар кніг паэзіі: «Без чисел и дат» (1997 г., 2003 г.), «Лепить из снега» (2002 г.), «Луны преобладанье» (2003 г.), «Увидеть дерево» (2008 г.), «Около облака» (2012 г.) а таксама шматлікіх публікацый у альманахах і часопісах. Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

# Дзень, калі можна пабачыць анёла...

Гэты дзень у нашых вёсках называюць па-featureрознаму: Уваскрэшанне Хрыстова, Паска а яшчэ — Вялікдзень. Прыход гэтага дня атаясамллівалі з сыходам на зямлю Ісуса Хрыста:

«Паску чцылі очэнь. І пост. Тады не дае матка нічога жырнага: бульбачку, капусту, агурэц. Паску ждом: як усё адно — Бог з неба сойдзя!» (Ад Веры Мікалаеўны Хрушчовай, 1922 г. н. з п. Расуха Веткаўскага раёна).

Гэты дзень, па ўяўленнях жыхароў нашых вёсак, надзелены адмысловымі паўнамоцтвамі. Ён — строгі і справядлівы Суддзя, які ацэньвае людзей на шчырасць і сумленнасць: «Баба наша ўсё казала: «І скажы мне праўду, як Вялікаму дню ў вочы». «Што-нібудзь ці гаворыш, праўду ты гаворыш... Глядзіш, як Вялікадню ў вочы».

«Чылавек, еслі праўду гаворя ці будзя завяряць, што яно будзя тоя... Ета вялікі дзень, ета самы Господні дзень, такі мілы дзень, справідлівы. Вялікі дзень — ета ж празнік. Еслі ты праўду гаворыш і ты чэсцен адзін перяд адным, ты глядзіш, як Вялікаму дню у вочы. А еслі ты чым-нібудзь грэшэн ці брэшэш што-нібудзь... Як малы во дзіцёнак пачане: «Ягорка, ты шкоду ету здзелаў?» Ён ужо не глядзіць на... А еслі ты, напрымер, ні браў... Еслі ўжо вінават, ты будзіш уніз глядзець». (Ад Варвары Аляксандраўны Грэцкай, 1925 г. н. з п. Амяльное Веткаўскага р. у 2009 г.)

Імем гэтага дня праклінаюць ліхіх людзей:

«Госпадзі, Святоя Вялікадня! Штоб яму Бог павыяў і шлуння, і пячонкі!» А баба казала: «Ета страшны клён..» Другі: «Што б цябе Вялікі Господні дзень задушыў!...» Баба наша казала: «Ня нада клясць етым клёнам. Ета сільна страшна...» (Ад Варвары Аляксандраўны Грэцкай, 1925 г. н. з п. Амяльное Веткаўскага р. у 2014 г.)

Імем гэтага дня вызначаюць прыгажосць:

«Будзець зіяць, як крашанае яйка на Паску».(Ад Марыі Фёдараўны Рослікавай, 1953 г. н. з Веткі, а раней з п. Шэйка Веткаўскага р., у 2004 г.)

Гэты дзень выратоўвае ад пакутаў на тым свеце:

«Памерць на Паску, там не мучаяць, сразу варата аткрываюць». (Ад Валянціны Міхайлаўны Канавалавай 1955 г. н. з Гомеля у 2004 г. Паводле яе бабулі Саўкінай Варвары Фядосаўны з п. Хлусы Веткаўскага р.)

«Еслі памірая чалавек да Паскі, перад Паскай, Вароты Царскія ішчо ні адкрыты. А кагда ўжо Паска наступіла, чылавек умірая, ён, ужо, уходзя ў Царскія вароты. Так гаварылі старыя людзі. У Хальчы ад старыкоў я слышыла ета». (Ад Валянціны Васільеўны Ляўшуновай, 1938 г. н. у 2008 г.)

У гэты дзень увесь сусвет становіцца Храмам, і любое месца, якое ўзвышаецца, напрыклад, дах, зэдлік і інш. становіцца своеасаблівым пасадам. Асаб-

ліва актуальна гэта было ў часы дзяржаўнага атэізму, калі масава зачыняліся культавыя ўстановы:

«У цэркву, як была, хадзіла. А не была, насіла на крышу. Господняя малітва асвяшчая ўсех і ўсюды». (Ад Марыі Лаўрэнцьеўны Марозавай 1925 г. н. з в. Стаўбун Веткаўскага р.у 1992 г.)

«У гэты дзень Господзь пасвеця ўсё. Паска — вынось на крышу палажы хлеб — Господзь пасвеця ўсё. У эты дзень Ён свеця ўсё». Так сама і на Крашчэння — ваду. Яна гаварыла: «На Крашчэнне вада ўсюды свячоная. Бог свеця, вот, ідзі набяры ў возерцы ці рэчачцы — будзя свячоная».(Марыя Аляксеяўна Раманоўская, 1937 г. н. з в. Старае Закружжа Веткаўскага р.)

«Баба говоря, вот, у цэркву далёка, тады ж у нас на Амяльном не было, у Свяцкую хадзілі за сем кілометраў да ў Вылява, кілометраў дзесяць, дак баба говоря: «Бог усё свеця. Давайця вынясім». І выняся на табурэтку, паклодзе, засцеля палаценцам. Пастаіць там с поўчаса, баба і кажа: «Ну, усё... Бог пасвяціў ужо ўсё. Бог на свеце ўсё свеця. Эта, думаеця, папы? Бог тры разы махне свячонай вадой, і ўвесь свет, усю зямлю асвеця». Бог на небі хрэстам махне ў ваду пасвяцёнаю і махне, і ўвесь свет, усю зямлю, зямны шар пасвеця». (Ад Варвары Аляксандраўны Грэцкай, 1925 г. н. з п. Амяльное Веткаўскага р. у 2007 г.)

Вялікдзень — Дзень Вялікага Пагаднення... Дзень Вялікай Згоды... У свой час на Веткаўшчыне гэты дзень рабіўся своесаблівым міратворцам. Ён мірыў паміж сабой і праваслаўных, і стараўераў, і каталікоў, якія жылі ў суседніх вёсках. Для веткаўскіх вёсак, вельмі розных у канфесійным плане, гэта было ў вышэйшай ступені істотна, паколькі цэрквы былі не паўсюль, як, напрыклад, уніяцкая — ва Ухове ці праваслаўная — у Старым Закружжы:

«Ва Ухова жылі более шляхта, ну, і жылі мужыкі. Шляхта — эта каталікі. Такіі ж самыя, як мы, тружанікі, работалі. У нас быў касцёл. Ні цэрква — а касцёл. Касцёл — эта шляхетскае. Быў і стаяў касцёл, туда, к Сажу, на высоткі. Красівы. Я шчэ помню, туды бегалі мы, ну, ужэ, ён не работаў, у трыццатым гаду. А ў Рэчках была цэрква. Сюды, ужэ, мужыкі ездзілі, паску пасвяціць, а этыя ў свой касцёл хадзілі. Яны не запрышчалі, можна і мужыкам была схадзіць. Яны маліліс па-польскі». (Ад Іванчыкавай Агафы Сямёнаўны Іванчыкавай, 1927 г. н. з в. Ухова Веткаўскага р. у 2005 г.)

«Цэрквы не было, дак у Вылева дзвенаццаць кіломітраў нада была хадзіць, ілі ў Свяцкую. А Свяцк — там, ужэ, стараверы. Но там свяцілі хлеб, сначала свяцілі нам, праваслаўным, а патом, ужэ после нас староверам хрысцілі, мы шчэ бегалі...» ( Ад Марыі Аляксееўны Раманоўскай, 1937 г. н. з в. Старае Закружжа Веткаўскага р. у 2005 г.)

## «На Пасху сонца красуецца...»

Велікоднае сонца — відовішча, паглядзець на якое выходзілі цэлымі сем'ямі. Нават дзетак будзілі.

«Сонца іграя рана. Эта ўсігда мой хазяін ранінька ўстае: «Во ўжэ сонца іграя! Уставайця, дзеці!»(Ад Клаўдзіі Антонаўны Кісялёвай, 1927 г.н., з в. Давыдаўка Гомельскага р. у 2008 г.)

«Я ішла на работу... Ой, красіва!... Пабудзіла я сначала свякруху, ужэ замужам была, мне ўжэ была дваццаць адзін год... Кароў ішла даіць... У чатыры часы сонца ўсходзіла... Як жа красіва!... Мне здаецца: і так сонца падпрыгня... Асабенна ў правы бок... Сюды паверніцца сонца.... Прышла, да гавару на свякруху: «Мам, хадзіці-ка сюды...» Свякруха вышла і гаворя: «Давай Наташку будзі...» Ета саседку. Я ўзбудзіла саседку. А тады, там у нас багамольная была, я пашла іе ўзбудзіла і сама ад іе двара пашла на работу. І вы знаіця, яно разнымі святамі... Розавы, жоўты... Такія праявіліся тыя святы... Я сама была..... Сонца іграла...» (Ад Зінаіды Якаўлеўны Лапіцкай, 1926 г. н., з в. Гарысты Веткаўскага р. у 2012 г.)

«Счас пакажыца красная, счас — розавая, палавінка зялёнага... І так во і мінялася. Ішчэ закопцім сцяклінку, і на сцякліну глядзім. Мяняіцца яно, іграя, радуецца, што Хрыстос Васкрос, дак радуецца сонца — то зялёная, то розавая, усякімі сартамі». (Ад Ефрасінні Фролаўны Суслінай, 1928 г.н. з в. Колбаўка Веткаўскага р.у 2012 г.)

Сонца не хавала сваёй радасці і запрашала ўсіх раздзяліць з ім гэтую радасць:

«На Пасху сонца красуецца. Прыдам з цэрквы, усякімі цвятамі пераліваецца, так і бурліць: і зялёныя поласы, і розавыя. І такая радасць. Сонца радуецца і зямля. І радуяцца людзі». (Ад Ганны Харытонаўны Сідарцовай, 1918 г. н. з в. Жгунь Добрушскага р. у 1998 г.)

«На Вялікдзень бывая. Баба пабудзя (у храме), гаворя: «Уставайця. Сонца будзя іграць». І палядзіма, ці, можа, у вачах, яно разнымі колярамы на Вялікадня. Дак як сонца ўзыходзя, толькі ўзыходзя, баба: «Хадзіця, дзеці, гядзіця, гуляя сонца». І сонца тое пачане ўжо гуляць. Дак разнымы, во як радуга, і так во, як хто кружа там, і разнымы: і сінімы, і галубымы, і розавымы, і краснымы, і жоўтымы, які ё на свеці цвет, і ўсякімы цвятамы яно кружыцца. А тады перастае. Доўга кружыцца, тады перастае. Баба: «Ну ўсё, сонца ўжо пагуляла Гасподняя». Баба і кажа: «Бог рад. І сонца радуіцца, што Ісус Хрыстос аджывіўся. Дак бачыш, як гуляя. І пераліваіцца красіва. Ой, так глядзіш і думаіш: «Як радуга». Люба глядзець. І тады ўжо нагуляіцца, і ўсё. Тады краснае здзеліцца ці аранжавае, і ўзыходзя. Хто гаворя: «Красуіцца сонца». Хто: «Гуляя». Но набальша: «Гуляя сонца». (Ад Варвары Аляксандраўны Грэцкай, 1925 г. н. з п. Амяльное Веткаўскага р. у 2009 г.)

Але не кожны быў варты таго, каб парадавацца разам з сонцам. Гэтага трэба было заслужыць сваім штодзённым жыццём:

«Усходзіць сонейка, я памятаю, маці казала, што калі ты шчырая, то сонейка на небе пакажа табе, як яно цешыцца, скача, іскрыцца. Вось, мы заўсёды хадзілі на гарод і глядзелі: скача яно ці не скача, гуляе яно ці не гуляе.

Мне заўсёды здавалася, што яно як быццам паварочвае». (Паводле аповеда Надзеі Аляксандраўны Зіміной, 1962 г. н. з Веткі, а яшчэ раней з в. Колбаўка Веткаўскага р. у 2009 г.)

## «Я счытала, што эта крылышкі ангелаў...»

Паміж далучаных да радасці былі і абраныя. Яны бачылі не проста сонца, яны бачылі анёлаў:

«Знаіця, нашы радзіцілі, нас мама ўчыла ўсігда. Вот утрам рана на Пасху, кагда сонца ўсходзіт, мама нас паднімала рана і вывадзіла на двор і гаварыт: «Сматрыця, как іграіт сонца!» Слушайця! Эта удзівіцільная яўленія была, как ігрлала сонца! [*І як яно іграла?*] Ну, как вам сказаць! У маіх глазах: перылівы такія, я не магу дажэ сказаць, ано вот так іграла (паказала рукамі). Еслі абрысаваць, можыт быць, дажэ крылышкі ангелаў. Я ні магу сказаць, што ангел там был, а вот эці крылья. Я ні відзіла галавы, но ваздушныя крылья былі на сонцэ. І на столька перылівалась, вот іграла сонца. Так ано спакойна, сонца. Вот пасматрыця на сонца: нікакова нічыво, а тагда ано была ні то ленты, ні то палучалась, што крылышкі ангелочка. Я счытала, што эта крылышкі ангелаў. Ўсігда я сматрэла і пачэму-та мне такоя ўнушэнія была». (Ад Надзеі Пятроўны Шаршнёвай, 1939 г. з в. Жалезнікі Веткаўскага р. у 2009 г.)

Пабачыць анёла і сапраўды маглі толькі абраныя:

«Была я малінькая... З пяці гадоў я ў храм господні пачала хадзіць... І так любіла Госпада Бога... І тада павячэяім... І ляглі спаць... Як раз у іюлі месяы было... Я радзілась дваццаць чацвёртага іюня... І вот ляжу... А я любіла проціў кута спаць... А мы — шэсць душ... Сям'я бальшая... А я ў вакно гляжу на месячку, на звёздачкі гляжу... І тады думаю: «Госпадзі, што эта такоя? Вот прыляціць, як дзіцёнак... У міне ангел ё... І так ляціць... І яркае, яркае, яркае такое... І крылышкі такія... Прама ка мне... Улыбаіцца... Я так гляжу... І не спужалася... І не спала... і не то што ўва сне... І прама ка мне, ка мне... у нас было багата ікон... І да кута, і на кут... Кала мяне матка спала, дак я ўгодна Господу богу і дастойны Госпаду Богу... І Гасподзь вас храніць. Хаця эта рэдкасць... Рэдка каму бывая». У міне ангел ё. Бацюшка Андрэй гаворя: «Я замічаю, што вас Гасподзь жалея». Я гавару: «Знаіця, бацюшка, душа чуствуя... Я па сваей душэ чуствую, што жалея». (Ад Ніны Пятроўны Варанцовай, 1938 г. н. з в. Ягаднае Веткаўскага р. у 2013 г.)

Узнікла аналогія з тым, як вызначыў анёл Гаўрыіл Дзеву Марыю, калі прышоў да яе з весткай ад Бога: «Радуйся, Дабрадзейная. Блаславёная Ты паміж жонкамі...» Жанчыны нашых вёсак таксама неадночы заўважалі, што на Дабравешчанне сонца таксама іграе:

«Я часта бачыла, як сонца гуляя... На Паску і гуляя на Благавешчанне... Бацька нас будзя... Раней паесці і выціць, як сонца гуляя.Нам ўжэ ў вакно відна: «Ой, сонца узыходзя!» Мы скарэй на агарод і глядзім, як сонца гуляя: «Ой, красіва!» І шары... І зялёныя! І красныя ! І сінія! Красіва...» (Ад Софы Сяргеяўны Лебедзевай, 1933 г. н.з п. Зялёная Хвоя Веткаўскага р. у 2012 г.)

## «І на Вялікадня паску нялзья мясіць той маладзіцы...»

Своеасаблівыя патрабаванні былі да тых жанчын, якія маглі пекчы паску. Перад тым, як звярнуцца да аповедаў нашых жанчын, лічу неабходным прывесці невялікую цытату з Этналінгвістычнага слоўніка «Славянские древности» (Масква, 1999): «Месячные в народных представлениях состояние, в котором женщина считалась «нечистой» и опасной, подвергалась изоляции и вынуждена была ограничить свои социальные связи и хозяйственную деятельность».

[*А калі ў яе на спадніцы?*]

Скажу табе, дажэ ў таком случае, і не даўжна дажэ і памідоры закручываць, і яблакі мачыць... Так гаворяць спрадвеку вякоў... Нільзя... Эта счытаіцца, ты ўжэ нячыстая, ты ня ймеіш права дзелаць... І паску ў том чысле... Ужо, еслі ў цябе, дак ніхай тваі дочкі ці хто дзелая... У мяне дзве дачкі... І круцяць жэ, і муцяць.. А як толькі у іх пачнецца... нічога ня дзелаяць... (Ад Праскоўі Сяргеяўны Кужэльнай, 1933 г. н. з в Старае Закружжа Веткаўскага р. у 2014 г.)

[*Казалі: «Калі ў дзеўкі на кашулі, нельга зажынаць...»*]

Усё казалі: «Еслі мыіцца чылавек, да не зажынаіць». І на Вялікадня паску нялзья мясіць той маладзіцы.

Калі матка.... дак баба... Я ўсё мясіла... Буду казаць: «Баб, ну буду я сёдні мясіць?» І ўжо мяшу. Як матка не, дак баба ўсё... У нас баба мясіла хлеб: «Полячка, я сама буду мясіць, а ты дзелай другоя».

[*А ў царкву яна магла хадзіць?*]

І ў цэркву не хадзілі.

Як месячная бывая, дак і ў цэркву ня ходзяць. «Нялзья!» — гаворяць.

[*Паску няльга, а проста хлеб?*]

Баба ў нас ўсё дзелала, як толькі матка... Ну, яны знаяць ужо... Дак баба ўжо меся. Етага нільзя, а так варыць, усё варылі.

У нас у Алёны бацька тож мясіў, калі ў цёткі Веры было месячная. Дак і ён мясіў. І калісь Козырыха казала: «Васіль, сёдні табе хлеб мясіць». Ён: «Ну, добря!» Рукі вымывая і меся хлеб.

К Вялікадню, яна на віконы вешаіць рушнікі, калі баба... Мы гаворым: «Баба, упадзіш! Давай мы!» Яна: «Вы не дастаніця...» — «Дак матка ніхай!» А яна гаворя: «Ета маё дзела...» І сама вешала. А калі пападая, так што матка вешая. Калі, наверна, німа, дак матка вешая. (Ад Варвары Аляксандраўны Грэцкай, 1925 г. н. з п. Амяльное Веткаўскага р. у 2012 г.)

## «А ў іх паска была ніўдачная...»

Не ў меншай ступені якасць паскі, залежыла і ад настрою, з якім да яе выпечкі прыступала тая ці іншая жанчына, ад яе характара і стаўлення да людзей:

«Дзежку мясіць нада, штоб была акуратная жэншчына, чыстая штоб была. Не палезіш жы куды зра с косамы. Дзежку мясіць — у хлеб лезіш — эта гасподняя мука. Жэншчына даўжна мясіць хлеб із чыстым серцам, штоб не разбіяка, не грубіянка якая... А вот такая, штоб харошае настраеніе ў неё, штоб ана акуратная была, чыстая... А то есць людзі грязныя... Штоб ў яе парадачык быў... Штоб у яе ні павуцінне нідзе. Дзежку паставіла, штоб кругом дзежкі ангелы. Масельцэ б'е жэншчына, ангелы сядзяць, масельца пальчыкам пробуюць. А каторая баба нечыстая, калдуя людзям, урадзіць, тая масла саб'е, дак к тому маслу жабы да вужы палзуць». (Ад Марыі Лаўрэнцьеўны Марозавай 1925 г. н. з в. Стаўбун Веткаўскага р.у 1992 г.)

[*У любой бабы паска ўдавалася?.. Ці залежыла гэта ад яе настрою?...*]

У маткі маёй усягда... А як замуж я ішла... На Вялікадня мяне сваталі... Свякруха сказала: «Ну, прывядзіце мяне да двара...» Мы і пашлі: яна, Іван... прышлі к ім... А ў іх паска была ніўдачная... Свякруха была чыстаплотная... А чаго яна не ўдалась... Можа, яна злілась... Свякруха злілась, што сын ідзе ў сваты... Яна не хацела жаніць яго.. Дак яна і гаворя: «Во ў вас паска ўкусная, а наша нікудышная...» А я гаварю: «Паску з'ядуць, іе німа... А на лета будзя ўжо харошая...» Дак яна і засмяялась...Можа, яно і правільна... Яна так вайну ваявала перяд Паскай... Ён сказаў: «У сваты пайду». А яна сказала: «Ня йдзі!..» (Ад Праскоўі Сяргеяўны Кужэльнай, 1933 г. н. з в. Старае Закружжа Веткаўскага р. у 2014 г.)

## «У кожнага было сваё застолле...»

Нават велікодныя сталы, паводле ўспамінаў жанчын з нашых вёсак, рабіліся відовішчам. І рыхтаваліся да яго загадзя:

«Да Паскі рыхтаваліся за шмат дзён загадзя. Пачынаючы адразу пасля старага Новага года, як прайшоў стары Новы год. Звычайна ў зімовы перыяд часу ў кожнай сям'і гадавалі калі не дзвюх, то аднаго парасючка. Потым яго забівалі, рабілі каўбаскі. Звычайна іх залівалі ў збанок, каб яны захаваліся». (Паводле аповеду Шыцікава Уладзіміра Васільевіча, 1938 г. н. з Веткі, а спачатку з в. Пакалюбічы Гомельскага р. і в. Вялікія Нямкі Веткаўскага р. у 2014 г.)

«Гатовіліся... Бедна ж жылі... А Паска даўжна ва ўсіх — Паска. Дзеці будуць галадаваць, а к Пасцы і мукі прыабратуць, к пасцы спякуць... На Паску — эта быў ужэ рай. Паедуць у Гомель, рыбкі купяць, нажараць... Да халоднае, купяць ножак, галавы, лыч з кабана. Ну, і пасак напякуць... Ужэ пад'ясі ўволю сколькі хацеў». (Ад Бабкова Емельяна Аўрамавіча, 1935 г. н. з в. Хальч Веткаўскага р. у 2014 г.)

«Мама рана прыхадзіла, еслі магла насіць эці яйца, ужэ былі яйцы загатоўленыя ў суботу канешна, пакрашана ўсё, масла... У нас абыкнавенна дзелалі: кусок масла, круглы такой кусок, наверх на этат круглы кусок лажылся кусок творага абізацільна, лажылась на блюда і кругом блюда аблажывалась краснымі яйцамі. Эта была зрэлішча такоя! У нас не была дастатка ў пітаніі. Но мы ждалі этага мамента. І ўсё астальноя: кусочык мяса — усё лежала так на стале... І вот рана утрам, да таго, штоб нас пасадзіць за стол, мама вывадзіла

нас на сонца і любаваліcь. Усех вывадзіла і маленькіх, і большых. І мы васхішчаліcь, как іграла эта сонца. Патом, канешна, малітву чытала, нас учыла «Отчэ наш». Садзіліcь, начыналі с красных яіц. Патом ужэ кушалі масла, тваражок. Хадзілі адзін да аднаго ў госці... У кожнага было сваё застолле. Кожны стараўся неяк выдзеліцца, пачаставаць. І гэта была вера, што які гэты дзень, гэта значыць і на ўвесь год такое будзя. Бог пашле. Нельга нават была працаваць. Нават печ не тапілі. Усе стравы гатаваліся загадзя. (Ад Надзеі Пятроўны Шаршнёвай, 1939 г. з в. Жалезнікі Веткаўскага р. у 2009 г.)

Але права па-сапраўднаму далучыцца да гэтага відовішча трэба было заслужыць сваім штодзённым жыццём. Імем гэтага дня дзяцей вучылі паслухмянству і жыццю паводле праваслаўных канонаў:

«Мы не поставалі, дзеткі. Бабуля не прымушала мяне, як сама, поставаць. Яна казала: «Ты павінен хоць штосьці не паесці. Божачка ўбачыць, і ён табе таксама прынясе штосьці добрае». (Паводле аповеду Васіля Васільевіча Бакаева, 1950 г. н. з Веткі у 2014 г.)

Велікодныя сталы былі своеасаблівым вымярэннем заможнасці:

«Цяперя-ка ажырэлі... Яны ня помняць, што жруць... Калісь на Вялікадня тога не было, што цяперь ядуць». (Ад Варвары Аляксандраўны Грэцкай, 1925 г. н. з п. Амяльное Веткаўскага р. у 2014 г.)

## «Чэсныя, правідныя радзіцілі, хадзіця...»

Пасля велікоднага абеда застаюцца крошкі і шалушкі. Як распавядаюць жанчыны: «Еслі аставалась што, не выкідывалі ні ў мусар, ні куды. Эта ж пасвячонае... Яны ад святой паскі, ад святога яічка.»

Вось адзін з самых найпрыгажэйшых аповедаў пра гэта.

«Із маёй стараны, я так бы сказала, што і сабакі хочуць крошак. Патаму шта, вы чуіця, як Гасподзь сказаў, што із справядлівасці жэншчына сказала, што ні то шта міня сажалець, і сабакам жа крошкі сыпюць, так жа і еты стол бальшую будзя чэсць імець, еслі сабраць ету скацерачку, што заслата, вынесць труханусь. І пцічка ўхваця, і сабака ўхваця, і каму толькі... Мы на падаконнікі сыпім, і пцічкі, і ўсякія сінічкі — усе-усе лятаюць. Я гавару: «Можа, і сястра мая, і матка мая прылятая. Патаму шта, яны знаюць, што мы многа любім, і ўсех-усех будзя пасылаць Гасподзь. Гасподзь абы-куды ні пасылая людзей харошых і пцічак, каторыя яны годны Богу. Патаму шта, бачыш, як Ной паслаў перваю пціцу, яна нічога ні прынясла, а ўтарую пціцу паслаў, яна ўжэ ўсю справідлівасць прынясла. Дажэ ветачку намаслянаю ў клюве прынясла. Так жа сама і ета, усе пцічкі, усе лошадзі, вы ж разглядзіця, як другія гаворать: «Ні веру!» — «Як жа ты, — кажу, ні верыш? Еслі каждая ўсё жывоя па-свойму ўсё здзелана. Богам здзелана. І ўсё так ё».

[*Дык што ваша сястра і матка, як птушкі прылятаюць?*]

Да. Ета так. Прылятаюць уместа пцічак. Я і гавару на сына: «Саша, сыпні, дзетачка, сыпні!» Я як малюся за етых людзей каторыя ўмершыя, дак гавару:

«Завіця тых, каторым некуды прыхіліць галаву. І тых завіця с сабой». ... «І тут, — гавару, — сып пабольшы, штоб...»

[*Паядзяць і скацерку вытрушваюць?*]

Ну, вытрусіш, тут усе пакушаюць... І пцічкі... А ніхто ж ні зная, чыя сястра, чыя матка, а Гасподзь пцічкам душу ету... Усе прылятаюць на празнік, ка ўсім прылятаюць чэсныя, правідныя радзіцелі. Ка ўсем. І, як садзіся есць, снедаць, абедаць, вічэраць, і гавары: «Чэсныя, правідныя радзіцілі, хадзіця... Ну, абедаю — абедаць, вічэраю — вічэраць... Хадзіця к нам». Ета, як і пцічкам сыпіш, дак завеш... Дак сыпаць, ты ні ўсігда пасыпіш, а як ты есць усягда садзісся да завеш — ета харашо. Чэсныя, правідныя радзіцілі прыходзьце абедаць, вічэраць і снедаць». (Ад Радзькоўскай Наталлі Ягораўны, 1925 г. н. з в. Бабічы Чачэрскага р.. у 2009 г.)

## «Нада крашаная яйцо...»

Нават самыя незаможныя сем'і лічылі ў гэты дзень абавязковым пачаставацца фарбаваным яйкам:

«Я раскажу, еслі па праўдзе, вы не паверыця, мы пайдзём, зімля аттаець, ідзём бульбу сабіраць, гнілую, зімняю, прашлагодняю, і матка нам здзелае па ладачцы і па адным яічку зварыць. Бацьку забралі на вайну, а нас чэцвіра была ў маткі». (Ад Маісеевай Любові Фёдараўны, 1932 г. н., з п. Дзігацель Веткаўскага р. у 2010 г.)

«Мы пытаім: «Баб, звары яец нікрашаных к Вялікадню». Яна гаворя: «Нільзя. Госпадам Богам запряшчона. Ісуса ж Хрыста распіналі, кроў цякла з яго. Нада крашаная яйцо. Сядзіш разгавецца: асвечаная яйцо. Хоць церькву ў нас тады спалілі немцы, не было, дак яна вынясе ўранні, устаня рана-рана, а то і ноч моліцца Богу, а тады вынясе, і ўсігда чось дождзік маліпькі пракапая, ета самы схадок ужо. Дак яна гаворя: «Во, ужо Гасподзь Бог пасвяціў усім. То ў цэрькві. Глаўная, Гасподзь Бог пасвяціў яйцы». Вынясе, яны паліжаць, яна ўнясе, палупя, парэжа, на тарэлачку ці ў місачку: «Бярыця!» Штоб кажды перва яйцо з'еў, а тады ўжо...перва яйцо з'еш крошачку, яна крошачкамы парэжа, каждаму, колькі чылавек, столькі яна парэжа. З'ясі яйцо, тады ўжо пахрыстосаюцца: «Хрыстос васкрэс!» — пацалуюцца. Як яйцо з'ядуць, тады ўсё астальноя ядуць». (Ад Варвары Аляксандраўны Грэцкай, 1925 г. н. з п. Амяльное Веткаўскага р. у 2014 г.)

## «У «наўбіткі» ігралі...»

Але разам з тым, велікодныя яйкі арганічна ўпісваліся ў велікодныя гульні і забавы. Вакол велікодных яек ладзіліся цэлыя нават шматдзённыя турніры. З дапамогай яек высвятлялі, чаго варты чалавек у гэтым жыцці:

«Усе бралі яйца. Цэлыя яйца, нябітыя. У «наўбіткі» ігралі: чыё яйцо разаб'ёцца... Сыталась, што тот пабедзіл, ч'ё яйцо не разбілась. І я так пабаялась, штоб эта яйцо ні разбілась. Мне так хацелась, штоб маё яйцо крэпчэ была другіх. І ўсе стрымілісь, штоб пабіць яйца ўсех аднім яйцом. Еслі адно

яйцо разбіла ўсе яйцы, эта такоя таржэство была для этава чылавека. І была очэнь грусна, кагда... Вот у міня, дапусцім... «Вот ты — хлюпік!.. Хлюпік!..» Счыталась, што еслі яйцо разбілась, то ты — хлюпік». (Ад Надзеі Пятроўны Шаршнёвай, 1939 г. з в. Жалезнікі Веткаўскага р. у 2009 г.)

«Вы не раз не прыходзілі, ні раз ні глядзелі, як тут сабіраюцца яйцы біць? Тут жа спакон вякоў усё Хальчо сабіралася тута-ка, ля Аўрама яйца біць. А бацька мой расказываў, як нашы дзяды празнавалі... Ужэ дома яны разгавеяцца і бяруць поўныя карзіны яіц, тры дзясяткі ілі чатыры... Бацька гаварыў: «У нас было пяць братоў, дак мы ўжэ каробку біром і ідом к цэркві... Плошчадзь там... І ля цэркві цэлую нядзелю да праводнага васкрысення білі яйцы са ўсяго Хальча. І ўжэ дамоў этыя яйцы не забіралі, а прама там астаўлялі яйца і ўжэ назаўтрага прыходзіш, ніхто не трогаў ні аднаго яйца. Я прыхожу, начынаім зноў біць». Гульня была «у яйцы» — шупікі. Хто каробку можа шупікаў прынесць, а хто каробку праіграе этых яйцаў. [Чаму — шупікаў?] Эта, еслі я — нос на нос, нос разбіты ў цябе, а ў мяне астаўся нос, патом варочаіш пушку. Еслі ты яйцо разбіў — эта ўжэ шупік. І так вот цэлаю нядзелю... Прароднае прайшло, тады этыя карзіны забіраюць і пашлі». (Ад Бабкова Емельяна Аўрамавіча, 1935 г. н. з в. Хальч Веткаўскага р. у 2014 г.)

## «Хто пачысця падпечча, тому яйцо лішняя будзя...»

Лішняе велікоднае яйка можна было не толькі выйграць, але і зарабіць. І як сведчаць успаміны маіх суразмоўцаў, ва ўсіх вёсках гэта адбывалася аднолькава:

«Такі ўжэ шмон надзелывалі. Тады два раза ў год пол мылі: к Раждясту і к Паске. І дажэ дзяды расказывалі нашы і бабы, у хату пускалі парасёнка карміць. Эта так не было, як счас, што з тай шчоткай ходзяць і красату наводзяць. Помню вот так: куры былі пад печчам. Куры там і апраўляліся... Матка так гаварыла: «Хто пачысця падпечча (ну, эта — курыны памёт), тому яйцо лішняя будзя». Еслі па аднаму — два будзя... Значыцца, еслі мне яйцо ілі два на Паску, значыцца, мне тры будзя. Я такі быў, што я ўсё ўрэмя чысціў падпечча. Мне ўжэ матка лішняя яйцо дасць. (Ад Бабкова Емельяна Аўрамавіча, 1935 г. н. з в. Хальч Веткаўскага р. у 2014 г.)

## «Рэлігіі папрыносілі...»

Але разам з тым мае суразмоўцы ўспамінаюць гады, калі дзяржаўная ўлада знішчала народную культуру: калі людзей «адвучалі хрысціцца і маліцца», забаранялася не толькі адзначаць вялікія рэлігійныя святы, але нават «хадзіць па шчодрах» у Каляды і на могілкі на Радаўніцу, дзеці школьнага ўзросту нават бая-

ліся выйсці на вуліцу з пафарбаваным яйкам, а тым больш прынесці яго ў школу. Нават новае адзенне, апранутае ў гэты дзень, давала падставы, каб чалавека абвінавацілі ў прыхільнасці да рэлігіі, паколькі да гэтага дня набывалі абноўкі:

«Прынясе хто... Мы знаім ужо, што будуць учацялі ругацца, што крашаныя яйцы нясеш. Но плойма ё плойма! Прыдзіма: «Пакажы якія ў цябе яйцы!» У цыбулі ўсі, а хто ў красцы розавай: «Ой! Красівая! Ну, двай памяняім! У цябе, можа, дома ё». Учыцілка прыходзя: «Хто з яйцамы прышоў?» Ну, усі ж маўчаць, хто прынёс, хто не прынёс — да ўсі ж прыносілі. Хлопцы — тыя — хітрыя, схаваюць у калошы, завяжаць аборкай унізу, а мы куды схаваім? Яна ў сумках паглядзіць: «Січас жа ідзі выкінь!» Ну, жалка ж яйца выкінуць: «Я ня буду выкідаць!» Яна яйцо забірая. Куды яна іх дзяе? Я ня знаю. «Рэлігіі папрыносілі сюда! Рэлігіозныя яйца». Дзеўкі большыя ў ліфікі хавалі. А мы ліфікаў шчэ не насілі, па дзвянаццаць, па адзінаццаць гадоў, дак ня знаім куды хаваць, да па партах палазя, а тады ўжо дзірэктару даложа, у каго...Тый прыходзя: «Зачэм сюда прынасіла рэлігіозныя яйцы?» Маўчыш, утупішся, што мы будзім гаварыць. А ціпер, во, бачыш, век міняіцца». (Ад Варвары Аляксандраўны Грэцкай, 1925 г. н. з п. Амяльное Веткаўскага р. у 2009 г.)

«Памятаю, я хадзіў у школу, у сёмы клас, касцюмчык у мяне быў: пінжачок і простыя штонікі. І мама вырашыла пашыць мне новы касцюм. Купіць проста не хапала грошай. Яна проста купіла сукна і пашыла. І якое ж было здзіўленне ўсіх аднакласнікаў, калі на другі дзень Паскі ўсе прыйшлі ў школу ў сёмы клас, так атрымалася, на другі дзень Паскі. Паска была ў нядзелю, а ў панядзелак мы пайшлі ў школу, і я адзін з усяго класа апрануў новы касцюм. Астатнія баяліся... Бацькі... Хтосьці працаваў у канторы, хтосьці брыгадзірам працаваў... Усё прыйшлі звычайна.. А на наступны дзень усё апранулі новае. Я прыйшоў дахаты і расказаў пра гэта маці. Яна сказала: «Не турбуйся. Усё нармальна. Тое, што табе сказала я, тое ты і апрануў». (Паводле аповеду Шыцікава Уладзіміра Васільевіча, 1938 г. н. з Веткі, а спачатку з в Пакалюбічы Гомельскага р. і в. Вялікія Нямкі Веткаўскага р. у 2014 г.)

## «Валачобныя — людзі добрыя...»

«На Вялікадня... Як ужо яйца красныя, на другі дзень ці на трэцці бегаяць пад вакно, пяюць... «Валачобныя» хадзілі пелі... На трэцці дзень Паскі ў нас ходзяць валачобныя пяюць.

«Валачобныя — людзі добрыя...»

Ходзяць прыбраныя, пад вакном ходзяць пяюць. Яму ўжэ па пары яец выносяць.

Валачобнікаў ждалі... «Хоць бы прышлі да папелі...» Пад вакном яны пяюць:

*А чый ета дом да жалезнінькі?*
*Хрыстос васкрос, Сын Божжы!*
*А хто ж у етым даму ходзя па двару*
*Да красная дзевачка (ці хлопчык).*

*А на том жа храсту стаяў сокал,*
*Хацеў хлопец сокала ўбіць.*
*А не бі ж ты міне,*
*Знадаблюсь я табе*
*Пры худой гадзінцы.*
*Хрыстос васкрос, Сын Божжы!*

Паску пасвецяць, тада на другі дзень ці на трэцці бягаць па падвоканню».(Ад Ефрасінні Фролаўны Суслінай, 1928 г.н. з в. Колбаўка Веткаўскага р. у 2012 г.)

## Замест пасляслоўя.

Даволі часта ў мяне пытаюць: «Чаму жанчыны так ахвотна дзеляцца з табой успамінамі і песнямі?» Здаецца, Ефрасіння Фролаўна Сусліна з Колбаўкі сваімі ўспамінамі пра валачобнікаў падвяла мяне да самага дакладнага адказу на гэтае пытанне. Традыцыйная культура грунтуецца на адвечных вобразах. І валачобнікі ў гэтым плане не з'яўляюцца выключэннем. І ў пэўным сэнсе мае пытанні для гэтых жанчын з'яляюцца тымі самымі песнямі, якімі валачобнікі ўшаноўвалі жыхароў нашых вёсак. А для мяне іхнія песні і аповеды — гэта тыя самыя падарункі, якімі аддзячвалі валачобнікаў.

Валачобнікаў заўсёды чакалі... Рыхтавалі для іх падарункі... У гэтым плане іх бліжэйшымі родзічамі ў прасторы народных абрадаў з'яўляюцца калядоўшчыкі... Іх таксама чакалі і рыхтавалі для іх частаванне, ды іншыя падарункі. Для тога, да каго калядоўшчыкі зайшлі — гэта была вялікая пашана, каго абмінулі — вялікая абраза. Як узгадвае Зінаіда Міхайлаўна Ганчарова з веткаўскага пасёлка Лазараў: «Да каго мы прышлі, мы зрабілі пашану, мы яго славім, мы яго велічаім. А калі нейкія людзі нам не даспадобы, гэта было за абразу для іх, што мы мінулі яго дом...» Прысмакі і падарункі для валачобнікаў і калядоўшчыкаў рыхтавалі на працягу некалькіх дзён, свае песні жанчыны нашых вёсак назапашвалі на працягу ўсяго жыцця. Шмат чаго з песеннай спадчыны не захавалася. Верагодна, таму што не пашчасціла многім нашым пясённіцам на калядоўшыкаў і валачобнікаў.

Безумоўна, Вялікдзень — самы вялікі дзень. Але ўсё адно — гэта толькі адзін дзень. Тым не менш, водсвет ад яго падае на ўвесь год. Аб гэтым красамоўна сведчаць шматлікія аповеды жыхароў нашых вёсак, пра тое, як асвечаныя яйкі і паску, свечкі і тканіны потым цэлы год выкарыстоўвалі ў самых розных земляробчых і жывёлагадоўчых, гаспадарчых і сямейных абрадах. І таму кожны дзень, які прыходзіць пасля яго — паслявелікодны, дзе мы ўсе — тыя самыя «валачобныя — людзі добрыя»...



# Таццяна Мацюхіна

**крытык, паэтка. Кандыдат філалагічных навук. Вершы друкаваліся ў «ЛіМе», «Маладосці», «Верасні», «Скрыпторыі-4» ; навуковыя артыкулы — у «Родным слове», «Полымі», «Народнай асвеце». Нарадзілася ў 1984 годзе ў Барысаве. Жыве ў Мінску.**

# Па законах чалавечнасці

***Дубянецкі, Э. Покліч самотнага неба: вершы, паэма / Э. Дубянецкі. —Мінск: Кнігазбор, 2013. — 204 с.***

Зборнік вершаў Эдуарда Дубянецкага «Покліч самотнага неба» складаецца з шасці змястоўных раздзелаў, прадстаўленых замалёўкамі ў форме экзістэнцыйнага роздуму «Калі правяду я чароўным смычком...», разнастайнымі жанравымі формамі і відамі лірыкі «Паэтычны калейдаскоп», «Хай упрыгожыць вершы навізна», паэмай «Галасы», іранічна-жартоўнымі вершамі «Бывае музе ўсмешка даспадобы», паэтычнымі мініяцюрамі «Праменьчыкі».

Мастацкія творы Э. Дубянецкага вызначаюцца тонкім лірызмам і выразнай элегічнасцю. У зборніку «Покліч самотнага неба» змешчаны філасофскія («Белая малітва», «Цень мінуўшчыны жыве ў нашых сэрцах», «Пагружэнне»), патрыятычныя («Мая Радзіма», «Знітаваны»), пейзажныя («Прывідны пейзаж», «Ранак-валацуга», «Закотнае сонца»), інтымныя («Гімн пяшчоце», «Газела пра чароўныя рукі каханай») вершы.

У паэтычным зборніку Э. Дубянецкага раскрываецца тэма «вечнасці і імгнення», сяброўства і кахання, індывідуума і грамадства. Аўтар кнігі заклікае да захавання багацця культурна-духоўнай спадчыны Беларусі, фарміравання духоўнай парадыгмы ў рэчышчы беларускай ментальнасці. Так, у вершы «Маналог Ларысы Геніюш», напісаным ад імя паэтэсы, Э. Дубянецкі з пачуццём гонару называе беларусаў «арламі» [1, с. 38]. Клопат пра Радзіму ў творчасці гэтага аўтара выяўляецца не толькі ў захаванні памяці аб сваім родзе (верш «Радня»), роднай мове (верш «Беларуская мова»), але і ў адчуванні прыналежнасці да свайго краю (глоса «Варыяцыі на тэму этнапсіхалогіі беларусаў»).

У кнізе «Покліч самотнага неба» Э. Дубянецкага найперш раскрываецца праблема неспасцігальнасці, загадкавасці лёсу чалавека (верш «Плынь вечнасці»; паэтычная мініяцюра «Прайсці...»). Аўтар асэнсоўвае той факт, што кожны чалавек на Зямлі вырашае свае жыццёвыя задачы, спасцігае вечныя законы быцця ў акружэнні тых людзей, якія карэнным чынам уплываюць на ягоны духоўны рост ці дэградацыю. Беларускі паэт разглядае ў адзінстве вобразаў слова і маўчанне (верш «У лабірынце слоў нямых блукаю...»), расчараванне і захапленне (верш «Чараванне і расчараванне»). Чытачу важна зразумець: лірычны герой Э. Дубянецкага просіць у Бога «радасці белай, квяцістай» [1, с. 37] і «натхнення белага» [1, с. 37], — што таксама сімвалічна. Менавіта «чорная радасць» і «натхненне злое» нярэдка атручваюць жыццё не толькі самога чалавека, які «пакутуе» на гэтыя хібы, але і ягонага акружэння...

Праз увесь зборнік Э. Дубянецкага праходзіць лейтматыў з паэтычнай мініяцюры «Кліча самотнае неба ў дарогу...», у якой выяўляецца аўтарскае стаўленне да выбару сваёй жыццёвай дарогі, свайго лёсу. Аўтар кнігі асэнсоўвае і тое, якім павінен быць шлях годнага, высакароднага чалавека, які

сустракаецца з раўнадушшам і злом, пакутай і адчужэннем, падманам і нянавісцю (вершы «Бязлітаснасць», «За ўсё...», «Ліст юнаму сябру»). І ці павінен Чалавек з вялікай літары адказваць дабром на зло сусветнага маштабу? Гэтыя спаконвечныя праблемы хвалююць не толькі паэта Э. Дубянецкага, але і міжволі закранаюць тонкія струны душы чытача, які звяртаецца да творчасці беларускага лірыка: *Якія файныя паветраныя замкі // будуюць разам // сонца, дождж і вецер, // у наш час цынічна-прагматычны // могуць убачыць // хіба што закаханыя // і дзеці...* [1, с. 160—161].

Імклівасць часу, яго каштоўнасць асэнсаваныя аўтарам у медытатыўна-філасофскім вершы «Плынь вечнасці», дзе Э. Дубянецкі ў зборным вобразе беларускага люду — праз інтуітыўнае спасціжэнне свету — выяўляе арэол святасці тых, хто з'яўляецца крыніцай «нябеснага агню незгасальнага» [1, с. 10]. Для паэта крыніцай натхнення з'яўляюцца беларускі народ (паэтычная мініяцюра «Дыхаю ў рытме Сусвету...»), інтэлігенцыя (верш «Інтэлігенцыя»), прырода (верш «Ранак-валацуга»), маці (верш «Матуля»), сваякі, сябры (верш «Напоўніцца ўспамінаў музыкай...») і каханая жанчына (паэтычная мініяцюра «Не дапамогуць...»).

У кнізе «Покліч самотнага неба» Э. Дубянецкага выяўляецца шчырая вера ў Бога і надзея на духоўнае адраджэнне, выратаванне душы ад грахоў (вершы «Белая малітва», «За ўсё...»). Пры раскрыцці характару сучаснікаў паэт асэнсоўвае праблему сутыкнення крытэрыяў у разуменні духоўнай трываласці, дабрыні і з'едлівай, саркастычнай «вынаходлівасці». Як бачым, нездарма людзі, якія ненавідзяць свет і чалавецтва ў цэлым, называюцца мізантропамі, ці «мізэрнымі» ў сваёй духоўнай сутнасці (верш «Мізантроп»).

У паэтычным зборніку прысутнічаюць фантастычныя матывы і нават цэлыя літаратурна-фантасмагарычныя містэрыі (вершы «Там...», «Змрочная фантасмагорыя»). Элементы казачнага падарожжа і пошуку містычнага, незвычайнага прадмета надаюць сюжэту вершаў прыкмету псіхалагічнага напружання. Сярод найбольш яркіх казачных вобразаў адзначым чароўнае люстэрка (верш «Чароўнае люстэрка»), дзіва-ключ (верш «Санет пра пошукі дзівоснага ключа»). У «Поклічы самотнага неба» Э. Дубянецкага супрацьпастаўленыя аптымістычна-ўзвышаныя, ідэалістычныя замалёўкі («дарога <...>, ручай <...>, паляна», «алень — прынц лясны з вялікімі рагамі», «паўсонная рэчка» — ў ідыліі «Яны шчаслівыя. А мы?») і меланхалічна-сумныя драматычныя карціны («у цэнтры бязлюдных краёў», «замак пусты», «зграя галодных ваўкоў» — у вершы «Змрочная фантасмагорыя»).

Містэрыя прыроды зачароўвае Э. Дубянецкага сваёй непрадказальнасцю. І ён раскрывае сваё ўяўленне аб казачным ансамблі ў вобразнай сімволіцы «музыкі-месяца» і «танцорак-зорачак» (верш «Не бачым...»). Паэт заахвочвае кожнага з чытачоў вызваліцца з небыцця сноў, летуценняў, нязвдзейсненых мар, каб стаць самім сабой. Менавіта сімволіка дае магчымасць аўтару раскрыць узаемаадносіны паміж *Чалавекам і светам* (верш «Разарваны лісток»).

Знакавы па сваёй сутнасці «барвяны лісток» [1, с. 22] падуладны непахіснаму, жорсткаму свету, увасобленаму аўтарам у вобразе «чорнага ваўка» [1, с. 22]. Але ж ментальныя і духоўныя каштоўнасці ў сацыяльна-арыентаваным грамадстве, іншасказальна падкрэслівае Э. Дубянецкі, ствараюць самі людзі: *Кладзецца маўкліва барвяны лісток // на дол, // на зажураны дол...// А воўк, чорны воўк // гэтаксама маўклівa // ірве на шматкі* ***той лісток..***.[1, с. 22].

Адчуваецца глыбокая зацікаўленасць Э. Дубянецкага гісторыяй Беларусі і антрапалогіяй. Аўтар кнігі «Покліч самотнага неба» аналізуе, якія змены адбыліся за многія стагоддзі ў жыцці беларусаў, і з горыччу адзначае: *...Цяпер тых краявідаў пастаральных // з дзяцінства светлага майго няма, няма...* [1, с. 13]. Паэт звяртаецца да такога стылістычнага прыёма, як антытэза, і супрацьпастаўляе горад (мегаполіс) і хутар — ідылічныя мясціны, дзе лёгка спачываць душой і не трэба хваляваццa за тых, каго любіш (верш «Адпачываць там любіць цішыня»). Аўтар характарызуе хутар як бязлюднае месца, дзе няма людзей, жывёл і не чуваць нічыіх галасоў. Ён персаніфікуе цішыню і выяўляе глабальны, нават разбуральны па сваім значэнні характар сучаснага горада-спрута, мегаполіса: *І <...> бяжыць яна [цішыня. — Т.М.] // днём на хутар // на бязлюдны, // з ветрам // у хованкі там грае, // п'е ваду // з далоняў студні* [1, с. 11].

Паэта хвалюе пытанне рэлігійна-разумовай сутнасці асобы: у ягоным разуменні «чалавека-свет» з'яўляецца крыніцай святла, дабрыні і спагады (верш з аднайменнай назвай). Менавіта гарманічны, духоўна сталы чалавек, які ведае межы выяўлення пачуццяў і інтэлекту ў пэўнай сітуацыі, і становіцца адным з самых каларытных зборных вобразаў-характараў у лірыцы Э. Дубянецкага (паэтычныя мініяцюры «Набліжаецца хваля цунамі...», «Расстанне»). Нездарма лірычны герой аўтара прамаўляе: *Спасцігаю быцця таямніцы // пад містычныя гукі званіцы* [1, с. 169]. Безумоўна, паэту важна знайсці адказы на свае пытанні адносна сэнсу жыцця, учынкаў іншых людзей і самога сябе ў Боскім, рэлігійным ракурсе. Паэт адчувае бязмежны давер да свету, паколькі кожным чалавекам, калі ён чысты душою, апякуецца моцная Боская сіла: *Мяне трымае свет // у сваіх далонях // І закалыхвае, // як маці немаўля* [1, с. 175].

У зборніку «Покліч самотнага неба» ўвага Э. Дубянецкага скіраваная на многафункцыянальнае дзеянне дзякуючы такой стылістычнай фігуры, як градацыя, а сам суб'ект дзеяння сэнсава паяднаны з аб'ектам успрымання: *...таямнічы верш // які б* **змог вырвацца** *// з прасторы нематы // і ў рэшце рэшт //* **загаварыць** ***са мной // з табой*** *// а мо // і* ***з цэлым светам...*** [1, с. 9]. Інверсійны, ці адваротны, парадак слоў у страфе і нават цэлых мастацкіх твораў з кнігі дае магчымасць паэту выявіць пачуцці свайго лірычнага героя, яго дзясяткаў «я» — у сугуччы з іншымі праявамі мыслення (вершы «Газела пра чароўныя рукі каханай», «Хацелі б...», «Бязлітаснасць»).

Эдуард Дубянецкі ў сваіх вершах звяртаецца да семантычнага і семасіялагічнага аналізу слоў, якія мы паўсядзённа ўжываем у маўленні, але на значэнне якіх не звяртаем ніякай увагі. Да прыкладу, у вершы «Радня» родзічы,

сваякі ўспрымаюцца як Богам абраныя людзі, якія нясуць у свет святло дня, сонца, жыцця. У разуменні аўтара радасны дзень — светлы і дарагі сэрцу: ***Ра****-дня — // няйначай, радасць дня // сустрэчы з вамі — // сваякамі — // найдаражэйшым // нашым скарбам на зямлі...* [1, с. 12].

Безумоўна, кожнае новае пакаленне гадуе ў сваіх душах зерне справядлівасці, вернасці сваім караням і ашчаднага стаўлення да зямлі, але часам, пад уплывам эгаістычных намераў, забываецца пра іншых людзей. І таму, падкрэслівае Э. Дубянецкі, *«...як той снег, // мы ўсе калісь растаем... //* <...> *але услед за намі // нашчадкі прыйдуць // новымі снягамі...»* [1, с. 52].

У сваіх творах Э. Дубянецкі развівае ідэю аб тым, што быць нашчадкамі — яшчэ не значыць быць паслядоўнікамі ідэй папярэдніх пакаленняў. Захоўваць духоўны, інтэлектуальны, матэрыяльны скарб — нацыянальную спадчыну, насамрэч, не так проста (верш «Па-слядоўнікі»). Паслядоўнікі, у разуменні Э. Дубянецкага, супрацьстаяць *(ад)чужынцам* — тым, хто абасоблены ад грамадства, соцыума, родзічаў і сямейных пачуццяў, не імкнецца дасягнуць узаемапаразумення з людзьмі з прычыны раўнадушша да свету, свайго празмернага індывідуалісцкага прагматызму (верш «(Ад)чужынцы, або Не чуюць дый Не хочуць чуць...»)).

Аўтар кнігі «Покліч самотнага неба» звяртаецца і да тэмы паэта і паэзіі, а ў шырокамаштабным плане — да тэмы мастака і яго творчасці. Э. Дубянецкі асэнсоўвае ачышчальныя, пераўтваральныя магчымасці мастацтва (паэтычныя мініяцюры «У неба тады прасвятляюцца вочы...», «Чую чую...»). Паэт выяўляе прычыны разбурэння асобы і ўказвае на тыя ўмовы, у якіх павінен жыць мастак-творца — чалавек не толькі высокаінтэлектуальны, але і адукаваны, высокамаральны, рознабакова развіты. Нездарма ў зноме *«(Сама)разбурэнне»* Э. Дубянецкі адзначае разбуральную сутнасць стэрэатыпаў і прымхаў у свеце асобы ў тым выпадку, калі чалавек не здольны зрабіць правільны выбар.

Вядучая тэма зборніка — вера ў Бога і надзея на працавітасць, гаспадарлівасць, жыццёвую дасціпнасць беларускага люду (верш «Знітаваны»). Э. Дубянецкі спадзяецца, што «абудзіцца наш край калісьці і будзе кветкаю нябачанай цвісці ў неабсяжным і чароўным Зямным Садзе...» [1, с. 18]. Зямны Сад — гэта аўтарскі ідэал светаўладкавання, дзе пануе гармонія і адсутнічае хаос. Але ўжо ў вершы «Па-слядоўнікі» «царыца-Цемра» [мяркую, з падземнага царства Харона. — Т. М.] ўводзіць у зман і разбурае апошнюю надзею на выратаванне душаў людзей. Аўтар выяўляе ўзаемасувязь продкаў і нашчадкаў у боскім запавеце — ад самага нараджэння да смерці. Э. Дубянецкі падкрэслівае: *Мы не садоўнікі свайго жыцця, //* ***мы толькі па-слядоўнікі,*** *// мы крочым па слядах // тых, хто раней тут жыў, // жыве хто зараз, // і пойдзем мы, мажліва, па слядах // тых, хто яшчэ народзіцца калісь* <...> [1, с. 20].

У вершах Э. Дубянецкага сустракаюцца разнастайныя формы лірыкі (акварэль, балада, імпрэсія, канцона, пеон, санет-брахікалан і інш.). Пры выражэнні змястоўна-вобразных характарыстык у самой форме верша аўтар эксперымен-

туе са словамі, сінтагмамі (спалучэннямі слоў) і нават цэлымі выказваннямі. Сучаснаму чытачу ў інтэлектуальным пошуку асабліва цікава будзе звярнуцца да інфандолькі («Воля»), верша-пазла («Не даць...»), кругавіка («Спрыяць і ўпрыгожваць»). Бясспрэчна, раскрыццё жанрава-відавой спецыфікі ў кампазіцыі, архітэктоніцы мастацкіх твораў уплывае на лагічнае мысленне аўтара, пашырае ягоны творчы кругагляд, фарміруе ўменне скрупулёзнага графічнага аналізу мастацкага твора.

Для дапытлівага, цікаўнага чытача ў кнізе Э. Дубянецкага змешчаны невялікі слоўнік з тлумачэннем літаратуразнаўчых тэрмінаў. Да прыкладу, значэнне слова «інфандолька» тлумачыцца паэтам як «долька інтэлекту і фантазіі», альбо «долька інтэлектуальнай фантастыкі», альбо нават як «долька інтымнай фантасмагорыі» [1, с. 126—127]. Аўтар кнігі на высокім мастацкім узроўні афармляе не толькі знешнюю, але і і ўнутраную будову вершаў — кампазіцыю [2, с. 193], нават у лаканічных выразах-выслоўях (паэтычныя мініяцюры «Праменьчыкі»).

У нізцы вершаў пад назваю «Паэтычны калейдаскоп» Э. Дубянецкі звяртаецца да антычнай сістэмы вершаскладання (пентаметры «Скардзяцца хвалі», гекзаметры «Вярніся...»), актуалізуе значэнне жанраў сатырычнай і элегічнай літаратуры (пародыя «Афрыканскае сафары», думка «Дом народнага шчасця», элегія «Роспач»). У найвышэйшай ступені гэтага аўтара цікавяць жанры ўсходняй паэзіі (мураба «Згасае надзея», мусаба «Мая жамчужынка»), якія асэнсоўваюцца ім на практыцы ў кантэксце славянскага вершаскладання — з мэтаю выяўлення беларускага нацыянальнага мыслення. У творчасці беларускага паэта нярэдка сустракаюцца вершы велічальныя (дыфірамб «Маёй музе», мадрыгал «Цудоўная незнаёмка»), радзей — сатырычна-выкрывальныя (эпіграма «Лёс злоснага крытыка») і песенныя (канцона «Пачатак сагі нашага кахання»). Сярод фальклорных твораў у творчасці Э. Дубянецкага варта вылучыць загадку («Атокяпс»).

Менавіта спалучэнне гукаў, частак ключавых слоў у вершы — першая прыступка ў разуменні сэнсу выказвання. Фанетыка-фаналагічнае і марфемна-марфалагічнае ўспрыманне гукаў і частак слова як стылістычна-літаратуразнаўчай з'явы мае вялікае значэнне ва ўсечаным вершы («Зорка сэрца»), вершы-павялічцы («Дарога») і шчыгрынавым вершы («Плача мора»). Так, у шчыгрынавым вершы «Плача мора» найменне воднай прасторы звязанае з асацыяцыямі суму, вады, сонца. Пры скарачэнні складоў слоў у вершы ў фармальным плане аўтарам сцвярджаецца дзеянне, якое ў эпілогу твора «перарастае» ў заклік: *Плача мора самоты // Плача мора само // Плача* ***мо ра****са // Плача* ***мо Ра*** *// Плач амор!* [1, с. 125]. Гэта шлях кодавых «абазначэнняў» і вытлумачэння мастацкіх тэкстаў у рэчышчы структуралізму як сістэмы гуманітарных ведаў.

У паэтычным зборніку «Покліч самотнага неба» пераважае рыфма слыхавая, заснаваная на гукавой паўтаральнасці апошніх двух гукаў у сумежных

(вершы «Танец кахання», «Роспач») і перакрыжаваных (вершы «Там...», «...І змрок ён вядзе за сабой») радках. Перш за ўсё, рыфма ў паэзіі Э. Дубянецкага прызваная выконваць кампазіцыйную функцыю: аўтарам ствараецца яркі вершавана-страфічны малюнак найперш з двух («Пайшоў...», «Дарэмнае чаканне»), трох («Засталося...», «Нябачны чароўны смычок»), пяці-шасці («Мая Радзіма») радкоў. З кожнай новай страфой павышаецца значэнне інтанацыі, сінтаксічных паўтораў: ***І голас твой*** *— // ён танчыў, // ён спяваў... //* ***І голас мой*** *— // кружляў, // хацеў ён танчыць... // ...*___**І нашых светлых // галасоў**___ *зліццё // там засталося — // ў даўным // белым танцы...*[1, с. 157].

Вялікае значэнне ў кнізе надаецца не толькі рыфме, але і рытму. Так, у нізцы вершаў «Хай упрыгожыць вершы навізна» рытміка-страфічная арганізацыя ўсечанага і дабудаванага, перавернутага і перакрыжаванага вершаў уплывае на іх ярка выражаныя мнеманічныя ўласцівасці (усечаны верш «Зорка сэрца»; дабудаваны верш «Не-паз-беж-на»; перавернуты верш «Мудрая надзея»; перакрыжаваны верш «Стомлены маладзік»). Рытмізацыя радкоў асэнсоўваецца дзякуючы *сінтаксічнаму паралелізму*, асабліва выразна выяўленаму ў перакрыжаваным вершы «Стомлены маладзік»:

...*Ст**о**млены* маладзік — прыцягальнае від**о**вішча.
Від**о**вішчная прыцягальн**асць** — *маладзік**о**вая*
*ст**о**ма...*
*...Халоднае сэрц**а*** — нед**а**рэчны вып**а**д**а**к.
Выпадковая недарэчн**асць** — *с**а**рдэчны хол**а**д...*

*...Светлы сум* — м**а**ўклів**а**я **ра**д**асць**.
**Ра**даснае маўчанне — *сумнае святло...*[1, с. 122].

Аўтар, каб перадаць здзіўленне, зачараванасць маладзіком, выкарыстоўвае ў першых двух радках асананс гука [о]. Ужо ў наступных двух радках дзякуючы асанансу гука [а] выяўляецца адчужанасць ад падзей і рэчаіснасці. Падкрэслена-стрыманае гукаспалучэнне [ра] ў трэцім двухрадкоўі раскрывае мазаічнасць, фрагментарнасць мыслення і ўспрымання лірычным героем прыроды. Падкрэслім і тое, што семантычна-лексічная парадыгма Э. Дубянецкага грунтуецца ў першую чаргу на абстрактных паняццях (радасць, каханне, шчасце — ў вершы «Белая малітва»; святло, маркота, душа — ў вершы «Бязлітаснасць»).

Многія абстрактныя паняцці ў кнізе Э. Дубянецкага набываюць уласцівасці чалавечага характару ці характарызуюць стан асобы. Сярод іх варта вылучыць Роспач, Рэўнасць, Шаленства (верш «Канатаходзец»), Пяшчоту (верш «Гімн пяшчоце»), Зайздрасць, Боль, Маркоту (мусаман «Пайсці і выцягнуць з балота»), Адзіноту (паэтычная мініяцюра «Калісьці я зачыніў дзверы свайго сэрца...»).

Непасрэднае графічнае, візуальнае ўспрыманне вершаў Э. Дубянецкага дасягаецца дзякуючы выкарыстанню вялікіх літар у страфе (верш-пазл «Не даць...», метамарфозны верш «Берагі рацэ звязалі ногі...»), звароту да шматкроп'я з пропускам літар у слове-назве (інтэрактыўны верш «Ка...е»). У плане графічных эксперыментальных пошукаў адметным з'яўляецца перанос ключавога слова на асобны радок (вершы «Чароўнае люстэрка»; паэтычныя мініяцюры «Мне зорка прыснілася...», «Прастуда ракі», «На далоні маёй...»). Э. Дубянецкі лагічна выдзяляе слова ў вершы, калі афармляе яго ў форме кола (кругавік «Спрыяць і ўпрыгожваць»):

***Сонца***

Упрыгожвала спрыяла
Каханне каб яно шчасцю [1, с. 121].

Сінтаксічны ўзровень у вершах Э. Дубянецкага ўжо ахоплівае цэлае выказванне — структурна аформлены і семантычна завершаны сказ, які можа быць рэпрэзентаваны ў страфе нават пры адсутнасці знакаў прыпынку (верш «Змрочная фантасмагорыя»; паэтычная мініяцюра «Баліць...»). Сярод знакавых вобразаў у творчасці Э. Дубянецкага — «лабірынт слоў» [1, с. 9] і «ўспамінаў музыка» [1, с. 173], якія ўплываюць на візуальна-выяўленчую карціну ў мастацкім свеце аўтара.

У кнізе «Покліч самотнага неба» Э. Дубянецкі згадвае беларускага паэта XX ст. А. Гаруна, які ўсё сваё жыццё марыў аб «квітненні руні» і шчаслівай долі Беларусі (паэтычная мініяцюра «Дом айчыннай паэзіі...»), а таксама звяртаецца да паэтычнай мудрасці свайго настаўніка ў айчыннай літаратуры — Рыгора Барадуліна (прысвячэнне «Беларускі Баян»). Э. Дубянецкі з сумам адзначае праявы таго, як разбураецца свет XXI ст., калі пэўныя, знішчальныя па сваёй сутнасці ідэі чалавека ўвачавідку абрынаюць у бездань яго ідэалы і духоўныя каштоўнасці (вершы «Плод згуртаванасці паўсюднай — перамога», «...І востры меч над безданню блішчыць»).

Насуперак індывідуалізму, які пануе ў свеце, Эдуард Дубянецкі заклікае да калектыўнай згуртаванасці. Аўтар кнігі «Покліч самотнага неба», захоўваючы ў сваім сэрцы ўяўленне аб гуманізме і ашчадным стаўленні да свету, рэпрэзентуе віталістычны погляд на сучаснае грамадства, дзе воля, інтэлект, чалавечыя пачуцці выяўляюць сутнасць такіх паняццяў, як «мудрасць», «прафесіяналізм», «станоўчае эмацыянальнае ўражанне».

**Літаратура:**

1. Дубянецкі, Э. Покліч самотнага неба: вершы, паэма / Э. Дубянецкі. —Мінск: Кнігазбор, 2013. — 204 с.

2. Рагойша, В. П. Паэтычны слоўнік / В. П. Рагойша. — Мінск: Выш. школа, 1979. — 320 с.



# Анатоль Трафімчык

літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт. Кандыдат гістарычных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы. Жыве ў Мінску.

# Не пытай, па кім ударыў бом...

***Захаранка М. І тады ўдарыў бом: апавяданні і п'есы / уклад. А. Астапенкі. Мінск: Кнігазбор, 2013. 220 с.***

Пісьменніцкае імя Міколы Захаранкі вядомае нават не ўсім знаўцам літаратуры (асабіста праверана на ўладальніках навуковых ступеняў). Між тым яно вартае ўвагі. А такая нешырокая вядомасць (пра папулярнасць і не кажу) абумоўлена, як бачыцца, двума аб'ектыўнымі і разам з тым парадаксальнымі ў сваім спалучэнні фактарамі:

1. Людзі сталі меней чытаць, асабліва мастацкай літаратуры (калі не адносіць да яе бульварныя чытанкі);

2. Людзі сталі болей пісаць, у тым ліку мастацкай літаратуры (да таго ж калі адносіць да яе бульварныя чытанкі, плюс блогі).

Беларуская ж літаратура ўвогуле, нягледзячы на перманентнае пагаршэнне моўнай сітуацыі, па-ранейшаму захоўвае моцны патэнцыял — і ў колькасным, і ў якасным плане. Многія не падзяляюць такі погляд. Але і аптымістаў, уключна з аўтарам гэтых радкоў, шмат. У пацверджанне пазіцыі — пару прыкладаў. Колькасны: на два саюзы пісьменнікаў маем за 1000 чалавек. Якасны: толькі ў новым стагоддзі на Нобелеўскую прэмію вылучалася некалькі майстроў пяра з Беларусі: В. Быкаў, Р. Барадулін, У. Някляеў, С. Алексіевіч... Таму можна смела казаць пра высокі ўзровень нашага пісьменства (не адмаўляючы пры гэтым пандэміі графаманіі ў чыстым выглядзе, без намёку на высокамастацкасць).

Вяртаючыся да аб'екта нашай увагі, падсумуем, што на такім тле, калі штыхі неабыякіх літаратараў ды іх кніг у нас даволі шчыльныя, разгледзець асобна ўзятага творцу не заўсёды ўдаецца нават намінальна. Цяпер у нас пісьменнік часта як той суслік у траве з кітайскай прымаўкі. Але ж ёсць! Існаванне і Міколы Захаранкі як пісьменніцкага таленту бясспрэчнае. Яно выражана не столькі ў колькасных (кніг дзясяткамі дый увогуле публікацый Аўтар не тыражуе нястомна), колькі перадусім у якасных паказчыках: пісьменнік тройчы станавіўся лаўрэатам прэмій і конкурсаў, можа, не самых прэстыжных, але вузкапрафесійных, менавіта пісьменніцкіх — часопіса «Полымя» і газеты «Звязда». А такая «прэміяльная канкрэтыка» ў пэўным сэнсе нават вышэй за агульнасць ушанавання, абазначаную якой-небудзь аморфнай фразай «за вялікі / значны ўнёсак» ці да т. п.

Нягледзячы, здавалася б, на малаколькаснасць апублікаванага М. Захаранкам (а пра іншыя кнігі нам, выбачайце, невядома; маўчаць пра гэта і Гугаль, і электронны каталог «Нацыяналкі»), ён змог выявіць сябе ў творах самых розных фарматаў. Дастаткова звярнуць увагу, што разглядаемая кніга складаецца з дзвюх частак — празаічнай і драматургічнай. Але і кожная з іх — неаднастайная!

Адкрываецца кніга апавяданнем з пазітыўнай назвай — «Усё будзе добра». Яго стыль журналісцкі з ухілам у фельетонны фармат. Нядзіўна — калі ўлічваць прафесійную дзейнасць Аўтара. Але і хто сказаў, што фельетон — не мастацкі жанр?! Сюжэт будуецца вакол налёту міліцыі на самагоншчыкаў вёскі з гаваркой назвай Шчэрбаўка. Многія яе жыхары кінуліся ратаваць сваё дабро ад знішчэння («усяго ў той дзень міліцыя ўпалявала тры самагонныя апараты, сем дэкалітраў брагі і дзевяць трохлітровікаў першаку, што і было потым вывезена ў невядомым напрамку і знішчана «па акту»» — с. 14), а сябе ад штрафаў. Хто як. Аказваецца, сярод іх — людзі розных прафесій.

«— Ніна, гэта я, — стрымана казаў у слухаўку ляснічы, прыпыніўшы нараду леснікоў. — На гарызонце пагоны! — сямейным кодам, каб не разумелі леснікі, перадаваў ён жонцы. — Дзе ў нас варэнне стаіць? Так. Так. Так. А ласьён? Так. Так. Так. Добра, дзейнічай па варыянту нумар два. Не! Нумар адзін не падыходзіць, яны на дванаццаці колах. На трох машынах, кажу! Што?! І свае, і мінскія, і барысаўскія. Ды што ты мелеш! Каго ўгосцім? Яны цябе самі ўгосцяць! Што? Хавай брагу за грубку і вон з хаты! — дарэшты раззлаваўся ляснічы. Леснікі рагаталі...» (с. 9)

Нешта а Іа Вінцэсь Мудроў. І тэматычная блізкасць відавочная:

«У эфіры — нядзельны канцэрт-віншаванне «Жадаю вам». Васемсот семдзесят дзявяты выпуск, — паведаміў урачысты барытон і Макар канчаткова абудзіўся. Галава балела да божай моцы. Стваралася ўражанне, што ўнутры яе, па мазгавых звілінах, казытліва поўзалі мухі. У роце было як насцана, а да горла, намагаючыся выйсці на-гара, падступаў халодны камяк млосці. Выгаліўшы вочы, Макар каўтнуў даўкую сліну, камяк адступіў, праваліўся на дно страўніка і растаў там, агідным халадком адбіўшыся пад дыхніцай. — Больш як сорак гадоў адрабіла наша матуля ў родным калгасе. За гэты час яна выгадавала траіх дзяцей, неаднаразова ўзнагароджвалася граматамі праўлення калгаса, — гукаў аднаканальны «Сож» і кожны зык, што далятаў да вушэй, балюча калоў у скроні» (пачатак апавядання В. Мудрова «Рыбалка ў Бычках»з кнігі «Зімовы сны», 1999).

Але не ў тэматыцы — галоўны паралелізм гэтых аўтараў. Кідаецца ў вочы, што і М. Захаранка (прынамсі ў апавяданні «Усё будзе добра»), і В. Мудроў (у многіх сваіх творах) вышукваюць (і як трапна знаходзяць!) тыпажы і характары людзей, якія не могуць адкараскацца ад горшай спадчыны застойных часоў. Лёсы тых людзей розныя. Але дух — тоесны.

Рысы, якімі надзелены персанажы разглядаемага апавядання М. Захаранкі (як і ў В. Мудрова) рэалістычныя — нават без гіпербалізацыі:

«...Тады, у 66-м, Вацака, як ветэрана вайны, запрасілі ў школу выступіць. Тады й нарадзілася яго другое імя. Перад тым злашчасным «выступленнем» Вацак «прыняў» крыху больш, чым неабходна для сціплага красамоўя, і так распусціў язык, апісваючы зігзагі сваёй ваеннай біяграфіі, што ў канцы нейкі руды паскуднік у чырвоным гальштуку нахабна спытаў:

— Паважаны Вацак Язэпавіч, я не зразумеў... Дык вы былі партызан ці паліцай?

Вацак разгубіўся, заблытаўся і ўрэзаў праўду-матку:

— Дык я... А я быў і той, і той!» (с. 6-7)

Са сваіх даследаванняў вуснай гісторыі ведаю, што казусы ў выступленнях ветэранаў перад школьнікамі сапраўды прысутнічалі. Пра адзін з іх распавёў Аляксандр Сямёнавіч Занька, колішні настаўнік Круговіцкай СШ (Ганцавіцкі раён, Брэсцкая вобласць): «Пасля «абавязковай» праграмы (дзе і як ваяваў, якія ўзнагароды мае) ішлі пытанні вучняў. Адзін з іх спытаў ветэрана, што найбольш запомнілася яму на фронце. Пасля гэтага, зрабіўшы прэлюдыю пра тое, з якімі цяжкасцямі бралі яны невялікае замежнае мястэчка, былы франтавік стаў з бачным задавальненнем, у падрабязнасцях, смакуючы, расказваць пра знаходку ў тым мястэчку вялікага віннага пограба, пра павальную п'янку, пасля якой іх часць на нейкі час спыніла наступленне. Настаўнікі, не чакаўшы такога павароту падзей, былі шакаваныя».

Тым не менш, заканчваецца апавяданне «Усё будзе добра» нечакана лірычна, сур'ёзна і аптымістычна — цалкам апраўдваючы сваю назву. І такая развязка глядзіцца арганічнай і з'яўляецца галоўным адрозненнем ад рэалістычна-абсурдысцкіх кульмінацый сюжэтаў В. Мудрова, чым выяўляецца канцэптуальная рознасць гэтых двух аўтараў (у падыходах да мастацтва) пры пэўным знешнім падабенстве некаторых іх твораў і светапогляднае разыходжанне пісьменнікаў у дачыненні да свайго жыццёвага кантэксту.

І прафесія М. Захаранкі, і першае апавяданне кнігі (на журналісцкі капыл) абумовілі чаканне ад астатняй прозы такога ж стылю. Але... не апраўдалі таго чакання. Наступнае апавяданне — «І тады ўдарыў бом» — выклікала зусім іншыя асацыяцыі і атаясамленні, стаўшы (зразумела, суб'ектыўна) працягам «Зялёнага лугу» А. Федарэнкі. Увогуле такіх твораў, як згаданая Федарэнкава аповесць, пісаць нельга. А калі напісалася — дык не публікаваць. Але калі напісалася і апублікавалася, то пасля яго варта змяшчаць «І тады ўдарыў бом» М. Захаранкі: каб хоць трохі прыглушыць выклікаемы папярэднім творам боль. Ступень болю пры чытанні апавядання М. Захаранкі аніяк не меншая, чым у творы А. Федарэнкі. Аднак у першага яна збольшага нівелюецца ізноўтакі праз нетупіковую, недэструктыўную развязку. Нетупіковую і канструктыўную — канечне, адносна. І, канечне, адносна заканчэння аповеду ў «Зялёным лузе».

Пішацца тут гэтак не таму, што Федарэнка напісаў кепска. Якраз наадварот! І гэта, як сёння модна казаць, падсвечвае і талент М. Захаранкі ў яго аповедзе — несумненна, узятым з жыцця, глыбока перажытым і такім уражлівым, што прымяняць літаратуразнаўчую вівісекцыю да твора неяйк недарэчна. Яго варта прачытаць. Душою. А калі ў каго яна зачарсцвела і не затрапечацца ад невыноснай і далікатнай экзістэнцыйнай лёгкасці і крохкасці нашага з вамі быцця, тады можна звярнуцца да Федарэнкавай аповесці.

Як бачна, першыя два апавяданні М. Захаранкі адрозныя зместавым і стылістычным фарматам. У сваю чаргу трэцяе — «Насланнё» — таксама асаблівае. Гэта — сведчанне аўтарскай універсальнасці і шырокадыяпазоннай майстравітасці.

«Насланнё» характарызуецца адсутнасцю як фельетоннай іранізацыі, так і экспрэсіянісцкага надрыву. Толькі погляд застаўся — уважлівы да дэталей, менавіта тых, якія неабходны ў патрэбны момант на патрэбным месцы для канкрэтнага кантэксту аповеду. Напрыклад, ці ж не перажываў кожны з нас наступнае: «Вакзал таргануўся, зрушыўся з месца і паплыў у вагонным акне. Палёгка і падарожная ўтульнасць увайшлі ў грудзі Сымона Сымонавіча Салавейкі і па старой завядзёнцы сталі ўладкоўвацца там на ўвесь час падарожжа» (с. 45). Дарэчы, ужо самы пачатак навелы (а разглядаемыя творы М. Захаранкі з поўным правам можна назваць менавіта навеламі) выдае арыентацыю ў дадзенеым выпадку на класічную традыцыю кароткай прозы. Аўтар нават звяртаецца да апісанняў прыроды: «Апошнія ліпеньскія дні, здавалася, ужо ўдыхнулі будучых жнівеньскіх шчодрасцяў, і жаўтаваты колер там-сям умяшаўся ў буйное зяленіва прыроды. Жытнёвыя палі, самлелыя бульбяныя гароды з векавечнымі грушамі-дзічкамі на межах і рудыя паплавы суладна чаргаваліся між сабой у аконнай раме. Лес то падступаў да чыгункі каравымі чорнымі ствaламі алешын, то адбягаўся, красуючыся суцэльна-зялёным сваім відарысам. Усё блізкае імкліва слізгала назад, далёкае, упарта марудзячы, плыло ўслед, але і яно адставала, сыходзіла ў нябыт, саступаючы месца іншаму калячыгуначнаму сусвету» (с. 49).

Усё ж элементы постмадэрнізму пралезлі і сюды: «Анічога, Валодзя Сымону падабаўся. «У яго не ўсе дома, яго ўсе любяць, яму ўсё можна, усё — як з гусі вада», — з замілаванай усмешкай намацваў у думках Сымон «літаратурны партрэт героя»» (с. 50). Так цэнтральны персанаж апавядання (а яго правобразам недзе стаў Аўтар, супадзенне ў іх прафесіі напэўна невыпадковае) апісвае свайго выпадковага спадарожніка.

«Насланнё», аднак, пакрысе, неўпрыкмет прырошчвае да рэалізму прыстаўку «сюр-». Момантам метамарфозы можна лічыць, канечне, навальнічную ноч, а нават канкрэтней — удар перуна. Хаця яшчэ на пачатку Аўтар рыхтаваў чытача, кажучы, што яго пратаганіст у душы «быў паэт і містычны філосаф» (с. 45). Рычагом, які скіроўвае дзею да «сюр-», становіцца... стоп-кран, які рвануў Сымон, каб дапамагчы паспець Валодзю — 30-гадоваму дзецюку, пацыенту псіхіятрычных клінік. Апошні і трансфармуе рэалістычны свет Сымона ў той бок, які хаваўся недзе ў душы «містычнага філосафа». Гэты філосаф, тым не менш, да апошняга не дае веры тым невытлумачальным з гледзішча матэрыялізму падзеям, нават пры расставанні кпіць з нядаўняга спадарожніка, з-за якога Сымон зусім збіўся з тропу ў простым і пераносным сэнсах, і толькі развязка, якая нечакана апынулася раней, чым разлічваў герой (дый чытач), прымусіла Сымона здрыгануцца — ён «ускінуўся» і «абвяў»: «У імгненне вока свет павярнуўся на

сто восемдзясят градусаў. Дарога, якая дагэтуль вяла на поўдзень, у Мікашэвічы, зрабілася зараз дарогай на поўнач...» — у Слуцк, да Цэнтра Зямлі, які, як і казаў Валодзя, знаходзіцца ў мясцовай «псіхушцы» (с. 77).

«Рыгорава помста» — наступнае апавяданне — у сваім рэалізме ўсё ж не падманула (як папярэднія). Тут маем хутчэй заглыбленне ў псіхалогію чалавека — на прыкладзе двух герояў: зуха і нахабніка шафёра Івана Клюмпы і сціплага, мяккага цесляра Рыгора. Адбываецца сутыкненне характараў, кожны з носьбітаў якіх меў свае планы на банальную дастаўку дроў Рыгору: Клюмпа паклаў вока на жонку свайго візаві, а галоўны герой, спрагназаваўшы паўтараемую раз-пораз Клюмпіну дыверсію — шкоду варотам на панадворку, падрыхтаваў загадзя і з матэматычным разлікам помсту — «вожыка», які павінен быў упіцца ў шыну пры спробе шафёра зламаць, зачапіўшы нібы незнарок машынай, браму. Фармальна розум перамог сілу і нахабства: кола прапаролася. Фактычна — узніклі душэўныя перажыванні, нават пакуты героя, які з першых хвілін (калі спыталі міліцыянты пасля аварыі ў выніку міні-тэракту Рыгора) назваў толькі што ненавіснага Клюмпу братам:

«Брат!..» — горка ўсміхнуўся Рыгор, успомніўшы, як назваўся братам Івану Клюмпу. А што, можа, і брат...

«Эх, людзі мы, людзі!» (с. 101)

Літаратурай, спісанай з жыцця, не здзівіць. Але ці ж можна перастаць здзіўляцца ўмеламу спісванню? Спісванню, якое ператварае зменлівае жыццё ў вечнае мастацтва. Такімі прыкладамі з'яўляюцца і вышэйразгледжаныя апавяданні М. Захаранкі, і «Санкі» — хутчэй псіхалагічны абразок (калі лічыць па памерах), у якім прыадкрываюцца стасункі галоўнага героя Мішкі з бацькам — праз апісанне выпадку крадзяжу дроў на санках, калі бацька папрасіў сына-памагатага паганяць:

«— Я ж не конь. От, каб хто мяне падганяў...

— Дык я магу!.. — сказаў Мішка і спужаўся.

— А што? Давай, сынок, садзіся, а я дзе дубца харошага высеку.

...

Мішка нясмела шлёгнуў па бацькавай спіне.

— Хто ж так паганяе? — павярнуўся да паганятага «конь», скалячы маладыя зубы. — Не лянiся, сынок, а то мне важка.

І Мішка з усяе сілы выцяў бацьку дубцом, і бацька пабег подбегам...

Але было нешта не так, не тое.

— Іг-гі-гі-гі! — заіржаў «конь», замарудзіў крок і стаў. Мішка саскочыў з санак, прытуліўся тварам да пахучага бярозавага палена і горка заплакаў. Ён зразумеў нядобры бацькаў жарт, але яму ўсё роўна было шкада бацьку». (с. 104)

Маленькага апавядання М. Захаранку было дастакова, каб адлюстраваць, што мы назаўсёды застаёмся сынамі...

Яшчэ адзін выпадак з жыцця — трагічны — Аўтар увасобіў у форму «любоўна-крымінальнай фантасмагорыі» («Забойства на вуліцы з прысадамі»),

раскрыўшы дзейства праз мройную анімізацыю вясковай вуліцы, слупа і ліхтара, якія і сталі сведкамі драмы, што скончылася смерцю нейкай Алены Чарвяковіч. Таксама нечаканы паварот у кнізе, і яму не адмовіш у фармаце, бо так убачыла назіральнае пісьменніцкае вока.

Чарговую, замешаную на каханні трагедыю (апавяданне «Анёлак мой»), М. Захаранка раскрыў ужо інакш, хоць і не без рамантызму, што натуральна ў тэме кахання. Тут фонам стала астраномія. А загінула — ізноў маладая дзяўчына. Пісьменнік не дае адказу, якое ж выйсце можа быць у падобных сітуацыях, — ён суперажывае, мастацкімі сродкамі падвяргаючы эмпатыі і нас.

З прааналізаваных апавяданняў відаць, што Аўтару баліць. Уменне перадаваць той боль праз слова робіць М. Захаранку вартым увагі слугою прыгожага пісьменства.

Сваю творчую «кухню» мастак крыху рассакрэчвае, публікуючы «Васілевіцкія маналогі на «трасянцы»» — асабістыя зборы гісторый з жыцця розных людзей у іх па магчымасці аўтэнтычным выкананні. М. Захаранка ў невялікім уступным слове справядліва заўважае, як моцна ў нас высахла мова: «Нашы дыктары нацыянальнага тэлебачання, нашы артысты нацыянальных тэатраў, нават нашы «моўна ўнармаваныя» літаратары наўрад ці валодаюць жывою моваю больш дасканала, чым якаясь цётка Вара з усходне-палескіх Васілевічаў ці, прабачце, дашчэнту «затрасянкавая» баба Соня з-пад Рэчыцы» (с. 122). Падпісваюся. З пэўнай папраўкай: у заходне-беларускіх вёсках яшчэ знаходзяцца выспы, яшчэ не «затрасянкавыя» дашчэнту (мае родныя Вялікія Круговічы і мае цёткі Надзя і Яня — таму яскравае пацверджанне). Але сутнасць адна. Яе выказаў У. Караткевіч, кажучы найперш пра гісторыю, але той жа прынцып можна прымяніць да моўнай стыхіі: «Гэта адзіны шлях кожнай навукі: піць ваду не толькі з крана (з кніг), не толькі дысталяваную са шклянкі, але і заўсёды ісці да крыніц, якія б'юць з роднага берага недзе пад тваёй хатай».

Дзеля прыкладу «Васілевіцкіх маналогаў...» — заканчэнне-рэзюмэ аднаго дзеда з пакручастым лёсам, запісанае М. Захаранкам, як можна падумаць нават пры наяўнасці даціроўкі (2002), з чвэрць стагоддзя таму (з-за згадкі гарбачоўскай перабудовы), але з народнай мараллю на вякі: «Дык я не буў у паліцыі, людзі знаюць. І яны ета знаюць, эмгабісты! Да яны і цяпер камандуюць. Перастройка! Растармашыць нада ўласць етую, от тады будзе добра, тады будзе перастройка. Перастроіць — дак нада уволіць іх усіх, да аддзяліць куток які, да іх туды пасяліць, асобна ад людзей, — тады б мо і жызь пашла...» (с. 125)

Другая частка кнігі — драматургічная. І тут Аўтар мае пэўныя дасягненні. Ці ж імі не з'яўляецца пастаноўка п'есы на сцэне Купалаўскага тэатра? Такі лёс перажыла камедыя-фарс «Паехалі!» (1996). А гэта — несумненнае прызнанне дараматургічнага таленту.

Але адкрываецца драматургія М. Захаранкі п'есамі для дзяцей, што яшчэ з аднаго боку пацвярджае як шматграннасць Аўтара, так і яго таленавітасць, бо ўменне ствараць добраўзроўневую адрасаваную дзецям драматургію дадзе-

на далёка не кожнаму нават выбітнаму пісьменніку. М. Захаранка і тут знайшоў сваю нішу. У караценькім уступным слове ён рэпрэзентуе свае казкі для батлейкі, падказваючы, як іх найлепей інсцэнізаваць. Сем драматургічных абразкоў падаюцца пад агульнай назвай «Жылі-былі» і выступаюць свайго роду серыялам з жыцця Бабы, Дзеда, Унучкі, Унучка і лясных звяроў. Прычым, па словах драматурга, «спалучэнне фальклорнай асновы побыту герояў са знешняй атрыбутыкай сучаснага ладу жыцця надае п'есам пэўны камедыйны эфект і адначасова ўтрымлівае момант вясёлага нязмушанага выхавання дзіцяці ў нацыянальна-культурным рэчышчы» (с. 134).

Творы гэтага драматургічнага цыклу характарызуюцца простым дзействам і лёгкім, даступным для дзіцячай псіхікі маральным падагульненнем, якое гучыць не з вуснаў герояў (што сапсавала б казку як мастацкі твор), а праз камонтатара-Скамароха, які не толькі закрывае кожную сцэнку, але і распачынае яе. Такія рысы робяць патэнцыйнымі рэцыпіентамі п'ес «Жылі-былі» дзяцей малодшага школьнага або й дашкольнага ўзросту. Зрэшты, нездарма творы і друкаваліся на старонках вядомага дзіцячага часопіса «Вясёлка».

П'есы, як зазначае Аўтар, могуць ставіцца і паасобку. Аднак пры «серыяльнай» пастаноўцы тут трэба сачыць за паслядоўнасцю, якая абумоўліваецца разгортваннем падзей. У кнізе, тым не менш, лагічны парадак парушаны. Так, другую п'есу варта паставіць паперадзе, бо менавіта ў ёй спачатку такога персанажа, як Дзед, няма, і ён з'яўляецца ў якасці падарунка на векавы юбілей Бабы і дзейнічае ўжо ва ўсіх казках.

Вышэйшым «пілатажам» у дзіцячай літаратуры прынята лічыць творы, якія будуць з ахвотаю чытацца і дарослымі. Трэба сказаць, што М. Захаранку ўдаецца ў тканіну сваіх казак для батлейкі арганічна ўкрапіць моманты, якія і дзецям будуць зразумелыя, і дарослых павесяляць (тым больш што чытаць п'ескі давядзецца — прынамсі напачатку — апошнім, бо драматургія з'яўляецца традыцыйна цяжкай для дзіцячага ўспрымання):

Б а б а . Чуў, дзед? Так што тэрмінова рабі нам арэлі.

Д з е д . Каму гэта — «нам»? Я ўжо стары на арэлях катацца.

Б а б а . Ты дзед, толькі пра сябе думаеш, табе, дзед, пра іншых людзей клопат малы. Можа, ты хочаш сказаць, што і я старая?

Д з е д . (*спалохана*). Што ты, што ты, баба! Не такі я дурны, каб такое казаць. (с. 152-153)

Як бачна з урыўка, у ім пры жаданні можна знайсці нават эратычны падтэкст (расчытаўшы ў святле тэорыі З. Фройда арэлі як пэўны сімвал).

У сваёй драматургічнай шматсерыйцы М. Захаранка, як і патрабуюць законы серыяльнага жанру, падае жыццёвыя гісторыі сям'і, якая складаецца з дзеда і бабы, унука і ўнучкі, але з удзелам лясных жывёл, якія канструктыўным чынам уплываюць на сямейнае жыццё. Кожны са звяроў (Мядзведзь, Воўк, Ліса, Заяц) мае свае адметнасці, але што іх аб'ядноўвае, дык гэта добразычлівасць, гатоўнасць заўсёды прыйсці на дапамогу, таму і складаныя сітуацыі

вырашаюцца з выгадай для ўсіх. Так, убачыўшы, як звяры праз мабільную сувязь папярэдзілі свае сем'і пра затрымку ў гасцях, баба тут жа папракнула дзеда:

Б а б а . Бачыш, дзед, як яны клапоцяцца аб сваёй радні? Не тое, што ты.

Д з е д . І я клапаціўся б, каб у мяне быў мабільнік...

Б а б а . Адстаў ты, дзед, ад веку. Не тое, што яны.

Д з е д . Адстаў, баба, нічога не скажаш...

*Звяры спачувальна пераглядваюцца, слухаючы Дзеда з Бабай.*

М я д з в е д з ь (*павагаўшыся, рашуча*). Ат, было не было! Я табе, дзед, свой падару. Будзеш бабе званіць.

Д з е д . Бабе? (*Уздыхае.*) Я б, канешне, званіў, калі б у бабы мабільнік быў...

Л і с а (*павагаўшыся*). А я бабе свой падару!

В о ў к (*павагаўшыся*). А я ўнучку...

З а я ц . А я, а я... А я — унучцы. (с. 165)

Характары персанажаў не сказаць каб глыбокія (гэтага і не патрэбна для дзіцячага мастацтва слова), але цэльныя, героі падобныя... да саміх сябе (хоць не без долі іранічнай, нязлоснай карыкатурнасці).

З нейкай прычыны Аўтар асобна ад цыклу «Жылі-былі» адмяжоўвае яшчэ адну п'еску ў тым жа фармаце — «Сумленны круцель», хаця і персанажы ў ёй паўтараюцца, дый стылістыка ў цэлым не кантрастуе. Праўда, адзін герой з'яўляецца новы — Смерч, як ён сам і кажа, «сумленны круцель». Менавіта ў сутыкненні з ім і адбываюцца калізіі астатніх персанажаў. Аднак Баба, Дзед, Унук, Унучка і Мядзведзь не спужаліся Смерча, больш перажываючы адзін за аднаго, ад чаго і сам круцель перайначыўся на лепшае.

Заключная п'еса — «Паехалі» — выпісана вельмі сакавітаю моваю, перасыпанай залацінкамі народнай парэміялогіі, якой цяпер, на жаль, засталіся толькі рэшткі. У якасці прыкладу прывядзём такі сегмент беларускай культуры, як бабская сварка (які сёння, дарэчы, выцеснены абсцэннай лексікай, запазычанай ва ўсходніх суседзяў): «Гляджу, аж гэта Параска прыманіла да сябе майго Рабку і дае яму штосьці са сваіх рук. Я да яе: а што, кажу, ты яму даеш, каб табе міласціну давалі! Нашто гэта ты чужога сабаку гадуеш, каб ты злыдня цыцкаю ўзгадавала! Каб знаў мяне, кажа, ды не рваў. Каб цябе, кажу, на тым свеце не пазналі, каб на тваёй магілцы кветкі рвалі, каб ты не пазнала кута перад скanальнаю гадзінаю...» (словы Пантурчыхі, с. 201).

Жанр камедыі-фарсу не мог абысціся і без фрывольнасцей, у тым ліку (і гэтым разам мэтанакіравана) з эратычным падтэкстам:

Старшыня. Дык гэта ты, Параска, таму такая смелая, што ўжо пакумавалася з памочнікам свайго кіраўніка? (Вымае з кішэні і з сумненнем разглядае ключ, значна меншых памераў, чым той, што ў Пісара.) (с. 210)

Увогуле ж твор замешаны на тэме злоўжывання алкаголем, якое адбываецца як у рэальным свеце, так і ў паралельным, дзе жывуць міфічныя іс-

тоты — Багнік, Балотніца, Летавіца (прычым, што цікава, яны гавораць вершамі). Праўда, з дасягненнем дзеючымі асобамі пэўнай «кандыцыі» абодва светы пераблытваюцца. Нягледзячы на жанр, фінал твора мае трагічную сімвалізацыю (у ёй і заключаецца мараль): уся «канцылярыя» апускаецца ў багну» (с. 218).

Такім чынам, як і ў апавяданнях, так і ў драматургіі М. Захаранка дэманструе ўменне працаваць у розных фарматах. Вынікі якасныя. Пісьменнік не толькі добра бачыць жыццё, але і глядзіць на яго, змяняючы прызмы і ракурсы. Прычым, ён здольны рэпрэзентаваць свой мастацкі матэрыял самай рознай аўдыторыі.

М. Захаранка доўга ішоў да кнігі. Безумоўна, заслужыў яе. Выданне атрымалася. Будзем спадзявацца, што яно цяпер, стаўшы добрай візітоўкай для аўтара, значна пашырыць кола ягоных чытачоў.



# Ала Петрушкевіч

паэтка, крытык, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычнага зборніка «Пярсцёнак». Апублікавала звыш 200 навуковых прац, сярод якіх кнігі: «Іду па слядах: Літаратуразнаўчыя артыкулы, эсэ» (1997 г.), «Пра творы і творцаў: літаратурна-крытычныя артыкулы» (2002 г.), «Некаторыя старонкі беларускай літаратуры пачатку ХХ стагоддзя» (2010 г.) і інш. Нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава на Гродзеншчыне. Жыве ў Гародні.

# У жыцці я люблю Хараство...

***Аўчыннікава, Г. Ад зачыненай брамы: вершы / Г. Аўчыннікава. — Гродна: Гарадзенская бібліятэка, 2011. — 55 с.***

У беларускай літаратуры з'явілася яшчэ адна пяснярка красы, яшчэ адна паэтка восені, што годна выглядае ў прыгожай трыядзе: Наталля Арсеннева, Тацяна Сапач, Ганна Аўчыннікава. Яна аўтарка адзінае паэтычнае кнігі «Ад зачыненай брамы», якая выйшла ў Гародні ў 2011 годзе.

Ад зачыненай брамы — матыў, які паэтка вызначыла галоўным. Ствараючы вокладку, мастак таксама імкнуўся па-свойму адлюстраваць яго. А тая сімвалічная постаць адзінокага чалавека на гарадзенскай вуліцы пад капелюшом у чорным паліто, пэўна, не адной мне нагадала постаць Юры Гуменюка, паэта, духоўна блізкага маладой аўтарцы.

Галоўны матыў кнігі выразна прачытваецца ў вершы «З глыбіні», калі з самае глыбіні душы творцы, такое пяшчотна-шчырай, багатай, бо ёй адкрытыя нябесныя скарбы («брыльянтамі свеціцца неба»), сыходзіць разуменне свайго адметнага шляху, дзе шмат раздарожжаў, скрыжаванняў і ўкрыжаванняў, але годна пройдзенае, пераадоленае ўрэшце прывядзе да святла:

*Ад жалезнай зачыненай брамы*
*Да святла — лабірынты дарог,*
*І адна стане шчыраю самай.*
*Ля жалезнай зачыненай брамы*
*Толькі я, адзінота і Бог [1, с. 31].*

За зачыненай брамай тое, што было з чалавекам да ягонага з'яўлення на свет. Тое, што было з творцам да ягонага ўсведамлення свайго паклікання. Ён пачынае ўсё адпачатку, сам, падтрыманы толькі ласкаю Божай. І, урэшце, тое, што было з жанчынай да сустрэчы з каханнем. Разумеючы гэта, гераіня мусіць прайсці наканаванае, прайсці свой шлях, у якім скрыжаваліся нябеснае святло і пакуты жывога жаночага сэрца: «Не спявай маю песню, не трэба. // Дзе яднаюцца сэрца і Неба, // Я павінна сама даспяваць» [1, с. 31].

І вось той шлях пачаўся. Матыў трансцэндэнтнага падарожжа пераходзіць з верша «Кафка», дзе ўжо праз назву пазначана паратэкстуальнасць твора, у верш «Шукаю ў жыцці сваім блізкіх і родных...», што на тым жа старонкавым развароце. Як ролевы герой першага верша, цела К. «падыходзіць да Замка // І не можа прайсці праз яго», так і лірычная гераіня другога не здольна сягнуць у тутэйшы варыянт Замка — гарадзенскі, да якога шлях-блуканне цяжка пераадолець:

*Шукаю ў жыцці сваім блізкіх і родных,*
*Але заблукала на вулках сама.*
*Няўтульныя хмары вісяць над Гародняй —*
*Для іншых, магчыма, тых хмараў няма [1, с. 23].*

Наогул, Гародня — радзінны, улюбёны горад, ніколі не прысутнічае ў паэзіі Ганны Аўчыннікавай толькі фонам, месцам лірычнага дзеяння. Гэта нават не

вобраз горада ў звычайным значэнні. Гародня напоўнена адметным, прывідна-ілюзорным зместам, у якім выразна выступаюць знакавыя аб'екты. Цікавую паэтычную інтэрпрэтацыю сэнсу назвы прапануе аўтарка:

Гарадзень, гарадзіць, агароджа,
Агароджаны
Сіні туман.
Засынае на варце Каложа,
Склаўшы крылы на росны дзірван [1, с. 27].

Гераіня паэткі наколькі гарадзенская, настолькі не замкнутая ў гэтай самадастатковай, але ўсё ж абмежаванай прасторы. Паратэкстуальнасць, дыялог з сусветнай культурнай традыцыяй характэрны творчасці Ганны Аўчыннікавай. Часам перажытае, глыбінна-патаемнае кампазіцыйна абрамляецца літаратурна-знакавым, пазнавальным. Так, яе «Песня 4» падзагалоўкам і фінальным акордам мае «Vita nuova», чым паэтка не толькі вітае новае жыццё, што пачынаецца ад той жа зачыненай брамы, але і скіроўвае абазнанага чытача да «La Vita Nuova» Дантэ.

У кнізе мноства алюзій на біблейскія матывы. У вершы «Пад флейту ветранага рання...» праступае сімвал чары, калі творыцца таямніца прычасця віном кахання. Але ў святую чару любові дамешваецца атрута. Чара ўзнімаецца ізноў. Ды прызначэнне яе ўжо іншае — забыццё:

*Пад флейту ветранага рання*
*Спявае рэквіем трысцё.*
*Пілі мы ўчора за каханне,*
*А сёння п'ем за забыццё.*
*Для песень ветранга ранку*
*Любоў, знявага — ўсё адно.*
*Зеленавокая каханка*
*З атрутай змешвае віно [1, с. 20].*

Матыў Вялікага Суда і надзея на дараванне граху, выкупленага любоўю і пакорай, гучыць у паэтычным сшытку (тэтра) «Каложа». Вось жа, гэтае месца сталася сапраўды Паклонным для многіх гарадзенскіх аўтараў, намоленае і стагоддзямі ў сценах і каля сценаў старажытнае святыні, і шчырым паэтычным словам. Сёння яно ўкладзена ў вусны маладой гарадзенскай паэткі. Бо, пагодзімся з рэдактарам кнігі Анатолем Брусевічам, мастацтва для Ганны Аўчыннікавай — гэта «рэлігія, вера ў святую моц Слова» [2, с. 4]. Справядлівасць таго Суда заснавана на любові і літасці, а вынік яго — аднаўленне:

*Калі пачнецца Суд,...*
*І страчаны Сусвет*
*Паўстане ў новай сіле,*
*Душа і цела*
*Звяжуцца нанова —*
*Дай мне пачуць Твае святыя словы:*
*«Дарую грэшным,*
*Бо яны любілі» [1, с. 34].*

І ў гэтым вершы, і ў многіх іншых паэткай творыцца глыбінны дыялог. Услед за даследчыкамі лірыкі Ахматавай адзначым: «Неабходна памятаць, што перад намі не вобраз закончанага дыялогу, а адна з яго стадый, якая працякае зараз, у цяперашнім часе. Гэта стварае «адкрытасць» дыялагічных установак, уключанасць яго ў жыццёвы кантэкст, інспіруе адказы адрасата» [3, с. 34]. Такі чаканы адказ і інспіраваны ў фінале трэцяй квадры «Каложы».

Часцей за ўсё дыялагізм выкліканы жаданнем пачуць ці быць пачутай, рэалізаваць сваё, часам гарэзна-наіўнае жаданне. Так у вершы «Ноч на Каляды», дзе патрэба сумоўя выступае адзіна мажлівым выйсцем з замёрзла-абмежаванай прасторы. Зважаючы на маналагічнасць лірыкі, яшчэ раз падкрэслім, што тут маецца на ўвазе так званы «ўнутраны маналагізм», слова, звернутае да сябе праз іншага.

Верш «Меланхолія» — таксама дыялог, сустрэча гераіні з сабою як з іншым. Бо яна ўжо іншая, з іншым досведам існавання. Адбываецца гэта незвычайнае дзейства ў знакавым месце, «у самай цудоўнай кавярні», калі рэалізуецца, па словах Бахціна, «абсалютная эстэтычная патрэба чалавека ў іншым» [4, с. 34]. Аднак гэтым іншым ніяк не можа быць нехта існуючы ў кантэксце верша (ролевы герой), бо ён парушыць гармонію сузірання знешняга і ўзірання ў сябе, што прывядзе да разбурэння цэласці. І таму ім становіцца даўняе «я», што вядзе дыялог з «я» сённяшнім. Такім чынам атрымліваецца «сябе самога падвесці пад гэту катэгорыю (другога), каб убачыць сябе як момант знешняга адзінага жывапісна-пластычнага свету» [4, с. 33]:

*Ніхто не пытае, чаму я*
*Прыходжу сюды ў адзіноце,*
*Ды кожную раніцу нейкі*
*Завязваецца дыялог...[1, с. 21].*

Дыялог і ў вершы «Я трызніла каханнем...», у якім гераіня «распадаецца» на «я» і «ты», каб усё расставіць на свае месцы: даўні ўчынак (мроя пра каханне), наступствы («жыццё дало ўрок»), высновы («даволі летуценнасці»), праца над памылкамі («разлічваю старанна кожны крок»). Але гэты «разлік», як усё разумова-спраектаванае, не можа быць натуральным складнікам жыцця сэрца, любоўнага сюжэта, дзе заўсёды прыярытэт мае надрыўна-эмацыянальнае:

*А раны не знікаюць... Ці не рана?*
*Усмешка, захапленне, горкі змрок [1, с. 11].*

Між самотна-сцішанае лірычнае плыні дысанансам гучыць верш «Абы не было вайны». Але ж і з збалелага сэрца песняра чыстае красы Максіма Багдановіча сто гадоў таму вырвалася: «Народ, Беларускі Народ! // Ты — цёмны, сляпы, быццам крот...» Тое ж адбылося і з Ганнай Аўчыннікавай, дзе той жа боль і з тае ж нагоды:

*Жалезную моц Пагоні*
*На кветкі і каласкі*
*Змянілі! Сядзяць на троне*
*Вар'яты-кіраўнікі,*
*Нашчадкі стапптанай мовы,*
*Ганебных часоў сыны! [1, с. 28]*

Праз назву, што рэфрэнам гучыць у вершы і сімвалізуе сабою прымітыўную «філасофію» тутэйшага замшэлага канфармізму, перададзены пратэст, крытычна-іранічнае ўспрыняцце юнай асобай гэтага забойчага аргумента на карысць вечнага маўчання і пакоры.

Наогул, у гэтай прыгожай юнай паэткі моцны маральна-этычны грунт, бескампраміснасць да фальшу, разуменне высокай ролі творцы, адказнасць за слова прамоўленае. Яна выступае годным прадаўжальнікам нонканфармісцкай традыцыі, запачаткаванай гарадзенскімі творцамі пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя:

*Той, хто паэт — назаўсёды ў палоне,*
*Бо незаўважна*
*Кожнае слова, што вымавіш сёння,*
*Каменем ляжа.*
*Дзеляць бясконца цябе між сабою*
*Воля і краты.*
*А калі песняй слугуеш сваёю —*
*Гэта ёсць здрада! [1, с. 30]*

І калі раптам гэта пазіцыя выяўляецца праз даволі гучную дэкларацыю, як у прыведзеным пачатку верша, то ўраз жа змяняе сваё гучанне, сыходзіць у сферу далікатна-інтымную, асабістую. Вельмі нагадвае гэта шлях, прапанаваны калісьці Наталляй Арсенневай:

*Песні Самоты ці Песні Кахання —*
*Знакі на лёсе.*
*Словы мае — гэта шлях у змярканне,*
*Так, як і восень [1, с. 30].*

Але галоўнае ў кнізе — каханне. Усёабдымнае, якое і ёсць само жыццё. Яму марна супраціўляцца, яго марна адпрэчваць, яно і прымаецца як найвялікшы нябесны дар, бо, з'яўляючыся, асвятляе ўсё навокал, і як незагойны боль, бо не лёсавана простае шчасце тым, хто далучаны да Неба, бо прывід растання ад самага пачатку неадступна крочыць побач. Каханне — мара, калі адбываецца ўзвышэнне пачуцця да нябеснае красы і светласці. Аж да растварэння, да самазнішчэння, да фераўвасаблення ў прывіда:

*Я застаюся дажджу лёгкім дотыкам,*
*Рэхам, якое блукае між часу,*
*Пад вітражамі высокае готыкі*
*Ціхай малітваю — і дысанансам,*
*Песняй, напоўненай слёзнай трывогай,*
*Смехам, які не згасае ў журбе...*
*Бог паяднаў нас адною дарогай,*
*Свет чалавечы і Боскі — ў табе [1, с. 53].*

«Песні кахання», што ўвайшлі ў другі раздзел кнігі, — гэта сыграная на высокай, чыстай, болева-трагедыйнай ноце новая гарадзенская «Песня песняў», напоўненая малітоўнай удзячнасцю за дараванае пачуццё.

Звернем увагу на вобраз восені — скразны ў паэзіі Ганны Аўчыннікавай. Восень паўстае ў разнастайных абліках. Ужо ў першым вершы кнігі з восеньскай назвай «Імжа», якая ўводзіць у свет самоты, восень — гэта пакутніца: «Пакутніца-восень, на сцежках якіх // Ты знойдзеш адвечны спакой?» і пустэльніца: «Пустэльніца-восень, хто мары твае // З ахвярнага здыме крыжа?», што навеяна хрысціянскай пакорай і адрачэннем ад зямных уцехаў.

У іншым творы аўтарка апрадмечвае вобраз, надаючы яму новае адценне, супрацьпастаўляючы бязмежнасці восеньскай слоты хатняе цяпло і ўтульнасць, абмежаваныя абжытай чалавекам прасторай:

*Яблыкам восень ляжыць на стале,*
*Грэе пад лямпай бакі ад марозу.*
*А за вакном у халоднай імгле*
*Яблыні голлем трымаюць нябёсы [1, с. 14].*

Паэтычнай свядомасцю восень перакрэсліваецца як часавае вымярэнне. На фоне магутнага эмацыйнага ўздыму творыцца новы міф восені, у якім узнікае новы воблік гераіні — гаспадыні гэтае гучнае прасторы, што пачуваецца ў ёй натуральна, як у сваім доме, нявесты:

*Я зрабілася ветрам і звонам*
*Над прастораю. Восень — мой дом.*
*Я абмытая бляскам чырвоным*
*І вянчаная жоўтым лістом [1, с. 40].*

Адзначым напрыканцы, што паэзія Ганны Аўчыннікавай цесна звязаная з музыкай. І гэта зразумела, бо абумоўлена гукавой прыродай слова і прыналежнасцю і музыкі, і літаратуры да часавага мастацтва. Але ў творчасці гарадзенскай паэткі гэтая сувязь праяўляецца надзвычай выразна, непасрэдна: у акрэсленым вызначэнні кніжналітаратурнага жанру, які зберагае асаблівасці яго як жанру музычнага, надзвычайнай насычанасцю паэтычнага тэксту эмоцыяй, якую ўзмацняе дасканалае рыфмаванне. Шмат вершаў, у якіх скарыстана музычная вобразнасць, тэрміналогія: «Піяністка», «Пад флейту ветранага рання...», «Coda» і інш. Верш «Coda» ўспрымаецца як паэтычнае пасляслоўе ў раздзеле «Песні кахання», і гучыць у поўнай адпаведнасці з асноўнай тэмай, канчаткова замацоўваючы і абагульняючы яе.

Маладая паэтка Ганна Аўчыннікава абрала прыгожы шлях тварэння красы і светласці так, як яна гэта адчувае і разумее. Няхай ёй шчасціць.

**Літаратура:**

1. Аўчыннікава, Г. Ад зачыненай брамы: вершы / Г. Аўчыннікава. — Гродна: Гарадзенская бібліятэка, 2011. — 55 с.

2. Брусэвіч, А. Келіх неадэкадансу / А. Брусэвіч // Г. Аўчыннікава. Ад зачыненай брамы: вершы. — Гродна: Гарадзенская бібліятэка, 2011. — С. 3—4.

3. Бахтин, М.М. Автор и герой в эстетической деятельности / М.М. Бахтин // Эстетика словесного творчества. — М.: Искусство, 1979. — С. 7—180.

4. Кихней, Л.Г., Круглова, Т.С. К проблеме диалога в лирике Анны Ахматовой / Л.Г. Кихней, Круглова Т.С. // Анна Ахматова: эпоха, судьба, творчество. Крымский Ахматовский научный сборник. Вып. 7. — Симферополь: Крымский архив, 2009. — С. 113—133. .



# Вітаўт Мартыненка

публіцыст, паэт, перакладчык, музычны крытык. Працаваў у моладзевай прэсе 80—90-х гадоў, на «Радыё Свабода». Аўтар кніг «Праз рок-прызму» (сумесна з А. Мяльгуем), «Свой сярод чужых», «222 альбомы беларускага року і ня толькі» (сумесна з А. Мяльгуем), «Rock on-line». Падрыхтаваў і выдаў поўны беларускі тэкст рамана Генрыха Сянкевіча «Quo Vadis». Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Дыскаграфія

## «Martin S» — новае імя, дзе ніводнага Марціна

***«Martin S», Мн., 2012, «Vigma».***

У мінулым нумары «Верасня» (№1/9, 2013, стар. 224-229) рок-вакалістка Ксенія Жук («Sonika», «Navi») згадала ў сваім інтэрв'ю й супрацоўніцтва з калектывам «Martin S». Прызнацца, пагалоска пра гурт «Martin S» імпэтна ішла ў СМІ й дагэтуль, але вольна выкладзеныя трэкі ў інтэрнэце не ўсіх аднолькава краналі. Толькі не спяшайцеся з высновамі, бо сведчыць гэта найперш пра недахопы кампутарнага знаёмства, дзе пераважае бомж-фармат mp3 — гук, дзе ў агульным кактэйлі мелодыяў і рытмаў няма і панятку пра высокія, нізкія, сярэднія частоты. А прафесіяналам «новае імя» цікава акурат тым, што (па-за моднымі мелодыямі і рытмамі) нясе ў сабе адкрыцці ў стылістыцы, тэматыцы, агульным іміджы. Як у гэтым кантэксце выглядае дэбютны паўнафарматны (40 хвілін) альбом «Martin S», выдадзены мінскай фірмай «Vigma»?

Гурт «Martin S», створаны напрыканцы 2011-га, пачаў творчую дзейнасць з удзелу ў нацыянальным адборы на «Еўрабачанне'2012». Ужо тады ў складзе заўважаны дасведчаныя музыкі з колішняга гурта «moZart». Напрыклад, вакаліст і аўтар усіх тэкстаў (ды пятка мелодыяў) Уладзімір Боська. Асноўны ж кампазітар — амаль цёзка па прозвішчы, клавішнік і бэк-вакаліст Ілля Басько. Яшчэ ў складзе чуем бас-гітару Аляксея Канцавога, гітару і пузон Вячаслава Усцінава, бубны і віяланчэль Цімафея Чабуніна, скрыпку і бэк-вакал Яўгена Шэлепня. Не пазначаны саўнд і чыста мужчынскім аскетызмам, бо ў студыях і на канцэртах далікатна аздобліваюць стылістыку бэк-вакалы Мар'яны Шэндзелевай.

Плённа раскручваў сваё імя «Martin S» актыўным выпускам інтэрнэт-сінглаў у запамінальнай канцэпцыі (настрой усіх АР пазначае пэўны каляровы статус — агрэсіўны чырвоны, сумны блакітны, лагодны зялёны). Песні запісвалі вопытныя саўндпрадзюсары Генадзь Сыракваш, Сяргей Кудзеліч. 29.11.2012 у клубе «Цэнтр» гурт атрымаў ад арганізатараў (упраўленне па справах культуры БДУ, раённая адміністрацыя Мінска і кампанія «BOOM») прыз штогадовага фэсту «Такія пернікі». А праз тыдзень у клубе «Re:Public» прайшла маштабная прэзентацыя дэбютнага CD.

Ці не ад сусветных знакамітасцяў сама назва «Martin S»? Як амбасадар ЗША ў Ізраілі Martin S. Indyk (амаль беларус, тамтэйшы), віцэ-прэзідэнт і дырэктар знешнепалітычнага інстытута, навуковец і аўтар кніг аб блізкаўсходняй палітыцы, колішні спецпамочнік прэзідэнта Клінтана, бакалаўр эканомікі ва ўніверсітэце Сіднэя і доктар навук Аўстралійскага ўніверсітэта. Як Martin




S. Lederman, прафесар права Мічыганскага ўніверсітэта, доктар юрыдычных навук, колішні намеснік генеральнага пракурора ва ўрадзе ЗША. Ці больш папулярны ў народных масах аўтар лепшых атэістычных блогаў ЗША Martin S. Pribble, які «цудоўна лечыць бязверны скептыцызм тым, каму не надта добра і з Богам, і без яго». Прыгадаўся і Martin S. Dorph, галоўны фінансавы дырэктар Нью-Йоркскага ўніверсітэта, і Martin S. Tallman, сертыфікаваны гематолаг і анколаг, стваральнік Memorial Sloan-Kettering Cancer Center, які грае важкую ролю ў развіцці метадаў лячэння лейкозаў...

Шмат на кім маглі спыніць увагу музыкі, але, як сведчыць бубнар Цімафей, «гэта як пытанне «Хто такі Джон Голд?», ці не менш бяссэнсавае «Чаму ты Цімафей?». Калі не ведаць учынкаў чалавека, ягонае імя не значыць нічога. Martin S. — таксама абстрактнае імя, якое значыць і ўсё, і нічога».

Карацей, «Martin S» — імя, якое далі агульнай справе бацькі-заснавальнікі, як і іхнія бацькі ім — Уладзімір, Ілля, Аляксей, Вячаслаў, Цімафей, Яўген, Мар'яна.

Стыль блізкі да поп-альтэрнатывы (гэта граюць цяпер «Foster The Peoples», «The Wanted» ці нядаўні госць Менску Adam Lambert (спявак, зорка шоу «American Idol», а таксама в.а. Фрэдзі Мерк'юры ў гурце «Queen», сабраў у снежны буран «Гаўер» паўзалы Палаца спорту на сваім канцэрце тут).

Актуальная і разнастайная плынь, але «Martin S» па-за пільнаваннем моды яшчэ і спяваць умее. Рэальнымі галасамі. У песнях шмат прасторы, вольнай атмасферы, віртуозных аранжыровак.

Хто не падсеў на нейкі хіт, слухайце цэлы альбом, знойдзеце, бо хоць кружэлка не мае назвы, але канцэпцыя выразна прысутнічае, ствараючы дадатковую прывабнасць.

Гэта бездакорны беларускі альбом у еўрапейскіх традыцыях, які ладуе пазітывам праз гукі няўрымслівай «Раз на раз», выразна акцэнтаванай «Маю надзею» (не блытаць з не менш вартасным аднайменным метал-хітом Пятра Ялфімава), маршава-шыхтавай «Мала месца», лірычна-акустычнай «Хто ты?», трагічна напружанай «Стомлены», энергетычных фэнтэзі «Дзённікаў», віртуальна-шаманскага «Талісмана», сапраўдных erotic-dance-hit «Мы зробім усё» ды psyho-dance-hit «Механіка». А настальгічны фартэпіян-

ны раманс «Блізкія» або аскетычныя цаглінкі «Intro» і «Outro», дзе выяўлены канцэнтрат тэмы:

*Ад нечаканасці не заракаюцца*
*Не хаваюцца, не саромяцца,*
*Не цураюцца, не адракаюцца.*

Нечаканасць — жывыя пачуцці (каханне, захапленне, надзея, мара) — выказана не праз надакучлівыя штампы, а ў свежых мелодыях і тэкстах. Ну каго не крануць простыя словы першай песні: «Паслухай: раз на раз не даводзіцца, /Мы ўсцілалі сцежкі золатам, атрымаўшы срэбра. /І напляваць, што ўсё разбурыцца, шкадаваць не трэба»?

Такія тэмы, настроі ў антуражы пастаўленых галасоў «песняроўскай» традыцыі ды вытанчанай рэжысуры альбома з аздобай канкрэтных (бытавых, прыродных) гукаў, скрэтчаў і скрымінгу ды яркіх наватарскіх рыфаў гучаць вельмі сур'ёзна і глыбока, як у трэку «Маю надзею»: «Колькі нам выпала часу на сцены глядзець, у марах гарэць, /Вечна кудысьці спяшацца і не паспець».

І «Martin S» не песімізмам дзеліцца, а шукае калектыўнае выйсце: «Я крычу — ніхто не чуе, /Не падасць мне нават знак, Толькі дні мае матуе /Час, бо ён ілгаць мастак. /Нехта кажа, што дарэмна /Вырашаемся на пэўнасць, /Нехта нам збірае кубкі, /Вызначае накірункі...» («Хто ты?»).

А надакучыць філасофія, дапаможа прага руху: «Ад рытму сэрца нікуды не дзецца, /Бо для музыкі маёй мала месца» («Мала месца»). Дый падманлівы песімізм назвы «Стомлены» толькі падкрэслівае глыбіню пачуццяў: «Стомлены, табою стомлены /За тры хвіліны да зімы. /Злоўлены, табою злоўлены, /Абвінавачаны без віны». Як сага пра спыненага, скоранага каханнем чалавека, створанага і разбуранага ім. Потым філасафічныя «Дзённікі» апаноўваюць складаны паэтычны памер: «Заміж гадзін вакол цябе задзервянелыя лісты. /Яны стрываюць і змаўчаць, таму што гэта пішаш ты». Або «Талісман»: «Колькі можна маўчаць нам і хавацца за працу, за штодзённыя справы? /У кішэні ляжыць талісман, гэта значыць, што сёння аб'яўляю аблаву».

Мяне ў альбоме зачапіў не зусім зразумелы сэнс «Мы зробім усё». Чыстыя і светлыя «Блізкія» — менш («Няхай на вуліцы дождж, /Вые вецер ці поўная ціш, /Мне дастаткова, што ў горадзе ты, /Як і я, гэтай ноччу не спіш»). Мо падача невыразная ці станіла вечнае захапленне «Martin S»? Але расчараванні спыняе ўжо гойданка трэку «Механіка».

Досвед падказвае параўнанне «Martin S» з украінскім гуртом «Эндорфіни», якія таксама імкнуліся стварыць музычны стымулятар, але закапаліся ў састарэлых схемах, дык гурту «Martin S» акурат удалося глыбока і трывала дасягнуць мэты: іх музыка захапляе, кранае, стымулюе і зусім не загружае, балансуючы на лёгкіх тэмах сучаснага неа-рамантызму з яшчэ жывымі пачуццямі ў віртуальных рэаліях.

# Сцёбны CD украінскага кавэр-бэнда

***Орест Лютий «А я — не москаль», Київ, 2013, «Наш Формат».***

Зноў згадаем папярэдні нумар «Верасня», дзе друкавалася рэцэнзія на адзін з дыскаў украінскай фірмы «Наш Формат» (№1/9, 2013, стар. 237-240: «Тінь Сонця» — «Танець серця»). І вось яшчэ адзін зразумелы нам украінец з тае фірмы — Орэст Люты (не блытаць з прыгаданым там жа музыкам беларускай «Камаедзіцы» Раданам Лютым, стар. 231). У наш час татальнага нібыта заняпаду музычнага бізнэсу, калі крамы крэкчуць пра жудасны інтэрнэт, які зрабіў немагчымым нуднае шufляванне дэбілам пад выглядам іхняй завоблачнай мары састарэлых стандартаў ды ідэалагічных схем, рэальнае жыццё прыносіць іншыя прыклады. Інтэрнэт можа стаць і эфектыўным памочнікам сапраўднаму калекцыянеру ў пошуку новых куміраў. Праўда, купіць іхні прадукт можна зусім не ў сетцы «Мистерия звука». Акурат зорка ўкраінскага інтэрнэту Арэст Люты сваімі стотысячнымі рэйтынгамі на «Ю-тубе» прымусіў і выдаўцоў адмовіцца ад абвешчанай тактыкі толькі «жывых» і «сеціўных» прэзентацыяў, бо калекцыянеры настойвалі: «Даеш паўнавартасны трохпалосны гук вясёлым Арэставым песням!»

Я асабіста падчапіў гэтую модную хваробу «арэстаманіі» падчас канцэрта гурта «P.L.A.N.» на сталічнай ходнікавай зоне імя Карлы-Марлы ( http://belmetal.org/blog/news/809.html#cut ). Калі Андрэй Плясанаў выканаў колькі песень з свайго так і нявыдадзенага пакуль «адэскага альбому», у мяне завязалася гутарка пра гэткую парадыйную песенную плынь з нейкім актыўным слухачом, які раптам дастаў планшэт і кажа: «А ва Украіне таксама працуе артыст такога жанру, дык ён жыве інтэрнэтам, во паслухайце — Арэст Люты». І ён разгарнуў некалькі ю-тубаўскіх файлаў. Эмацыйна гэта мяне зачапіла, таму дома працягнуў пошук, што апынулася зусім нецяжкім.

Прынамсі даведаўся, што пад псеўданімам Орест Лютий праславіўся на абшарах нашай паўднёвай суседкі Украіны артыст аднаго з львоўскіх тэатраў Антон Мухарскі (меў нават узнагароды за ролю Хлестакова ў пастаноўцы Гогаля, мае ўласную кнігу — Антін Мухарський «Доба»), колішні ўдзельнік музычных гуртоў «КоніАйлэнд» і «ГраБля». Ужо там адчуваўся парадыйны стыль артыста, але праект «Лагодная украінізацыя» антытаталітарнага гурта «Сталін Унд Гітлер Капут» выявіў не проста моднага эстраднага сцебуна, чым поўніцца паміраючая тэлевізія, а творча даспелую асобу, на песнях якой можна прасачыць стан сацыяльна-палітычнага жыцця сучаснага украінскага грамадства. «Лагідна українізація», — піша адзін з украінскіх каментатараў, — проект, до якого входять найбільш одіозні пісні російської попси та шансону, міського романсу, традиційної естради, зокрема: «Владимирский централ», «А

белый лебедь на пруду...», «Мурка», «День Победы», українізовані в естетиці «бандерівської криївки»...».

Многае ў тым стане надзвычай падобнае й на нашу сітуацыю, калі ў 1992-м якраз «лагодная беларусізацыя», разлічаная аж на 12 гадоў, прывяла ўрэшце да татальнага знішчэння беларускай адукацыі ў Беларусі, а як вынік — да закрыцця аднаго за адным дзяржаўных беларускамоўных часопісаў, газет і выдавецтваў («Раніца», «Чырвоная змена», «Бярозка», «Юнацтва» і г.д.). Украінцы, а найперш Арэст Люты, прапануюць іншую «лагоднасць», дзе ўжо на вокладцы даводзіцца абмяжоўваць узрост слухача (18+) і строга папярэджваць: «Слухаць асцярожна: магчымы культуралагічны шок». Чаму? Ды таму, што ў песнях «прысутнічае дарэчнае й дазаванае выкарыстанне ненарматыўнай лексікі» (як кажуць, клін клінам вышыбаюць).

Не адразу пашчасціла мне ад інтэрнэтных mp3-файлаў перайсці на калекцыйны фармат CD-digital-audio, але адшукаў у сеціве месца продажу кашуль, значкоў, а нарэшце й кампактаў Арэста Лютага http://ol-shop.com.ua/ . Неўзабаве пошта даставіла шыкоўны дыгіпак з альбомам «А я — не москаль», дзе сабраныя паўтара дзясятка віртуозных перапевак згаданай расійскай класікі:




*Вагоны поўныя маскаляў*
*Ў Бескідах Рома падрываў,*
*І камунякі скавыталі,*
*Як на гіляку іх саджаў.*

Гіляка, каму незразумела, гэта не ласкавая мянушка гільятыны, а звычайны кол. Што да Ромы — гэта герой Украіны, змагар паўстанцкай арміі Раман Шухевіч. Мелодыя песні нарадзілася ва ўкраінскім горадзе Адэса, але ў родны кантэкст (з блатняцкага) яе пераклаў Арэст Люты. І хоць «Лук'янівский сізо» пры перакладзе не здолеў пазбыцца блатняцкага антуража песні «Владимирский централ», але гэткім шляхам прайшлі знакамітыя творы «Вставай, країно рідная», «Груди №6/Мурка», «Взорвали бюста в саду біля обкому» (ці вішні ў саду ў дзядзі Вані?), «З чого починалась Московія», «Сплять кургани в Темряві», «Ах, Бандерьо — український апостол!», «Слава Україні/День Победы», «Убий у собі москаля/Прощай-прощай». Загалоўны трэк базуецца на знакамітай нікулінскай «Трын-траве». Але не толькі russian pops стаў пад пільнай увагай віртуозных украінізатараў, бо славутая песня італьянскіх партызанаў «Бэла-чао», вядомая беларусам у версіі Змітра Вайцюшкевіча (альбом «Бывайце здаровы!», 2004), атрымала тут слушную й красамоўную назву «Не буду більше врагам коритись».

Дадайце сюды «А чемний легінь у саду», «КДБ працює», каб адчуць поўную панараму альбома Арэста Лютага. І гэта, трэба сказаць, не сольны выканаўца. У ягоным гурце граюць унук удзельніка высадкі саюзных войскаў у Дзюнкерку (Ла-Манш, 1944) Орсан Вэлш (бубны, Вялікабрытанія), унук савецкага жаўнера, поўнага кавалера ордэна Славы Івана Вараб'ёва — Коля Вараб'ёў (туба, Украіна), унук ваеннапалоннага жаўнера вермахту Вэрнэра Дрюкера, які пасля палону быў супрацоўнікам штазі ды антыфашыстам, — Герхард Дрюкер (гітара, Нямеччына), праўнук жаўнера войскаў УНР Сцяпана Вільшанскага — Ярэма Гай (бандура), унук камандзіра аддзела УПА Васіля Кулебы-Березня — Любамір Бартка (акардэон), і сам Арэст Лютый-Кныш (вакал, куратар праекта) — пазашлюбны ўнук бандэраўскай сувязной Параскі Кныш і генерал-маёра савецкай арміі Аляксандра Суворава.

Артысты невыпадкова дэмакратычна падкрэсліваюць свае дынастычныя змагарскія радаводы, бо нават сцэнічныя строі ў кліпах дакладна ўвасабляюць гістарычную вопратку украінскіх змагароў за свабоду й незалежнасць. Не ўсім падабаецца тое, але палымяных абаронцаў папулярнага спевака таксама дастаткова ў сеціве: «Антін Мухарський і так був зіркою, але все, що він робив до цього проекту, просто дитячий лемент на галявині. Оце зараз стовідсоткове влучання у час та настрій».

А калі нехта сунецца з папрокамі наконт фрывольнай лексікі гэтых музычных фельетонаў, якія нібыта крыўдзяць пачуццё славянскай еднасці, дык і тут знойдзецца аўтарытэтная думка: «А ти що тут забув брате «слов'яне»? Всі слов'яни — Болгари, Серби, Поляки, Чехи, Білоруси — розуміють, а Московит ні!» Дый насамрэч, адкуль рускі мат у гэтых украінскіх песнях? З ганарлівай рускай культуры, дзе некаму забараняюць падкрэсліваць тое, чым самі ганарацца....

## Ад вялікіх «Песняроў» да модных куміраў

***«Сімвалы веры і свабоды», Мн., 2013, «VolaMusic».***

Лэйбл «VolaMusic» не назавеш надзвычай актыўным, бо на восьмым годзе свайго існавання ён выдаў летась усяго толькі восьмы дыск. Перад тым былі й тэматычныя складанкі («Чарнобыльскі вецер», 3CD «Песні Свабоды»), і канцэптуальныя аўтарскія рэлізы (альбомы «Найлепшае 2004-2005» і «Крывавы сакавік» рэп-гурта «CyrvonymPaBielym»; «Песьні лісоўчыкаў» культавага барда Сержука Сокалава-Воюша). Кампакт-дыск CD VM 008 «Сімвалы веры і свабоды» зноў пашырае шэрагі складанак, якія, аднак, ужо ніяк не назавеш банальнымі, бо тут выразна праяўляецца сур'ёзная гістарычна-тэматычная канцэпцыя: альбом не проста сабраў пад адной вокладкай увесь спектр мастацкага стаўлення да беларускіх нацыянальных сімвалаў, не проста сфарму-

ляваў іхнюю гістарычную перспектыву, але й выявіў характары пэўных персонаў, што надало дыску й крыху драматургічнага шарму. Як кажуць у народзе, «сапраўдны раман у песнях».

Тое, што ў гэты «раман» трапіла й некалькі маіх старонак, зусім не гаворыць пра надзвычай свойскія адносіны з выдаўцамі, бо па першых абвестках у прэсе пра падрыхтоўку рэліза я адразу прапанаваў ім пасеяны ў інтэрнэце свой верш «Духовы рэнесанс», калісь запісаны ў студыі радыёперадачы «Верш на Свабоду»:

*А я бела-чырвона-белы,*
*Я застаўся ўсё той жа веры,*
*Колер бела-чырвона-белы*
*Мой сцяг, мая сутнасць, мая любоў.*



Не ведаю, што там каму не спадабалася, але яшчэ больш мяне здзівіла, калі пачуў: «Не хвалюйцеся, Вітаўт, у вас жа там ёсць адна тэма «Няўзброены ваяр», цудоўна запісаная ў прафесійнай студыі рок-бардам Ігарам Сімбіровым». А гэтую ж песню мы з асіповіцкім спеваком рыхтавалі ў іншы праект «Песні героям», прысвяціўшы яе летась подзвігу нашага віцебскага сучасніка Сяргея Каваленкі (відэазапіс рэпетыцыі ў нэце сабраў тысячы прыхільнікаў). Пазней высвілася, што музычны праект «Сімвалы веры і свабоды» вырашылі пашырыць паэтычна-публіцыстычнымі бонусамі (мудрым роспаведам пісьменніка Уладзімера Арлова «Нашы герб і сцяг», гістарычнымі згадкамі культуролага Сяргея Харэўскага «Нашы сімвалы й святы»), куды ўпісалася й маё юнацкае паэтычнае шчыраванне разам з акустычным «...ваяром». Ігар Сімбіроў выступіў у сталіцы на прэзентацыі, а праз месяц... яго нестала.

Звыкшы распачынаць сваімі рыфмамі альбомы знакамітых рок-гуртоў «P.L.A.N.», «Tesaurus», я зусім не пакрыўдзіўся 14-м месцам нашага «Няўзброенага ваяра» ў праграме кружэлкі, бо гэта, па-першае, самы цэнтр (пашанцавала, як і перакладам маёй фантастыкі ва ўкраінскім часопісе «УФО» №19, 2012), дый, па-другое, вакол нас былі сапраўдныя тытаны беларускай папулярнай музыкі розных гадоў: вялікія «Песняры» з смелым і ўсё больш кранальным мулявінскім прачытаннем Багдановічавай «Пагоні», калісь папулярныя «Верасы» з дзіўнымі заявамі Анжалікі Агурбаш (ці тады міс-Беларусь Ліка Ялінская), нашай Ціны Цёрнэр, што ў яе «нясуцца» не толькі куры, але й Пагоня:

*Скрозь гады нястрымна нясецца*
*Пагоня! Пагоня!*
*У палон ўзяла маё сэрца*
*Пагоня! Пагоня!*

Зрэшты, мо папракаць за яйканосную Пагоню варта паэта Лявона Пранчака, бо ён і з кампазітарам Змітром Яўтуховічам саслужыў Аляксею Шэдзько камічную поп-службу: «Пад сонцам дабрыні, пад зоркаю Пагоні/ Кахай мяне, кахай,/ Любі мяне, любі» — ну хіба не аб'ект для бясконцых пародыяў (кшталту, «fuck me, baby, under the Pahonia star»)?

Што да сапраўдных паэтычных куміраў, дык па-за бездакорнымі радкамі вялікага Максіма Багдановіча, у якога лятуць, а не нясуцца з курамі, тыя коні, ніяк не абыдзеш увагай паэтычны геній Янкі Купалы (відэакліп «Не быць скотам» гурта «Ляпис Трубецкой»), прыфалькаваныя рыфмы Сяргея Панізніка (ваярскі марш «Светлым полем я нясу агнявую паласу» мужчынскага хору «Унія»). Цікава, што хоць апошні трэк пазначаны тэрмінам традыцыйная маршоўка, многія краязнаўцы аўтарытэтна сведчаць, што аўтарам музыкі тут быў у часы нацыянальнага адраджэння кампазітар Алег Чыркун, а выконвалі твор у свой час і бард Мікола Яцкоў, і блэк-метал гурт «P.D.SS.Totenkopf». Але экстрым у праект не прыдаўся, як і стылёвая інтэрпрэтацыя гуртом «Сцяна» настальгічных рыфмаў Уладзіміра Караткевіча...

Тым не заканчваецца пералік сучасных інтэрпрэтацыяў сапраўдных паэтычных шэдэўраў, якія патрапілі ў праграму дыска. І акурат больш шчымліва ўвасоблены Лявонам Вольскім у гуках-нотах той самы Караткевіч («Калі ідуць на абардаж») задаволіў складальнікаў, а яшчэ ж ёсць тут знакаміты «Ваяцкі гімн» Уладзіміра Тэраўскага паводле прачулых рыфмаў Макара Косцевіча/ Краўцова, вядомы ўсім пад назвай «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Такога ўзроўню натхнення дасягнуў, бадай, і наш сучаснік Уладзімір Някляеў, які трапіў сюды ажно ў трох топ-зонгах: Зміцер Вайцюшкевіч песнямі «Сцяг» і «Жыве Беларусь!» зрабіў з ім бездакорны пралог і эпілог усёй музычнай канцэпцыі альбома, а схаваная за псеўданімам Андрусь Баравік адна рок-знакамітасць надзвычай трапна выявіла нерв някляеўскага верша «Вярніце», дзе мова, герб, сцяг і воля названыя найбольш надзейнымі ключамі дзяржаватворчасці, якія абавязкова трэба вярнуць, каб захаваць наш дом беларускі для НАШЫХ нашчадкаў.

Пра гэта спяваюць у альбоме «Сімвалы веры і свабоды» модныя «Garadzkija» ды «IQ48» і культавае «Новае неба», магілёўскі «Mauzer» з мінскай «Naka», польскабазаваныя беларусы «Rima» і «СрВ», папулярныя барды Эдуард Акулін, Андрэй Мельнікаў, Віктар Шалкевіч, нью-ёркскі навапалачанін Сяржук Сокалаў-Воюш... Прычым, калі вы моцна перажывалі распад культавага хардкор-гурта «Mauzer», тут зможаце дадаць да ягоных двух геніяльных альбомаў яшчэ і неверагодны дуэт з Настай Шпакоўскай «Agonia ці Пагоня?». А песня Сокалава-Воюша нагадае запозненым меламанам архіўны альбом

«Нефармальны беларус», які стаў фанаграфічным рарытэтам, нягледзячы на некалькі паўтораў тыражу. А віцебскі поп-гурт «NewCosmopolis» дык і памятаюць толькі праз шматлікія касеты 90-х, а на CD іхняя песня «Бел-чырвона-белае» выходзіць упершыню.

Шмат прывабаў мае гэты альбом, але найважнейшае — адэкватны эмацыйны пасыл, калі настрой з песні ў песню мэтанакіравана фармуе цэласнае ўражанне ад раскрыцця тэмы. Я б дадаў да выходных звестак нават жанравае азначэнне «супольны праект» (накшталт «Народнага альбома» ці «Святы вечар'2000»), але выдаўцы ўстрымаліся ад радыкальных крокаў. Дый балазе! Гэта хоць і не банальная складанка, але й не рок-опера, не супольны праект, а проста песні вольных беларусаў, якія акурат НАМ узнімаюць настрой.

